## ГЛЫБОКАЯ ПЛЫНЬ ЖЫЦЦЯ

У «Аўтабіяграфіі», напісанай яшчэ ў 1954—1962 гадах, Іван Шамякін засведчыў: «Без біяграфіі няма пісьменніка», — сказаў нехта з маіх калег. Гэта правільна. Але, відаць, правільна і тое, што наступае час, калі біяграфія пісьменніка — гэта яго творы».

З таго часу мінулася не адно дзесяцігоддзе, Іван Пятровіч стаў адным з самых прызнаных майстроў слова, ды, безумоўна, пры неабходнасці, прамоўленае тады, калі сама адбываліся ўваходзіны ў вялікую літаратуру, ён можа паўтарыць. Мае права на падобнае паўтарэнне, бо, калі сабраць разам творы, што з'явіліся з-пад яго пяра, атрымаецца своеасаблівы — яркі і непаўторны — мастацкі летапіс нашай хуткаплыннай і супярэчлівай сучаснасці. А ў цэнтры яго і сам творца — таленавіты, бескампрамісны, сумленны, са сваім бачаннем свету і людзей.

А калі глядзець шырэй, дык гэта і шлях, пройдзены пакаленнем Івана Шамякіна, на лёс якога выпалі суровыя выпрабаванні вайны, цяжкае жыццё пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І яму, гэтаму пакаленню, якое даўно размяняла свой сёмы дзесятак, няменш цяжка сёння адстойваць ідэалы сваёй маладосці, бо яны, гэтыя ідэалы, як высветлілася на паверку, нярэдка толькі мройныя, не суадносяцца з паўсядзённым жыццём.

Нарадзіўся Іван Шамякін 30 студзеня 1921 года ў сям'і Пятра Мінавіча і Санклеціі Сцяпанаўны. Пра маці Іван Пятровіч так сказаў у «Аўтабіяграфіі»: «...Гэтая маленькая, нізенькая жанчына... была мужным і дужым чалавекам. Яна сама рабіла любую мужчынскую работу ўдзень, а ўвечары прала ці ткала. Магчыма, што зрэдку на яе нападаў страх, і тады яна брала стрэльбу, выходзіла на ганак і страляла ў паветра».

Стрэльба ж у хаце Шамякіных была рэччу звыклай, бо Пётр Мінавіч працаваў лесніком. На адным месцы доўга не затрымліваліся. З вёскі Карма цяперашняга Добрушскага раёна, дзе будучы пісьменнік упершыню зірнуў на свет, неўзабаве перабраліся ў так званую «стражу» (леснічоўку) пад Пясочнай Будай, а потым была новая «стража», непадалёку ад Краўцоўкі — абодва населеныя пункты знаходзіліся на тэрыторыі колішняга Церахоўскага раёна.

З-за пастаянных пераездаў Іван Шамякін і ў школу пайшоў позна, толькі пасля дзевяці гадоў. Скончыў сем класаў і падаўся ў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў. Выбар атрымаўся, можна сказаць, спантанны. Як сведчыць Іван Пятровіч у «Аўтабіяграфіі», ён

«ніколі не быў тэхнікам і толькі па юнацкаму непаразуменню трапіў у тэхнікум будаўнічых матэрыялаў».

Пётр жа Мінавіч марыў, каб сын пайшоў ягонай дарогай: «За год да школы бацька купіў мне буквар, паказаў літары, і праз якія два месяцы я стаў чытаць лепей, чым ён. Ён слухаў маё чытанне, задаволена ківаў галавой і казаў:

— Быць табе ляснічым!»

Сам жа Іванка вельмі любіў кнігі, а ў тэхнікуме пачаў пісаць вершы, уступіў у літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі абласной газеты «Гомельская праўда». Відаць, на захопленасць паэзіяй паўплывала тое, што сябрамі Івана Шамякіна сталі будучыя паэты Леанід Гаўрылаў, Кастусь Кірэенка, Дзмітрый Кавалёў. Праўда, узяўся і за апавяданні...

У 1040 годзе Іван Шамякін, скончыўшы тэхнікум, апынуўся ў Беластоку. Ды праца была нядоўгай — прызвалі ў армію, а потым вайна... Давялося з аднаслужыўцамі абараняць ад налётаў варожай авіяцыі Мурманск, Кандалакшу, Петразаводск. Быў камандзірам гарматы, камсоргам дывізіёна. З вершамі выступаў у армейскіх газетах. Яшчэ ў арміі Іван Шамякін напісаў сваю першую аповесць «Помста», апавяданне «У снежнай пустыні». А вайну закончыў у Германіі.

Дэмабілізаваўся восенню 1945 года і ўладкаваўся настаўнікам у вёсцы Пракопаўна Церахоўскага раёна, а ў 1946 годзе паступіў на завочнае аддзяленне Гомельскага педагагічнага інстытута і ўжо не развітваўся з пяром. А ўпэўненасці ў сабе надаў удзел у рабоце першага пасляваеннага пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, што праходзіў у снежні 1945 года. Няшмат засталося ў жывых пісьменнікаў, аднак як шмат значыла для яго, па сутнасці літаратара-пачаткоўца, слухаць выступленні Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі, Міхася Лынькова.

Згадкі ад сустрэч на пленуме пакінулі ў душы Івана Пятровіча светлы след на ўсё жыццё: «Асабістае знаёмства з пісьменнікамі, у пераважнай большасці сваёй людзьмі шчырымі, чулымі, сардэчнымі, акунула мяне ў літаратурнае жыццё. Я ехаў з пленума з адным цвёрдым намерам: пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць, не спыняцца ні на хвіліну. І, прыехаўшы дамоў, сапраўды, з добрай энергіяй узяўся за працу. Я ўспамінаю той час з прыемнасцю. Адкуль браліся энергія, сіла, імпэт? Удзень я працаваў у школе, увечары ледзь не штодзень ішоў у адзін з шасці калгасаў сельсавета на сход ці праводзіў семінар агітатараў, заняткі з камуністамі. А потым вяртаўся дадому позна ўначы і пісаў пры газніцы. Жылі мы ў той час вельмі бедна. Праз вокны, палавіну шыб у якіх замяняла гнілая фанера, а рэшта была

злеплена з кавалачкаў шкла, за ноч намятала ў пакой снегу, і больш за ўсё яго было на стале, які нельга было перасоўваць — ён ледзь ліпеў. Я, жонка і дачка Ліна спалі на печы. Зарплату плацілі несвоечасова і настаўнікам, і яшчэ горш медработнікам, і пад вясну 1946 года мы літаральна галадалі. Але ніякія цяжкасці не маглі перашкодзіць мне ў працы, я з натхненнем, з творчым хваляваннем і гарэннем збіраў матэрыял для будучага рамана аб беларускіх партызанах».

Перад з'яўленнем рамана ў друку пісьменнік паспеў ужо заявіць аб сабе, як аб арыгінальным празаіку, аповесцю «Помста», што была апублікавана ў 1945 годзе ў часопісе «Полымя». І вось новы твор, таксама ў «Полымі».

Адразу ж пасля з'яўлення першай часткі рамана крытыка дала гэтым раздзелам высокую ацэнку. Калі ж «Глыбокая плынь» была апублікавана цалкам, адгукнулася нават газета «Правда». М. Лынькоў пісаў, што «Глыбокая плынь» — «несумненнае дасягненне ўсёй беларускай мастацкай літаратуры».

Пачуць падобную ацэнку палічыць за гонар і прызнаны пісьменнік, а І. Шамякіну на той час было ўсяго 28 гадоў. Публікацыя М. Лынькова пабачыла свет у «Правде» акурат 30 студзеня 1949 года. У дзень нараджэння Івана Пятровіча.

Супадзенне, безумоўна, але якім прыемным яно стала для аўтара рамана! І як жа ўзрадаваўся Іван Шамякін, калі ў 1951 годзе за «Глыбокую плынь» атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. Далёка не кожны ўдастойваўся падобнага гонару ў трыццацігадовым узросце.

І ацэнкі гэтыя былі па заслугах: І. Шамякіну ўдалося напісаць надзіва праўдзівы твор аб тым, як адбывалася зараджэнне партызанскага руху на акупіраванай ворагамі тэрыторыі, а святая помста, што жыла ў сэрцах сумленных людзей, вылілася ва ўсенародную нянавісць да захопнікаў.

Раман атрымаўся праўдзівым, бо ён жыццёвы. Іван Шамякін менш за ўсё клапаціўся, каб нешта выдумляць. Значна пазней наконт гэтага ён прызнаваўся ў гаворцы з крытыкам А. Гардзіцкім: «Калі я пісаў «Глыбокую плынь», то ішоў ад тэмы. У першыя пасляваенныя гады рэспубліка наша, людзі жылі ўсё яшчэ гераікай партызанскай барацьбы... І я, хоць сам і не быў у партызанах, таксама жыў партызанскай тэмай. Вядома, тады мае пошукі адрозніваліся ад пошукаў сённяшніх. Ідучы ад тэмы, не маючы сюжэта, я пачаў шукаць прататыпаў. І пачуты мною эпізод пра тое, як яўрэйскага хлопчыка ўратавалі ад фашыстаў жыхары вёскі Дзятлавічы, што на Гомельшчыне, паслужыла пачаткам для работы. І я не меркаваў тады

пісаць менавіта раман. Але пазней, ужо ў працэсе работы, у працэсе далейшага знаёмства з людзьмі, з'явіліся новыя героі».

Пра работу над раманам Іван Шамякін гаворыць і ў «Аўтабіяграфіі»: «Вялікую дапамогу ...аказвала жонка, якая пад час акупацыі жыла ў бацькі. Урэшце, магу прызнацца крытыкам, што вобраз Тацяны Маеўскай у многіх сваіх рысах, біяграфічных і псіхалагічных, я спісваў з жонкі».

Сюжэтная фабула твора не такая і складаная. Галоўная гераіня рамана Тацяна Маеўская ў першыя дні вайны выратоўвае яўрэйскага хлопчыка. Свайму бацьку Карпу, мачасе Палагеі, аднавяскоўцам яна гаворыць, што гэта яе сын. А яшчэ паведамляе, што была замужам, муж цяпер знаходзіцца на фронце. Праз некаторы час Тацяна ўсю праўду расказвае бацьку. Мачаха ж сама здагадваецца, што дзіця чужое, і, баючыся, пераходзіць жыць да сваёй сястры. У час размовы з палюбоўнікам, нямецкім агентам Мацеем Куляшом, жанчына прызнаецца, што Тацяна выхоўвае яўрэйскага хлопчыка. Пасля гэтага бяды не мінаваць. Да Маеўскіх завітваюць два паліцэйскія, ды Тацяна праяўляе здзіўляючую смеласць І рашучасць. Яна забівае фашысцкіх паслугачоў, а сама з дзіцем і бацькам падаецца ў партызаны, каб помсціць ворагам.

Раман цікавы тым, што Іван Шамякін быў адным з першых сярод беларускіх пісьменнікаў, хто на барацьбу з ворагам глянуў шырока. Несумненна, ён не абыходзіць увагай вострых момантаў змагання з фашызмам. Але, як ніхто іншы, ён разумеў і тое, што важны яшчэ і сам маральны дух народа, гатоўнасць людзей, рызыкуючы асабістым жыццём, прыйсці на дапамогу тым, каму без яе не абысціся.

Змагаюцца не толькі партызаны, якія ўзялі ў рукі зброю. Пасвойму змагаецца і Тацяна Маеўская. Барацьба яе на першы погляд непрыкметная, але тое, што яна ратуе нявіннае дзіця, таксама важна. У рамане пачынаюць гучаць матывы асабістай адказнасці чалавека за свае ўчынкі. У сувязі з гэтым значнасць набывае не толькі вобраз Маеўскай, але і вобразы Ларывона Бугая і таго ж Мацея Куляша.

Здавалася б, Ларывон Бугай павінен быў знайсці з акупантамі агульную мову. Яго радуюць першыя паражэнні Чырвонай Арміі, з'яўляючыся аднаасобнікам, ён да вайны не знаходзіў паразумення з аднавяскоўцамі. Але, стаўшы старастам, Ларывон паступова пачынае адчуваць, хто такія фашысты, што нясуць яны беларускай зямлі. Ворагі забіваюць Ларывона, а сям'ю яго расстрэльваюць.

Іншы лёс у Мацея Куляша. Ён як быццам падтрымлівае сувязь з партызанамі. Але робіць гэта зусім не па загаду сэрца, сумлення.

Кулеш кіруецца адзіным жаданнем — любой цаной выжыць. Таму неўзабаве і апынуўся ў стане ворага, здрадзіў Радзіме. Партызаны, на шчасце, выкралі гэтага паслугача, і ён панёс заслужаную кару.

Гэта, аднак, не значыць, што так лёгка вызначыць, хто ёсць хто на самой справе. Вайна «пераблытала» людскія душы, ды і ў чалавеку не заўсёды правядзеш прыкметную рысу паміж добрым і благім. Хутчэй добрае і благое самым цесным чынам пераплецены між сабой.

Ці не найлепшае пацвярджэнне таму вобраз Палагеі! Перад намі звычайная вясковая кабета. З тых, хто не надта збіраецца мысліць высокімі катэгорыямі. Ды і наўрад ці па сіле ўсё гэта Палагеі. Для яе галоўнае жыць (і пражыць!) не горш за іншых. Таму лёгка кідае Карпа, калі разумее, што за спіной у Мацея Куляша зможа адчуваць сябе куды ўтульней.

У падобнай непераборлівасці Палагею наўрад ці можна апраўдаць. Але калі разабрацца, дык што з яе возьмеш? Якая яна ёсць, такая І ёсць... Аднак Палагея не такая і простая, як падаецца на першы погляд. Гэта добра відаць па тым, як асцярожна ставіцца яна да розных роспытаў Мацея:

«— Слухай... К слову прыйшлося... Балбочуць у вёсцы, што партызаны заходзяць да Масола. Праўда гэта?

— Сам кажаш, што балбочуць. Значыць, белбатня і ёсць, — адказала Палагея, насцярожыўшыся. — Ніякіх партызан не бачыла я, ды і не было іх».

Людзі, падобныя Палагеі, вельмі непастеянныя. Таму і сталася так, што яна сказала Куляшу пра яўрэйскага хлопчыка. Магчыма, нават да канца не ўсведамляючы, да чаго ўсё можа прывесці. У дадзены момант кіравалася толькі эмоцыямі і ніколькі не думала пра вынікі.

І тое, што адбываецца з Палагеяй, і шмат якія іншыя эпізоды, што адлюстроўваюць розныя сітуацыі ваеннай рэчаіснасці, яскрава сведчаць на карысць псіхалагічнай праўдзівасці і пераканаўчасці Івана Шамякіна ў паказе вайны. У гэтым шэрагу ніколькі не лішняй выглядае і сюжэтная лінія, звязаная з камісарам партызанскага атрада, былым сакратаром райкома партыі Лясніцкім. Сумнявацца не даводзіцца: людзі, падобныя Лясніцкаму, у час барацьбы з фашызмам мелі вялікія правы і яны вырашалі, калі не ўсё, дык многае. І тут Іван Шамякін не ідзе насуперак жыццёвай праўдзе.

Іншая рэч, што часам на яго ўчынкі хочацца паглядзець з вышыні сённяшняга дня. Для прыкладу — эпізод, калі Лясніцкі гутарыць з людзьмі, у якіх бачыць патэнцыяльных барацьбітоў з фашыстамі:

«— Нічога... нічога, не гаруйце! Не плачце. Слязьмі ворага не пераможаш. Яго трэба біць! Біць бязлітасна, няспынна.

— Цяпер ён спаліць нас, — уздыхнуўшы, сказаў нехта ў натоўпе.

Лясніцкі хутка павярнуўся ў той бок.

— Спаляць? Што ж... воўка баяцца — у лес не хадзіць. Спаляць — адбудуем, калі апошні фашыст ляжа касцьмі на нашых папялішчах».

Тут усё праўда, паказана так, як і было. Людзі, падобныя Лясніцкаму, у сваёй праваце няздатныя на ваганні. Але, калі б раман пісаўся сёння, несумненна, пісьменнік знайшоў бы патрэбным паказаць, каб хто-небудзь з персанажаў засумняваўся (няхай і ў думках!) у падобнай жалезнаму, меркаванняў камісара.

Ды, не будзем забываць, гэта як і ў самім жыцці. Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. І двойчы напісаць адзін і той жа раман — тым больш. Таму на «Глыбокую плынь» неабходна глядзець ужо толькі як на частку гісторыі нацыянальнай літаратуры. А ў мастацкіх вартасцях рамана сумнявацца не даводзіцца. І тыя высокія ацэнкі, што былі дадзены яму некалі пасля першай публікацыі, цяпер, на адлегласці часу, падаюцца ніколькі не завышанымі. Нездарма М. Лынькоў, віншуючы Івана Пятровіча з 50-годдзем, нагадаў, што «творам, які вылучыў гэтага пісьменніка на адно з першых месц у сучаснай беларускай літаратуры, быў яго раман «Глыбокая плынь».

Застаецца дадаць, што з рамана «Глыбокая плынь» і пачалася для Івана Шамякіна сапраўдная вядомасць. На яго мастакоўскім рахунку сёння такія раманы, як «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль», «Петраград — Брэст», псіхалогія «Трывожнае шчасце», шматлікія аповесці, драматычныя, публіцыстычныя творы для дзяцей.

За раман «Крыніцы» Іван Шамякін у 1959 годзе быў удастоены Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, а за раман «Сэрца на далоні» і «Трывожнае шчасце» — Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1968). За кінафільм «Вазьму твой боль» прысвоена Дзяржаўная прэмія Беларусі ў галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання (1982).

Народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы Іван Шамякін з людзей, якія жывуць не толькі літаратурай, а і шматгранным паўсядзённым жыццём. У свой час ён рэдагаваў альманах «Советская Отчизна» (цяпер часопіс «Неман»), з 1954 па 1980 год працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі, апошнія гады першым сакратарам праўлення, з 1980 года быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Ды і цяпер, нягледзячы на паважаны ўзрост, Іван Пятровіч працуе вельмі

плённа і мэтанакіравана. У 1995 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга яго новых аповесцяў «Сатанінскі тур».

А жа падыходзе — «Роздум на апошнім перагоне», змест якой складуць дзённікавыя нататкі, шматлікія ўспаміны. У выдавецтве «Юнацтва» выходзіць гістарычны раман «Вялікая княгіня» — аб вернасці праваслаўю вялікай княгіні Літоўскай Алены Іванаўны, жонкі Вялікага князя Літоўскага Аляксандра.

Ды сустрэча з новымі творамі Івана Пятровіча ў вас, мае юныя сябры, яшчэ наперадзе. А пакуль пазнаёмцеся ўважліва з яго раманам «Глыбокая плынь». Упэўнены: вас чакаюць радасныя хвіліны сустрэчы з прозай праўдзівай і жыццёвай. А пасля — хацелася б верыць! — вы возьмецеся і за іншыя творы Івана Шамякіна.

*Алесь Марціновіч*

## Частка першая

I

Пераправіўшыся цераз Дняпро, Тацяна з палёгкаю ўздыхнула. Цяпер яна лічыла сябе ўжо дома. Радасць ахапіла яе. Яна першая выскачыла з лодкі і шпарка пайшла, баючыся глянуць назад, дзе застаўся чатырохсоткіламетровы шлях яе — шлях нечалавечых пакут і смяртэльнай небяспекі. Ёй не верылася, што яна, адзінокая бездапаможная дзяўчына, прайшла гэты шлях. Тацяна пачала яго на другі дзень вайны, калі фронт быў яшчэ ззаду, а цяпер ён апярэдзіў яе і быў дзесьці далёка на ўсходзе, дзе — яна не ведала.

Больш двух месяцаў ішла яна. І колькі разоў была на валаску ад смерці! Колькі бомбаў выбухнула непадалёк ад яе, загубіўшы і пакалечыўшы сотні людзей: жанчын, дзяцей, старых! Сотні другіх людзей гітлераўцы расстралялі з кулямётаў і аўтаматаў. Два тыдні яна прасядзела ў Калінкавічах у нямецкай камендатуры. І ўсё-такі ёй пашанцавала, як нямногім з тых, хто не змог уцячы ад гэтай страшнай навалы. Засталося ўсяго дваццаць кіламетраў, і яна — дома! Тут ужо кожная вёска, кожны паварот дарогі знаёмы ёй, бо многа разоў яна праходзіла тут, калі вучылася ў горадзе.

Разам з ёю перабраліся цераз Дняпро тры жанчыны і два юнакі. Дзве жанчыны былі з груднымі дзецьмі. Такія ж беженцы, як і яна. Але, ідучы разам, яна не спытала дагэтуль, куды ім ісці. Цяпер па тым, як амаль усе яны ўздыхнулі, калі пачулі, што яна хутка будзе дома, Тацяна зразумела, што ісці ім яшчэ далёка, і пашкадавала іх.

Дарога ішла лесам. Лес быў малады, густы, пераважна асіннік і бярэзнік. Толькі дзе-нідзе над маладымі дрэвамі падымалі свае шырокія кашлатыя шапкі старыя волаты-дубы ці стромка ўзляталі ўгару, нібы хацелі дастаць сонца, роўныя, як струны, сосны. Дзень быў сонечны, спякотны. Лес стаяў маўклівы, панура-задумлівы. І вельмі хацелася забыцца ў гэтай цішыні, сярод спакойных дрэў, што дзесьці лютуе вайна, што яна праходзіла сюдой і вось у гэты адзін кароткі момант можа гінуць тысячы людзей. Тацяна намагалася адагнаць думкі аб вайне. «Вось там, на павароце, мы адпачывалі з Лізай, калі ішлі дамоў і нас дагналі хлопцы. Жэнька і гэты настаўнік Кандыба... Калі гэта было? Два гады... Дзе яны цяпер? Ліза, Жэня? Ці вярнуўся з іх хто дамоў?»

Раптам мірную цішыню лесу рассеклі кароткія стрэлы. Беженцы ўздрыгнулі, насцярожыліся. Стралялі ў баку ад дарогі, у гушчары бярэзніку. Палахліва пазіраючы ў гэты бок, людзі змоўклі і зашагалі хутчэй. Звычайна Тацяна ў апошнія дні не звяртала асаблівай увагі

на такія адзіночныя стрэлы. Але цяпер, калі да хаты заставалася некалькі кіламетраў, спалохалася і яна.

— Глядзіце, — раптам прашаптаў адзін юнак.

Усе павярнулі галовы туды, адкуль прагучалі стрэлы, і ўбачылі маладую жанчыну. Яна бегла напрасцяк да бежанцаў, тулячы да грудзей дзіця. Яе чорныя даўгія косы былі распушчаны і паблытаны; лісце, павуцінне і хваёвыя іголкі заблыталіся ў іх. Вочы былі напоўнены жудасцю. Сіняя сукенка разарвана ў некалькіх месцах. Ногі ў крыві. Па абліччу няцяжка было пазнаць маладую яўрэйку. Дабегшы да людзей, яна ўпала перад імі на калені і працягнула дзіця.

— Людзі добрыя! Дарагія мае!.. Ратуйце дзіця!.. Вазьміце сына майго. Яны гоняцца за намі... Зараз яны забілі маці маю... Дапамажыце... Яны заб'юць і яго... Ратуйце, даражэнькія...

— Бяжы, дачка, бяжы, — зашаптала старая, хрысцячы яўрэйку. — Бог з табою... Ён дапаможа... Яны не дагоняць цябе. Бяжы... у гушчар, у кусты...

— Ой, не!.. Не... Яны знойдуць, яны дагоняць нас... Вось... Чуеце іх галасы? Ратуйце! — жанчына задрыжала, памкнулася да людзей.

Многа жудаснага бачыла Таццяна за два месяцы, але гэтае паляванне за маці з грудным дзіцем — самае жахлівае. Яна глянула ў вочы няшчаснай маці і працягнула рукі.

— Давайце...

— Родная мая! Будзь маці яму, — яна схапіла і пацалавала Таццяніны рукі. — Бацька яго... Барыс Каганскі... Можа, вернецца, — яна не скончыла, дзіка аглянулася, згарнула хустку, у якую было загорнута дзіця, і, узяўшы яе, як бяруць дзяцей, хутка пайшла па дарозе назад.

Яна ішла роўным крокам, пільна ўзіраючыся ў лес. Анямелыя людзі глядзелі ёй услед. Як птушка, ахвяруючы сабой, пакутная маці адводзіла небяспеку ад свайго птушаняці.

Яна схавалася за паваротам дарогі. Тады схамянуліся бежанцы.

— Пойдзем, — сказала старая жанчына. — Хутчэй адсюль!..

І яны шпарка закрочылі далей.

Таццяна асцярожна несла дзіця, якое моўчкі прытулілася да яе і глядзела назад, дзе засталася яго маці.

— На, загарні яго, — сказала адна жанчына і, выцягнуўшы з кошыка прасціну, падала яе Таццяне.

Ззаду заляскалі стрэлы. Людзі ўздрыгнулі, баючыся азірнуцца. Старая перахрысцілася.

— Роспадзі, ратуй яе, няшчасную, і нас, грэшных, таксама.

Праз хвіліну насустрач ім вылецелі пяць матацыклістаў. Яны затармазілі матацыклы, і адзін з іх падбег да людзей.

— Вэр страляйт дорт? — крыкнуў ён.

Старая зразумела яго пытанне і адказала:

— А гэта салдацікі вашы забаўляюцца. Палююць... на людзей.

— Ах, забаўляйт! Палюйт! Ошэнь гут! — засмяяўся немец, але тут жа раптам нахмурыўся. — О, о! Ты хітры, русіш фрау! Дакумент!

Усе выцягнулі дакументы.

Забіраючы іх, гітлеравец хацеў адгарнуць прасціну і дагледзець дзіця. Тацяна смела адхіліла яго руку і спакойна сказала:

— Дзіця хварэе брушным тыфам.

— А, тыфус? — ён адхапіў руку, нібы апёкся, і не ўзяў яе дакумента. Астатнія дакументы ён сунуў у кішэню і ўскочыў на матацыкл, са смехам махнуўшы людзям рукою:

— Пашоль!

Тое, што ён забраў гэтыя бадай што нікому цяпер непатрэбныя паперкі, нікога не ўсхвалявала. Наадварот, усе з палёгкай уздыхнулі, бо адчулі, што галоўная небяспека мінулася: тыя, што страляюць там, ззаду, не пагоняцца за імі. Усе павярнулі галовы да Тацяны, і ў вачах іх засвяцілася захапленне дзяўчынай.

— Смелая ты, дзеўка, — сказала старая. — Што ж ты будзеш рабіць з ім?

— Расціць... Як сына свайго...

— Няхай Бог памагае табе за твой добры ўчынак.

Хутка дарогі іх разышліся. Жанчыны пайшлі далей

па шляху, а Тацяна адна павярнула на прасёлачную лясную дарогу. Да роднае вёскі заставалася ўсяго восем кіламетраў, і яна не адчувала ўжо ні зморанасці, ні болю ў нагах. І думала яна ўжо не аб сабе, а аб гэтым маленькім чалавечку, якога асцярожна і няўмела туліла да пругкіх дзявочых грудзей. «Ну, вось я і маці, — падумала і ўсміхнулася. — Маці! Сама яшчэ дзіця... Не, не... Гэта маё дзіця, роднае. Я павінна пераканаць усіх у гэтым... Хай ніхто не ведае, пакуль нашы не вернуцца. Я год не была дома, і гэта мой сын. Мой...»

Яна баязліва аглядалася, нібы баялася, каб хто-небудзь не падслухаў яе думкі.

«А як яго завуць?» — схамянулася яна праз некалькі хвілін. Няшчасная маці забыла паведаміць яго імя, яна сказала толькі прозвішча і імя бацькі. «Як жа яго назваць?»

Доўга яна перабірала ў памяці розныя імёны, і ўсе яны чамусьці не падабаліся ёй. Потым неяк выпадкова прашаптала:

«Віктар... Віця... Віценька, — і радасна засмяялася. — Ты будзеш Віця, мой маленькі... Запамятай гэта, сынок...»

II

У родную вёску Тацяна прыйшла адвячоркам, на захадзе сонца. Выйшаўшы з лесу і ўбачыўшы знаёмыя хаты такімі, якімі яна бачыла іх на працягу ўсяго свайго свядомага жыцця, яна спачатку здзівілася, а потым так узрадавалася, што ажно нешта сціснула грудзі і буйныя слёзы закапалі з вачэй. Яна стаяла, глядзела на вёску, на свой сад, які выдзяляўся з усіх садоў, і плакала. Пасля ўсяго таго, што яна бачыла па дарозе, ёй здавалася, што нічога ўжо не мае свайго ранейшага мірнага выгляду, а ўсюды — жудасныя сляды вайны.

І рантам родная вёска — такая ж, як заўсёды, і нічога навокал жудаснага няма. Такі ж лес, такое поле... І сонца такое ж, і садзіцца яно там жа, як заўсёды ўлетку. Як жа не плакаць ад гэтага?

Яе ўвагу прыцягнуў слуп пылу ў другім канцы вёскі, каля рэчкі. Яна жахнулася. Але зразумеўшы, што гэта вяртаецца з поля статак, яшчэ больш узрадавалася. Нічога яна так не любіла з самага дзяцінства, як гэтую пару летняга дня, калі па вуліцы пачынаюць ісці каровы, паднімаючы хмары пылу і напаўняючы паветра водарам лугоў і малака. І тое, што яна ўваходзіла ў родную вёску ў гэты час, так узрушыла яе, што яна расплакалася яшчэ мацней, па-дзіцячаму размазваючы слёзы па запыленых шчаках кулаком. І разам з ёю заплакала дзіця. Тады яна схамянулася, заглянула ў яго смуглявы тварык і засмяялася.

— Не плач, мой сыночак, не плач... Зараз мы дамоў прыйдзем.

Каб не ісці вуліцай, дзе — яна ведала — яе будуць сустракаць і распытваць, Тацяна звярнула са шляху на сцежку і пайшла гародамі. Так, амаль нікім не заўважаная, яна прыйшла ў родны сад. Зайшоўшы за знаёмую агароджу, яна спынілася і лёгка ўздыхнула. Велізарны цяжар небяспекі, які балюча ціснуў на сэрца апошнія кіламетры, зваліўся адразу. Стала надзвычайна лёгка, нават ногі перасталі балець. Яна прагна ўдыхала паветра, і ёй здавалася, што, каб ёй завязалі вочы і прывялі сюды, яна па адных гэтых асаблівых пахах пазнала б родны кут.

Сад быў вялікі — лепшы ў вёсцы. Пад дрэвамі стаяла многа вулляў. За густым кустом парэчкі Тацяна ўбачыла схіленую постаць і адразу пазнала бацьку.

— Тата! — ледзь не крыкнула яна, але стрымалася і цішком падышла бліжэй, а потым шэптам паклікала:

— Тата...

Бацька спалохана павярнуўся і, убачыўшы яе, выпусціў з рук сетку і раму.

— Таня!.. Ты? — здзіўлена і радасна прашаптаў ён. Потым хутка наблізіўся, узяў за плечы. Але не пацалаваў, а пачаў моўчкі пільна ўглядацца ў яе схудзелы, брудны твар.

— Дачка мая! — некалькі разоў прашаптаў ён. — Дачка мая! Колькі я думаў аб табе, — у вачах у яго заблішчалі слёзы. — Ну, хадзем жа, хадзем у хату, — і першы пайшоў па сцежцы да хаты.

Таццяна ішла за ім і думала: «Чаго ж ён не пытае аб дзіцяці? Нават не зірнуў». Але каля хлява ён спыніўся, павярнуўся да яе і спытаў неяк абыякава:

— А дзіця ж гэта чыё?

«Можа, прызнацца? — бліснула думка. — Ён так упэўнены... Не, не вытрымае, скажа мачысе... І будуць глядзець на яго, як на чужое, ды яшчэ разнясуць...»

І яна зрабіла выгляд, што здзівілася яго пытанню.

— Маё.

— Тваё? — вочы бацькі расшырыліся. — Як гэта тваё? Адкуль?

Яна апусціла вочы і ўсміхнулася:

— Вы ж ведаеце, тата, адкуль бяруцца дзеці.

— Ты не жартуй. Ты год назад прыязджала, і нічога... Колькі яму? — ён нахіліўся над дзіцем, адгарнуўшы прасціну.

«Колькі яму?» — вось над гэтым яна і не падумала і таму разгубілася.

— Яму? Колькі яму?.. А вось... Восем месяцаў яму. Я тады ўжо... Вы толькі не заўважылі...

Карп Маеўскі доўга і вельмі пільна ўглядаўся ў твар дачкі, але яна не падымала вачэй, і ён адвярнуўся і сказаў ужо спакойна і разважліва:

— Колькі ж табе гадоў? Дзевятнаццаць... І амаль год дзіцяці... Та-ак... Паспяшыла ты, дачка. Што ж ты бацьку не напісала?

— Саромелася, тата. Была б мама... — І тут жа хітра бліснула вачыма: — Вы ж мне таксама не напісалі. Людзі паведамілі...

— Я? — стары хутка адвярнуўся, але Таня заўважыла, як пачырванеў яго твар.

Больш ён не сказаў ні слова і хутка пайшоў у двор.

Адзінаццаць год прайшло, як памерла першая жонка Карпа, маці Таццяны. Дзевяць год усімі паважаны ў вёсцы, разважлівы пасечнік пражыў ціха: гадаваў дзяцей, вучыў іх, аддаў адну дачку замуж. А на дзесятым годзе здзівіў вяскоўцаў: надумаўся жаніцца на ўдаве. Палагея (так звалі ўдаву) мела не зусім чыстую рэпутацыю і,

апрача таго, славілася сваёй сварлівасцю. Ўсіх вельмі здзівіла зближэнне гэтых зусім розных і гадамі і характарам людзей. Настроеная размовамі цётак, Тацяна рашуча запратэставала і аднойчы нагаварыла бацьку дзёрзкасцей. Ён моўчкі выслухаў усё і нічога не адказаў. Але, як толькі яна скончыла тэхнікум і выехала настаўнічаць у заходнія вобласці, ён ажаніўся з Палагеяй. Тацяне аб гэтым напісалі цёткі, сяброўкі. Гэта абразіла яе, і яна доўга не пісала бацьку.

Вось чаму Карп адчуў сябе вінаватым перад ёй і змаўчаў, толькі падумаў:

«Што я пытаю ў яе, стары дурань? Сам-то я зрабіў горш».

Мачыха спаткала падчарку вельмі ласкава. Абняла, пацалавала. Тацяна, якая добра ведала, як злавалася Палагея на яе, калі яна перашкаджала жаніцьбе бацькі, здзівілася і пачала недаверліва адносіцца да яе ласкавасці.

— Дык гэта ж унучак ужо ў мяне! Бачыш, Карп? Радасць якая! — сыпала яна салодкімі словамі. — Ай-яй... Давай жа мне яго...

Таня пільна сачыла за кожным яе рухам, калі яна купала і захутвала дзіця. У жыцці ёй не даводзілася яшчэ мець справу з дзецьмі такога ўзросту, а таму трэба было на першых кроках усяму вучыцца, каб і далей беспамылкова іграць ролю маці.

— Ох, цыганёначак мой!.. — прыгаварвала Палагея, пяшчотна падкідваючы дзіця. — Які ён, Таня, смуглы ў цябе, які кучаравы! Сапраўдны цыганёнак...

Хлапчук гудзеў і ўсміхаўся.

— Гу-гу... Гулечкі мае. Колькі яму ўжо, Таня? Дзесяць ёсць?

— Не. Восьмы месяц.

— Толькі восьмы? А які ён ужо... вялікі! Люблю дзяцей. Пакрыўдзіў мяне Бог, не даў...

Дзіця заплакала.

— А-а, естачкі захацеў. На, мама, пакармі яго.

Тацяна ўздрыгнула і хвіліну разгублена глядзела на

мачыху. А потым твар яе заліўся чырванню. Яна хутка ўзяла дзіця да сябе і сказала:

— Я... Я не кармлю яго...

— Чаму? — здзівілася Палагея.

«Божа мой, як цяжка маніць, — падумала Тацяна. — Мабыць, не вытрымаю».

— У мяне... няма малака... Я захварэла ў дарозе, — схлусіла яна і сама здзівілася трапнасці сваёй хлусні.

— Што ж ты не сказала мне? Ой, мама, мама! Біць вас трэба, такіх матак. Дзіця галоднае, а яна сядзіць і чырванее, як дзяўчынка.

Пара ўжо кінуць саромецца, мілая мая. Соску ж яму трэба, ражок і соску. Дзе соска? Няма? Эх ты! — завіхалася спрытная мачыха. — Пабягу да суседкі, пазычу кіпячонага малачка.

Таццяна зусім разгубілася. Аб многім яна думала ў дарозе, а вось аб самым галоўным і не падумала.

«Дурная! — абурылася яна на сябе. — Маці называецца! Цалюткі дзень дзіця было галоднае. І як яно толькі трывала, беднае?»

Бацька моўчкі стаяў каля печы і назіраў гэтую сцэну. Калі мачыха знікла, ён падышоў да збянтэжанай дачкі і, пяшчотна кранууўшы за плячо, ціха сказаў:

— Гэта ж не тваё дзіця, Таня...

— Маё!.. Маё! — крыкнула ў роспачы яна. — Я ж сказала вам. Што вам трэба яшчэ ад мяне? Я хворая зусім... Ці ж я вінавата, што ў мяне няма малака? — яна горка заплакала. Бацька, не ведаючы, чым суцешыць яе, пачаў пяшчотна, як калісьці ў дзяцінстве, гладзіць па галаве.

Ішоў другі месяц, як пачалося жыццё ў няволі. Было яно трывожнае, напоўненае чаканнем чагосьці жудаснага. Людзі былі аглушаны гэтым раптоўным няшчасцем і хадзілі, як прыгавораныя да смерці, — маўклівыя, панурыя. Праўда, страшных падзей у вёсцы не здарылася. Фронт аддаліўся, не кранууўшы сваім агнявым подыхам вёску. Немцы наведаліся два-тры разы, паставілі старасту, забралі многа качак, курэй, некалькі кароў і загадалі сабраць з калгаснага поля ўраджай і ссыпаць у калгасны свіран. Але большасць сабранага хлеба калгаснікі ціха падзялілі паміж сабой на працадні і закапалі. Староста не супярэчыў гэтаму. Старастам быў пастаўлен упарты аднаасобнік Ларывон Бугай, вельмі маўклівы і непрыкметны чалавек. Аб ім, адзіным аднаасобніку ў сельсавеце, нават забывалі. А калі ўспаміналі, гаварылі: «Дзіўны чалавек», — і пачыналі ўспамінаць, калі, хто і якое слова чуў ад яго.

З'явіўся ў вёсцы і першы паліцэйскі. Гэта быў таксама аднавясковец, Міцька Заяц, які да вайны паспрабаваў не адну спецыяльнасць, і адусюль яго выганялі за п'янкі і хуліганства. У вёсцы яго не любілі і баяліся. Ён быў вялізнага росту, меў пудовыя кулакі і, расказвалі, калісь адным ударам кулака забіў каня.

Заяц паспрабаваў навесці «новы парадак», але яго спаілі, і ён два тыдні піў не прасыпаючыся. А за гэтыя два тыдні, ажыўшы пасля раптоўнага ўдару, народ пачаў дзейнічаць. Нават трактар і камбайн, якія засталіся стаяць на калгасным полі, у адну ноч раптам кудысьці зніклі. Куды — ніхто не ведаў. Вёска пачала жыць падвойным жыццём: дзённым і начным...

Але нічога гэтага не заўважала Тацяна ў першыя дні свайго жыцця дома. Было не да гэтага.

Хварэла дзіця, і яна ўвесь час, дзень і ноч, аддавала яму, жыла клопатамі аб ім і ўсё больш дзівілася, як гэта раней яна магла жыць без яго, без гэтага маленькага, смешнага, крыклівага стварэння. Праз які тыдзень яна так увайшла ў ролю маці, што ўжо ні ў кога больш не выклікала ніякіх сумненняў.

Але часам яе апаноўваў страх, такі ж, які перажывалі ў тыя суровыя дні ўсе маці за сваіх дзяцей. Гэта звычайна здаралася ўначы, калі маленькі Віктар спаў, а ёй не спалася. Але ўсё гэта знікала, калі Віктар абуджаўся. Яна пачынала калыхаць яго, спяваць яму пяшчотныя наіўныя песні-калыханкі без сэнсу, нават без слоў. Удзень яна купала яго, мыла пялёнкі, сарочачкі, выходзіла з ім гуляць у сад, на рэчку. Нават хадзіла ў лес, не думаючы ні аб якой небяспецы. Толькі з аднавяскоўцамі пазбягала сустракацца. Яны надакучалі роспытамі і вымушалі хлусіць, а ад гэтага адразу рабілася балюча, рассыпаліся ілюзіі і ўспаміналася ўсё: і шлях, і разарваныя бомбамі людзі, і гэтае лясное паляванне на жанчыну. Праўда, усе гэтыя цёткі, хросныя мамкі часта наведвалі знарок, каб паглядзець толькі на яе сына, распытаць аб мужу. А гэта было самым цяжкім для яе: уявіць бацьку хлопчыка і расказаць аб ім другім. Яна не любіла гэтых роспытаў і, каб спыніць іх, пачынала кпіць са старых і нават крыху грубіла ім. Асабліва не злюбіла яна старэйшую сястру нябожчыцы маці, надакучлівую і вельмі цікаўную цётку Хрысціну. Яна не адставала ад Тацяны з роспытамі, а потым аднойчы сказала:

— Ты, дзеўка, нос не вельмі задзірай. Ведаеш, што я скажу табе?

Таня насмешліва прыжмурылася.

— А што, цётка Хрысця?

— Нікога ў цябе няма. Усё ты хлусіш, ды і сама загаварваешся ўжо. Ніякага бацькі ў яго няма...

— Як гэта няма?

— Ды так, няма — і ўсё.

— Дык што ж ён, па-вашаму, з неба зваліўся, ці што? — раззлавалася Таня на ўпартую старую.

— Не з неба... Пры чым тут неба? Тады то ён быў, як ляжаў з табой, а потым, а потым свіснуў і — памінай чым звалі...

Тацяна аслупянела на месцы, ураз пабялела, не могучы вымавіць слова. Гэта была страшная абраза, аб якой яна раней і не падумала. Цяпер толькі, пасля слоў цёткі, яна ўцяміла, што так, магчыма, думаюць многія, у тым ліку і бацька, і ёй зрабілася сорамна і крыўдна. Захацелася расказаць усім праўду, пераканаць гэтых недаверлівых

людзей, давесці, што яна чыстая, як дзіця. Але як сказаць пра гэта? Яна доўга шырока расплюшчанымі вачыма глядзела на цётку. Хрысціна нават спалохалася яе позірку і паспрабавала апраўдацца:

— Ды я пажартавала... Чаго ты анямела?!.

— Як вы маглі падумаць такое? — прашаптала, задыхаючыся, Тацяна, а потым крыкнула: — Як не сорамна вам! Ды, нарэшце, якая справа вам да мяне! Пайшлі вы ўсе...

Яна не скончыла і, злосна стукнуўшы дзвярамі, выскачыла з хаты, з Віцем на руках, пайшла ў сад, а праз сад — у поле.

Абраза балюча пякла сэрца. Дзяўчына задыхалася ад гневу і сораму. Не хапала сіл супакоіць сябе. Яна доўга ішла так па зжатаму полю, забыўшыся на ўсё і нічога не заўважаючы навокал сябе. Толькі плач дзіцяці вярнуў яе да рэчаіснасці. Яна паглядзела на хлопчыка і заплакала разам з ім, і ад гэтага ёй стала лягчэй.

«Няхай думаюць што хочуць!.. Чаго я, дурная, расплакалася? Усё гэта глупства. Няхай гавораць што хочуць! А мы не будзем звяртаць увагі. Так, сынок?»

І пасля гэтага яна пачала часцей сустракацца з жанчынамі і пачула ад іх шмат жудасных навін.

У адным месцы немцы расстралялі на шашы калону нашых ваеннапалонных, у другім — стварылі нейкі страшэнны лагер, за Рэчыцай — спалілі вёску і расстралялі ўсіх жыхароў, а ў Гомелі — звезлі ўсіх яўрэяў у адно месца і морацць іх голадам, бесчалавечна здзекваюцца.

— І кажуць, бабанькі, што гэтыя няшчасныя ад голаду кідаюцца на калючы дрот, лезуць на штыкі вартавых, — расказвала адна жанчына.

— Што гэта творыцца на белым свеце? — перабівала першую жанчыну другая і цяжка ўздыхала. — Не людзі, а звяры нейкія. А яшчэ крычаць, што яны культурныя. Дзе ж іх культура?

У размову ўмешвалася цётка Хрысціна.

— Дзе культура іх? Ты не бачыш яе, ці што? Ды гэта ж і ёсць культура іхняя. Воўчая... Воўчая ў іх культура.

— Хутчэй бы вярталіся нашы. Адступілі, і хопіць. Колькі ж можна адступаць? Пара б канчаць ужо гэтага ірада, — гаварыла старая Сцепаніда, маці трох сыноў — камандзіраў Чырвонай Арміі.

— Вельмі рана ты, Сцепаніда, пачала чакаць сваіх сыноў, — усміхнулася Палагея. — Кажуць, немцы Маскву забралі.

— Ціпун табе на язык, балбатуха ты гэтакая! Не бачыць ім Масквы, як уласнай патыліцы, — абуралася Сцепаніда і з пашанай звярталася да Тацяны: — Праўда, хрэсніца?

— Праўда, — адказвала Таня.

Бесклапотнасць, з якой яна пражыла некалькі дзён, згінула пад уплывам гэтых апавяданняў. Зноў успомніўся пакутны шлях, расстрэл людзей, жудаснае здарэнне ў лесе. Яна ўбачыла і адчула, якая страшэнная небяспека штодзённа, штохвілінна вісіць над людзьмі і кожную хвіліну можа абваліцца на галовы жанчын, дзяцей, старых так, як абвальвалася яна цяжкімі бомбамі там, на дарогах адступлення. Яна стала баяцца за жыццё гэтага маленькага, чорнагаловага чалавечка, які хапаў ручкамі яе за косы, за вушы, за нос і радасна смяяўся, зморшчыўшы свой пухнаты тварык.

Больш яна ўжо не хадзіла так смела ў поле і ў лес з ім, а сядзела дома ці ў святочныя дні разам з іншымі сялянкамі — на прызбе. І апранацца стала ва ўсё найгоршае, па-сялянскаму, каб не кідацца ў вочы пабочным людзям і асабліва немцам, якія сталі часцей наведваць вёску.

Тацяна рэдка ўмешвалася ў размову жанчын, а больш уважліва слухала, падтрымліваючы ў думках то адну, то другую. Яе лічылі разумнай, развsituацыйжлівай маладзіцай, і нават самыя старыя пачалі звяртацца да яе як да роўнай ім. Мацеры разумелі маці, цанілі яе пачуцці да дзіцяці. І гэта радавала Тацяну. Яна асцярожна, але ўпэўнена ўступала ў новае жыццё, і непрыкметна, нават для яе самае, у яе складаўся новы светапогляд.

Аднак размова з Хрысцінай пакінула след — думку, якая хвалявала яе.

«Няўжо і бацька думае аба мне так, як Хрысціна?» — штодня пыталася яна ў самае сябе і пільна сачыла за бацькам і мачыхай, ловячы кожнае іх слова, кожны погляд. Але нічога не заўважала. Як і ў першыя дні, яны адносіліся да яе і да хлапчука ласкава, клапатліва. Калі яна пачала сядзець больш дома і шукаць сабе працы ў гаспадарцы, Палагея жартліва, але рашуча сказала:

— Управімся і без цябе. Невялікая гаспадарка.

А без працы было яшчэ горш. Розныя сумныя думкі сціскалі сэрца. Не было куды дзяваць часу, і цягнуўся ён вельмі марудна, аднастайна. Тацяна была рада кожнаму пражытаму дню і з жудасцю сустракала кожны новы, не ўяўляючы, як яна перажыве яго.

Асабліва цяжка стала ў дажджлівыя восеньскія дні (а такіх дзён станавілася ўсё больш і больш). Аднастайна, сумотна бубніць дождж у шыбы акон, вецер зрывае жоўтае лісце з верб і бяроз, і яно прыліпае да мокрага шкла. А гэтыя адзінокія, прыліпшыя да шыб лісткі чамусьці асабліва хвалявалі Тацяну. У такія дні яна садзілася каля акна і думала. Думкі былі розныя, але змест іх быў адзіным.

«Усё тое, усё на месцы, і людзі тыя, а жыццё не тое, — думала яна,назіраючы праз акно восень і людзей. — Жыцця зусім няма. Нейкае тупое існаванне. Колькі ж гэта будзе цягнуцца? Дзе ж нашы? Што там у іх? Немцы брэшуць, што Маскву забралі... Ведаць бы ўсё напэўна, усё адно, сумныя гэта навіны ці радасныя... Лягчэй было б...»

У хуткім часе адна падзея праясніла яе думкі. Ды і не толькі яе...

Аднойчы ў вёску з'явіўся аднавясковец, камсамолец Жэня Лубян, і, смела сабраўшы людзей, расказаў ім аб становішчы на фронце. Расказваў хлопец так шчыра і падрабязна, што самыя недаверлівыя людзі паверылі яму.

— Не бачыць гэтым паганцам Масквы, як сваіх вушэй, — звонка і бадзёра гаварыў ён. — Праўда, нядаўна яны захапілі Арол, наблізіліся да Ленінграда... Але ўсё гэта часовы поспех у іх, здабыты вельмі дарагой цаной. Немцы губляюць штодня тысячы забітымі і параненымі. Незлічоная колькасць тэхнікі абгарэлым ломам застаецца на нашых бяскрайніх палях. І прыйдзе час!.. Пакоцяцца яны назад! Яшчэ як накоцяцца! Я прыйшоў, каб перадаць вам наказ партыі нашай, савецкай улады: не давайце немцам ні грама хлеба, ні кавалка мяса, ні клока сена... Спаліць, закапаць, схаваць, а ім не даць!.. Вады ім не даць напіцца з нашых калодзежаў! Так зрабіць, каб на кожным кроку немцаў чакала справядлівая кара. Вось тады хутка прыйдзе ім канец...

Людзі слухалі юнака, стаіўшы дыханне. Жанчыны плакалі. Мужчыны задавалі пытанні і ўважліва слухалі пераканаўчыя адказы. Ён смела стаяў на высокім ганку школы і радасна ўсміхаўся. Тацяна не зводзіла з яго вачэй.

Выў тут і стараста Ларывон Бугай. Моўчкі стаяў ззаду, слухаў і нічога не сказаў, нічога не зрабіў, каб затрымаць партызана.

Жэня, скончыўшы адказваць на пытанні, выцягнуў з кішэні гранату, агледзеў яе, потым дастаў і праверыў нямецкі пісталет.

— Не сумнявайцеся, землякі... І не палохайцеся. Я буду наведваць вас часта, ды і яшчэ хто-ніхто са знаёмых можа заглянуць... Нас многа туг, — ён кіўнуў галавой у бок лесу.

А выходзячы з натоўпу і напаткаўшы старасту, ён здзіўлена спыніўся перад ім.

— А-а, Бугай! І ты тут, бычыны род? Ну, цябе мы павесім — так і ведай!

Гэтае наведванне падбадзёрыла Тацяну. Больш упэўнена пачала глядзець яна ў будучае, думала аб перамозе, аб сваім месцы ў гэтай вялікай барацьбе. І ўсё часцей усё лепшае ў сваёй будучыні звязвала з імем Жэнькі.

Калісьці (ёй здавалася, што гэта было вельмі даўно) яны разам вучыліся ў сямігодцы, разам удзельнічалі ў драматычным гуртку, і ва ўсіх п'есах, якія яны ставілі, ім даводзілася іграць жаніха і нявесту. Але яна, «нявеста», мела не вельмі шчырыя пачуцці да «жаніха». Жэня быў вялікі свавольнік і часта лаяўся з дзяўчатамі. Таццяна не любіла яго тады за яго «дурны характар», але цяпер усё гэта ўспамінала з прыязнасцю, саграваючыся цеплынёй успамінаў.

Цяпер яна зайздросціла яму. Яна ўяўляла другое, сапраўднае жыццё ў лесе, і ёй вельмі хацелася быць разам з гэтымі людзьмі.

Першы раз яна пашкадавала аб, тым, што ў яе дзіця. «Не было б яго, даўно б я была там з імі», — думала яна.

Але глянуўшы на маленькага Віцю, які ляжаў у калысцы і ручкамі намагаўся злавіць падвешаны на нітцы чырвоны шарык, яна пяшчотна ўсміхалася і адганяла гэтую думку. «Не, я ніколі не кіну яго... Ніколі...»

Аднойчы ў такі вось дажджлівы дзень Таня, як звычайна, сядзела каля акна, шыла сарочку і думала. У хаце нікога больш не было. Толькі Віця забаўляўся ў калысцы, і яна часта апускала шытво на калені і з пяшчотнай усмешкай глядзела на яго.

Бацька сталярнічаў пад павеццю. Адтуль далятаў рытмічны, знаёмы з дзяцінства свіст фуганка і пісклівы плач нажоўкі.

Таццяна думала аб сабе і аб тых людзях, што ў лесе. «Давядзецца пабачыцца і пагутарыць з Жэнькам — раскажу яму ўсю праўду. Няхай навучыць мяне жыць. У адной п'есе... Як гэта яна называлася? — Яна на хвіліну заплюшчыла вочы, зморшчыла лоб. — Не памятаю зараз... Ён вучыў мяне, сваю «нявесту», жыць...»

Яна пачырванела ад гэтых успамінаў і зноў паглядзела на Віктара.

У хату зайшоў бацька. Напіўся вады, рукавом выцер пот і, падышоўшы да акна, пачаў закурваць.

— Раздажджылася як! А дождж цёплы, як вясной...

Таццяна ў адказ кіўнула галавой, зноў пачала шыць.

Бацька скруціў цыгарку, не запальваючы яе, падышоў да калыскі і пачаў пільна разглядаць дзіця.

Таня заўважыла гэта і насцярожылася, употайкі пачала назіраць за адценнямі бацькавага твару. Не паварочваючыся, ён нечакана ціха спытаў:

— Ён яўрэй, Таня?

Таня ўстрапянулася.

— Хто — ён?

— Ну... Бацька Віктара...

«Як яму цяжка сказаць «твой муж», — падумала яна і абыякава адказала:

— Яўрэй... А што?

— Ды нічога, нічога, гэта я так, — бацька павярнуўся, надышоў да яе і хвіліну глядзеў у акно, а потым шэптам

сказаў: — Але аб гэтым не трэба нікому гаварыць... І Палагеі і Ганне... (Ганна была старэйшая замужняя сястра Тацяны.)

— Чаму, тата? Ці не ўсё адно чалавек? — запытала проста так, бо і сама ведала, чаму нельга гаварыць.

Ён паклаў ёй руку на плячо:

— Бачыш, дачушка... Такі час цяпер... Ты ж ведаеш...

— Я нікога не баюся, тата!

— Можна не баяцца людзей, дачка. А звяроў трэба баяцца. Нельга рызыкаваць жыццём... сваім і яго, — ён кіўнуў на калыску.

— Вы думаеце, яны зачэпяць яго?

— Я нічога не думаю, Танюша... Я ведаю толькі адно: уварваліся звяры... Як бацька, я прашу цябе, каб ты была асцярожнай, каб ніхто... Разумееш?

— Добра, тата, добра, — адказала Таня, каб хутчэй закончыць гэтую балючую размову. А балюча было ад таго, што яна ўсё яшчэ маніць бацьку, ад гэтага ў родным хаце часам адчувае сябе чужой. Яна ведала: каб яна здолела расказаць усё шчыра бацьку, ёй адразу было б лягчэй, яна адразу адчула б сябе дома... Перашкаджала мачыха. Але і бацька не верыць ёй. Зараз ён сказаў...

«Дык, можа, зараз сказаць яму?» — падумала яна. Але бацька выйшаў з хаты.

IV

Обер-лейтэнант Генрых Візэнер вярнуўся з Гомеля, з нарады камендантаў раёнаў, у добрым настроі. Яго пахвалілі: у яго раёне ціха, у той час як у іншых раёнах дзесяткі дыверсійных актаў супроць нямецкай арміі. Візэнер меў крытычны розум, заўсёды разважаў рэальна і, безумоўна, разумеў, што партызаны могуць з'явіцца і ў яго, калі яны ёсць у суседніх раёнах. Але ён цвёрда быў упэўнены, што здолее вельмі хутка знішчыць гэты так званы народны рух.

Візэнер і слухаць не хацеў сваіх калег, якія сцвярджалі, што даводзіцца мець справу не толькі з асобнымі групамі, але з цэлымі вёскамі на першы погляд зусім мірных жыхароў. Не верыў ён гэтаму, бо меў значны вопыт каменданцкай работы ў Францыі і ў Польшчы. «Няма такога чалавека, які не адступіў бы перад тварам смерці, —

разважаў ён. — Сіла вырашае ўсё... Патрэбна толькі разумная аператыўнасць... І ўсё даводзіць да канца...»

У камендатуры ён выслухаў даклад дзяжурнага афіцэра і адразу ж накіраваўся на кватэру паабедаць і адпачыць.

Ён з прыемнасцю памыўся ў халоднай ванне, пераапрануўся і сеў за стол, застаўлены бутэлькамі і закускамі. Гэта была адзіная слабасць обер-лейтэнанта: добра выпіць і смачна закусіць. Іншых спакус для яго не існавала.

Ён наліў ужо віна ў высокі крыштальны кубак, смачна цмокнуў губамі, весела падміргнуў ардынарцу і раптам нахмурыўся. Ардынарац застыў, спалохана выцягнуўся. Але Візэнер глядзеў праз акно на вуліцу. Там ён убачыў дзяжурнага афіцэра лейтэнанта Рэдара, які амаль бег ад камендатуры да кватэры каменданта.

Візэнер адсунуў бакал і хутка падняўся, злосна кусаючы ніжнюю губу. Ён не любіў гэтага малакасоса, які выхваляўся сваім баронскім паходжаннем. Пры яго дзяжурстве заўсёды здараліся якія-небудзь непрыемнасці. Цяпер зноў непрыемнасць і, відаць, значная, інакш маглі б далажыць па тэлефоне. Візэнер накіраваўся ў кабінет, дзе яго ўжо чакаў Рэдар. Па твары афіцэра было відаць, што ён хвалюецца.

— Пан обер-лейтэнант! Тэлеграма са станцыі: сёння а чатырнаццатай гадзіне на тысяча сто шэсцьдзесят другім кіламетры ўзарваны мост. Мост узарваны ў той час, калі па ім праходзіў эшалон з гаручым. Згарэла васемнаццаць цыстэрнаў...

Візэнер нахіліўся над картай раёна. У яго нервова заторгалася левае брыво.

Падобнага дыверсійнага акта не было яшчэ і ў яго калег. Ён падняў галаву і налітымі крывёю вачыма паглядзеў на Рэдара. Захацелася ўдарыць па спалоханаму чыстаму твару дзяжурнага афіцэра.

«Нягоднік», — падумаў камендант і нечакана злосна і гучна загадаў:

— Падрыхтаваць ваш узвод. Узвод кулямётчыкаў... Пяць хвілін...

Хвілін праз сем тры грузавікі з салдатамі і асабісты лімузін Генрыха Візэнера на шалёнай хуткасці выкацілі з горада.

Але ў дарозе камендант паступова супакоіўся і ў разважаннях з самім сабою ўсё віну склаў на чыгуначную варту. Вярнулася страчанае ў злосці адчуванне голаду. Ён успомніў свой багаты абед, які некранутым застаўся стаяць на стале, і загадаў спыніцца ў першай жа вёсцы.

— Ніякіх беспарадкаў! — сурова загадаў ён афіцэрам. — Толькі паабедаць. Мы — сапёрны раз'езд па рамонту дарог... Даю адну гадзіну.

Салдаты разышліся па вёсцы.

І праз некалькі хвілін задымілі коміны, запахла смажаным салам, закудахталі апошнія куры.

Бегалі адна да адной жанчыны, каб пазычыць розныя прыправы, параіцца ўпотайкі.

— Накармі ты іх, хай іх разапрэ... Абы не чапалі яны нас...

— Хутчэй бы яны паехалі... Чорт іх прынёс да нас!

— Трымаюцца яны пакуль што ціха. Не будзем ужо станавіцца ім папярок дарогі...

І ўсе ў вёсцы жахнуліся і насцярожыліся, калі маланкаю праляцела чутка, што цётка Хрысціна адмовілася карміць немцаў, палаялася з імі, плюнула на іх запатрабаванні і, пакінуўшы іх у хаце, сама кудысьці сышла. Але ўсё абышлося добра. Трое вясёлых немцаў парагаталі са сварлівай русішэ фрау і пачалі гаспадарыць самі: распалілі печ так, што вяскоўцы пачалі баяцца новай небяспекі — пажару, лавілі курэй, забілі апошняга парсюка.

Да Маеўскіх зайшлі два афіцэры. Адзін з іх трохі гутарыў па-руску і адразу пачаў растлумачваць Палагеі, што ім патрэбна. Палагея зразумела яго і хутка замітусілася па хаце.

Тецяна купала Віктара, калі ў хату суседка прынесла вестку пра тое, што прыехаў нямецкі атрад. І ў яе адразу моцна дрогнула сэрца, самлелі рукі і падкасіліся ногі. Не дакупаўшы хлапчука, яна хуценька загарнула яго і паклала ў калыску. Але дзіця чамусьці расплакалася. Разгубіўшыся, Тацяна рабіла няўмелыя і няўдалыя спробы супакоіць яго. Але яно не сунімалася і напаўняла хату такім галосным крыкам, што нават ласкавая і клапатлівая заўсёды мачыха паморшчылася і дакорліва спытале:

— Ці ён перестене ў цябе?

Тацяна праглынула горкі камяк слёз і ўзяла Віктаре з келыскі на рукі.

У гэты момант у хату зайшлі афіцэры.

Тацяна прытуліла да грудзей хлапчука і нерухома застыле каля акна, баючыся павярнуцца, паглядзець на іх.

Яна чула іх размову з Палагеяй. Потым пачула, як Палагея выйшла, і ледзь утрымалася, каб не кінуцца за ёй, так жудасна было застацца еднай з немцамі.

Яна не бачыла іх, але адчувала, што іх пільныя позіркі колюць яе спіну.

«Нельга так стаяць», — падумала яна і хутка адвярнулася ад акна. Малады гітлеравец, зусім яшчэ юнак, сядзеў каля стала і глядзеў на яе, другі, старэйшы, стаяў і разглядаў фатаграфіі на сцяне.

Убачыўшы яе твар, той, што сядзеў, мнагазначна ўсклікнуў:

— О-о! — І паклікаў: — Вілі!

Старэйшы адарваўся ад фатаграфій і насмешліва пакланіўся ёй.

Таццяна падумала:

«Трэба паказаць сябе дурной», — і зрабіла здзіўлены і вельмі спалоханы твар, разявіўшы рот, ва ўпор глядзела на немцаў, моргаючы вачыма. Твар яе ў гэтую хвіліну сапраўды быў вельмі смешны і дурны, і гэта выклікала гучны рогат маладога немца. Старэйшы пагардліва ўсміхнуўся і, нешта сказаўшы, накіраваўся да дзвярэй. Таня правяла яго вачыма, а калі дзверы зачыніліся за ім, зноў перавяла позірк на маладога немца.

Некалькі хвілін яны моўчкі і вельмі пільна глядзелі адно на аднаго. Потым на нейкі вельмі кароткі момант яна забылася на сваю ролю: твар яе зрабіўся звычайным, а ў вачах бліснулі іскры нянавісці да прышэльца. Немец, відаць, заўважыў гэтую перамену, бо раптам ускліенуў зноў:

— О-о! — і, падняўшыся, накіраваўся да яе.

Яна моцна сціснула дзіця, і яно зноў расплакалася.

— Ціха, сынку, ціха, — прашаптала яна.

Потым, як у сне, яна адчула над сваёй галавой яго дыханне і ўбачыла тонкую белую руку з залатым пярсцёнкам на ўказальным пальцы, якая працягнулася і двума пальцамі кранулася падбародка хлапчука: ён адразу перастаў плакаць і здзіўлена пачаў глядзець на немца, які шчоўкаў языком, цмокаў губамі і нешта гаварыў.

Таццяна падняла вочы і спаткала блізкі позірк блакітных вачэй. Афіцэр усміхаўся. Таня чамусьці раптам адчула смеласць, упэўненасць і таксама ўсміхнулася ў адказ. Тады немец працягнуў руку да яе, намерваючыся абняць. Яна адхінулася. Ён працягнуў другую руку. Яна штурханула яго ў грудзі і, закрычаўшы, кінулася да акна. Рукой і галавой ударыла ў раму, адчыніла акно і выскачыла на вуліцу. Аб шкло парэзала лоб, руку і ногі.

Парэзаўся і Віктар. Умомант абодва яны былі акрываўленыя.

Убачыўшы Таццяну ў такім выглядзе на вуліцы, некалькі жанчын выскачылі з хат і абступілі яе.

— Давай Віцю, — сказала старая Сцепаніда, якая падбегла першай, і, узяўшы дзіця, хутка схавалася з ім.

Таццяна прыціснулася да мачыхі і бязгучна плакала ад болю, спалоху і абразы. Праз хвіліну ўся вуліца абступіла яе. Жанчыны абурана шумелі, нягледзячы на тое, што да натоўпу падыходзілі немцы. Адзін з іх дастаў індывідуальны пакет і прапанаваў

перавязаць раны. Але, нечакана з'явіўшыся, цётка Хрысця адпіхнула яго і павяла Таню ў бліжэйшую хату.

Гітлераўцы нешта злосна загаварылі паміж сабой і накіраваліся да хаты Маеўскіх.

Рэдар, які спачатку разгубіўся ад нечаканасці, праз хвіліну страшэнна раззлаваўся і ад тупой звярынай злосці пачаў біць пасуду, астатнія вокны, ірваць вопратку.

Салдаты, убачыўшы свайго афіцэра за такім заняткам, пачалі памагаць яму, узрадаваныя магчымасцю заняцца прывычнай справай.

Генрых Візэнер канчаў абед, калі да яго слыху даляцеў шум на вуліцы. Ён паслаў ардынарца высветліць, у чым справа. Праз хвіліну ардынарац далажыў:

— Лейтэнант Рэдар згвалтаваў дзяўчыну.

Візэнер падхапіўся, ударыў аб стол шклянкай.

— Блазнюк! Я яму пакажу, як не выконваць мае загады! Шалудзівы барон!

V

Парэзаны шклом маленькі Віця цяжка захварэў. Ужо на другі дзень яго кволае цельца спальваў моцны жар. Ён ляжаў гарачы, расчырванеўся і нават не мог плакаць, толькі квола раскідваў ручкі ды аблізваў пасінелым язычком сухія губы. А ў чорных шырокіх вочках свяцілася вялікая пакута і нейкі своеасаблівы дзіцячы смутак, такі глыбока кранальны, што Таццяна не магла стрымліваць слёзы, гледзячы на яго.

Яна дзень і ноч сядзела над хворым дзіцем. Ёй здавалася, што гэта яна вінавата ў яго хваробе — не ўпільнавала. Часам ноччу, змораная, фізічна разбітая, яна незаўважна засынала каля калыскі, але праз некалькі хвілін спалохана падхоплівалася і кідалася да Віктара.

— Сын мой... Сыночак... Галчонак мой, — пяшчотна шаптала яна, і ў гэтыя хвіліны сама была цвёрда перакананая, што гэта сапраўды яе сын, яе роднае дзіця. І тады ёй рабілася лягчэй. У начной цішыні яна пяшчотна цалавала дзіця, плакала і смяялася. Але ёй рабілася вельмі цяжка, як толькі зноў у думках вярталася яна да суровай рэчаіснасці: гэта дзіця загінуўшай маці; яе святы доўг захаваць і вырасціць яго... А як гэта зрабіць, калі нават родны яе бацька не ведае, што гэта за дзіця? Яна пакутавала ад гэтага ўсё больш.

Палагея неяк адвярнулася ад яе ў гэтыя цяжкія дні і была больш заклапочана разбуранай гаспадаркай, чым хворым унукам, да якога

яна была такая ласкавая раней. Мачыха была руплівай, але прагнай гаспадыняй, увесь час ёй хацелася, каб у яе ўсяго было больш, чым у людзей.

— Добрыя людзі гаспадаркай заводзяцца, а ў нас апошняе гіне, — штодня пасля наведвання гітлераўцаў упікала яна Карпа. — Хутка жабракамі станем. Кайстру вешаць давядзецца.

Карп маўчаў. Але аднойчы не вытрымаў і ён. Увесь вечар Палагея «пілíла» яго за тое, што ён не ідзе да старасты і не папросіць, каб і да іх прымацавалі каня.

— Мы ж таксама гаспадарка, і нам жа трэба сеяць, трэба дровы вазіць. А на чым? Мяне запражэш, ці што?! — крычала яна. — Няхай сем двароў на каня, і то раз у сем дзён можна ўзяць. Усе бяруць, адны мы... Быццам камуністы мы, ці што?

Пры апошніх словах яе Карп уздрыгнуў, хутка адвярнуўся ад акна і праз хату пайшоў да жонкі. Яна спалохана змоўкла.

— Так, камуністы... Я — камуніст, — цвёрда сказаў ён, спыніўшыся каля яе. — А ты не ведала? І не пайду... Кроў людзей нашых ільецца, а ты — багацець. — Ён памаўчаў, цяжка дыхаючы, а потым злосна дадаў: — Эх, дура!

Спалоханая Палагея не вымавіла ніводнага слова і некалькі хвілін стаяла з адкрытым ад здзіўлення ротам. Словы мужа аглушылі яе. Яна не ведала, як разумець іх.

«А можа, сапраўды ён камуніст? Тайны... Чаму ён не спіць цалюткімі начамі?» — падумала яна і з таго дня пачала менш гаварыць, а больш употайкі сачыць за мужам і падчаркай.

Тацяну гэты выпадак канчаткова пераканаў, што бацьку можна даверыць усё.

Стары сапраўды не спаў усе ночы, пакуль быў хворы Віктар. Ён нават не распранаўся і не лажыўся, а ўсю ноч сядзеў каля стала і, паклаўшы галаву на рукі, драмаў ці выходзіў на двор і выкурваў адну цыгарку за другой.

Часам ён падыходзіў да дачкі і ціха гаварыў:

— Ты адпачні, дачушка. Я пасяджу, — і садзіўся каля калыскі. Таня лажылася на канапу, засынала, але праз гадзіну-дзве прасыпалася.

— Спі, спі, Танюша, — шаптаў бацька, заўсёды ён быў вельмі скупы на словы, асабліва на словы ласкавыя, і на першы погляд здаваўся суровым. Але Таня добра ведала свайго бацьку, яго шчырае сэрца. Яна бачыла, што ён пакутуе ад таго, што не можа выказаць свае пяшчотныя думкі. Яна пачала шукаць выпадку, каб усё шчыра раска-

заць яму. Нарэшце аднойчы, калі ён падышоў пасярод ночы і прапанаваў ёй легчы, яна не вытрымала і са слязамі кінулася да бацькі.

— Тата, татачка... Даруйце мне... Мне сорамна... Я зманіла вам. Гэта не маё дзіця...

Але ў гэтую хвіліну заварочалася на ложку мачыха.

— Цішэй, — зашаптаў Карп. — Не трэба... Я ведаю.

Ён і не верыў, што гэта яе дзіця, і ўвесь час быў упэўнены, што рана ці позна дачка прызнаецца яму. Цяпер яму стала радасна, што не памыліўся. Адразу стала лягчэй на душы і ў Таццяны. Палагея падняла галаву і сонным голасам прахрыпела:

— Клаўся б ты, стары, спаць. Начнікі вы! Самі не спіце і другім перашкаджаеце.

Ёй ніхто не адказаў.

Карп Маеўскі выйшаў на двор і прасядзеў там да світання, думаючы аб жыцці. Думкі былі розныя. Пры ўспамінах твар яго часта асвятляла радасная ўсмешка: у недалёкім мінулым многа было шчаслівага. Выраслі дзеці. Адзін з іх стаў геолагам і перад вайной працаваў дзесьці на Урале. Старэйшая дачка шчаслівa жыла ў суседнім калгасе. А вось гэтая, малодшая, якая цяпер начамі сядзіць над чужым дзіцем, вывучылася на настаўніцу. Сам ён быў усімі паважаны калгасны пчалавод і сталяр. Амаль увесь раён ведаў яго. А мінулай вясной нават запрасілі выкладаць на раённых курсах маладых пчалаводаў. Праўда, толькі вось ажаніўся ён другі раз неяк нечакана і няўдала і праз гэта палаяўся з дзецьмі.

Твар старога спахмурнеў, калі ён успомніў гэта. Але ён махнуў рукой: не аб тым цяпер думаць трэба. Вось ужо тры месяцы, як нечакана абарвалася ранейшае жыццё, і ён усё яшчэ не можа зразумець, разабрацца ў імклівым водавароце нечаканых, страшэнных падзей. Кожны дзень думаў ён усё аб адным і тым жа: чаму адступіла наша армія? Няўжо мы пры такім жыцці былі слабейшымі за гэтых зялёных прыблуд? Ці, можа, забыліся ў шчасці пра небяспеку?

Не, здаецца не забылі. Колькі гаварылі, песні спявалі.., Але чаму не падрыхтавалі яго, простага калгасніка. Не мае права ён сядзець склаўшы рукі.

«А што рабіць? — пакутліва думаў стары. — Як уключыцца ў барацьбу?»

Там, дзесьці далёка на ўсходзе, застаўся яго сын. Дзе б ён ні быў, ён змагаецца супроць фашыстаў, — стары быў упэўнены ў гэтым цвёрда. Мікола не кіне ў бядзе свой край, свайго бацьку. Але ж трэба нечым тут дапамагаць яму. А чым?..

Праўда, кажуць — у лесе ёсць партызаны. Але дзе яны, хто яны такія, — ніхто не ведае. У іх вёсцы ведаюць толькі аднаго партызана — Жэньку Лубяна. Усе пераканаліся, што гэта вельмі смелы і спрытны хлопец. Ужо двойчы ён прыходзіў у вёску, абвешаны гранатамі, расказваў навіны і пагражаў павесіць старасту і паліцэйскага. Бясспрэчна, ён робіць вялікую справу — Карп разумеў гэта. Але калі там усе такія юнакі, дык як пойдзе да іх ён, пяцідзесяцісямігадовы стары. Ды і ці прымуць яшчэ яны яго? А як пойдзеш ад сваіх, на каго кінеш іх? З суседняй вёскі амаль штодня прыходзіць старэйшая дачка і просіць ад бацькі дапамогі: то накасіць сена, то хлеб абмалаціць, то хлеў накрыць, то нарыхтаваць дроў. У яе двое дзяцей і хутка будзе трэцяе, а муж — камандзір, у першы дзень вайны пайшоў у армію. А як пакінеш Таню? Адзін дзень яго не было дома, і здарыўся гэты абразлівы выпадак. «Дзе яна ўзяла гэтага хлапчука?» — падумаў Маеўскі і выйшаў з-пад павеці, дзе сядзеў на сталярным варштаце.

Світала. Згасалі ў небе зоркі. Але бліжэйшыя з іх яшчэ развітальна мільгалі зямлі, пасоленай першымі замаразкамі.

Карп доўга глядзеў на неба, нібы варажыў па зорках. Схамянуў яго певень, што голасна заспяваў дзесьці ў канцы вёскі. Праз хвіліну з усіх бакоў паляцела знаёмае «ку-ка-рэ-ку».

«Многа яшчэ іх засталося», — усміхнуўся Карп і рушыў у хату. Але на парозе сянец яго спаткана Таня.

— Замерзлі, тату? — спытала яна.

— На двары яшчэ цёпла.

— Давайце пасядзім тут, на прызбе. Віктар заснуў. Здаецца, яму палягчэла...

Яны селі і некалькі хвілін маўчалі. Тацяна не ведала, з чаго пачаць. Тады бацька сказаў ёй ласкава:

— Ну, расказвай, маці...

Яна каротка расказала аб здарэнні ў лесе, каля Дняпра.

Вось так я стала маці, — усміхнулася яна, скончыўшы расказваць.

— Ну, а далей што? — спытаў бацька.

Таня не зразумела.

— Далей? Далей, у мяне — сын. Я павінна расціць яго, тата, замяніць яму і маці і бацьку.

— Так... Ты павінна расціць яго, — задуменна паўтарыў яе словы Карп і хвіліну памаўчаў, углядаючыся ў цёмную сцяну суседняга дома, а потым павярнуўся да яе і нейкім дзіўным шэптам спытаў:

— А жыць... жыць як, Таня?

— Як жыць? — зноў не зразумела дзяўчына.

— Эх ты! — з дакорам махнуў рукой стары. — Жыцця-то няма. Жыццё ад нас аднялі яны, вунь тыя, — ён паказаў рукой на захад. — Памятаеш, ты вучаніцай чытала мне пра нявольнікаў. Вось і мы — такія нявольнікі. Горш нават... Як жа ты, нявольніца, будзеш гадаваць яго, сына свайго?

Таня зразумела і жахнулася. Яна ніколі не ўпадала ў роспач і ўвесь час цвёрда верыла, што ўсё гэта — часовая з'ява. Асабліва ўпэўнілася яна ў гэтым, калі пабачыла Жэньку Лубяна і пачула яго гарачую прамову. Бацькаў роспач спалохаў і здзівіў яе. Вельмі стала шкада яго, захацелася суцешыць, абнадзеіць. І яна сказала:

— Ці ж гэта, тата, на ўсё жыццё? Хутка вернуцца нашы.

— Хутка? — спытаў ён усхваляваным голасам.

— А як жа яны могуць не вярнуцца? Тут жа бацькі іх, дзеці, жонкі... Як Жа яны пакінуць іх?..

— А чаго ж яны адышлі? Пакінулі чаго нас так хутка? А-а?

Таня на хвіліну разгубілася, а потым пачала тлумачыць:

— Ну, як вам сказаць, тата... Яны напалі нечакана. І ў іх такая сіла...

— Вось-вось — сіла. А як перамагчы яе, сілу гэтую? На сілу трэба сіла.

— А ці ж мала яе ў нас, сілы, тата? — узрушана ўсклікнула Таня. — Ды вы паглядзіце толькі. Нават тут, у нас... У лясах — партызаны... Увесь народ... Зубамі фашысту глотку перагрызуць. Пачакайце толькі крыху. Няхай арганізуецца народ... Ды і нашы прыйдуць. Сэрца маё чуе гэта, — яна паднялася. Маеўскі падняўся таксама і абняў дачку за плечы.

— Добрае ў цябе сэрца, дачушка. Залатое... Усё ў ім змяшчаецца — і любоў і нянавісць. Але цяпер нам што рабіць? Не магу я сядзець і чакаць. Не магу глядзець на гэтых катаў і на розных здраднікаў... А што рабіць? Як змагацца?

## VI

Карны атрад Генрыха Візэнера вяртаўся з аперацыі. Камендант быў здаволены: аперацыя, ён лічыў, прайшла ўдала. Атрад напаў на след партызан і два дні ганяўся за імі. Але гэтыя баязліўцы не прынялі бою і ўцяклі за Дняпро. Там быў другі раён, другі камендант, і Візэнер вярнуўся назад і правёў «прафілактыку». Бліжэйшая ад узарванага эшалона вёска спалена, шэсць заложнікаў павешаны. Візэнер лічыў, што гэтых мер дастаткова, каб у яго раёне партызан больш не было.

Атрад не меў ніякіх страт. Ды хто адважыцца ўступіць у бой з двума ўзводамі нямецкай арміі, узброенымі кулямётамі і нават мінамётамі?

Вясёлы настрой камандзіра перадаўся і салдатам. Толькі лейтэнант Рэдар быў хмуры і злосны.

Візэнер быў незлапомны чалавек, і яму стала шкада маладога афіцэра. Ён паклікаў яго да сябе, выпіў з ім бутэльку віна, пасадзіў у сваю машыну і ласкава пачаў навучаць:

— На начальнікаў не злуюцца, мой дарагі. Служба... Вы ведаеце дысцыпліну нямецкай арміі. Мы перамагаем нашай дысцыплінай, нашай адданасцю дарагому фюрэру.

Так... Але я разумею вас, і цяпер, калі мы цудоўна выканалі свой доўг, усё можна паправіць. — Візэнер усміхнуўся. — Зараз зробім там прыпынак, і я дазваляю вам усё, што вы жадаеце, — Візэнер плюнуў пад ногі. — Я, напрыклад, не магу... Яна прыгожая?

Здаволены такой прапановай камандзіра, ап'янелы Радар весела засмяяўся і пачаў расказваць аб сваіх любоўных прыгодах.

Машына ішла па шашы. З двух бакоў стаяў магутны лес — дубы, бярозы, абплеценыя ўнізе густымі кустамі арэшніку. Наперадзе ішоў грузавік з салдатамі кулямётнага ўзвода, за ім — каменданцкая машына, а ззаду — два другія грузавікі. Аб небяспецы ніхто не думаў. Візэнер слухаў Рэдара, шчыра смяяўся з яго ўчынкаў і думаў:

«А ён нядрэнны хлопец. Сапраўдны нямецкі афіцэр... Проста я не разумеў яго раней».

І раптам Рэдар неяк дзіўна ўсхліпнуў, на паўслове спыніў свой вясёлы расказ, схапіўся рукою за скроню і, хапаючы ротам паветра, пачаў валіцца на Візэнера. З-пад далоні па шчацэ пацёк чорны струмень крыві.

Візэнер з жудасцю адпіхнуў ад сябе ўжо безжыццёвае цела і сам зваліўся на дно машыны, хаваючы галаву пад сядзенне.

Шафёр спыніў машыну.

— Наперад! Застрэлю! — дзікім голасам закрычаў Візэнер, не паднімаючы галавы. Машына рванулася. Ззаду затрашчалі аўтаматы. Шафёр зноў спыніў машыну і выскачыў з яе. Тады і Візэнер скочыў проста ў кювет каля шашы.

Грузавікі стаялі. Салдаты ляжалі за імі і з аўтаматаў, з ручных кулямётаў прачэсвалі арэхавыя кусты на левым баку шашы.

Візэнер агледзеўся і ўбачыў, што і з правага боку, там, дзе адкрыта ляжаў ён сам і яго салдаты, такія ж густыя кусты падыходзяць да самай шашы. Мароз жудасці прабег у яго пад скурай.

— Дурні! Вар'яты! — істэрычна крычаў ён і, прыгінаючыся, пабег да пярэдняга грузавіка. — Хто загадаў спыніцца?

— Спыніліся заднія машыны, пан обер-лейтэнант.

— Па машынах! Наперад! — скамандаваў ён і ўскочыў у кабіну грузавіка.

Машыны з шалёнай хуткасцю памчаліся далей.

Некалькі хвілін Візэнер сядзеў нерухома. Не мог нават паварушыцца, вымавіць слова. Але паступова страх змяніўся злосцю. Ён увесь задрыжаў і застагнаў ад роспачы і сораму, як ад самага пякучага болю. Паспрабаваў успомніць абставіны гібелі Рэдара і не мог. Не памятаў нават, ці чуў ён стрэл. Здавалася, што стрэлу ён не чуў. Дык адкуль жа прыляцела гэтая куля, якая на поўным ходзе машыны трапіла проста ў скроню Рэдару? Вядома, гэта не выпадковая куля. Такіх выпадкаў нават у казках не бывае. Гэтая куля рукою выдатнага стралка была накіравана ў яго, Генрыха Візэнера, каменданта раёна. І толькі выпадковасць уратавала яго. Простая выпадковасць... Добра, што ён пасадзіў з сабою гэтага лейтэнанта. Цяпер ён ляжыць мёртвы, а Генрых Візэнер жывы... Жывы! А магло быць... Ён уздрыгануўся і абмацаў сябе, не верачы, што сапраўды жывы. Два гады праваяваў ужо ён. Прайшоў Польшчу, потым — Францыю, вярнуўся назад у Польшчу, перайшоў рускую граніцу на другі дзень вайны. Але ніколі яшчэ смерць не была так блізка ад яго. Ён не бачыў яшчэ так блізка помсты тых, каго ён прымушаў скарыцца законам «нойорднунг". Вось яна, гэтая помста! Яму рабілася горача і холадна, калі ён думаў аб гэтай звышснайперскай кулі нябачнага стралка. Такая куля ў любы момант можа знайсці і яго, Генрыха Візэнера. Але на гэты раз шчаслівая выпадковасць уратавала яго...

Насустрач машынам з-за павароту шашы вынырнуў __ невялікі пасёлак — хат дваццаць.

— Спаліць!.. Знішчыць!.. — закрычаў Візэнер, убачыўшы яго.

Шафёр спыніў машыну.

Візэнер выскачыў з кабіны і махнуў рукой у напрамку пасёлка: аддаць загад словамі ён усё яшчэ не мог. Але гэтага жэсту было дастаткова для напрактыкаваных салдат. Праз хвіліну мінамёт пачаў сыпаць міны на мірныя хаты. Ад першых жа мін пасёлак загарэўся.

Жанчыны, дзеці., старыя выскачылі на вуліцу, на гароды, імкнучыся хутчэй дабегчы да хвойніку, што пачынаўся за якіх сто метраў ад пасёлка. Але кулі з аўтаматаў і кулямётаў і асколкі мін даганялі людзей і касілі іх. Нямногія ўправіліся дабегчы да хвойніку і схавацца ў ім.

Генрых Візэнер стаяў каля машыны, назіраў работу салдат і прагна, за дзве-тры зацяжкі, выкурваў сігарэту за сігарэтай, Пажар і выгляд забітых паступова супакойвалі яго. Нервовае напружанне, што давяло яго да фізічнага здранцвення, прайшло. Ён спыніў абстрэл, агідліва плюнуў, выцер хустачкай рукі, нібы сам ён уласнымі рукамі зарэзаў усіх гэтых людзей, што засталіся ляжаць на полі, і сеў у машыну.

Тое, што лес кончыўся і цяпер паабапал шашы было роўнае поле, зусім супакоіла обер-лейтэнанта.

Ён заўсёды аналізаваў кожнае здарэнне, шукаў прычыны, што выклікалі яго, і ўмеў даць апраўдальнае тлумачэнне самаму бруднаму ўчынку і вынесці прысуд усяму высокамаральнаму, чалавечнаму. Між іншым, гэтая акалічнасць дапамагла яму заняць кіруючую ролю ў арганізацыі «Гітлерюгенд» у гарадку Крывіц.

Цяпер, седзячы ў машыне і бясконца курачы, ён аналізаваў спалучэнне акалічнасцей, якія ратавалі яго ад смерці.

Каб не было гісторыі з дзяўчынай, ён, відаць, не пасадзіў бы Рэдара з сабой. Выходзіць, яна пакарала гвалтоўніка. Але ўратавала яго, Візэнера. Рок.

VII

Маеўскія садзіліся абедаць, калі на вуліцы загурчалі матор і каля іх спынілася машына з нямецкімі салдатамі. Таццяна паглядзела ў акно, пазнала салдат і, пабялеўшы, падхапілася і кінулася да калыскі, схапіла соннага Віцю на рукі. Дзіця прачнулася і заплакала.

— Цішэй, сынок, цішэй, мой родны, — спалохана зашаптала яна, прыціскаючы яго да грудзей і захутваючы ў коўдру.

Карп Маеўскі таксама падняўся і падышоў да акна.

— Навошта ты ўзяла яго? — спытаў ён, а ў самога прыкметна дрыжалі рукі.

Разгубленая Палагея забегала па хаце, не ведаючы, што рабіць: схапіла са стала міску з баршчом, вынесла ў кухню, але праз хвіліну вярнулася назад з гэтай жа міскай і зноў паставіла яе на стол.

Немцы не спяшаліся заходзіць у хату. Карп і Таццяна сталі каля акна і назіралі за імі. Афіцэр пастроіў салдат каля машыны і нешта гаварыў ім, злосна выкрыкваючы асобныя словы.

— Дзе ён? — спытаў Карп у дачкі.

— Няма яго, — няўпэўнена адказала Таццяна.

— Але ж гэта тыя?

— Тыя.

Стары Маеўскі цяжка ўздыхнуў і незаўважна перахрысціўся, хоць ніколі раней не рабіў гэтага. Дзіця перастала плакаць, і Тацяна паступова супакойвалася. Прысутнасць бацькі бадзёрыла яе. Яна ведала, што бацька нікому не дасць яе пакрыўдзіць. Праз хвіліну Генрых Візэнер распусціў строй і з трыма салдатамі накіраваўся ў хату.

Ён спыніўся на парозе, хуткім позіркам акінуў пакой і людзей, спыніў цяжкі пагляд на Тацяне. І яна глядзела на яго, глядзела смела, дзёрзка, нібы выклікала на барацьбу.

Візэнер зняважліва ўсміхнуўся і накіраваўся да яе. Бацька таксама зрабіў крок, пераразаючы яму дарогу, з намерам загарадзіць сабой дачку. Але Візэнер спыніўся і ціха сказаў:

— О, о! Мутэр?..

Доўга разглядаў ён Тацяну. Гэта была першая руская, да якой ён не адчуваў нянавісці. Гэтая маладая жанчына з дзіцем на руках падабалася яму.

У сваю чаргу Маеўскія разглядалі яго па-рознаму. Бацька і дачка глядзелі на немца з нянавісцю. Яны нават не хавалі гэтай нянавісці. Каб Візэнер быў больш пільны і менш думаў аб сваім ратаванні, ён мог бы прачытаць гэтую нянавісць у іх вачах. Палагея разглядала афіцэра і салдат з цікавасцю і страхам. Нарэшце Візэнер перавёў позірк на стол, агідліва паморшчыўся і махнуў рукою.

— Прыбраць са стала! — загадаў перакладчык.

Спалоханая Палагея ўсплёснула рукамі і пачала хутка прыбіраць са стала. Але міска з баршчом выкаўзнулася з яе рук. Па падлозе пацякла лужа. Палагея схапіла са сцяны чысты ручнік і пачала выціраць боршч.

«Дурная», — падумаў Карп і адвярнуўся.

Салдаты выйшлі.

Тацяна паглядзела ў акно і ўбачыла, як яны выцягнулі з машыны труп чалавека ў форме афіцэра. Яны павярнуліся, каб лаўчэй падняць яго, і яна пазнала свайго гвалтоўніка. Кінулася да бацькі.

— Тата, гэта ён... Яго нясуць.

Карп сціснуў яе руку.

— Супакойся... Сядай. Ты не пазнала яго. Разумееш? Не пазнала, — шапнуў ён, загароджваючы яе сабой і прымушаючы сесці на ложак.

Салдаты ўнеслі труп у пакой і паклалі на стол. Стол быў кароткі, і ногі яго ў бліскучых ботах з высокімі заднікамі звісалі і ледзь не даставалі падлогі. Візэнер загадаў прынесці другі стол. Салдаты выскачылі ў кухню, змахнулі са стала посуд на падлогу, прынеслі стол і паставілі пад ногі забітаму.

Візэнер павярнуўся да Тацяны. Цяпер ён гаварыў ціха, амаль шэптам, але сухія губы яго дрыжалі і крывіліся, пальцы нервова церабілі рэмень партупеі.

— Гэты нямецкі афіцэр загінуў гераічнай смерцю ад рук рускіх бандытаў. Загадваю ўшанаваць яго памяць.

Перакладчык паказаў жэстам рукі, што трэба падняцца.

Візэнер доўга і пільна ўглядаўся ў твар забітага, і ўвесь гэты час вусны яго прыкметна варушыліся, нібы ён шаптаў малітву, а твар чарнеў, выцягваўся.

Карп употайкі назіраў за ім і час ад часу пазіраў на дачку. Тацяна хвіліну стаяла, утаропіўшы позірк у падлогу, потым падняла галаву і паглядзела на мерцвяка. Шырока расплюшчанае вока яго глядзела, як жывое. Левая рука застыла каля скроні. Паміж пальцамі запяклася чорная кроў. Тацяна раптам адчула пах гэтай крыві, і ёй зрабілася млосна. Схапіўшы бацьку за рукаў, яна апусцілася на ложак.

Карп закрыў яе сабой ад фашыста.

«Быць няшчасцю», — думаў ён, гледзячы на загадкавае чарадзейства немца над трупам.

Але раптам Візэнер павярнуўся і пачаў нешта хутка гаварыць перакладчыку.

— Афіцэр патрабуе, каб вы зараз жа падрыхтавалі яму абед. Яйкі, масла, сала!.. Айн момэнт!

Пасля ўсяго, што здарылася, загад гэты здаўся Карпу вельмі дзіўным, і ён нават спачатку не зразумеў яго. А калі зразумеў, што ад яго патрабуюць, усміхнуўся задаволена, адчуўшы перавагу над немцам, сваю душэўную веліч і яго, фашыста, мізэрнасць.

— Накарміць? — перапытаў ён. — Што ж, мы накарміць можам. Народ мы гасцінны. Хадзем, дачка, — звярнуўся ён да Таццяны, якая сядзела на ложку.

Тацяна памкнулася была ўзяць Віктара, але бацька паківаў галавой і позіркам паказаў на калыску. У гэтым позірку яна прачытала знаёмую ўпэўненасць, і гэтая ўпэўненасць перадалася ёй. Яна смела перасадзіла Віцю з ложка ў калыску і рушыла за бацькам.

Яны выйшлі ў сад і накіраваліся да пустога свірна, які ў апошні час нават не зачынялі на замок. Каля свірна Маеўскі спыніўся і з палёгкаю ўздыхнуў.

— Ажно дыхаць цяжка адным паветрам з ім, — сказаў ён. — У-у, ірад! Але цяпер я яго не баюся. Я яго накармлю, Таня, накармлю, каб ён удавіўся.

— А чым, тата?

— Чым? — Карп агледзеўся. — Зачыні дзверы і сачы.

Ён падняў адну дошку і палез пад падлогу свірна.

Вылез адтуль і пачаў нагружаць кошык салам, мёдам, гарэлкай, яблыкамі.

— Я яго напаю адзін раз, хай ён лопне ад нашай яды. Напаю, каб ён пад стол зваліўся, — бурчаў стары. — Д'ябал у вобразе чалавека.

У гэты момант з другога канца вёскі даляцеў жудасны крык жанчыны, і праз хвіліну — стрэлы. Таццяна ўздрыгнула. Насцярожыўся і стары Маеўскі.

— Вось ён, «новы парадак» іх.

— Страшна, тата. Два месяцы ішла — не баялася, а цяпер баюся. Што гэта?

— Не бойся, у крыўду не дам... Што будзе, тое будзе, — і Маеўскі паказаў ёй з кішэні ручку рэвальвера. — Памятаеш, Мікола пакінуў свой сапсаваны. Я адрамантаваў. На ўсякі выпадак,

— А можа, лепей не браць яго, тата?

— Нельга не браць, Танюша. Да звера нельга ісці з голымі рукамі. Няхай... Вобыску ў мяне ён не будзе рабіць... А калі...

Ён паглядзеў на дачку і не скончыў думку, але Таццяна зразумела яе.

— Пайшлі, — сказаў бацька.

У хаце, насупроць сталоў, на якіх ляжаў забіты, стаяў трэці стол, прынесены салдатамі з суседняй хаты. На ім ужо стаялі бутэлькі віна.

Карп паставіў гарэлку, выклаў з кошыка закуску. Візэнер усё агледзеў, абнюхаў.

На кухні палілася печ і завіхаліся салдаты, рыхтуючы страву. Ім дапамагала Палагея. Салдаты гучна размаўлялі. Адзін з іх забіў ката, які падкрадаўся да смажанай курыцы. Немцы зарагаталі. Візэнер выглянуў з пакоя і злосна загадаў ім змоўкнуць. Пасля яго загаду ўсе пачалі гаварыць толькі шэптам.

За стол Візэнер сеў адзін, паставіўшы каля дзвярэй двух узброеных салдат — вартавых. Але раней чым пачаць есці і піць, ён загадаў Маеўскаму паспытаць кожнай стравы — правяраў, ці не атручана.

Маеўскі паслухмяна выканаў яго загад. Візэнер супакоіўся і наліў віна.

Падняўшы шклянку, ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся, іранічна і сумна, і прашаптаў:

— За жыццё...

Пасля трэцяй шклянкі Візэнер ап'янеў. Падняўся і абышоў вакол стала, на якім ляжаў забіты, паспрабаваў выпрастаць яму сагнутую нагу. Але нага ўжо здранцвела. Таксама застыла і рука, якую Рэдар

прыціснуў да прастрэленай скроні. Расплюшчанае вока ледзяным асколкам глядзела на Візэнера. Ён дакрануўся да яго пальцам, але адхапіў руку, як ад гарачага. Вярнуўся да свайго стала. Зноў пачаў есці.

Ва ўсёй гэтай сцэне было столькі агіднага і жудаснага, што ў Таццяны халадзела сэрца. Толькі прысутнасць бацькі бадзёрыла яе.

Гітлеравец сядзеў да іх спіной і, відаць, забыўся на іх, заняты сваімі цёмнымі думкамі. Але за кожным іх рухам сачылі дзве пары сабачых вачэй вартавых. Таццяна і бацька сядзелі моўчкі. Гэта было пакутліва і абразліва. Здавалася, лягчэй памерці, чым сядзець так і глядзець на гэтую дзікую вячэру чужынца. Таццяна нават пазайздросціла мачысе, якая смела хадзіла з пакоя на кухню, на двор. Ёй хацелася таксама падняцца і выйсці на двор, пайсці ў сад, у лес і дыхаць, прагна дыхаць свежым восеньскім паветрам. У яе кружылася галава, падступала млоснасць. Але яна баялася падняцца, каб не ўпасці, баялася адысці ад бацькі.

Маеўскі час ад часу пазіраў на дачку,ківаў ёй галавой. Ён добра разумеў яе становішча. Сам ён адчуваў сябе не лепш. Усё нутро гарэла ў яго ад нянавісці. Ажно хрумсцелі пальцы, якімі ён сціскаў у кішэні ручку рэвальвера.

За акном замукалі каровы — вяртаўся з пашы статак.

Таццяна ўздрыгнула, зразумеўшы, што ўжо вечар, што хутка будзе ноч. Ад гэтага зрабілася яшчэ больш жудасна.

«Што яны могуць зрабіць, калі надыдзе ноч! Што захочуць — тое і зробяць», — падумала яна. І, каб адагнаць гэтыя цяжкія думкі, прашаптала бацьку:

— Хутка ноч, тата.

— Ноч, — неяк несвядома паўтарыў Карп, але, глянуўшы на дачку, прашаптаў: — Не бойся... На ноч яны тут не застануцца, — і сам паверыў словам сваім.

У пакой хутка ўбегла знадворку Палагея, расчырванелая, усхваляваная, і з крыкам кінулася да іх.

— Што вы седзіце тут, як святыя? А там кароўку павялі... Вунь, вунь вядуць яе, красулечку нашу, — загаласіла яна.

Карп і Таццяна паглядзелі ў акно. Трое салдат правялі міма іхнюю карову.

— Ну, чаго вы седзіце? Чаго? — крычала Палагея.

Афіцэр павярнуўся і глядзеў на іх не разумеючы.

— Ну, чаго ты вылупіў вочы, стары пень? Прасі... Прасі афіцэра... Няхай аддадуць кароўку, пакуль не зарэзалі.

— Пайшла ты да д'ябла са сваёй каровай, — злосна адказаў Карп і падвярнуўся.

Палагея аслупянела ад такога адказу, застыла на месцы з адкрытым ротам.

Візэнер, выслухаўшы перакладчыка, усхапіўся з месца і ўтаропіўся п'янымі вачыма ў Маеўскага. Твар яго перакасіўся ад злосці. Крыкнуў гучным вісклівым голасам рускае слова:

— Стаць!

Маеўскі падняўся, не вымаючы рукі з кішэні пінжака.

Візэнер дрыжачымі рукамі рвануў з кабуры парабелум і зрабіў крок да іх.

Маеўскі таксама зрабіў рух: нахіліўся ў яго бок і больш высунуў з кішэні руку, якой трымаў рэвальвер.

Некалькі хвілін яны глядзелі адзін аднаму ў вочы. Маеўскі глядзеў спакойна, крыху прыжмурыўшыся. Немец трымаў парабелум апушчаным, а таму стары не спяшаўся, упэўнены, што раней чым той падыме і накіруе на іх парабелум, ён зможа выпусціць увесь барабан.

П'яны Візэнер раптам зноў убачыў перад вачыма маленькую кулю, якая вісела ў паветры і вельмі-вельмі павольна набліжалася да яго. Ён павярнуўся і ўбачыў расплюшчанае вока забітага. Вока гэтае глядзела на яго са злосцю, з дакорам, нібы гаварыла: «Ты жывы, обер-лейтэнант... А мяне пасадзіў пад кулю. Глядзі, куля гэтая набліжаецца і да цябе...»

І Візэнеру здалося, што мярцвяк заварушыўся і рука яго ад прастрэленай скроні пачала цягнуцца да кулі.

Фашысту зрабілася жудасна, і ён, забыўшыся на Маеўскіх, павярнуўся і шпарка выбег з пакоя. Салдаты-вартавыя і перакладчык кінуліся за ім.

Дабегшы, не азіраючыся, да машыны, Візэнер спыніўся і паглядзеў на хату. Шыбы акон былі крывава-чырвонымі ад праменняў заходзячага сонца. А яму здалося, што на шыбах — кроў, а ў аконным прасвеце ва ўвесь рост стаіць Рэдар.

— Спаліць! — заскрыгатаў ён зубамі, паказваючы на хату.

— А лейтэнант, пан обер-лейтэнант? — здзіўлена спытаў адзін з салдат.

— Спаліць! Спаліць! — істэрычна закрычаў Візэнер у адказ і хутка схаваўся ў кабіне машыны.

У адзін момант салдаты аблілі сцены хаты бензінам і паднеслі запалку. Полымя адразу скочыла да страхі. Салдаты кінуліся да наступнай хаты, але Візэнер спыніў іх. Тады яны пачалі страляць з аўтаматаў у вокны палаючай хаты Маеўскіх. Але ў гэты час Маеўскія

былі ўжо ў хляве і назіралі ў шчыліну за садам і гародам, мяркуючы прабрацца да ручая і далей — у лес.

Палагея ўбачыла пажар першая і ва ўвесь голас дзіка закрычала:

— Га-а-ры-ым!

Карп злосна штурхануў жонку і заціснуў ёй далоняй рот.

— Маўчы, дурніца! Няхай гарыць... Цяпер не тое гарыць... Хутчэй у сад!

Ужо за садам яны пачулі шум матораў і, аглянуўшыся, убачылі: усе чатыры нямецкія машыны выязджаюць з вёскі. Тады яны спыніліся і, дачакаўшыся, калі на пажар збегліся людзі, вярнуліся назад, да сваёй палаючай хаты.

— Жывыя? Усе? — з радасцю спаткалі іх суседзі.

— Ох, дзякуй Богу! А то ў мяне душа не на месцы была, — уздыхнула цётка Сцепаніда і пацалавала Таццяну і Віктара.

— Дзядзька Карп, ратуйце ж дабро! — крыкнуў нехта з натоўпу. Маеўскі махнуў рукой.

Вечар быў ціхі, марозны. Полымя не кідала ў бакі. А таму агонь дастаў толькі хлеў суседняй гаспадаркі. Але некалькі чалавек мужчын і з імі Карп узлезлі на хлеў і хутка патушылі салому, якая ўжо задымілася.

Дагарала хата Маеўскіх.

Палагея бегала вакол вогнішча, збірала розныя непатрэбныя рэчы і галасіла.

Таццяна адна сядзела ў садзе, каля свірна, прыціскаючы да грудзей заснуўшага Віцю. Яна так змарылася ад перажытага хвалявання, што не магла ні рухацца, ні гаварыць, ні нават думаць. Ёй хацелася толькі аднаго: спаць. І яна, па сутнасці, спала з расплюшчанымі вачыма. Прачнулася толькі тады, калі хтосьці спыніўся перад ёй. Яна схамянулася і падняла галаву. Перад ёй стаяла стрыечная сястра Люба, дачка цёткі Хрысціны. Любе шаснаццаты год, але выглядала яна значна старэйшай, бо ростам была вышэй ад Таццяны ды, бадай, і дужэйшая за яе. І паводзіны дзяўчыны адрозніваліся сталасцю ад паводзін яе аднагодак.

Люба была без хусткі, у адной кофтачцы, расшпіленай на грудзях.

Таццяна заўважыла гэта і ласкава сказала:

— Ты чаго ж так выскачыла? Гарачая якая! Застудзішся адразу... Сядай хоць пад коўдру. Вось сюды.

Люба села побач, і Таццяна накрыла яе коўдрай, прытуліла да сябе.

— Ты чаго маўчыш, Любка?

— Маму забілі, — ціха сказала яна нейкім чужым ахрыплым голасам.

Тацяна не адразу зразумела значэнне гэтых слоў і недарэчна спытала:

— Хто?

— Хто... Немцы. — І, секунду памаўчаўшы, растлумачыла: — З аўтамата... у грудзі.

Халодныя мурашкі прабеглі па спіне ў Тацяны ад гэтых слоў.

Яна зазірнула ў твар сястры, асветлены полымем дагараючай хаты. Ніводная рыса не рухалася на ім, твар нібы акамянеў і быў бледны-бледны. Толькі новыя незнаёмыя складкі ляглі каля губ. Вочы былі сухія і таксама нерухомыя. Зарыва пажару адлюстроўвалася ў іх.

Люба не плакала. Тацяна зразумела, што яна не плакала і раней. Гора ў некалькі хвілін састарыла дзяўчыну.

Некалькі хвілін яны сядзелі моўчкі. Потым Люба задуменна сказала, нібы самой сабе:

— Я да партызан пайду.

— Калі? Зараз? — здзівілася Тацяна.

— Не, зараз я не ведаю, дзе яны. Як толькі Жэнька прыйдзе яшчэ раз.

Зноў памаўчалі.

— А вы ў нашу хату пойдзеце. Вам жа няма дзе цяпер жыць, — разважліва сказала Люба.

Падышоў бацька. Яму ўжо сказалі пра смерць Хрысціны. І, відаць, ён шукаў Любу, каб суцешыць яе, але, убачыўшы яе з такім акамянелым тварам і сухімі вачыма, разгубіўся і не ведаў, што казаць... Ён спыніўся насупроць дзяўчат, і цень ад яго ўпаў на Любін твар. Яна падняла галаву і некалькі хвілін глядзела на дзядзьку, нібы не пазнавала яго. А потым ледзь чутна прашаптала:

— Маму забілі, дзядзя.

— Я ведаю, Любачка, ведаю, — адказаў Карп і ласкава пагладзіў рукою ўжо вільготныя ад холаду косы пляменніцы.

Яго пяшчотны голас і дотык рукі вывеў дзяўчыну з стану цяжкага здранцвення. Люба адчула, што яна не адзінокая, што каля яе ёсць свае, родныя людзі і ім таксама цяжка і балюча. Адчуўшы гэта, яна ўпершыню пасля смерці маці заплакала, заплакала вельмі горка, але тым ратавальным плачам, пасля якога становіцца лягчэй і чалавек вяртаецца да разумення рэчаіснасці. Тацяна паспрабавала суцяшаць Любу, але бацька кіўнуў ёй:

«Не трэба».

Ёй далі паплакаць, выліць слязьмі цяжкое гора. Але плакала яна нядоўга. Праз некалькі хвілін Люба выцерла падолам спадніцы вочы і паднялася, аглядаючыся навокал, нібы пазнаючы месца, дзе яна знаходзіцца.

Хата дагарэла. Адна абкураная печ сіратліва стаяла на вогнішчы. Людзі разыходзіліся з пажару. Толькі суседзі яшчэ пільнавалі свае хаты, каб якая-небудзь выпадковая іскра не заляцела на іх стрэхі.

— Пойдзем, — сказала Люба. — А то я пакінула ўсё так... і маму...

Карп паклікаў Палагею, якая ўсё яшчэ збірала рэшткі скарбу.

— А куды ж мы пойдзем цяпер? — загаласіла яна. — Адразу жабракамі сталі.

Карп нездаволена паморшчыўся.

— Жабракамі?.. Калісь малы я жабрачыў... Давялося з кайстраю пахадзіць. Але цяпер... Цяпер жабрачыць я не буду! Не буду! Бо гаспадар я гэтай зямлі. Я, а не яны! — рашуча і гучна сказаў ён. — Хадзем, дзеці.

VIII

У мірны час людзі не заўважалі імклівай плыні часу. У свабоднай працы, у адпачынку, у весялосці, у чаканні новых радасцей дні і тыдні ляцелі незаўважна. І людзі часам скардзіліся: «Як мала часу! Які кароткі наш век!» Цяпер жа ва ўсіх час быў лішні. Цягнуўся ён страшэнна марудна, надакучліва, і кожнаму хацелася чым-небудзь скараціць яго. Восень была дажджлівая, сумная, як і жыццё.

Змораныя трохмесячнай няволяй, людзі пачалі чакаць звароту Чырвонай Арміі, хоць і ведалі, што армія далёка, а немцы штодня крычаць, што захапілі Маскву. Нямногія верылі ім.

Звычайныя радавыя людзі пастунова пачыналі разумець, што да чаго і што ім трэба рабіць. Чуткі аб дзейнасці партызан актывізавалі народ. Тады і акупанты пачалі мацаваць сваю ўладу. У вёску ў дапамогу Міцьку Зайцу прыслалі чатырох чужых паліцэйскіх. Паліцаі штодня былі п'яныя і нахабна рабавалі сялян. За гарэлку яны прадавалі кулакам, што невядома скуль павярталіся, калгасныя будынкі.

З болем у сэрцы глядзелі калгаснікі, як кучка нягоднікаў бязлітасна знішчае тое, што ствааралася іх упартай працай на працягу некалькіх год. Хтось не вытрымаў гэтага і ў адну цёмную восеньскую ноч запаліў калгасны двор, дзе заставаліся яшчэ галоўныя будынкі.

Вяскоўцы, сабраўшыся на пажар, «грэлі вочы», як кажуць, і ціха размаўлялі паміж сабой, ухваляючы смельчака. Усе паліцэйскія ў гэтую ноч былі такія п'яныя, што ніводзін з іх не змог нават прыйсці на пажар. Толькі стараста, Ларывон Бугай, падышоў да мужчын і ціха сказаў:

— Тушыць бы трэба.

Яму адказалі ззаду, з цемры:

— Нічога. Ты не будаваў. А мы пабудуем новыя.

Сярод жанчын шаптала старая Сцепаніда:

— Свіран, свіран яшчэ трэба. Збожжа там у іх.

Свіран стаяў асобна ў маладым калгасным садзе. Там

ляжала сабранае акупантамі збожжа, і паліцэйскія вартавалі яго.

Ледзь управілася прашаптаць гэтае пажаданне старая Сцепаніда, як нехта з натоўпу крыкнуў:

— Глядзіце — свіран гарыць!

Свіран успыхнуў адразу агромністым полымем, відаць, абліты бензінам. Да яго з вяскоўцаў ніхто не пайшоў. Усе засталіся каля калгаснага двара, пільнуючы, каб пажар не перакінуўся на бліжэйшыя хаты.

А на другі дзень, як па змове, уся вёска смела гаварыла аб тым, што пажар учынілі самі паліцэйскія: раскраўшы і прапіўшы збожжа, яны хацелі замесці сляды свайго злачынства. За гэтыя размовы паліцэйскія моцна пабілі некалькі чалавек. Але следчы камендатуры, які прыехаў цераз дзень, відаць, паверыў гэтым сцверджанням, і ўсе чацвёра чужых паліцэйскіх былі заменены новымі.

Напярэдадні вялікага свята — 24-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі — у вёску прыбылі яшчэ шэсць паліцаяў з кулямётамі. Кулямёты паставілі на гарышчы ў школе. Паліцаі ўсю ноч патрулявалі вёску, зазіралі ў вокны хат.

Людзі насцярожыліся, прытаіліся і вялікае свята адзначалі моўчкі, кожны ў сваёй сям'і, успамінаючы мінулыя гады, бацькоў і братоў. Дзе яны? Як адзначаюць гэты дзень? Што цяпер у Маскве? Пытанні гэтыя хвалявалі кожнага чалавека. Паўжыцця б аддаў кожны, каб ведаць усю праўду аб Вялікай зямлі, аб роднай арміі. Многа было розных чутак, сумных і радасных, але пэўнага ніхто нічога не ведаў, і гэтая невядомасць была найвялікшай пакутай.

Тацяна не спала ўсю ноч. За акном хадзілі паліцаі, некалькі разоў цішком падкрадваліся да акна. Ад гэтых іх зладзейскіх крокаў трывожна сціскалася сэрца, рабілася страшна.

«Як жа жыць далей? Што рабіць?»

Гэтае пытанне перад пажарам часта ў роспачы задаваў сам сабе і ёй бацька. Тады яна мала думала пра гэта, і многае, чаго не разумеў бацька, здавалася ёй простым і зразумелым. Але пасля пажару яна з жудасцю і ўсё часцей пачала думаць аб тым, як жа сапраўды жыць далей.

Бацька і Люба таксама не спалі. Стары цяжка ўздыхаў, пачуўшы крокі паліцэйскіх, а Люба спаўзала з ложка і паўзла да акна, пазірала ў шыбу.

— Ах, як мне хацелася стукнуць па шыбе, калі ён падсунуў сваю морду, паразіт, — злосна шаптала яна. — Ну, у другі раз я не вытрымаю...

— Люба, не дурэй, — сурова загадваў ёй Карп. — Спі!

Тацяна маўчала.

Так цягнулася ўсю ноч.

З надыходам раніцы яны з палёгкаю ўздыхнулі. Дзень выдаўся сонечны, светлы, з невялікім марозам. Здавалася, што і прырода святкавала гэты ўрачысты дзень.

Маеўскія па-святочнаму паснедалі, ціха пагутарылі аб Вялікай зямлі, успомнілі Мікалая. Дзе ён цяпер? На фронце ці ўсё яшчэ лазіць па гарах далёкага Урала, шукаючы руды каляровых металаў? Кожны выказваў свае меркаванні, летуценні, надзеі. А больш за ўсіх гаварыла Люба. Яе фантазія ўсё больш і больш распальвалася, і яна то выказвала вельмі разумныя, абгрунтаваныя думкі, то разважала па-дзіцячаму наіўна.

— А раптам сёння нашы прыйдуць, а, Таня? Што б ты тады рабіла? Шукала б сярод іх свайго мужа? Праўда? — усхвалявана пыталася Люба.

Карп і Тацяна ціха ўсміхаліся.

— І ўяві, што ён прыйшоў бы! Ведае ж ён, адкуль ты?

А-а?

— Не гавары глупства, Люба! — перапыняла яе Таня.

— Чаму глупства! А вось яны, можа, і знарок чакалі гэтага дня, каб зрабіць свята двайным. Мы адкуль ведаем! Чаго ты смяешся?

— Цудаў, Люба, не бывае.

— Не бывае, — раптам згаджалася дзяўчына, і яе схуднелы твар рабіўся сумным, заклапочаным. — Я дурная, праўда? Мяне, мабыць, і ў партызаны не возьмуць...

Думка аб партызанах не пакідала яе пасля смерці маці ні на хвіліну, і яна нецярпліва чакала прыходу Жэнькі Лубяна. Кожны дзень наведвала яго сям'ю, якая жыла насупроць, цераз вуліцу. Хацела што-небудзь выведаць у іх пра Жэньку. Але Лубяніха, старая бабуля, і

нават дзеці, сястра і брат Жэнькі, падазрона адносіліся да такіх роспытаў і лаялі свайго «непуцёвага сына», які не можа нават заглянуць дамоў.

Пасля снедання стараста паклікаў Карпа працаваць — рамантаваць мост цераз рэчку.

Тацяна пачала купаць Віктара. Хлапчук радасна плёскаўся ў начоўках і смяяўся. Тацяна і сама цяпер бачыла, што ён значна старэйшы. Некалькі дзён назад, поўзаючы па падлозе, ён падняўся, узяўшыся за ножку стала, і пайшоў да акна. З таго дня любімым заняткам Любы было вучыць яго хадзіць. І хлапчук ужо лёгка пераходзіў цераз усю хату. Тацяне было радасна ад гэтага і адначасова неяк трывожна ад насмешлівых позіркаў мачыхі. Палагея рэдка ў апошні час гаварыла з ёй, а ўсё неяк таямніча і злосна ўсміхалася. Гэтыя ўсмешкі нервавалі Тацяну. Варожыя пачуцці да мачыхі ўсё больш раслі. Яна адчувала, што гэта нядобра, сумленне мучыла яе, але перамагчы гэтыя пачуцці не магла. Ёй хацелася б пагутарыць з кім-небудзь аб гэтым, параіцца. Але з кім? З бацькам? Баялася пакрыўдзіць старога.

Люба таксама не любіла Палагеі. Але да яе Палагея ставілася падкрэслена ласкава, ветліва. Тацяна адразу разгадала намер хітрай мачыхі: жадае прыбраць да сваіх рук Любіну гаспадарку. Гэта яшчэ больш абурыла дзяўчыну. «Такі разумны чалавек, а такое глупства зрабіў», — часта думала яна пра бацьку.

...Выкупаўшы хлапчука, Тацяна залезла з ім на печ.

Люба чытала нейкую кнігу. Кнігі былі для яе ратункам: чытаючы іх, яна забывала аб сваім горы.

Палагея сабралася, навязала добры пакунак і сказала дзяўчатам:

— Глядзіце тут добра. Я да сястры пайду.

Сястра яе жыла ў суседняй вёсцы.

Люба падзьмула ёй уздагонку, памахала рукой.

— Падарожны вецер! Самі ведаем, як глядзець! — і таксама палезла на печ. Абняла Таню.

— Сумота якая, Танюше! І так цяжка мне, каб ты ведала, — ціха сказале яна. — Хутчэй бы Жэнька прыйшоў. Дзе ён?

Тацяна мацней прыціснула сястру да сябе.

— Давай з табой пойдзем, Таня.

— Куды? — не зразумела Тацяна.

— Да партызан.

— А Віцю?

— І Віцю возьмем з сабой.

— Дурненькая ты, Любка. Хто ж нас возьме з ім? Ды нас і так не возьмуць... Што мы рабіць будзем?

— Санітаркамі будзем... Вучылі ж нас у школе.

— Я крыві баюся.

Люба раззлевалася.

— Ты ўсяго баішся... Трусіха! І нічога ты не бачыш, нічога цябе не хвалюе. Людзі гінуць, а ты далей свайго носа не бачыш... Дачакаешся, пакуль фашысты прыйдуць і застрэляць цябе і Віцю, як маму, — яна расплакалася. Тацяна доўга супакойвала яе. Яны яшчэ крыху пагутарылі, а потым неяк незаўважна заснулі, змораныя бяссоннай ноччу.

Абудзілі іх стрэлы. Стралялі з двух бакоў вёскі. Спалоханая Тацяна схапіла Віцю і пачала захутваць яго ў коўдру.

Люба падбегла да акна і радасна закрычала:

— Таня! Танюша! Нашы! Мілая мая! Паглядзі, як уцякаюць паліцаі!

Сапраўды па вуліцы беглі двое незнаёмых паліцаяў і Міцька Заяц. Яны хутка звярнулі ў завулак, што выходзіў да прырэчных кустоў.

— Ацю, ацю! Сабакі! — гучна закрычала Люба. — Глядзі, як зайцы скачуць па кустах. Дажыліся, падлюгі! Ага!

Праз хвіліну па вуліцы, грукочучы па мёрзлай зямлі, праляцела тройка сытых коней, запрэжаных у доўгую лінейку. На возе сядзела чацвёра маладых хлопцаў са станковым кулямётам.

— Партызаны! — здагадалася Люба. — Я пабягу.

Тацяна не паспела і слова сказаць, як Люба ў адзін момант ускочыла ў боты і, не апранаючыся, толькі накінуўшы на плечы хустку, кінулася на вуліцу.

Некалькі хвілін каля рэчкі ляскалі стрэлы. Потым усё адразу сціхла. І тады з хат на вуліцу адразу высыпалі людзі: жанчыны, малыя і старыя. Усе яны смела рушылі да школы, нібы хтосьці раней паведаміў ім, што трэба сабрацца там. Тацяна ўбачыла праз акно гэты паток людзей і, хутка апрануўшыся, выйшла з Віцем таксама. Па дарозе сустрэла бацьку.

— А я баяўся, каб у вас чаго не здарылася... Тут стралялі. Ну, хадзем хутчэй. Партызаны прыехалі, — узрушана гаварыў Карп да дачкі. — Вось цяпер я іх бачу... Малайцы. Сіла. І ведаеш, хто кіруе імі? — таямніча, з захапленнем шаптаў ён. — Сакратар райкома... Лясніцкі, Павел Сцяпанавіч. Памятаеш, да нас часта заязджаў?

Каля школы была ўжо ўся вёска. Людзі шчыльна абкружылі дзве партызанскія падводы. Адна з іх была ператворана ў трыбуну. На ёй

стаяў Лясніцкі. Ён быў у сваёй жоўтай скуранцы. Усміхаўся знаёма, шчыра, як і тады, калі часам прыязджаў на сход калгаснікаў і выступаў перад імі. Людзі адказвалі яму такімі ж шчырымі, радаснымі ўсмешкамі. І толькі аўтамат на шыі ў сакратара райкома і кулямёт на возе, каля яго ног, нагадвалі людзям, што другі час і другія справы ў сакратара. Калі падышлі Карп і Тацяна, Лясніцкі ўжо гаварыў:

— Кожны метр савецкай зямлі гарыць пад нагамі захопнікаў. Тысячы савецкіх людзей узялі зброю ў рукі і ўзняліся на святую барацьбу супроць ненавісных акупантаў. Партызанскія сілы растуць з кожным днём. Мы не дамо жыцця захопнікам. Яны пажнуць тое, што пасеялі. За нашы гарады і вёскі, спаленыя імі, за смерць нашых дзяцей, за катаванні, за здзекі з народа мы будзем помсціць ворагу жорстка, бязлітасна і няспынна. Гэта наша клятва. Але партызанам павінен дапамагаць кожны сумленны чалавек, кожны, хто даражыць нашай роднай савецкай уладай, кожны, хто чакае звароту сваіх бацькоў, сыноў. Не давайце немцам ні кілаграма збожжа, сала, бульбы, ні літра малака. Хавайце ўсё, рэжце, забівайце жывёлу. Папаўняйце нашы рады! Не верце хлусні фашысцкіх вырадкаў і іх халуёў — паліцаяў і розных старастаў. Гэта здраднікі і падлюгі! Па кожным з іх плача вяроўка. І яны не мінуюць яе, як вунь тыя не схаваліся ад нашых куль, — сакратар кіўнуў галавой на ганак школы, дзе ляжалі два забітыя паліцаі.

Ён гаварыў яшчэ некалькі хвілін коратка, проста, сурова. Людзі слухалі, стаіўшы дыханне. Вочы жанчын напаўняліся радаснымі слязьмі. Неўзаметку змахваў слязу хто-ніхто і са старых.

Тацяна не зводзіла вачэй з Лясніцкага. Вялікае захапленне гэтым мужным чалавекам расло ў ёй. «Вось яны якія! Вось што робяць яны, сапраўдныя людзі!.. А я? Што я зрабіла? — думала яна, і ёй рабілася сорамна за апошнія чатыры месяцы жыцця. — А мяне спытаюць, што я, савецкая настаўніца, зрабіла для перамогі...»

Яна аглянулася. Бацькі не было побач — ён праціснуўся наперад. Яна пачала таксама ціха праціскацца паміж жанчынамі бліжэй да партызан. Падняўшыся на насочкі, яна ўбачыла на адным возе Любу. Тая сядзела каля кулямёта і аб нечым паціху гаварыла з маладым партызанам.

«Любка ўжо з імі, — падумала яна, і ёй зрабілася яшчэ больш крыўдна. — Як я звязала сабе рукі!»

Але ў гэты момант Віця заплакаў, нібы пачуў яе думку і пакрыўдзіўся, і Тацяне стала сорамна.

— Цішэй, мой хлопчык, — пяшчотна зашаптала яна. — Цішэй, мой галчонак.

Скончыўшы гаварыць, Лясніцкі саскочыў з воза і пайшоў у натоўп, вітаючыся са знаёмымі калгаснікамі. Абдымаў жанчын за плечы, суцяшаў:

— Нічога... нічога, не гаруйце. Не плачце. Слязамі ворага не пераможаш. Яго трэба біць! Біць бязлітасна, няспынна.

— Цяпер ён спаліць нас, — уздыхнуўшы, сказаў нехта ў натоўпе.

Лясніцкі хутка павярнуўся ў той бок.

— Спаляць? Што ж... ваўка баяцца — у лес не хадзіць. Спаляць — адбудуем, калі апошні фашыст ляжа. касцьмі на новых папялішчах. Ён хацеў бы не толькі спаліць, а народ наш зніштожыць. Ды не ўдасца яму гэта, — і, убачыўшы Карпа Маеўскае, звярнуўся да яго: — Як думаеш, Карп Пракопавіч? Цябе ён спаліў ужо.,.

— Спаліў, — усміхнуўся Карп. — А я жыву і... жыць буду... Сына дачакаюся.

Маеўскаму хацелася вельмі многа сказаць сакратару, пагутарыць з ім, параіцца, расказаць аб сваіх душэўных пакутах, запрасіць яго да сябе ў хату. Але Лясніцкі адвярнуўся і пайшоў далей. Гэтая няўважлівасць партызанскага камандзіра пакрыўдзіла старога. «Кожны раз заязджаў на пасеку. Мёдам частаваў яго, як друга... А цяпер пагутарыць не хоча... Не верыць ён мне, ці што? Каму ж тады верыць?» — з крыўдаю думаў ён і, павярнуўшыся, выйшаў з натоўпу, пачаў шукаць вачыма Тацяну.

У гэты момант міма яго хутка прайшоў малады партызан і непрыкметна сунуў яму ў руку скамечаную паперку.

Карп уздрыгнуў ад нечаканасці, моцна заціснуў у кулаку паперку і заспяшаўся дамоў. У двары пад павеццю прачытаў запіску. Пасля хутка зайшоў у хату, апрануў кажух, падперазаўся вяроўкай, заткнуў за пояс сякеру. Сабраўся было ўжо выходзіць, як зайшла Тацяна. Яна здзіўлена аглядзела бацьку і спытала:

— Вы куды, тата?

Ён паглядзеў на дачку і зразумеў, што зманіць ёй нельга, ды і не хапіла б у яго сіл маніць у такі момант. Працягнуў ёй пакамечаную паперку.

«Карп Пракопавіч! Мне трэба з Вамі пагаварыць. Чакаю сёння пад вечар на Ягадным, у Рагу пад дубамі. Л.», — прачытала Тацяна.

Маеўскі моўчкі глядзеў на дачку.

А яна прачытала запіску яшчэ раз і ціха сказала:

— Як бы я хацела быць з вамі там, — і, не чакаючы адказу бацькі, пайшла да печкі, пачала раздзьмухваць вугалі. — Запіску трэба спаліць... Люба, відаць, з імі паехала, — сказала яна і цяжка ўздыхнула.

— А ты ідзі да каго-небудзь... Да Сцепаніды, напрыклад, і там пачакай... У выпадку чаго — у лес, туды ж... — Ён хвіліну памаўчаў, прабуючы пальцам лязо сякеры. — Я пайду...

— Хлеба вазьміце, тата.

Калі бацька пайшоў, Тацяна не магла адна сядзець у хаце і зноў выйшла на вуліцу, накіравалася да школы. Але там ужо было пуста: партызаны паехалі, народ разышоўся. Цётка Сцепаніда ўбачыла яе і паклікала да сябе ў хату. Там, на вялікае здзіўленне, Тацяна ўбачыла Любу. Дзяўчына сядзела на ложку з заплаканымі вачыма.

— Ты не паехала? — узрадавалася Тацяна.

А Любе здалося, што сястра насміхаецца з яе няўдачы, і яна злосна накінулася на яе:

— Паехала, паехала! Думаеш, я пабаялася? Думаеш, што я такая трусіха, як ты? Не ўзялі мяне... Малая, кажуць... І Жэні Лубяка ў нас, кажуць, ніякага няма. А я па вачах бачыла, што маняць. Вось прыйдзе толькі Жэнька, і я пайду. Не возьме — услед за ім пайду. Тады не прагоняць, як пабачу іх лагер. А то — малая. Якая ж я малая? А гора маё самае вялікае. Мамачка мая родная! — і Люба горка заплакала.

## IX

Ягаднае — асушанае калгаснікамі балота — вузкай і доўгай паласой уразалася ў лес. Бліжэйшая да вёскі частка яго засявалася і давала багацейшыя ўраджаі. Дальні канец балота, які называўся Рогам, быў асушаны не поўнасцю і скарыстоўваўся пад сенажаці. Балота з двух бакоў сціскалі высокія сцены лесу, пераважна альховага. Высокія, роўныя вольхі раслі сем'ямі, узвышаліся на высокіх купінах, агаляючы вымытыя вадой карэнні.

Вясной і ўвосень тут нельга было прайсці ні балотам, ні лесам. Але ў самым канцы Рога месца было высокае, сухое. І раслі тут не вольхі, а магутныя стогадовыя дубы. Пад дубамі густа пераплятаўся арэшнік. Улетку праз гэты гушчар цяжка было прабрацца, ды і рэдка сюды хто заглядаў, хоць куток гэты і вабіў вока прыгажосцю і маніў мноствам арэхаў і грыбоў. Магчыма, прычынаю было тое, што ўсяго тры гады назад ваўкі сярод дня разарвалі тут лесніка. Вось у гэтае месца незаўважна прабраўся Карп Маеўскі, узрушаны нечаканым і таямнічым запрашэннем партызанскага камандзіра.

Ён выйшаў з лесу на край сенажаці, пад дубы, асцярожна агледзеўся. Навокал было пуста і ціха. Толькі дзесьці ў арэшніку жалобна цвіркала маленькая адзінокая птушка. Голы лес застыў у нерухомасці. Вецер сагнаў апаўшае лісце з паляны ў лес, і пад дубамі

зямлю густа ўсцілалі жоўта-зялёныя жалуды. Жалудоў было так многа, што іх можна было браць проста прыгаршчамі. «Ніхто не збірае, — падумаў Карп. — А дарэмна... Трэба будзе прыйсці калі-небудзь. Да вайны свіней кармілі, а цяпер самі з'ядзім», — ён цяжка ўздыхнуў і, нагнуўшыся, пачаў еаграбаць жалуды ў кучкі. Але праз хвіліну схамянуўся і зноў агледзеўся навокал, паглядзеў чамусьці на неба. Па ім павольна плылі кашлатыя аўчыны хмар. Вечарэла, Карпу зрабілася неяк няўтульна на адкрытым месцы, і ён схаваўся ў гушчары арэхавых кустоў.

Чакаць яму давялося доўга. У старога пачалі ўжо з'яўляцца сумненні ў сапраўднасці запрашэння. Расла трывога за Тацяну і Любу.

«Наляціць карны атрад на чале з гэтым ірадам, — падумаў ён пра Візэнера, — адразу ж за іх возьмецца. Трэба ісці».

Але пайсці, нікога не дачакаўшыся, ён не мог. Бо ці будзе другі такі выпадак? Ад гэтай сустрэчы залежала яго жыццё, яго ўдзел у барацьбе — ён разумеў гэта.

Толькі ўжо на змярканні ён заўважыў, як з лесу выйшлі два чалавекі і спыніліся пад дубамі.

— Няма, — сказаў адзін.

— Не можа быць, -— адказаў другі.

У гэтым голасе Карп пазнаў Лясніцкага і смела выйшаў з арэхавых кустоў.

— Вось і ён, — сказаў Лясніцкі і пайшоў насустрач.

— Вечар добры, Карп Пракопавіч. Мядком не пачастуеш? — жартліва спытаў другі, і Маеўскі, на вялікае здзіўленне, пазнаў у ім старшыню райвыканкома Прыборнага.

— Сяргей Фядотавіч?

— Ён самы. Дзівішся, стары?

— Ёсць чаму. Разам вы кіравалі, разам, значыцца, і ваюеце.

— Разам будавалі жыццё, разам павінны і абараняць яго, — адказаў Прыборны. — Але. Сядзем, сябры.

Прыборны зняў з шыі аўтамат і апусціўся на зямлю, пад дубам. Лясніцкі і Маеўскі селі побач, адзін насупроць другога.

— Ну, пачастуй хоць тытунём, калі мядку няма. У цябе ж усё адменнае, стары чараўнік, усё першага гатунку. Эх, а з'еў бы я цяпер мядку! — з асалодай цмокнуў губамі Прыборны.

— Я магу прынесці, Сяргей Фядотавіч, — адказаў Карп.

— Ды ну? Усё-такі захаваў?

— Пудзікаў дзесяць.

— Малайчына! — весела засмяяліся Прыборны і Лясніцкі.

Закурылі. Хвіліну памаўчалі. У небе пачалі запальвацца першыя зоркі.

Цішыню парушыў Лясніцкі.

— Што ж змоўклі? Расказвай аб жыцці, Карп Пракопавіч.

Маеўскі цяжка ўздыхнуў.

— Што ж тут расказваць! Самі ведаеце. Не жыццё, а пакуты... Пекла. Калі толькі скончыцца гэта?

— Хутка, — усміхнуўся Лясніцкі. — Але ўсё-такі давядзецца пазмагацца. Нішто не прыходзіць само. Тым больш такая перамога. Вораг наш моцны, хітры і бязлітасны... Мэта яго — знішчыць наш народ, захапіць нашу зямлю, наша багацце. Галоўнае ён бярэ зброяй... але ў апошні час, калі зброя яго пачала тупіцца, ідзе на розныя выдумкі, хітрыкі... Але наш народ не верыць яму. Не павінен верыць ніводнаму фашысцкаму слову. Тады хутчэй будуць расці нашы рады, — сакратар райкома змоўк, а пасля нечакана спытаў: — За што яны спалілі цябе?

Маеўскі расказаў.

Прыборны і Лясніцкі пераглянуліся паміж сабой і ўсміхнуліся.

— Проста скарб гэты хлопец. Нібы прысутнічаў там, — сказаў Прыборны.

— Хто? — не зразумеў Маеўскі.

— Адзін наш партызан, — адказаў Прыборны.

— Ваш сусед, — дадаў з усмешкаю Лясніцкі.

— Нешта даўно ён не з'яўляецца ў нас. Мае дзяўчаты з нецярплівасцю чакаюць яго.

— Навошта ён ім?

— Адна, дачка нябожчыцы: Хрысціны, да вас хоча з ім пайсці, а мая — пабачыць старога знаёмага. Яны ў школе разам вучыліся некалі.

Лясніцкі спытаў:

— Але, да слова прыйшлося... Хто муж тваёй Тацяны і дзе ён цяпер?

Маеўскі збянтэжана закашляў.

— Кхе-кхе,,. Як вам сказаць? Няма ў яе мужа.

— Няма?

Вы не падумайце, Павел Сцяпанавіч, чаго дрэннага. Справа ў тым, што дзіця гэта не яе. — і стары шчыра расказаў гэтым двум партызанскім камандзірам, аб чым ведалі толькі ён ды Тацяна і што яны трымалі ў вялікім сакрэце нават ад старэйшай замужняй сястры Тацяны.

Камандзір і камісар слухалі Маеўскага з цікавасцю. У адзін голас выказалі сваё захапленне дзяўчынай.

— Гераічны ўчынак. Вось, камісар, яшчэ адзін яскравы прыклад. Ганарыцца трэба такой дачкой, стары чараўнік,

— Сапраўды, у такім узросце — і ўсынавіць, ды яшчэ ў такі час... Малайчына!

Іх словы ўсхвалявалі Маеўскага. І ўстрывожылі. «Яскравы прыклад?..» Чаго? Навошта Ім гэты прыклад? І ён ціха сказаў:

— Але аб тым, што гэта не яе дзіця, не ведае ніхто,

— Правільна! Няхай ведае аб гэтым як мага менш людзей. Будзе лепей, — адказаў Лясніцкі і, памаўчаўшы, спытаў:

— Значыцца, сям'я ў цябе надзейная?

За старога адказаў Прыборны:

— Як бачыш... Жонка толькі ў яго злая. Не крыўдзіся, стары, Нядобрая баба, неразумная. Вось тут намыліўся, пчаліны кароль.

Маеўскі збянтэжыўся і нічога не адказаў. Хвіліну памаўчалі. Навокал панавала цішыня. Толькі дзесьці далёка ў лесе завыў воўк.

Лясніцкі схамянуўся.

— Але да справы. — І звярнуўся да Маеўскага: — Нам трэба твая дапамога, Карп Пракопавіч. Гавары адразу — згодзен. Не баішся?

— Вы крыўдзіце мяне, Павел Сцяпанавіч. Ды я хоць зараз гатоў да вас Ісці, Дачку толькі дазвольце ўзяць з сабой і пляменніцу. Чаго мне баяцца? Ведаю, за што пайду...

— Пакуль што ісці нікуды не трэба. Застанешся дома.

Карп ўздыхнуў.

— Нам трэба надзейны чалавек у вёсцы, да якога мы маглі б звярнуцца ў любы момант і атрымаць патрэбную дапамогу. Разумееш? Мы давяраем табе амаль што сваё жыццё. Спадзяемся — не падвядзеш...

— Павел Сцяпанавіч, ды я...

— Добра... Слухай далей... Гераізму ніякага не трэба. Рэвальвер у кішэні не насі...

Токам ударылі старога гэтыя словы. Ён хутка нахіліўся да Лясніцкага і, заікаючыся ад хвалявання, зашаптаў:

— Ды вы... вы... адкуль ведаеце?

І рука яго неяк механічна выцягнула з кішэні кажуха рэвальвер.

Прыборны засмяяўся, узяў з яго рук наган, пачаў уважліва аглядаць.

— Схавай у надзейным месцы, — прадаўжаў Лясніцкі. — Вядома, у такім, каб у любы патрэбны момант быў пад рукою. Бачыш, мы даведаліся. Могуць даведацца і гітлераўцы. Не думай, што яны дурні.

Шпіянаж у іх першакласны. Яны набралі сабе розную сволач прыслугоўваць ім адкрыта. Але больш хітрэйшых з ліку здраднікаў яны робяць сваімі тайнымі агентамі. Таму трэба трымаць вуха востра.

Лясніцкі агляну ўся і панізіў голас:

— Значыцца, твая задача — «падружыць» з новай уладай І потым назіраць, сачыць. Асабліва за вашым старастам, за Бугаём... Справа ў тым, што ён звязаўся з намі і запэўніў нас у сваёй нянавісці да немцаў. Напрыклад, ён кляўся, што пажар двара і свірна — справа яго рук. Што ты скажаш на гэта?

Маеўскі паціснуў плячамі.

— Хто яго ведае... Я так думаў, ды і ўсе ў вёсцы, што гэта ваша работа. А цяпер — не ведаю.

— Ну дык вось. Трэба распазнаваць нашых актыўных памочнікаў і нашых тайных ворагаў. Вось так... Падбірай надзейных людзей. Трэба паднімаць народ... Дачку, пляменніцу ўцягні. Няхай вядуць агітацыю. Усе навіны мы будзем перадаваць. Але рабіць усё гэта трэба вельмі асцярожна. Аб сувязі з намі нікому ні слова. Вось, здаецца, і ўсё... У цябе нічога няма, Сяргей?

— У мяне? Пакуль што нічога... Калі што якое — да нас... А мёд пільнуй для ўрачыстага выпадку. Перамогу будзем святкаваць з тваім мёдам.

Прыборны першы падняўся з зямлі, прытуліўся да дуба. За ім падняліся Лясніцкі І Карп.

Стары вельмі быў узрушаны сустрэчай.

— Я і не ведаю, як вам дзякаваць, Павел Сцяпанавіч... Сяргей Фядотавіч... Ураз усё праяснілася. А то жыў нібы ў яме якой.

— Ну, добра, — перабіў яго Лясніцкі. — Яшчэ адна просьба. Сувязным да цябе часцей за ўсё будзе хадзіць Лубян... Дык ты назірай за ім... А то ў хлопца вельмі гарачая галава. Паслізнецца — умомант будзе на шыбеніцы... А ён у нас — незаменны чалавек. У нашых хлопцаў будзе пароль «Чыта». Калі ж табе трэба будзе перадаць штолечы тэрмінова, ідзі сюды І вось па гэтай прасецы — да Сухога балота... Ну, бывай.

Яны моцна паціснулі яму руку і хутка расталі ў цемры, паміж дрэвамі. А Маеўскі доўга яшчэ стаяў і глядзеў у той бок, куды яны пайшлі, слухаў, як трашчыць галлё пад іх нагамі.

Лясніцкі і Прыборны прабіраліся па вузкай сцежцы ў глыбіню лесу. У лесе ўжо зусім сцямнела. Ісці было цяжка. Прыборны спатыкнуўся, зачапіўшыся за корань, і ўпаў.

— Не раз нос саб'еш, пакуль да лагера дабярэшся, — забурчаў ён.

— Але затое якую мы справу зрабілі, Сяргей! — азваўся Лясніцкі, ідучы наперадзе.

— Але... Сёння мы паработалі.

— Сённяшнімі налётамі на вёскі, мітынгамі І сустрэчамі з Маеўскім, Раманавым і Васіленкам, я думаю, мы скончылі першы этап сваёй работы — падрыхтавалі ўмовы для разгортвання сапраўднай вайны. Трэба, каб галоўнае папаўненне атрадаў складалі не абкружэнцы, не адны тыя, хто мае асабістую крыўду на немцаў, а своечасова падрыхтаваная, арганізаваная маса калгаснікаў і рабочых.

— Шкада, што зброі мала.

— Нічога, Сяргей, будзе зброя і будуць у нас партызанскія брыгады, дывізіі.

Галінка арэхавага куста балюча секанула Прыборнага па твары. Ён гучна вылаяўся.

— Камісар, галлё не адпускай так. Вочы высек, ліха на цябе!

Лясніцкі засмяяўся.

— А ты на пяты не наступай.

Хвіліну яны прайшлі моўчкі. А потым Лясніцкі зноў звярнуўся да перарванай гутаркі і пачаў развіваць план разгортвання партызанскага руху. Хоць гутарка гэтая і вялася паміж імі амаль кожны дзень, Прыборны заўсёды слухаў з цікавасцю, бо кожны раз сакратар райкома выказваў усё новыя і новыя цікавыя думкі. Прыборны захапляўся сваім камісарам і часта думаў: «Як ён хутка перастроіўся! Колькі прайшло таго часу, як ён з такім вось энтузіязмам сеяў і будаваў. А сёння — такі салдат! Нібы ўсё жыццё толькі і займаўся тым, што ваяваў».

Сам Прыборны быў удзельнікам грамадзянскай вайны, камандаваў ротай, але Лясніцкаму ў той час было ўсяго якіх дзесяць год. Ён ніколі да гэтага не бачыў вайны.

X

Снег выпаў уначы. Ён ішоў некалькі гадзін

перад раніцаю І пакрыў усё белай пушыстай коўдрай. Пасля доўгай шэрай восені хаты і дрэвы выглядалі нібы адноўленыя і асвятляліся мяккім лагодным святлом не толькі зверху, але і знізу, ад зямлі. Ад гэтага святла і раніца настала раней, чым учора, калі зямля была яшчэ чорная і ўсё навокал — шэрае і сумнае.

Тацяна прачнулася, пачуўшы, як звычайна, асцярожныя крокі бацькі. У хаце было зусім светла.

«Ах, соня якая я! Дагэтуль спаць!» — дакарала яна сябе, але, зірнуўшы ў акно, зразумела, адкуль гэтае святло, і ў душы ў яе таксама зрабілася светла. Будучы ўжо і дарослай, яна заўсёды з дзіцячым захапленнем і шчырай радасцю сустракала першы дзень зімы.

Прыемна і цікава было бачыць, як за адну ноч усё раптам робіцца не такім, як учора, набывае новы выгляд, нібы аднаўляецца. Не дзіўна, што ад гэтага і ў душы святлее.

— Снег, тата? — нібы не верачы сваім вачам, спытала яна і борзда пачала апранацца; апрануўшыся, штурханула Любу, якая спала на суседнім ложку.

— Любка, снег!

Люба прачнулася, прыжмурыўшыся, паглядзела на вокны, пазяхнула і зноў павалілася тварам у цёплую падушку.

Тацяна тым часам схапіла вёдры і выбегла на двор. Ад нязвыклага зіхацення снегу самі жмурыліся вочы. Пушыстыя рэдкія сняжынкі садзіліся на гарачы твар, на рукі, прыемна асвяжалі скуру.

Тацяна, забыўшыся на момант на ўсё, па-дзіцячаму весела ўсміхалася, аглядаючыся навокал. Пасля таго як у студні знайшлі забітага ката (гаварылі, што гэта справа п'яных паліцаяў), увесь завулак браў ваду з дальняга калодзежа або з рэчкі. Да рэчкі было далей, але Тацяне захацелася прайсці па першаму снегу як мага далей. Яна перасекла вуліцу і паўз двор Лубяніхі накіравалася да рэчкі. Спачатку яна не думала ні аб чым і заўважала толькі хараство першага зімовага дня, любавалася ім. Але праз хвіліну запаволіла крок, потым спынілася ў канцы гарода і азірнулася навокал. Ззаду і ўправа дзвюма доўгімі вуліцамі раскінулася сяло. Над белымі дахамі падымаліся белыя дымкі. У белым убранні стаялі сады. А за садамі праз сетку сняжынак вырысоўвалася мутна-белая сцяна хваёвага лесу. Лес абгінаў сяло дугой. У бок рэчкі хвойнік змяняўся маладым дубняком. А за рэчкаю рассцілаўся абшар поля з раскіданымі па ім вёскамі. Каля рэчкі, на вузкай паласе лугу, стаялі стагі. А калі ўзысці на ўзгорак, што за рэчкаю, ці тут, на гэтым беразе, залезці на вярбу або дуб, то там, удалечыні на захадзе, можна ўбачыць другія стагі — у шырокіх дняпроўскіх лугах. Тацяна паглядзела ў той бок і цяжка ўздыхнула. Ёй зрабілася раптам сорамна за сваё дзіцячае захапленне, за сваю кароткую радасць. Балюча сціснулася сэрца. Няма чаму радавацца! Яна паставіла вёдры на снег і яшчэ раз агледзелася. Родная зямля! Прыгожая, чароўная! Па ёй хадзілі савецкія людзі, па-рознаму заўважалі і цанілі яе прыгоства, адны спявалі песні аб ёй, пісалі вершы, простыя і шчырыя; другія шукалі ў ёй карысных выкапняў, бралі ў лабараторыі, рабілі доследы... Але ўсе любілі яе, бо

гэта была зямля бацькоў, зямля-маці, яна карміла і паіла сваіх дзяцей. А цяпер? Чужынцы топчуць яе, аплёўваюць, паганяць. А ў гэтай зямлі ляжыць яе маці... Тацяна сціснула кулакі. Як ніколі раней, адчула яна пякучы боль у сэрцы, нібы не па зямлі гэтай, а па грудзях яе прайшлі цяжкія брудныя боты чужых салдат і растапталі ўсё самае дарагое, самае любае.

Яна схапілася за грудзі і прагна глынула марознае паветра, захлынулася ім. І тут жа нарадзілася новае пачуццё. Гэта была нейкая новая любоў да радзімы і новая нянавісць да захопнікаў. Яна ненавідзела іх з першага дня вайны, нянавісць гэтая расла пасля кожнай сустрэчы з акупантамі. Але тое, што яна адчула ў той момант, было сапраўды новым пачуццём, новай нянавісцю, актыўнай, кіпучай. Пачуццё гэтае патрабавала дзеяння, неадкладнай помсты тым, хто растаптаў яе шчасце. «А што я рабіла да гэтага? — падумала яна. — Нічога... Сядзела і чакала, пакуль другія прынясуць вызваленне...» Праўда, пасля спаткання з партызанскімі камандзірамі бацька даручыў ёй і Любе гутарыць з жанчынамі, з моладдзю, час ад часу прыносіў ім зводкі Саўінфармбюро. Дома яны з Любай перапісвалі гэтыя зводкі ў некалькіх экземплярах і потым распаўсюджвалі па вёсцы. Люба праводзіла гэтую работу галоўным чынам на гулянках моладзі, на вечарынках і рабіла гэта з энтузіязмам, з захапленнем. Тацяну таксама цягнула да моладзі, ёй таксама хацелася пабыць на вечарынках, пагутарыць са сваімі аднагодкамі. Але яна не магла гэтага зрабіць. Старэйшыя жанчыны сурова асудзілі б яе за тое, што яна кінула дзіця, забылася на мужа, які, магчыма, у гэты час дзе-небудзь сыходзіць крывёю. Імя «салдатка», як называлі яе старыя жанчыны, многаму абавязвала жонку франтавіка, за паводзінамі кожнай салдаткі сачылі дзесяткі пар вачэй. І Тацяна вымушана была працаваць пераважна з жанчынамі.

«Узяўся за гуж, дык не кажы, што не дуж», — думала яна аб сваёй ролі.

Жанчыны паважалі яе, верылі кожнаму яе слову, але, слухаючы невясёлыя зводкі Саўінфармбюро, цяжка ўздыхалі, выціралі вочы.

...Яна была ўсхвалявана ўвесь той першы зімовы дзень. Часта выходзіла на двор, у сад і зноў аглядала знаёмую разлегласць. Нейкая невядомая сіла цягнула яе ў лес. «Толькі там іх не было. Там зямля не патаптана іх ботамі. Там — нашы людзі», — думала яна.

Хатняя работа пачала валіцца з рук. Абражала бурчанне мачыхі, яе прычэпкі, на якія раней яна не звяртала ўвагі.

Маеўскі заўважыў усхваляванасць дачкі і, спаткаўшы ў двары, калі яна ішла з саду, ціха спытаў:

— Што з табой, Танюша?

Яна пільна паглядзела бацьку ў вочы і адказала пытаннем:

— А што з вамі, тата?

— Са мной? — здзівіўся бацька. — А што можа быць са мной?

Яна недаверліва паківала галавой.

— Навошта вы хаваецеся ад мяне, тата? Ці ж я не бачу? Я ўсё бачу. Пасля таго як вы спаткаліся з Лясніцкім... Да гэтага вы пакутавалі, як і я, ад няведання, ад бяздзейнасці. А цяпер бачу, другім жыццём вы зажылі. Ходзіце па вёсцы, размаўляеце, у старасты пачалі бываць. Значыцца, яны даручылі вам... Заданне далі. Я ж бачу.

Дзяўчына нахілілася да бацькі, заглянула ў вочы.

— Тата, даручы і мне што... Дай работу. Я не магу больш сядзець так...

— Я ж даў табе работу...

— Якая ж гэта работа!.. З жанчынамі размаўляць... Яны лепей за мяне ўсё разумеюць, а зводку перадаць — дык гэта кожны можа.

— Дурная ты!., за гэта вешаюць,

— Няхай вешаюць... Але я не магу далей... Не магу! Сёння вось раніцой выйшла да рэчкі... Снег... Лес... Зямля наша... Усё наша... А як успомніла, дык так балюча зрабілася. І цяпер не магу супакоіцца. Накіруй мяне да партызан, тата. Мяне і Любу... Не магу я больш, не вытрымаю, зраблю што-небудзь такое, што... Бачыць іх не магу, — і. яна раптам заплакала.

Маеўскі пяшчотна пагладзіў яе руку.

— Ну, вось і слёзы... Куды ж нам да партызан са слязамі? — Ён на момант задумаўся, а потым ціха сказаў: — Пачакай крыху, Танюша.

— Пачакаць? — устрапянулася яна. — А колькі ж чакаць, тата?

Маеўскі ўсміхнуўся.

— Гарачая ты... Як маці твая, — і ён пацалаваў дачку: у яго вачах заблішчалі слёзы.

Пад вечар таго дня, вылучыўшы момант, калі Палагея выйшла з хаты, Люба паведаміла:

— Сёння ўначы Жэнька прыходзіў.

— Так адкуль ведаеш? — здзівіўся Карп.

— Ведаю... У мяне ёсць разведка. У другі раз ён не ўцячэ ад мяне. — І пакрыўджана дадала: — Ходзяць, як ваўкі, ноччу.

— А ты хочаш, каб ён удзень прыйшоў, у лапы паліцаям?

— Прыходзіў жа ён раней...

Тацяна абурылася.

— Дурная ты, Люба! А яшчэ ў партызаны хочаш ісці.

Карп прайшоў па хаце, спыніўся перад Любай і сказаў суровым шэптам:

— Ты кінь гэтае глупства, сачыць за такімі людзьмі ды малых падгаварваць! — сурова сказаў ён. — Гэта смерцю пахне... Не маленькая ўжо...

Люба пачырванела, апусціла вочы.

— Каго ты падгаварыла?

— Ленку, — шчыра прызналася яна.

— Ну, вось... дзіцяці восем год, а ты яе ў такія справы ўмешваеш. Глядзі!

Люба маўчала, вінавата ўставіўшыся ў падлогу.

А на другі дзень гэтая самая Ленка прыйшла да Маеўскіх. Звычайна дзеці Лубяніхі рэдка наведвалі іх, калі-нікалі толькі заходзілі чаго пазычыць і ніколі не затрымліваліся доўга. Але на гэты раз дзяўчынка нічога не прасіла. Яна роўненька села на лаўку каля акна і зыркімі вачанятамі сачыла за кожным рухам Палагеі і Карпа. На пытанне Палагеі, чаго яна прыйшла, Ленка саромліва апусціла вочкі і нічога не адказела. Тацяна ўпотайкі назірала за ёй і бачыла, што дзяўчынка хоча камусьці нешта сказаць або чакае Любу (Любы не было дома).

Ленка дачакалася, пакуль Палагея і Карп выйшлі, тады хуценька падышла да Тацяны.

— Цёця Таня... Я... я, — ад хвалявання яна заікалася і чырванела.

Тацяна пагладзіла яе па галоўцы.

— Што, Ленка?

Дзяўчынка даверліва падняла вочкі.

— Гэта не я, цёця Таня... Гэта Жэнька... Наш Жэнька. Ён сказаў, каб я хадзіла да вас і вы вучылі мяне.

— Што? — здзівілася Тацяна. Ленка зноў пачала апраўдвацца.

— Ён кажа, каб я год дарэмна не губляла... А вы... — дзяўчынка замялася і зноў апусціла вочкі.

— Што я?

— Вы, кажа, каб не гультайнічалі. А як, кажа, вучыць будзеце — ён праверыць.

Настаўніца пачырванела ад гэтых слоў сваёй будучай вучаніцы. Яна ўраз зразумела, чаго хоча ад яе Жэнька Лубян, і вельмі ўзрадавалася. Нарэшце ёй сказалі, што яна павінна рабіць. Вучыць дзяцей! Выхоўваць у іх нянавісць да захопнікаў і любоў да роднай зямлі, такую любоў, якую адчула ўчора яна сама. Гаварыць дзецям суровую праўду, а цераз дзяцей — іх бацькам.

— Добра, Ленка. Буду вучыць цябе. Сёння ж адвячоркам прыходзь, — адказала яна дзяўчынцы.

Калі Ленка выйшла, Тацяна пачала апранацца. Праз некалькі хвілін яна была ў жонкі настаўніка Веры Кандыбы.

Сам загадчык школы Васіль Васільевіч Кандыба знік у першыя дні вайны. Гаварылі, пайшоў у армію. Вера жыла ў свайго бацькі Івана Маеўскага (у вёсцы добрая трэцяя частка жыхароў мела гэткае прозвішча). Гаспадары сустрэлі Тацяну ветліва. Цяжарная Вера хутка кінула шытво і паплыла насустрач сяброўцы.

— Нарэшце ты заглянула да нас, Таня. А то забралася ў завулак свой. Старых сябровак забыла... Ну, сядай, сядай... Як твой цыганёнак маецца? — яна ўсміхнулася і паглядзела на свой жывот. — Хутка і я чакаю. Мама ўжо нікуды не выпускае мяне.

Стары, хворы Іван Маеўскі падняўся і сеў на край печы, адкашляўся.

— Здароў, здароў, дачка. Сядай-ка бліжэй да мяне, а то я ўжо недачуваю. Гутарыць з табою буду.

— Зноў ты за сваё, кашлюн стары! Ляжаў бы ўжо моўчкі! — забурчала на мужа старая Уліта.

Іван закашляўся і кашляў вельмі доўга, выціраючы ручніком губы і бараду.

— Ляжаць я не магу. І маўчаць не магу. З людзьмі хачу пагутарыць перад смерцю... Вось няхай яны мне адкажуць, адукаваныя... Іх савецкая ўлада вучыла, мільёны траціла на іх. Вось і няхай скажуць... Вернуцца нашы ці не?

Стары хітра прыжмурыўся і наставіў вуха.

— А-а?

— Я ж табе тысячу разоў казала, што вернуцца, — адказала Вера.

— Казала... А што карысці ў тым, што ты казала... Ты мне дакажы — чаму? Якія падставы, як кажуць, маюцца? Ну?.. Дакажы. Я чалавек цёмны...

— Ты лепей за нас ведаеш, тата. Што табе даказваць! — адказала Вера, якой вельмі хацелася пагутарыць з сяброўкай зусім на іншую тэму.

Іван Маеўскі здаволена ўсміхнуўся.

— Ведаю. Я-то ведаю. А вас дарэмна, мабыць, вучыла савецкая ўлада. Сядзіш вось ты цяпер і мух лічыш, калі народ у такім горы, калі кожнае разумнае слова дорага народу. Ты дачка мне, і я кажу табе: не слухай маці, ідзі, гавары з людзьмі, тлумач ім, твайму будучаму сыну гэта не пашкодзіць.

Тацяну вельмі зацікавілі словы старога калгасніка, і яна не ўтрымалася і спытала:

— А чаму, дзядзька?

— А-а, чаму? — урачыста ўсміхнууўся ён, здаволены сваёй перамогаў і крыкнуў: — Слухай, Верка, разумныя словы! Не ведаеш сама — спытай старэйшых. Чаму? — ён нахіліўся з печы і гучна зашаптаў: — А таму, што народ паднімаецца. Увесь народ падняўся на супастата. І кіруюць народам людзі, якія жыццё нам далі чалавечае. Бачылі? Павел Сцяпанавіч Лясніцкі. А-а? Сам па вёсках у свята праехаўся, нібы перад пасяўной кампаніяй. А яшчэ кажуць, што разам з імі і Сяргей Фядотавіч Прыборны. І так у кожным раёне. І сакратар, і старшыня,, і ўсе работнікі партыйныя засталіся. Вось чаму...

— Дык гэта і мы ведаем, тата, — адгукнулася Вера.

— Ведаеце... Якая карысць, што вы ведаеце... Народу трэба гэта гаварыць. Народу! Эх, каб не хвароба мая! Ды што вам гаварыць, трашчоткам, — стары чамусьці раззлаваўся, махнуў рукой і лёг на печы.

— Шкадуе бацька вельмі, што не можа хадзіць, — паведаміла шэптам Вера. — Старых збірае вечарамі (і твой бацька бывае) і гаворыць ім вось так, заклікае да партызан ісці. А мяне мама нікуды не пускае. Кожны дзень сваруся з ёй. Сорамна, што мы і сапраўды нічога не робім. Хутчэй бы ўжо мне нарадзіць, — і яна пачала распытваць сяброўку, што перажывала тая, калі нарадзіла дзіця. Тацяна з цікавасцю паглядзела на жывот і ўсміхнулася. Нічога яна гэтага не перажывала і не ведала, а таму магла расказаць толькі тое, што ёй давялося пачуць ад старэйшых жанчын.

Улучыўшы зручны момант, яна выказала сваю просьбу:

— Навошта табе падручнікі і праграмы?

— Дзяцей вучыць.

— Вучыць? Цяпер?

Іван Маеўскі, пачуўшы гэта, хуценька падняўся зноў і са злоснай іроніяй спытаў:

— Новай уладзе дагадзіць хочаш?

Тацяна падхапілася з табурэткі. Кроў застукала ў скронях, задрыжалі рукі.

— Як не сорамна вам!.. Вы ж ведаеце майго бацьку, хіба ён...

Стары кашлянуў.

— Буду вучыць дзяцей так, як нас вучылі. А навошта ім год губляць? Навошта? Вы ж самі гаворыце, што немцы толькі так, а жыць мы павінны па-савецку. Мне Яўген Лубян загадаў гэта.

— Лубян? — перапытаў Маеўскі, панізіўшы голас. — Тады даруй мне. Дай, Вера, ёй кніжкі.

І калі Вера выйшла, стары ўжо цёплым, бацькоўскім голасам параіў:

— Толькі асцярожна, дачка. А то ёсць сабакі. Нават сярод сваіх вяскоўцаў могуць знайсціся.

Праз колькі хвілін яна вярталася дамоў з вялікай пачкай кніг, загорнутых у настольнік.

## XI

З гэтага дня яна больш не пакутавала ад бяз

дзейнасці. ад няздольнасці чым-небудзь больш значным дапамагчы Лясніцкаму, Лубяну і іх сябрам. Яна так захапілася сваёй працай, што забылася на ўсё. У яе было два класы і ў кожным класе па аднаму вучню: у другім — Ленка Лубян, у чацвёртым — яе брат Сярожа. Але гэта не бянтэжыла яе. Яна займалася з імі гэтак жа, як і калісьці з двума такімі ж класамі, у якіх было па пятнаццаць чалавек. Займалася па той жа праграме. Розніца была толькі ў тым, што заняткі цягнуліся часам больш чатырох гадзін, а часам паўгадзіны. І толькі адна акалічнасць спачатку бянтэжыла яе. Дзеці не былі падобны на тых, якіх яна вучыла да вайны. Тыя бегалі на перапынках, смяяліся, жартавалі, часам і на ўроках стараліся выкінуць які-небудзь фокус — рабілі ўсё, што ўласціва ўсім дзецям. Сярожка і Ленка ўвесь час сядзелі моўчкі, у вачах іх не іскрылася весялосць і дзіцячая жартаўлівасць, слухалі яны вельмі сур'ёзна і засвойвалі ўсё не па-дзіцячаму хутка, грунтоўна. А часам задавалі такія пытанні, на якія і ёй было цяжка адказаць. Паступова яна звыклася з гэтым, зразумела, што дзецям трэба даваць больш, чым гэта прадугледжана даваеннай праграмай, Вайна састарыла і дзяцей.

Звычайна, калі ў хату заходзіў хто-небудзь чужы, заняткі спыняліся і дзеці рабілі выгляд, што прыйшлі проста пагуляць.

Аднойчы ў час заняткаў прыйшла Сцепаніда. Пры ёй Таццяна не спыніла заняткаў. Яна расказвала сваім вучням пра Маскву. Будучы студэнткай, яна ездзіла туды на экскурсію і таму шчыра перадавала свае ўражанні аб сталіцы.

Дзеці і дарослыя слухалі яе, стаіўшы дыханне.

— Цяпер, дзеці, немцы падышлі блізка да гэтага цудоўнага горада. Яны хочуць захапіць Маскву і знішчыць усё, створанае нашым народам. Бачыце, ужо колькі часу крычаць яны аб захопе Масквы. Але Масква стаіць. Маскву ім ніколі не ўзяць. Бо Маскву абараняе ўся наша Радзіма, — скончыла яна дрыжачым голасам.

Светлыя вочкі Ленкі напоўніліся слязьмі,, Сярожка паглядзеў на яе і штурхануў пад бок, саромеючыся за сестрыну слабасць. Але слёзы былі не толькі ў маленькай Ленкі: старая Сцепаніда непрыкметна змахвала іх рогам хусткі.

А на другі дзень яна прывяла да Тацяны двух сваіх шукаў і папрасіла:

— Вучы, хрэсніца, і іх заадно. Навошта яны будуць прагульваць? Няхай розуму набіраюцца і ведаюць, за што ваююць іх бацькі. Адзін павінен у другі клас хадзіць, а другі — у трэці...

— Калі ласка, — з радасцю згадзілася Тацяна. Але ў размову ўмяшалася Палагея.

— Ды што тут, школа, ці што? — злосна сказала яна і бразнула вёдрамі. — Ліжа ведае, што такое! Ні цішыні табе, ні супакою! Ідзіце вунь у школу ды і вучыцеся там!

— У школу нам нельга ісці, — разважліва адказала Тацяна, — Школуператварылі ў свінушнік. А вы не бойцеся, Палагея Свірыдаўна. — Тацяна зрабіла націск на апошнім слове, і імя мачыхі прагучала іранічна. — Вас яны не зачэпяць.

Палагея ажно вёдры ўпусціла і, крута павярнуўшыся, узялася рукамі за бакі.

— Можа, ты і мяне хочаш вучыць? — крыкнула яна. — Разумная вельмі стала! Глядзі, каб табе за такое навучанне скуру не спусцілі.

Тацяна балюча закусіла губу, каб стрымацца, не лаяцца пры дзецях. Але не стрымалася Люба. Яна адарвалася ад кнігі і паднялася. Палагея адразу змоўкла.

— Вось што, цётачка, — ціха, амаль шэптам, але цвёрда і рашуча сказала дзяўчына, — калі вам не падабаецца тут, то збірайце свае манаткі і прэч з маёй хаткі. Пакуль што гаспадыня тут я. Вось як...

Палагея праглынула падрыхтаваныя для Тацяны калючыя словы і, нічога не сказаўшы, выйшла з хаты.

Сцепаніда ўздыхнула.

— Цяяска вам з ёй.

— Тані з яе характарам цяжка, а мяне яна баіцца горш, чым немцаў, — усміхнулася Люба. — Я з ёй каротка.

З тыдзень яна займалася з чатырма вучнямі. А потым у адзін дзень здарылася такое, ад чаго яна спачатку разгубілася.

Дома нікога не было. Яна спакойна займалася са сваімі вучнямі. І раптам у двор увваліла гурба дзяцей: шэсць хлапчукоў і дзве дзяўчынкі. На ганку дзеці спыніліся і пачалі раіцца, каму ісці першаму, штурхаць адзін аднаго. Тацяна выйшла да іх, і яны ўсе ў

адзін голас папрасілі яе прыняць іх у школу. Яны так і сказалі: «у школу». Тацяна ўздрыганулася, пачуўшы гэтае слова. Ёй захацелася сказаць, што ніякай школы тут няма, і адаслаць дзяцей назад дамоў, але яна не магла ім схлусіць, ды к таму ж добра разумела, што дзеці прыйшлі не самі, іх прыслалі дарослыя — маці, дзяды.

Але пасадзіўшы новых вучняў за стол, яна адчула сябе звязанай. Захапленне працай згінула. У глыбіні душы нарадзілася баязлівасць. Урок зрабіўся сумным, бо вяла яна яго без таго натхнення, якое было ў першыя дні, калі за сталом сядзелі толькі брат і сястра Яўгена Лубяна, Яна адчула гэта і, хутчэй скончыўшы ўрок, адпусціла дзяцей. «Гэта нядобра можа скончыцца, — падумала яна. — Трэба параіцца з бацькам...»

Але бацькі не было дома: яны з Любай пайшлі з санкамі-самацяжкамі ў лес па дровы.

Тацяна з нецярплівасцю пачала чакаць іх звароту. Думка аб школе не выходзіла з галавы. Перад вачыма стаялі сур'ёзныя дзіцячыя тварыкі з дапытлівымі вачанятамі, а ў вушах звінелі іх нястройныя галасы.

— Цёця, прыміце мяне ў школу.

— І мяне.

— І мяне...

«Школа. Савецкая школа, — думала яна. — А там вунь, трыста метраў якіх адсюль, у сапраўднай школе — паліцаі, нямецкая ўлада... Не, штосьці трэба зрабіць, штось прыдумаць...»

Нецярплівасць усё расла, і яна не вытрымала: дачакаўшыся звароту Палагеі, пайшла ў лес, каб спаткаць бацьку, Любу і пагутарыць там з імі, не хаваючыся ад Палагеі.

Ішоў снег, ціхі і густы, засыпеў сляды. Лес, пакрыты снежнай коўдрай, стаяў маўклівы, задумлівы... Рэдка толькі з галін зрываліся камкі снегу і парушалі цішыню. Снег, густы ў полі, у лесе церушыўся рэдкімі сняжынкамі — большасць яго павісала на галінах хвой і елак.

Тацяна ішла хутка. Толькі на ўзлессі спынілася, аглянулася назад і потым ужо смела ўвайшла ў лес. У лесе хваляванне яе крыху ўлеглося. Яна нават упікнула сябе за баязлівасць і паспрабавала адагнаць трывожныя думкі.

«Глупства ўсё! Я скажу, што працую, каб мець кавалак хлеба. Ёсць жа школы ў другіх вёсках... Працуюць жа там, — пераконвала яна сябе, але праз хвіліну сама бачыла нядатнасць сваіх доказаў: — Так яны табе і паверацъ! Чакай!.. Асабліва калі даведаюцца, з кім пачала ты гэтыя заняткі... Ах, Жэня! І чаму ты не з'явішся сам, не параіш, што рабіць?..»

У гэты момант над самым вухам яе свіснулі. Ад нечаканасці яна ўскрыкнула і рванулася ўбок, угрузла ў глыбокім снезе. Ад спалоху моцна закалацілася сэрца. На дарозе яна ўбачыла лыжніка. Гэта ён са свістам абганяў яе і, не аглядваючыся, шпарка ішоў далей.

«Хто ж гэта такі?» — падумала яна.

Але крокаў за дваццаць лыжнік спрытным скачком павярнуў лыжы назад. Яна ўбачыла знаёмы твар Жэні Лубяна. Ён весела ўсміхаўся. Сэрца яе закалацілася яшчэ мацней, але ўжо не ад спалоху, ад радасці.

— Спалохалася? — са смехам спытаў Жэнька.

— Добрыя людзі пачынаюць з прывітання, малады чалавек, — сур'ёзна, нават крыху злосна адказала Тацяна. Яе сур'ёзнасць збянтэжыла Жэньку, і ён прывітаўся:

— Ну, добры дзень, — і, падумаўшы, дадаў: —-маладая дзяўчына.

Тацяна не стрымала ўсмешку, і гэта разбіла лёд сур'ёзнасці. Жэнька пад'ехаў да яе і працягнуў руку.

— Ану цябе, Таня, з тваёй сур'ёзнасцю. Я рад, што спаткаў цябе. А то цябе не злавіць... Пракісла там у сябе...

— Сам ты пракіс, — пакрыўдзілася Тацяна. Яна не магла даравацъ яму свайго спалоху і падумала аб тым, як бы адпомсціць яму. Мабыць, Яўген зразумеў гэта і змяніў ход — сам зрабіўся не менш сур'ёзным, паважным і сказаў:

— Добра. Сварыцца будзем пасля. Калі фашыстаў разаб'ём. Цяпер ёсць справы важнейшыя.

Пасля гэтых слоў Тацяна ўраз забыла сваю крыўду і насцярожылася.

— Раскажы лепей, як жывеш, што робіш.

І толькі цяпер яна пачала з незахаванай цікавасцю разглядаць таго, каго так доўга жадала спаткаць, аб кім у вёсцы расказваюць легенды. Яўген быў у новым кажуху, у валёнках, у цёплай заячай шапцы. Зброі ў яго не было бачна, але Тацяна звярнула ўвагу на адтапыранае крысо кажуха і на раздутыя кішэні. У яго выраслі маленькія вусікі, і яны рабілі яго малады, амаль што яшчэ дзіцячы твар нейкім прывабным і крыху смешным.

«Каб ён з такімі вусікамі ў школу з'явіўся», — падумала Тацяна і ўсміхнулася. Жэньку, відаць, не падабалася, што яна так доўга разглядае яго, і ён нахмурыўся.

Тацяна апусціла вочы.

— Як жыву? Дрэнна жыву, — адказала яна на яго пытанне. — Пачала дзяцей вучыць і спалохалася. Сёння вось кінула сваю школу і ўцякла ў лес.

— Арыштаваць хацелі? — бліснуў вачыма Лубян.

— Не... Проста сама разгубілася і не ведала, што рабіць. Я ж пачала вучыць толькі вашых, Сярожку і Ленку, а тут раптам сёння прыходзіць цэлая гурба дзяцей, просяць прыняць у школу. Выходзіць, што я без усялякага дазволу ўлады арганізавала школу і не абы-якую, а савецкую. Што ты скажаш на гэта?

— Думаю, што яны дурні, калі не арыштавалі цябе да гэтага часу.

Тацяна здзіўлена ўзмахнула брывамі.

— Сур'ёзна. Канспірацыя называецца... Двух чалавек вучыла, а ўся вёска ведае... Ды больш таго, усе ведаюць, як ты вучыла іх... Думаеш, я выпадкова спаткаў цябе? Я да цябе ехаў па заданню... — ён крыху памаўчаў, думаючы, як назваць таго чалавека, па заданню якога ён ехаў, камісара... Каб папярэдзіць цябе... Разумееш?

Цяпер Тацяна ўжо з павагаю і ўдзячнасцю глядзела на свайго старого сябра, забыўшыся на ўсе крыўды.

«Вось ён які!» — з захапленнем падумала яна.

— Нельга так працаваць.

— А што ж рабіць? Не займацца?

— Займацца трэба. Дзяцей трэба выхоўваць, а інакш іх галовы могуць забіваць усялякай фашысцкай хлуснёй. Дзе-нідзе яны спрабуюць ужо рабіць гэта. Разумееш? Хадзем, а то яшчэ які сабака пабачыць, — прапанаваў раптам Жэнька.

Яны пайшлі ў глыб лесу. Яна па сцежцы, а ён на лыжах — побач. Яна з цікавасцю глядзела збоку на прыгожы твар з дзіўнымі вусікамі і прагна лавіла кожнае слова з таго, што Жэнька гаварыў.

— Бачыш, яны хочуць паказаць сябе гаспадарамі, а таму і дазваляюць такую раскошу, як школы. А мы ім павінны паказаць, што сапраўднымі гаспадарамі па-ранейшаму з'яўляемся мы, савецкія людзі. Разумееш? Няхай будуць школы, дазволеныя ўладай, — сказаў ён са злоснай іроніяй на слова «ўлада». — А ў школах павінны быць нашы настаўнікі, і вучыць яны павінны так, як трэба... Разумееш?

Тацяна заўважыла, што ў яго ўсё яшчэ трымаецца старая школьная прывычка — перапытваць — «разумееш?». Бывала, адказваючы на ўроку, ён задаваў гэтае пытанне настаўніку, выклікаючы дружны смех у класе.

Яна ўсміхнулася.

Лубян заўважыў яе ўсмешку і раззлаваўся.

— Нічога ты не разумееш. Каб разумела, то не сушыла б зубы. Чаго ты вытарашчыла вочы на мяне? Разумееш?

Яна засмяялася.

Яўген нарэшце зразумеў, з чаго яна смяецца, і, збянтэжана ўсміхнуўшыся, сказаў у апраўданне:

— Прывычка... А ты несур'ёзная стала... Я баюся нават даручаць табе,

— А ты вельмі ўжо сур'ёзны стаў. Такі надзьмуты певень! Усё я разумею.

Ёй раптам зрабілася весела. Яна адчувала сябе вельмі ўтульна ў лесе побач з гэтым разважлівым хлопцам.

— Дык вось, каб ты разумела, то даўно схадзіла б да старасты і ўзяла дазвол адкрыць школу... Разумееш?.. Табе трэба жыць, а ўсё згарэла, а ў цябе дзіця і ўсё такое... Вось... Ведай, адзін вельмі разумны чалавек сказаў: «Савецкая школа ў тыле ў немцаў найлепшая агітацыя». Але ў такой справе нельга варон лавіць. Разумееш?

Жэнька спыніўся, паглядзеў на дзяўчыну і раптам увесь засвяціўся, успомніў самае радаснае.

— Вось так... А цяпер слухай другое... Учора атрымалі па радыё радасную вестку. Чырвоная Армія разграміла немцаў пад Масквой, адкінула іх на дзесяткі кіламетраў на захад і гоніць... Гоніць, Танюша. Разумееш? — радасна ўсхвалёваны памкнуўся ён да яе і паўтарыў урачыстым шэптам: — Гоніць, Таня... Каб ты ведала, што ў нас учора было! Камандзір да твайго бацькі па мёд хацеў пасылаць... Камісар стрымаў, а то быў бы я ўчора госцем у вас. Хлопцы адразу ж папрасіліся ў паход, каб адзначыць гэты дзень... Каб і фашысты не забывалі яго. Разумееш? Дык вось... Усё гэта трэба перадаць людзям. На, — ён выцягнуў з-пад кажуха некалькі надрукаваных на машынцы лісткоў паперы са зводкай Саўінфармбюро. — Тут падрабязна.

Таццяна схапіла гэтыя дарагія лісткі і прыціснула іх да грудзей...

— Вось гэта радасць, Жэня!..

— Сапраўдная, Таня.

Неяк незаўважна яны ўзяліся за рукі і так стаялі доўга, пільна разглядаючы адно аднаго. Нарэшце Таццяна не вытрымала і сарамліва апусціла вочы.

Жэня схамянуўся.

— Ну, мне пара, — сказаў ён і ўзяўся за лыжныя кіёчкі, але потым паставіў правы назад у снег і працягнуў ёй руку. — Да сустрэчы...

— Да сустрэчы, Жэня.

Але ён затрымаў яе руку ў сваёй і ціха спытаў:

— Значыцца, замуж выйшла?

— Выйшла, і ў яе чамусьці радасна забілася сэрца.

— І сын ужо?

— І сын.

— Хутка ты.

— Чаму ж хутка? Мы з табою ў апошні раз бачыліся гады два назад.

Жэнька кіўнуў галавой.

— А муж як... добры?

— Муж як муж. — Таццяна засмяялася; ёй раптам захацелася пажартаваць, пазлаваць яго. — Добры муж. Лепшы, чым ты...

Жэнька выпусціў яе руку, схапіў кіёчак і спрытна павярнуў лыжы.

— А я, здаецца, не набіваўся табе ў мужы, — буркнуў ён і, скочыўшы з дарогі ў снег, шпарка пабег у лес.

Таццяна глядзела на яго мільгаўшую паміж сосен шырокую спіну, і нейкі невядомы смутак лёгка, ледзь дакранаючыся, сціскаў сэрца. У адзін момант ёй захацелася крыкнуць, вярнуць яго назад, каб расказаць праўду, але яна стрымала сябе.

Заячая шапка схавалася за соснамі.

Таццяна ўздыхнула, агледзелася навокал і з новымі, адначасова трывожнымі і радаснымі, пачуццямі накіравалася назад у вёску.

Густы снег засыпаў сляды.

Увечары, калі яна, хвалюючыся, расказвала бацьку і Любе (Палагеі не было дома) аб сустрэчы з партызанам, у хату раптам уваліўся стараста Ларывон Бугай. Ён сказаў:

— Добры вечар у хату, — і спыніўся ў парозе, расшпіліў кажух, старанна абтрусіў з каўняра снег, а потым доўга аббіваў венікам валёнкі.

Таццяне зрабілася холадна, нібы чалавек гэты разам са сваім вялікім целам занёс у хату студзеньскі мароз. Яна адышла да грубкі, прытулілася плячамі да цёплай цэглы. Па целу прабеглі калючыя дрыжыкі.

Стараста скончыў абмятаць снег і моўчкі пайшоў і сеў каля стала. Табурэтка зарыпела пад яго цяжкім целам.

Таццяна разглядала старасту з цікавасцю і агідай, як калісьці першага немца. Да вайны яна проста не заўважала гэтага чалавека, не цікавілася ім. Ды і не часта ён трапляўся ёй на вочы.

І вось ён прыйшоў, з'явіўся ў той момант, калі аб ім гутарылі, раіліся, як пайсці да яго і сказаць аб школе. З'явіўся, як здань, злы дух, перабіў іх гутарку і сам маўчыць, наваліўшыся локцямі на стол.

Цень ад яго на сцяне быў непамерна вялікі і страшны. Тацяне здалося, што ён сваім велізарным целам заняў усю хату, сціснуў паветра і ад гэтага цяжка дыхаць. «Вось ён які, здраднік, — думала яна. — Быў наш чалавек, хадзіў па адной зямлі, вітаўся з усімі і яму адказвалі, карыстаўся ўсім нашым, савецкім, і раптам здрадзіў усяму роднаму, прадаў сябе і другіх прадае. Блукае, як здань. Чаго ён прыйшоў? І як гэта да вайны ніхто не разгадаў яго? Ён і ў калгас не хацеў уступаць, з людзьмі баяўся сустракацца. Воўк... Цяпер гэта на твары яго можна прачытаць... Якая звярыная морда!»

Твар яго быў шырокі, квадратны, зарослы кароткай чорнай барадой. Бровы густыя, зарваныя над пераносіцай, і ён глядзеў з-пад іх, не паднімаючы галавы. «Як бадлівы бугай, — падумала Тацяна. — Недарэмна ў яго прозвішча такое».

Стараста кашлянуў і ахрыплым басам сказаў:

— Снег ужо лішні падае.

— Але... снежная зіма, — згадзіўся Маеўскі.

Зноў хвіліну памаўчалі. Тацяна бачыла, што гэтае вымушанае маўчанне страшэнна прыгнятае ўсіх. Бацька некалькі разоў кашлянуў у кулак. Люба нервова стукала нагой аб нагу і, не адрываючыся, глядзела на Тацяну.

— Ну, як жывеш, Карп Пракопавіч? — нарэшце спытаў Бугай.

— Ды бачыш, як жыву. У чужой хаце.

Стараста ўздыхнуў.

— Добрая жанчына была Хрысціна. Царства ёй нябеснае, — і перахрысціўся. — Нізавошта загінула...

«У-у, яшчэ хрысціцца, гад!.. Юда!» — падумала Тацяна.

— Што ж, трэба хату будаваць, Карп Пракопавіч. Лес пад бокам.

— Не, Ларывон Гаўрылавіч... Я вырашыў пачакаць...

— Пакуль свае вернуцца? — усміхнуўся стараста.

— А хоць бы і так... У нас з табой сыны там... Нам ёсць каго чакаць.

Стараста ўздыхнуў зноў.

— Мабыць, не вярнуцца ім. Сілішча такая...

— Хто ж яго ведае. Я так скажу: не нашага розуму гэта справа. Наша справа чакаць — а што далей? Я асабіста так думаю, — заключыў асцярожна Маеўскі.

— Яно так... Але жыць жа трэба неяк, трэба прыстасавацца да жыцця.

Люба не вытрымала і іранічна заўважыла:

— Вы, пан стараста, ужо прыстасаваліся. Навошта вам турбавацца?

Карп Маеўскі кінуў на пляменніцу папераджальны позірк. Бугай не звярнуў увагу на яе словы і працягваў разважаць далей:

— Хата, напрыклад, свая пры ўсякай уладзе патрэбна.

— Але не пры той, якая паліць гэтыя хаты і забівае старых, — зноў не вытрымала Люба.

— Што зробіш, дачка. На вайне ўсялякае бывае. І ўсякія людзі на вайне. Адны — людзі як людзі, другія — звярамі робяцца... Але жыццё павінна ісці сваім парадкам... Народ павінен жыць, — філасафічна разважаў ён. — Вось, напрыклад, дзяцей вучыць трэба, — ён павярнуўся да Тацяны, яна насцярожылася. — Калі ўсё гэта скончыцца — невядома. А дзеці бегаюць без усялякага дагляду. У мяне вунь двое. Учора снарад дзесь знайшлі. І дзе яны зімой выкапалі яго? А былі б у школе — ведалі б сваю справу.

Бацька здаволена кіўнуў Тацяне галавой.

Староста хвіліну памаўчаў.

— З нашай вёскі нешта настаўнікаў мала выйшла. Трое толькі. У Залессі, напрыклад, — ажно дванаццаць чалавек. У нас усё камандзіры. Восем камандзіраў.

Тацяна зноў падумала:

«Бачыш, якія ты дакладныя звесткі сабраў, юда! Колькі ты атрымаў за гэта?»

— Дык вось я і хачу папрасіць Тацяну Карпаўну, — ён сказаў гэта ветліва, з ветлівым кіўком галавы ў яе бок, — пачаць вучыць дзяцей нашых.

Тацяна адчула, як кроў застукала ў скронях. Яна адышла ад грубкі і наблізілася да стала. Каб не размова з Лубянам, не яго парада, яна плюнула б у вочы гэтаму здрадніку ў адказ на яго прапанову. Хто не разумее, што гэта здзек, што ён прыйшоў пасля таго, як даведаўся аб яе рабоце, аб сённяшняй гурбе дзяцей? Але ўсё ж гэта быў зручны момант выканаць загад Лубяна. І Тацяна, стрымаўшы гнеў, сказала:

— Але я не ведаю нямецкай праграмы і баюся, што буду вучыць не так, як хочаце вы...

Бугай мнагазначна ўсміхнуўся.

— Вучы дзяцей чытаць, пісаць на іх бацькоўскай мове, і ўсё. Якія там праграмы!

У размову ўмяшаўся Карп. З яго дапамогай яны дамовіліся. Памяшканне школы было занята паліцэйскімі, і староста аддаў пад школу былую калгасную канцылярыю.

Заняткі пачаліся праз два дні. Дзяцей спачатку было мала. Тацяну вельмі здзівіла, што дзеці Лубяніхі, Ленка і Сярожа, не з'яўляліся на заняткі. Але потым дні праз тры прыйшлі і яны. Яна

зразумела іх адсутнасць і іх з'яўленне пасля таго, як Люба паведаміла ёй, што ў гэтую ноч зноў прыходзіў дамоў Жэнька.

Прыход у школу дзяцей Лубяніхі быў як бы сігналам для ўсіх астатніх. На другі дзень у школе былі ўсе дзеці, якія павінны былі вучыцца.

Першыя некалькі дзён Тацяна не займалася, а пакутавала і раскайвалася, што дала згоду на такую работу. Ёй перашкаджалі вучыць па-сапраўднаму сыны старасты. Дзеці здрадніка! Два маленькія худзенькія хлапчукі, зусім не падобныя на свайго асілка-бацьку. Толькі чорныя такія ж. «Штось цыганскае ў іх пародзе», — гаварылі ў вёсцы. Абодва яны былі ціхімі, вельмі ўважлівымі і стараннымі вучнямі. Сваімі чорнымі цыганскімі вачыма яны сачылі за кожным рухам настаўніцы, і Тацяна бянтэжылася ад гэтых позіркаў і ненавідзела іх. Ад гэтага ёй было вельмі цяжка: яна заўсёды любіла сваіх вучняў, а тут раптам трэба ненавідзець. Спрабавала яна пераканаць сябе, што дзеці не вінаватыя і не могуць адказваць за бацьку-здрадніка, але гэта мала дапамагала.

Нарэшце яна адважылася рызыкнуць. На адным з урокаў узяла і расказала дзецям аб вялікім разгроме немцаў пад Масквой, расказала ўсю праўду так, як перад гэтым расказвала жанчынам. Пасля гэтага хвалюючага ўрока яна з палёгкай уздыхнула: самае страшнае і рашучае было зроблена. Некалькі дзён яна з напружаннем чакала арышту і была падрыхтавана да ўсяго: да пакут у гестапа, да ўцёку ў лес. Але нічога не здарылася. Аднак з таго часу яна пачала гаварыць з дзяцьмі асцярожней.

## XII

Генрыху Візэнеру не пашанцаваа ў службе. Да гэтага на працягу ўсяе вайны ён ішоў толькі ўгару, праўда, павольна, з патугамі, але ўпэўнена. А тут яго раптам спусцілі ўніз і зрабілі гэта вельмі ветліва, не паклапаціўшыся нават растлумачыць прычыну. Прычыну ён зразумеў сам, як толькі даведаўся, што камендантам раёна замест обер-лейтэнанта Візэнера прызначылі штурмфюрэра Койфера. Вядома, палітыка! Справа армейцаў ваяваць. Аб кіраванні ж захопленымі раёнамі паклапоцяцца іншыя. Ён зразумеў гэта і не пакрыўдзіўся. Праўда, спачатку спалохаўся, што яго могуць накіраваць на фронт. Але гэтага не здарылася. Відаць, яго работу і вопыт усё-такі цанілі. Яго прызначылі камендантам сяла Прыгары — важнага населенага пункта на скрыжаванні дарог. Гарнізон у яго быў невялікі, але надзейны: старыя служакі, яшчэ ў Бельгіі былі пад яго камандаваннем. Генрых Візэнер застаўся нават задаволеным. Ён не быў кар'ерыстам,

як многія палітыкі, і ўвесь час падкрэсліваў, што ён салдат, толькі салдат — не больш.

І вось новы начальнік выклікаў яго да сябе.

Дзень быў марозны. Звонка спявалі палазы. Коні фыркалі і лёгка беглі па наезджанай дарозе. На пярэдніх санках — трое салдат, на задніх — чацвёра; Генрых Візэнер — на сярэдніх, у зялёным вазку. Ён захутаўся ў вялікі чорны кажух і з прыемнасцю курыў сігару. Ехалі полем — знарок аб'язджалі лес. Снежная роўнядзь сляпіла вочы бляскам мільярдаў срэбных лусак. Генрых Візэнер хмурыўся і любаваўся цікавым краявідам. Ён успомніў, што ў кабінеце яго бацькі вісіць старая лубачная карціна. На ёй — такое вось зімняе поле і тройка сытых коней, запрэжаная ў вялікія сані. Коньмі кіруе малады чырванашчокі хлопец. Другой рукой ён абдымаў яшчэ больш чырванашчокую тоўстую дзяўчыну. І ў хлопца, і ў дзяўчыны вельмі тупыя твары. Па гэтай карціне Генрых з маленства ўяўляў рускіх, пакуль не спаткаўся з імі ў жыцці. І ён падумаў: «Поле падобнае. Але яны не... не такія. Упартыя, д'яблы... Але нічога, мы зламаем іх упартасць. Хай не радуюцца перамозе пад Масквой...»

Камендант прыняў обер-лейтэнанта Візэнера ў яго былой кватэры падкрэслена ветліва, выслухаў даклад аб падзеях на яго ўчастку і прапанаваў закусіць. Толькі пасля гэтага запрасіў у кабінет і прыступіў да справы.

— З вашага даклада, пан обер-лейтэнант, можна вывесці, што ў вашым раёне партызан няма. Даруйце... Але гэта не так. Яны ёсць, яны дзейнічаюць. Ні вам, ні мне не ўдалося знішчыць іх. Больш таго, колькасць іх з кожным днём расце. Вось што для нас самае страшнае,

Генрых Візэнер насцярожыўся.

— Гэтаму росту трэба пакласці канец! Дагэтуль мы змагаліся толькі з тымі, хто пайшоў у лес, не падумаўшы, што тыя, хто застаўся ў вёсках, — таксама партызаны і заўтра могуць быць у лесе. Трэба адбіць у іх ахвоту ісці ў лясы. Разумееце? Трэба любымі сродкамі спыніць рост партызанскіх атрадаў. Прапанавана правесці невялікія прафілактычныя меры, — штурмфюрэр Койфер пакорпаўся ў паперах і выцягнуў адтуль адзін аркуш. — Недалёка ад вас, пан обер-лейтэнант, ёсць вёска... вёска... — ён паглядзеў у паперы, — Арэхаўка. Ведаеце? Гэта — рассаднік партызанскай заразы, іх кубло. Па няпоўных дадзеных, адтуль пайшло ўжо ў лясы сем чалавек. Перада мной спіс. Прашу вас запісаць сабе...

Візэнер узяў паперу, дастаў вечнае пяро.

— Слухаю, пан штурмфюрэр.

— Кандыба Васіль, Лубян Яўген, Зайчук Алена, Зайчук Іван, Маеўскі Сяргей, Хахлоў Пётр, Шкаруба Якуб... Прапанавана, — штурмфюрэр хвіліну памаўчаў і зноў пакорпаўся ў паперах, — знішчыць іх сем'і. Даказана практыкай, пан обер-лейтэнант, што гэта найлепшы спосаб прымусіць падумаць іншых... Разумееце?

Генрых Візэнер даў начальніку зразумець, што загад яго ўцяміў і выканае дакладна.

Койфер падняўся таксама.

— Як гэта зрабіць, думаю, вам не патрэбны інструкцыі. Тэрмін — трое сутак, — і працягнуў руку.

Зноў рыпелі палазы. Лёгка беглі коні па наезджанай дарозе. Генрых Візэнер сядзеў моўчкі і думаў. Як гэта зрабіць? Арыштаваць і пасля расстраляць? Дзе? Гэта не асабліва падзейнічае на іншых. Арышт — знаёмая з'ява. Павесіць на плошчы, сабраўшы ўсё насельніцтва? Ён не любіў вешаць, а тым больш жанчын і дзяцей. Ды і рызыкоўна гэта з такой колькасцю салдат, як у яго. Ён зноў успомніў смерць Рэдара і ўціснуў галаву ў каўнер кажуха, агледзеўся на невялікія голыя кусты каля дарогі. Агідны выпадак! Тая дзяўчына ў той вёсцы?! Добра б, каб і яна трапіла ў гэты спіс. Хоць колькасць сем'яў можна павялічыць самому. Як жа выканаць гэта?

Візэнер любіў падумаць і ўсё дасканала ўзважыць. Ён быў тонкі псіхолаг. Ён быў рамантык. Усё трэба зрабіць таямніча, па-новаму, так, каб падзейнічала на псіхіку гэтых жывёл, каб у іх адпала жаданне ўцякаць у лясы.

План дзеяння ўзнік нечакана.

— Цудоўна! — обер-лейтэнант адкінуў каўнер кажуха, агледзеўся.

— Цудоўна! У іх згіне ахвота ўхадзіць у лясы.

XIII

Калі даўно пераваліла на другую палову зімовай ночы, чацвёра санак, запрэжаных парамі коней, спынілася на краі вёскі. З саней саскочылі нямецкія салдаты. Іх было каля дваццаці. На санках стаялі кулямёты.

Пяцёра гітлераўцаў аддзяліліся ад іншых і пайшлі ў вёску. Яны спыніліся каля хаты старасты, пастукалі ў шыбу. Ларывон Бугай даўно ўжо бестурботна спаў на цёплай печы разам са сваім малодшым сынам. Хлапчук першы пачуў стук у шыбу і разбудзіў бацьку. Стараста спакойна сунуў ногі ў валёнкі, якія стаялі на ляжанцы, накінуў на плечы кажух і, не глянуўшы ў акно, хто там, пайшоў да дзвярэй. Пачуў нямецкую гаворку — адразу адчыніў.

Гэта спадабалася Візэнеру, і ён смела пераступіў парог.

За ім зайшлі салдаты. У хаце Візэнер паморшчыўся ад цёплага кіславатага начнога паху і падумаў:

«Свінні. Не маюць спальні».

Стараста засвяціў лямпу. У хаце было чыста, прыбрана, усё стаяла на сваім месцы. Ложак быў занавешан ружовай фіранкай. Гэта таксама спадабалася Візэнеру. Ён сеў каля стала, пазяхнуў і пальцам паклікаў старасту да сябе. Дастаў аркуш паперы, тыцнуў у яго пальцам.

— Трэба паказаць, дзе жывуць вось гэтыя людзі.

На паперы было нешта напісана па-нямецку.

— Пойдзеш вось з ім, — паказаў Візэнер на салдата. — Яфрэйтар Курцар!

Яфрэйтар выцягнуўся.

Праз хвіліну яны выйшлі. А яшчэ праз хвіліну оберлейтэнант паказаў другому салдату кіўком галавы на дзверы. Той выйшаў і, хаваючыся, пачаў назіраць за старастам і яфрэйтарам.

Яфрэйтар спыніўся, дастаў паперу, асвяціў яе кішанёвым ліхтарыкам і выразна прачытаў:

— Кандыба Васіль.

Стараста ўздрыгнуў.

«Настаўнік. Камуніст. Навошта ён ім? Яго ж няма, ён з першых дзён на фронце. Хочуць арыштаваць? Каго? Хворага Івана Маеўскага ці яго дачку, жонку Кандыбы, якая тыдзень назад нарадзіла?.. Не паказваць? Але як растлумачыць ёлупу? Ды што яны зробяць ім? Пакажу...» Ён падвёў да дома Івана Маеўскага і паказаў пальцам. Яфрэйтар кавалкам крэйды напісаў на сцяне, паміж вокнамі, крыж. Потым зноў дастаў паперу.

— Лубян Яўген.

У старасты моцна закалацілася сэрца.

«Хаты партызан», — зразумеў ён і агляну́ўся навокал. Бліснула думка: накінуцца, задушыць і самому — у лес. Але ён успомніў аб тых, што засталіся ў яго хаце, аб Генрыху Візэнеру.

«Знішчыць сям'ю... спаліць усю вёску. Звер, а не чалавек... Што рабіць? А можа, яны проста хочуць праверыць хаты — ці няма дома партызан? Але чаму ж яны не пайшлі ўсе, а паслалі аднаго, і ён намячае хаты?»

Якія толькі думкі не ўзнікалі.

Стараста апусціў галаву, згорбіўся і панура пасунуў далей. За ім, асцярожна аглядаючыся, крочыў нямецкі яфрэйтар. «Ну, вось быў ты дурнем і загінеш ім, як сабака, — думаў стараста. — Здраднік! Не быў

ты здраднікам, а цяпер стаў ім. Прадаеш сваіх людзей... Эх, дурань, дурань! І ўсё жыццё так...»

Усё жыццё быў ён чалавекам ціхім, нелюдзімым, багамольным і, апрача працы, нічым не цікавіўся. Да рэвалюцыі бацька яго і ён былі беднякамі, пасля рэвалюцыі, атрымаўшы зямлю, ён стаў серадняком і нават пачаў багацець: добра адбудаваўся, тройку добрых коней набыў, тры каровы меў. У час калектывізацыі пад уплывам папа рашуча адмовіўся ўступіць у калгас. Яго двойчы абклалі «пацвёрдаму» — ён сам аддаў усё, а ў калгас усё-такі не пайшоў. А пасля, калі ва ўсім сельсавеце ён застаўся адзіным аднаасобнікам, яму было прыкра і крыўдна, ён глядзеў на працу калгаснікаў, на іх жыццё і зайздросціў ім. Але тады ўжо ніхто не агітаваў яго ўступіць у калгас, на яго забыліся і не звярталі ўвагі, а сам ён не мог пайсці і папрасіцца — саромеўся, не меў рашучасці, адвагі. Старэйшы сын, пайшоўшы ў армію, застаўся там на звыштэрміновую службу. У сваіх лістах ён пісаў, што яму, камсамольцу, сорамна ехаць да бацькі-аднаасобніка, і прасіў бацьку ўступіць у калгас. Пасля ён зрабіўся камандзірам, ажаніўся і ўжо абяцаў прыехаць у адпачынак. Бацька нецярпліва чакаў яго, спадзеючыся, што ён дапаможа яму ўступіць у калгас. Але тут пачалася вайна. Прыйшлі немцы, разбурылі калгасы і прапанавалі яму стаць старастам. Ён згадзіўся. Яму здалося спачатку, што ён перамог усіх, што перамагло тое жыццё, якім жыў ён адзін, а не тое, якім жылі ўсе і ў якое яго не пускалі.

Яму захацелася адпомсціць людзям за сваю шматгадовую крыўду.

«Буду я вам зноў дзяліць палеткі!". — падумаў ён тады са злоснай радасцю.

Але, будучы чалавекам сумленным, праўдзівым, ён вельмі хутка зразумеў, што памыліўся. Не гаспадаром ён стаў, а халуём у чужынцаў, якім ён патрэбны толькі ў тым выпадку, калі будзе прадаваць сваіх людзей. Але гэтага ён не мог рабіць. Выпадкова спаткаўшыся з партызанамі, ён звязаўся з імі і сумленна выконваў іх заданні. Яўген Лубян, які ў першыя дні пагражаў павесіць старасту на асіне, пасля смела заходзіў да яго. І стары палюбіў гэтага адважнага, вясёлага хлопца, як роднага сына.

...Кальнула думка:

«А раптам ён дома? Ён часта наведвае», — і Бугай знарок сказаў вельмі гучна:

— Хата Лубяна, пан яфрэйтар.

Немец напісаў крыж.

— Зайчук Алена.

Якая? У вёсцы дзве Алены Зайчук. Старая мнагадзетная ўдава, па вулічнаму прозвішчу Здорыха, і ўрач — Алена Рыгораўна Зайчук. Урача няма з першага дня акупацыі. Кажуць, яна эвакуіравалася. Засталася толькі яе старая маці і жыве адна. У Здорыхі — чацвёра дзяцей і два сыны ў арміі. Якая ж з іх трэба немцам?

«Пакажу доктарыху, — рашыў староста. — Што яны зробяць старой?»

— Зайчук Іван.

Старшыня калгаса. Аб ім таксама гавораць, што ён у партызанах. А дома — хворая жонка і пяцёра дзяцей. Старэйшая з іх — дзяўчына год васемнаццаці, прыгажуня, пявуння, артыстка. Яшчэ перад вайной Ларывон Бугай неяк выпадкова зайшоў вечарам у калгасны клуб і бачыў яе выступленне. Яна выконвала ролю ўкраінскай дзяўчыны-нявесты. На ёй было вянчальнае плацце і вянок. Яе з'яўленне на сцэне сустракалі воплескамі. Яе прыгажосць здзівіла нават яго, старога чалавека. Пасля ён часта з пяшчотай думаў аб ёй, уяўляў у такім убранні. Цяпер уявіў яе і Генрыха Візэнера, здзекі над дзяўчынай, і яму зрабілася страшна. «Не пакажу! — цвёрда рашыў ён. — Ірады вы!»

— Зайчук Іван, — яшчэ раз выразна паўтарыў гітлеравец.

І ў старасты раптоўна нарадзілася новая думка.

— Тут, — наказаў ён на дом Алены Зайчук.

— Вас?

Староста паказаў два пальцы:

— Два... Зайчук і Зайчук.

Немец кіўнуў галавой і напісаў на сцяне побач з першым яшчэ адзін крыж.

— Маеўскі Сяргей.

«А гэты навошта ім?» — здзівіўся староста. Сяргей Маеўскі — адвечны пастух. Сам ён у мінулым годзе хваліўся, што ў яго 50 год пастухоўшага стажу, і гэтаму верылі ў вёсцы. Жыў ён са сваёй адзінай дачкой-калекай, гарбатай ад нараджэння. Хата яго стаяла побач з хатай старасты. І калі гаварыць праўду, гэта быў адзіны чалавек, якога Ларывон Бугай мог бы назваць сваім сябрам. Як суседзі, яны часта хадзілі адзін да другога, падоўгу гутарылі вечарамі. І нават цяпер, калі Бугаі стаў старостам і ўсе ў вёсцы адвярнуліся ад яго, пастух па-ранейшаму заходзіў у хату і размаўляў так, як быццам нічога не здарылася.

«Нейкае непаразуменне», — падумаў староста, накіроўваючыся назад да сваёй хаты.

Генрых Візэнер нецярпліва паглядаў на гадзіннік і пачынаў нерваваацца. Староста вельмі доўга паказваў хаты. Заспявалі пеўні. Больш чакаць ён не мог. Падняўся і разам з салдатамі выйшаў на вуліцу. Салдат, які шпіёніў за старастам і яфрэйтарам, падбег і далажыў, што тыя вяртаюцца. Немцы пайшлі насустрач. І тут ў Візэнера нарадзіўся новы план. Ён злосна вылаяў сябе за тое, што не дадумаўся да гэтага раней і дарэмна патраціў столькі часу.

«Вядома, так будзе лепш. Будзе сведка... Няхай распытваюць у яго», — і сказаў перакладчыку:

— Староста пойдзе з намі.

Генрых Візэнер сам настойліва і патрабавальна пастукаў у акно хаты Івана Маеўскага. З хаты пачуўся жаночы голас:

— Хто там?

Афіцэр злосна вылаяўся па-нямецку, добра ведаючы з практыкі, што гэта найлепшы адказ на знаёмае рускае пытанне.

Сапраўды, у хаце адразу засвяцілі маленькую газнічку і праз хвіліну загрымела засаўка. Візэнер груба піхнуў дзверы нагой, але сам не зайшоў першым, а прапусціў спачатку трох салдат.

Староста зайшоў апошні і спыніўся каля дзвярэй. Па хаце спалохана мітусілася старая Маеўская. Іван Маеўскі падняўся на печы і, звесіўшы свае доўгія высахшыя ногі, хваравіта кашляў. Адкашляўшыся, ён перагануўся праз запечак і паглядзеў на старасту. Бугай не вытрымаў яго дакорлівага погляду і апусціў вочы. «Хутчэй бы скончыўся вобыск...»

Вера ляжала на ложку са сваім маленечкім. Яна падняла галаву з высокіх белых падушак, спакойна, абыякава паглядзела на немцаў і зноў лягла, пяшчотна пацалавала дзіця ў Лобік.

Візэнер падышоў да ложка і ўтаропіўся на яе. Яна зноў падняла галаву, спаткалася з яго позіркам, і ёй зрабілася жудасна. Яна закрыла твар далоняй і спалохана крыкнула:

— Мама!

Маці памкнулася да яе. Але ў гэты момант Візэнер загадаў:

— Курт, беганні

Стаяўшы поплеч з ім малады салдат з прыгожым тварам накіраваў маленькі пісталет на Веру. Ляснуў кароткі ціхі стрэл.

— Ма-а... — не скончыла Вера таго слова, якое было першым у яе жыцці і якое яна марыла хутчэй пачуць ад свайго сына.

Маці, відаць, не ўправілася зразумець,, што здарылася. Фашыст павярнуўся і стрэліў у яе. Яна схапілася рукамі за грудзі і павольна пачала хіліцца набок. Але Іван Маеўскі ўсё зразумеў з першага стрэлу, нібы чакаў гэтага. З жудасным крыкам: «Што вы робіце? Звяры!» —

ён скочыў з печы і сваімі кастлявымі рукамі ўчапіўся за забойцу. Гітлеравец стрэліў яму ў твар і ўдарыў нагой у жывот. Высокі, худы, ва ўсім белым, ён упаў адразу, моцна стукнуўшыся патыліцай аб падлогу. Галава яго ледзь не дастала да ног старасты.

Толькі тады Ларывон Бугай усё зразумеў. Ён убачыў чорную пляму на падушцы каля галавы Веры, і яна, гэтая пляма, пачала расплывацца ў яго вачах чырвоным туманам.

«Дык вось што яны робяць! — як у страшным сне, падумаў ён і пералічыў сем'і, хаты якіх паказаў: — Лубян... Зайчук. Хто ж яшчэ? Хто...»

Ён не мог успомніць іншых і бездапаможна агледзеўся навокал, і раптам яго ўвагу прыцягнуў нож. Ларывон схапіў нож і, пераступіўшы труп старога Маеўскага, размахнуўся і, напружыўшы ўсю сваю магутную сілу, усадзіў лязо ў шыю фашыста, які страляў. Гэта здарылася так нечакана, што аглушыла астатніх. Яны застылі, нібы зачараваныя. Застыў і стараста, не выпускаючы з рук нажа. І толькі тады, калі забіты немец бразнуўся на падлогу, а стараста застаўся стаяць з акрываўленым нажом, Візэнер закрычаў і адступіў да сцяны. Ларывон рушыў да яго, але салдат збоку ўдарыў дулам аўтамата па руцэ і выбіў нож. Тады і Візэнер падняў табурэтку і ўдарыў яго па галаве. Колькі хвілін ён стаяў моўчкі пад градам гэтых удараў, а потым ірвануўся на аднаго з салдат і сваім пудовым кулаком з усяе сілы штурхануў яму ў твар. Салдат зваліўся. У гэты момант пырснула аўтаматная чарга. Ларывон Бугай узмахнуў рукамі і ўпаў тварам на ложак, на грудзі забітай Веры. Па ім яшчэ стралялі, але ён ужо больш нічога не чуў. Не чуў і таго, як раптам закрычала дзіця і як Візэнер стрэліў у маленькі, яшчэ зморшчаны, ружовы тварык.

XIV

Таццяна прачнулася ад нейкага жудаснага сну (пасля яна не памятала, што іменна ёй снілася) і, як заўсёды, кінулася да калыскі. Хлопчык спаў спакойна. Яна пачула гэта па яго знаёмаму роўнаму дыханню. Супакоіўшыся, яна села на ложак і задумалася. Рытмічна цікаў будзільнік: храпела на печы Палагея. Мурлыкаў кот:

— Мур-р-р... мур-р-р...

Было цёпла і ўтульна ў хаце. І страшна было падумаць, што ў гэтую марозную студзеньскую ноч людзі ляжаць у полі, у лесе, зарыўшыся ў калючы снег. Яна падумала аб байцах на фронце, аб партызанах. «Дзе цяпер Жэнька? Дзе яны начуюць?»

У апошні час, пасля сустрэчы, яна вельмі часта думала аб ім і ўсё больш турбавалася.

Раптам яе думкі перабіў скрып снегу пад нагамі на вуліцы. Яна падышла да акна, прахукала ў замёрзшай шыбе шчыліну, прыклалася да яе адным вокам і ўбачыла: да хаты Лубяніхі падыходзяць людзі.

«Партызаны, — падумала яна. — І Жэнька, пэўна, там», — і ёй зрабілася радасна ад таго, што ён так блізка. Але ў гэты момант да яе слыху даляцела злосная нямецкая гаворка, і яна пазнала голас Візэнера — на ўсё жыццё яна запамятала яго. Радасць змянілася спалохам, прадчуваннем нечага жудаснага.

Гітлераўцы зайшлі ў хату Лубяніхі.

Таццяна ўздрыгнула, адчула, як халодныя мурашкі пабеглі па нагах, па спіне.

«Навошта яны пайшлі туды ў такі час? Што ім трэба?»

Яна хутка прайшла па хаце, спынілася каля ложка бацькі.

Карп не спаў, моўчкі назіраў за дачкой, а таму першы спытаў:

— Што там, Танюша?

— Немцы, тата... І ён, камендант. Да Лубянавых пайшлі... Што ім трэба?

Бацька падняўся, пачаў апранацца.

Таццяна зноў падышла да акна. У хаце Лубяніхі свяціўся аганёк.

Бацька выйшаў у сенцы. Яна ведала: пайшоў браць схаваны там рэвальвер. Праз хвіліну ён вярнуўся і стаў побач з ёй.

— Што яны робяць там, тата?

— Вобыск, вядома. Налёт. — І, памаўчаўшы, дадаў: — Хоць бы Яўгена не было.

— Чаго ён будзе ў такі час! — адказала яна, аднак адчула, як трывожна ёкнула сэрца. — А раптам да нас прыйдуць?

— Не прыйдуць. Што ім рабіць у нас? І нам баяцца няма чаго.

Карп намагаўся супакоіць дачку, але сам не верыў сваім словам.

«Д'ябал іх ведае, чаго яны цягаюцца ў такую пару. Што ім трэба? Хлопцам бы цяпер паведаміць. Яны адвучылі б іх бадзяцца», — падумаў ён аб партызанах, праціраючы цёплай далоняй шыбу.

Немцы выйшлі з хаты Лубяніхі вельмі хутка і шпарка пайшлі па вуліцы ў край сяла.

У Таццяны яшчэ больш трывожна закалацілася сэрца.

— Яны нешта зрабілі нядобрае, тата. Схадзіць бы туды...

— Ну, што ты! Нічога яны не зрабілі. Хацелі Яўгена захапіць, ды, бачыш, пайшлі несалона хлябаўшы. Данесла якая-небудзь сволач, што дома бывае...

— А я чагосьці баюся, тата! Схадзіць бы туды.

— Яны маглі засаду там пакінуць. Гэта манеўр мог быць...

Яны адышлі ад акна і пакрыху супакоіліся. Але Тацяна не магла заснуць і ўсё думала аб гэтым начным наведванні немцаў, аб Жэньку, аб партызанах. Работа ў школе больш не задавальняла яе. Зноў цягнула ў лес, да партызан. Яна не раз ужо спрабавала гутарыць аб гэтым з бацькам. Апошні раз ён раззлаваўся на яе.

— Не плявузгай глупства, — адказаў ён. — У іх баявы атрад, а не цыганскі табар, каб яны жанчын і дзяцей цягалі за сабой. Думаеш, лёгка там?

Яна ведала, што нялёгка. Каб не Віктар, яна даўно была б там. Але як пойдзеш у лес, дзе, магчыма, давядзецца начаваць на снягу?

«Хутчэй бы вясна, тады лягчэй было бы... Тады і ў лес можна пайсці», — думала яна.

Так яна больш і не заснула ў тую ноч. Паднялася раней за ўсіх, начысціла бульбы, запаліла ў печы і потым усё ранне памагала Палагеі. На світанні, не чакаючы, пакуль гэта зробіць бацька, хутка сабралася і пайшла ў пуню па сена. Пуня знаходзілася за садам, амаль пад самым лесам. Гэта была маленькая пахіленая будыніна з гнілымі сценамі і дзіравай страхой.

Тацяна шырока расчыніла вароты, каб больш было святла, і пачала пхаць у пяхцер сена.

І раптам нехта зверху ціха паклікаў яе:

— Таня.

Яна ўздрыгнула, выпрасталася, баючыся падняць галаву.

— Таня! — паклікалі гучней, і зашумела сена.

Яна перамагла страх і зірнула ўгару. Над яе галавой на сене стаяў Жэня Лубян. Яна раззлавалася: другі раз ён палохае яе. «Дурань такі! Усё жартачкі яму», — захацелася даць яму добрую аплявуху, каб ён больш не з'яўляўся так нечакана і не палохаў.

— Чаму ты топчаш сена? Злазь! — рашуча загадала яна, нават не прывітаўшыся.

Ён скочыў да яе, яна ўбачыла яго твар і змоўкла. Можа, першы раз за ўсё жыццё яна не ўбачыла ў яго вачах знаёмых, жартлівых іскраў смеху. Яны гарэлі нейкім агнём, а твар быў шэры, ажно чорны, з запалымі шчокамі.

— Што ў нас, Таня?

Яна ўспомніла пра начное наведванне гітлераўцаў і адчула, як халадзеюць пальцы, у якіх былі заціснуты жмені сена. Яна расшчапіла іх, і сена выпала.

— Немцы былі ў вас пад раніцу...

— І што? — нецярпліва схапіў яе Жэнька за руку.

— Не ведаю... Мабыць, вобыск рабілі.

— Вобыск... Эх, — уздыхнуў ён. — Хадзем!

— Яўген! Ты нікуды не пойдзеш! — адгукнуўся нехта з сена па-руску з волжскім вымаўленнем. Праз хвіліну з сена спусціўся і стаў побач з імі стары ўжо чалавек з густой барадою, у нямецкім шынялі. На шыі яго вісеў аўтамат.

— Не пойдзеш... Там засада можа быць. Няхай спачатку вось яна сходзіць, суседка. Гаспадыні раніцою ходзяць адна да адной. Ідзі, дзяўчына, разведай, што там у яго хаце, — звярнуўся ён да Тацяны. — Ды добра глядзі і хутчэй вяртайся.

Тацяна кіўнула галавой і, забыўшыся на сена, хутка пайшла з пуні. Яна перабегла свой двор, вуліцу і толькі ў дварах Лубянавых спынілася ў нерашучасці. Яе спыніла цішыня ў хаце — такой цішыні не бывае раніцой ў сялянскай хаце. «І ў печы не паляць... Што ж гэта такое, — з нарастаючым хваляваннем думала яна, баючыся ступіць на ганак. — Дзе яны? Можа, дамоў пайсці, бацьку паклікаць. Але ж яны прасілі хутчэй... Хутчэй!..»

Узышла на ганак. І тут спынілася зноў: дзверы ў сенцы і з сянец у хату былі адчынены.

«Значыцца, забралі ўсіх. Павялі. Але калі? Яны так хутка выйшлі і нікога не вялі...»

Яна зайшла ў сенцы і зірнула ў хату. Жудасны крык сам вырваўся з грудзей. Яна аслупянела і доўга не магла зрушыцца з месца.

Сярод хаты, раскінуўшы рукі, ляжала Ганна Лубян, маці Яўгена. Яе твар быў у крыві. А крыху далей, каля печы, абапёршыся грудзьмі на нізкі ўслончык, стаяла на каленях, нібы малілася, старая бабуля. Яна была ў белай кашулі. На спіне, паміж лапатак, на кашулі чарнела невялічкая пляма крыві. Больш Тацяна не ўбачыла нічога. Ёй зрабілася млосна: закружылася галава, чорны туман паплыў перад вачыма. Амаль у непрытомнасці яна выйшла на ганак і, ухапіўшыся рукамі за слуп, доўга стаяла, прагна глытаючы марознае паветра. Але праз хвіліну схамянулася і кінулася бегчы.

Яна бегла па снегу, не бачачы сцежкі, спатыкаючыся. Сэрца так калацілася, што здавалася, вось-вось вырвецца з грудзей.

Партызаны заўважылі яе і кінуліся насустрач. Жэнька на бягу схапіў яе за рукі.

— Што, Таня?

Яна глытала паветра і не магла вымавіць слова. Але ён усё зразумеў і заскрыгатаў зубамі.

— Гавары ж! — крыкнуў ён. — Што?

Яна заплакала. Ён адпіхнуў яе ад сябе і пабег да вёскі.

— Іх няма там? — спытаў таварыш Лубяна.

— Няма, — нарэшце адказала яна.

Стары партызан пабег за Жэнькам.

Калі яна, хістаючыся, зноў зайшла ў хату, там ужо былі бацька, Люба і стары дзядуля — сусед Лубянавых. Мужчыны стаялі моўчкі каля дзвярэй, зняўшы шапкі. Жэнька стаяў на каленях каля маці, падняўшы яе галаву. Ён пяшчотна сціраў далоняў кроў з яе лба і шаптаў:

— Мама! Мамачка!.. Што ж гэта яны зрабілі з табой? Родная мая... У-у, каты! — ён цяжка застагнаў, а потым падняў галаву, запалёнымі вачыма паглядзеў на прысутных.

— Дзядзька Карп! Дзед Навум, Таня! Што яны зрабілі, а? Завошта? Мама, бабуля...

Ён раптам падхапіўся, азірнуўся навокал.

— А Сярожа? А Ленка дзе? Дзе яны! — І шпарка пайшоў у пярэдні пакой. І адразу ж адтуль пачуўся яго стогн, цяжкі, абцякаючы сэрца.

У пярэднім пакоі на ложку ляжаў Сярожа, адкінуўшы галоўку і звесіўшы руку.

Жэня нахіліўся і моўчкі пацалаваў брата, а потым доўга-доўга глядзеў у яго бледны тварык з расплюшчанымі вачыма, у якіх застылі здзіўленне і жах.

У хату заходзілі суседзі. Плакалі жанчыны, дзеці. Сурова маўчалі мужчыны.

Таццяна стаяла, прытуліўшыся да сцяны, і доўга нічога не чула, не бачыла.

Карп Маеўскі і барадаты партызан перанеслі труп Ганны і бабулі ў пярэдні пакой, паклалі на ўслоны.

Жэня ўбачыў маці і зноў устрапянуўся, выйшаў з стану цяжкога здранцвення, што апанавала яго на некалькі хвілін.

— А Ленка дзе? Лена!..

Барадаты партызан раптам заўважыў кроў на падлозе: частыя кроплі крыві ад ложка да дзвярэй. Ён кінуўся ў кухню і заглянуў пад печ. Ленка ляжала там непрытомная, але жывая. Відаць, забойцы вельмі спяшаліся: куля лёгка раніла яе ў левае плячо. Дзяўчынка страціла прытомнасць ад страты крыві і холаду.

Жэня схапіў яе на рукі, пачаў цалаваць.

— Яна жывая, жывая... Перавяжыце яе!..

Люба скінула кажух, узяла дзяўчынку, загарнула яе і панесла ў сваю хату.

Жэня застаўся стаяць пасярод хаты ў расшпіленым кажуху, без шапкі. Вочы яго гарэлі, зубы былі сціснуты і ўвесь твар перакошаны

ад вялікага душэўнага болю. Рука нервова сціскала ручку гранаты, што была ў яго за поясам.

Таццяна раптам заўважыла, што ў яго белыя скроні. «Пасівеў», — уздрыгнула яна і хутка падышла да яго, дакранулася да пляча.

— Жэня.

Ён зняў руку з гранаты, пільна паглядзеў на дзяўчыну.

— Я вінаваты... я. Разумееш? Колькі разоў мне казаў Павел Сцяпанавіч, каб я не хадзіў у сваю вёску. А я... я думаў і не паслухаў яго. Што я нарабіў? Мама! Браток мой! Сярожа!.. Дарагія мае, — ён закрыў твар абедзвюма рукамі і, хістаючыся, пайшоў у пярэдні пакой.

У гэты момант нехта прынёс у хату жудасную навіну: у вёсцы яшчэ знішчаны тры сям'і — Івана Маеўскае, старасты Ларывона Бугая і забіта старая Зайчук.

Жэня пачуў гэта і выпраміўся, паглядзеў на людзей, якіх набралася поўная хата. Ён убачыў, як плача старая жанчына, а поплеч яе — дзяўчынка год дзесяці, і падняў руку, сціснуў кулак.

— Не плачце! Чуеце! Не плачце! Не трэба плакаць. Біць іх трэба! Біць гэтых праклятых звяроў. Жылы рваць!.. Агнём паліць, каб і духу іх не было на нашай зямлі. За кожнага нашага чалавека — сотню фашыстаў, — ён павярнуўся да забітых, панізіў голас: — Клянуся табе, мама, клянуся табе, брат, і табе, бабуля... Княнуся вам...

Больш ён не мог гаварыць — прарваліся цяжкія рыданні, і ён зноў закрыў твар рукамі.

Да яго падышоў барадаты партызан.

...Гітлераўцы разлічвалі, што начное забойства страшэнна ўразіць людзей, аглушыць іх: людзі зразумеюць, што такі лёс чакае кожнага, хто звяжацца з партызанамі, хто паспрабуе замахнуцца на «новы парадак», і зробяцца пакорлівымі авечкамі.

Сапраўды, усе — і дзіця і старэнькая бабуля — зразумелі, якая страшэнная небяспека штодня і штоночы вісіць над кожным чалавекам. Бо ў каго сын не ў Чырвонай Арміі? У каго зяць, як у Івана Маеўскага, не быў настаўнікам, раённым работнікам, брыгадзірам, актывістам? У каго дачка, як у старой Зайчук, не фельчар ці не ўрач? Хто не хварэў душою за сваю родную савецкую ўладу? Няма такіх людзей! Няма, калі не лічыць гэтага п'яніцу і злодзея Міцьку Зайца. Раней, да гэтага забойства, людзі маглі б яшчэ назваць старасту Ларывона Бугая. Але, відаць, усе памыляліся ў ім. Мабыць, не такім чалавекам ён быў, калі фашысты параўналі яго з Лубянам.

Вораг дабіўся аднаго: ён даў зразумець, што «новы парадак» — гэта парадак без суда і закону, гэта неабмежаваная ўлада забойцаў і

бандытаў. Праўда, аб гэтым ведалі і раней, але хто мог бы думаць, што гэтая ўлада лічыць злачынцамі двухтыднёвых дзяцей і будзе забіваць іх у ложку каля маці.

Цяпер гэта ўбачылі сваімі вачыма. Цэлы дзень людзі з Арэхаўкі, з Залесся, з Капыловіч — з усіх вакольных вёсак ішлі ў хату Івана Маеўскага і глядзелі на маленькі трупік з раздробленым апаленым тварыкам.

Галасілі бабы. Плакалі дзеці. Мужчыны да крыві кусалі губы і закрывалі шапкамі слёзы. А выйшаўшы на вуліцу, са сціснутымі зубамі лаяліся страшнымі словамі, каб аблягчыць душу.

Вораг разлічваў: забойства так напалохае людзей, што яны не толькі адхіснуцца ад партызан, але палічаць іх вінаватымі ў забойстве і будуць баяцца нават вымаўляць гэтае слова. Партызанскія атрады не атрымаюць падтрымкі людзьмі, харчамі, і гэта абяссіліць іх.

Але койферы і візэнеры дрэнна ведалі людзей, аб якіх усё жыццё мелі ўяўленне толькі па лубачных карцінках у кабінетах сваіх бацькоў. Жудасна было бачыць загінуўшыя сем'і, жудасна было думаць, што ў наступную ноч такі лёс можа напаткаць кожнага. Але вельмі нямногія падумалі так, як хацелася гэтага фашыстам, і затаіліся, баяліся нават з'явіцца на вуліцы. Большасць жа, сціснуўшы зубы, паўтаралі словы Яўгена Лубяна:

— Біць іх! Біць!..

На пахаванне сабраліся сотні людзей. Многія — з суседніх вёсак.

Немцы не паказваліся. Паліцэйскія таксама раптам кудысьці выехалі.

У апошнюю хвіліну на пахаванне прыйшоў узброены атрад партызан на чале з сакратаром райкома Лясніцкім. Усе партызаны, апрача сакратара, былі незнаёмыя людзі, рознага ўзросту, па-рознаму апранутыя. Яны прыйшлі строем проста на могілкі.

Людзі з павагаю расступіліся перад імі, далі дарогу да брацкай магілы, каля якой стаялі трынаццаць свежых трун рознай велічыні.

Партызаны стаялі, скінуўшы шапкі. Калі труны пачалі апускаць у магілу, партызаны паднялі вінтоўкі і аўтаматы, і чатыры магутныя залпы рассеклі цішыню марознага дня, грозна пракаціліся над вёскай, ударыліся ў сцяну лесу і кароткім рэхам зноў пакаціліся ў бок Дняпра.

Лясніцкі нахіліўся і падняў жменю жвіру. І ва ўрачыстай цішыні, нібы па камандзе, загучалі словы партызанскай клятвы:

— ...За спаленыя гарады і вёскі, за смерць нашых дзяцей, за катаванні, гвалты і здзекі з майго народа я клянуся помсціць ворагу жорстка, бязлітасна і няспынна. Кроў за кроў, смерць за смерць!

Людзі стаялі, слухалі гэтую святую клятву над магілай без віны загінуўшых людзей, і сэрцы іх напаўняліся вялікай надзеяй і ўпэўненасцю.

XV

— Люба пайшла з партызанамі,— паведаміла суседка Маеўскіх пасля пахавання. Гэта страшэнна перапалохала Палагею. — Ну вось, дачакаліся! Аддзякавала яна нам за нашу дабрату. Чакай цяпер ночы,— злосна крычала яна і пачала збірацца да сястры.

Таццяна раззлавалася. Яе зусім не спалохала тое, што Люба пайшла. Наадварот, яна адчула нейкую радасць ад гэтага і падумала:

«Вы хацелі, гады, напалохаць народ?.. Дык вось вам!.. Сёння яна... А заўтра я пайду. Усе пойдзем... Каб біць вас...»

Яна цвёрда пераканала сябе, што не сёння-заўтра таксама нойдзе да партызан, што цяпер ужо нішто не затрымае яе.

Карп Маеўскі больш за ўсіх клапаціўся і працаваў на пахаванні, страшэнна змарыўся фізічна і душэўна, ды яшчэ ў дадатак прастудзіўся і адчуваў сябе зусім хворым. Нечаканае знікненне Любы (яна нікому нічога не сказала) і ў сувязі з гэтым уход Палагеі разгубілі і збянтэжылі яго.

— Куды ты пойдзеш, Поля? — ласкава пачаў ён прасіць жонку. — Магчыма, яна і вернецца яшчэ... Ды што яна? Яна — сабе гаспадар. У яе маці забілі...

Палагея і слухаць не захацела яго.

— Застанься. Разам будзем чакаць. Ад смерці не схаваешся.

Палагея павярнулася і падперла рукамі бакі.

— Ідзі пашукай дурняў такіх, як сам. Чакаць... Я паміраць не хачу з-за такой шалёнай пляменніцы.

Таццяне стала крыўдна за бацьку, за тое, што ён уніжаецца перад гэтай неразумнай бабай. Доўга яна трывала яе лаянкі, прыдзіркі, але тут вытрымаць не магла:

— Што вы просіце, тата, яе? Што ў яе агульнага з намі? Ёй даўно не месца ў гэтым доме. — І павярнулася да Палагеі: — Прэч! Каб і нагі тваёй не было больш!

Палагея, прывыкшая да маўклівасці, ветлівасці і пакорлівасці падчаркі, была ашаломлена і, пабялеўшы, некалькі хвілін глядзела на яе.

— Прэч!

— Не трэба, Таня, — папрасіў бацька. — Чаго гэта вы счапіліся?

— Не перашкаджайце, тата. Хопіць трываць...

— Ах, так! — нарэшце вымавіла пабялеўшая ад злосці Палагея і больш не сказала ні слова: моўчкі доўга збірала свае рэчы.

Бацька таксама маўчаў, стаяў каля акна і нервова камячыў пальцамі край фіранкі.

Толькі выходзячы, Палагея злосна кінула:

— Ты ўспомніш яшчэ мяне, саплівая настаўніца!

Карп памкнуўся ўслед за ёй, але Тацяна рашуча

спыніла яго:

— Сорамна, тата.

Бацька паслухмяна сеў, паківаў галавой.

— Ах, Таня, Таня! Навошта ўсё гэта? Гарачая ты! Палагея мо-жа ад злосці чаго хочаш нагаварыць. Не падумала ты пра гэта. А цяпер давядзецца ісці мірыцца.

Таня адчула горкую праўду ў яго словах, але змоўчала. А адвячоркам вярнулася Люба. Яна з'явілася, як нічога не было, і сказала, што са сваімі школьнымі сяброўкамі хадзіла ў Залессе, Але па яе бадзёраму выгляду, па яе вачах, у якіх свяціліся нейкія асаблівыя незнаёмыя агеньчыкі, Тацяна бачыла, што яна маніць, што ў яе жыцці здарылася нешта такое, аб чым яна бадай што не прызнаецца і ёй, А таму Тацяна і не стала распытваць: прыйдзе час — раскажа сама. Толькі сказала:

— А Палагея спалохалася: думала — ты да партызан пайшла, і ўцякла.

— Куды ўцякла?

— Да сястры пайшла.

Яна прачытала на Любіным твары такое вясёлае задавальненне, што тут жа хуценька знакамі папрасіла яе маўчаць, не выказваць усяго гэтага словамі. Тацяне было шкада бацькі. Яна ведала: за ўсё сваё жыццё ён знарок не пакрыўдзіў ніводнага чалавека. Тым больш цяжкім для яго было пакрыўдзіць блізкага чалавека. З Палагеяй ён нядрэнна жыў. Яна прыйшла тады, калі родныя дзеці пакінулі яго аднаго, разляцеліся з бацькоўскага кубла ва ўсе бакі. Дык ці мела яна права, знайшоўшы прытулак ад навалы ў бацькавым доме, выганяць гэтую жанчыну?

«Не, маю права, — упэўнена адказала Тацяна на свае думкі. — Толькі зрабіла я гэта неразумна і не ў той час. І бацьку балюча...» Яна ведала: ён пойдзе прасіць Палагею вярнуцца. Ён зробіць гэта не для сябе, а каб не нашкодзіць справе. Ёй было сорамна перад бацькам. Але адначасова з гэтым пачуццём было і другое: задавальненне ад таго, што ў доме няма чужога чалавека, што цяпер яны ўсе свае, усе з аднымі думкамі, з аднымі поглядамі, імкненнямі і смела маглі

гаварыць, раіцца аб усім, што хвалюе іх. Ды і бацька хутка супакоіўся. Не тое было ў галаве, не аб тым думалася. Наступала ноч. Першая ноч пасля жудаснага забойства. Невядома, што можа здарыцца і ў гэтую ноч, цяпер усяго трэба чакаць, да ўсяго рыхтавацца. У старога разбалелася спіна так, што цяжка было адарвацца ад цёплай печы, падняцца. Але ён перамог сваю слабасць і сеў.

— Дык што ж будзем рабіць, дзеці? — спытаў ён у дзяўчат, якія ціха рыхтавалі вячэру, перашэптваючыся паміж сабой. — Не чакаць жа нам, пакуль яны і нас прыкончаць...

А я думаю, дзядзька, — адгукнулася Люба, — пакуль што яны нікога чапаць не будуць. Пачакаюць. Яны зрабілі гэта, каб напалохаць людзей і спыніць рост партызанскіх атрадаў, Яны пачакаюць цяпер. Яны зрабілі гэта не толькі ў нас...

— Ды ты адкуль ведаеш усё гэта? — здзіўлена спытаў Карп. А Таццяна паглядзела на сястру і канчаткова пераканалася, што тая была не ў Залессі.

— Людзі ў Залессі казалі.

— Людзі... Людзі цяпер шмат чаго нагавораць. А хто ведае, што думае звер, куды ён накіруецца ў наступную ноч? — І стары цяжка ўздыхнуў: — Эх, з Паўлам Сцяпанавічам не ўправіўся пагутарыць. І ісці не магу. Зусім расхварэўся... А трэба параіцца.

Іх размову спыніла з'яўленне жонкі старшыні калгаса Мар'і Зайчук з малодшым сынам. У хворай жанчыны і ў шасцігадовага хлапчука былі чырвоныя заплаканыя вочы. Хлапчанё тулілася да маці і палахліва шаптала:

— Я баюся, мамачка. Мне страшна...

Жанчына, зайшоўшы ў хату, разгубілася і не ведала, што гаварыць.

— Вы ўжо выпальваеце? — звярнулася яна да Любы. — Добра вам усім разам... Вось вы і выпалілі і вячэра гатова ў вас... А я... адна... адна, а іх пяць... Насця пайшла, — яна не сказала, куды пайшла яе старэйшая дачка, — Я адна... І нічога не рабіла яшчэ, рукі апусціліся, — і раптам заплакала, за ёй заплакаў і хлапчук.

Таццяна абняла яе за плечы, правяла і пасадзіла на канапу.

— Супакойся, цётка Мар'я. Люба, дай вады.

— Не трэба, Танечка, — жанчына ўзняла галаву, убачыла на печы Карпа і звярнулася да яго:

— Што ж гэта такое, дзядзька Карп? Што ж гэта яны робяць? А-а? Як жа жыць цяпер людзям? Гэта ж яны сёння па нас прыйдуць, сыночак мой... А бацька ж ваш... — яна зноў заплакала і гаварыла праз слёзы: — Бацька ж ваш так наказваў мне сцерагчы вас, ягадкі

вы мае. А як жа я вас усцерагу ад гэтых людаедаў? Любыя вы мае!.. Куды ж нам схавацца ад іх? Дзядзька Карп, родненькі мой, парайце ж вы нам...

«А што, калі ўсе так напалохаліся?» — падумала Тацяна і чамусьці разлзавалася на гэтую хворую жанчыну, на яе слабасць.

Магчыма, і бацька адчуў гэта ж, бо сярдзіта сказаў:

— Перастань, Мар'я! Слязамі не паможаш. А баяцца няма чаго. Сёння яны не з'явяцца, а там пажывём — пабачым.

— Ой не, дзядзечка, прыйдуць яны зноў. Кажуць, кожную ноч будуць па столькі знішчаць, аж пакуль нікога не застанецца, — перастаўшы плакаць, выціраючы рукавом слёзы, адказала Мар'я.

— Не гавары глупства!.. Дзяцей не палохай! Так мы і дамо ім сябе знішчыць! Як жа, няхай чакаюць! Не бойся!

— Ды я сама не баюся. Вось за іх дрыжу. Мне ўсё адно паміраць, а яны павінны бацьку дачакацца. Іван, як уходзіў, гаварыў: «Сцеражы, Мар'я, іх...» А як жа мне ўсцерагчы, калі такое?.. Вось і прашу я: людзі добрыя, дапамажыце мне захаваць маіх птушанят. — Яна паднялася, падышла да печы, зашаптала: — Усіх ужо развяла па людзях, адзін вось застаўся, меншанькі самы. Дзядзька Карп? — яна ўтаропіла на яго позірк.

Карп маўчаў. Дзяўчаты глядзелі на яго, чакалі, што скажа ён.

Хлапчук таксама прытаіў дыханне і паглядаў то на маці, то на дзядзьку.

— Адна застануся ў хаце... Няхай ужо мяне адну. А вось людзі добрыя не пакінуць іх, і дачакаюцца яны таго светлага дня і свайго бацьку...

Карп задуменна, не спяшаючыся, пачухаў патыліцу.

— Бачыш, Мар'я... Як табе сказаць?.. Ты ведаеш, што мы таксама не з надзейных. Я баюся, што да нас яны могуць у першую чаргу дабрацца.

— Дзядзька Карп, не шукаю я «надзейных», ды і не пайшла б да такіх. Да сваіх людзей я прыйшла. Няхай не бачаць мае вочы смерці маіх дзяцей — голас яе загучаў па-новаму — цвёрда, упэўнена.

У размову ўмяшалася Люба.

Дарэмна вы, цётка Мар'я палохаеце дзяцей. Але калі ўжо такое, хай застаецца... Месца хопіць. Ідзі сюды, Ігар. Ды нос вытры і не плач! — сурова загадала яна хлапчуку. Той паслухмяна выцер рукавом нос, потым вочы і, адарваўшыся ад матчынага кажуха, за які ўвесь час трымаўся, падышоў да Любы.

Мар'я закрыла рукой вочы і некалькі хвілін стаяла нерухома, стрымліваючы плач. Ёй раптам стала жудасна ад таго, што яна адна

павінна пайсці ў апусцелую хату і там чакаць... Чаго? Магчыма, смерці. Думка аб тым, што, можа, апошні раз бачыць яна сваё дзіця, так напалохала яе, што яна ледзь не кінулася да хлапчука, каб забраць яго з сабой назад, каб з ім перачакаць гэтую доўгую зімовую ноч. Старэйшых дзяцей ёй не так было шкада, у яе было лягчэй на сэрцы, калі яна выходзіла з хат, дзе заставаліся яны. Але як выйсці з гэтай хаты, дзе застаецца яе маленькі Ігар?

— Ну вось і добра. Вячэраць будзем, Ігар, — пачула яна голас Любы і збялела, адняла руку ад вачэй.

— Супакойся, Мар'я, — ціха і ласкава сказаў Карп, злазячы з печы. — Нічога не здарыцца.

Мар'я схапіла яго руку, сціснула яе абедзвюма сваімі.

— Дзякую вам, дзядзечка, за ласку, за добрае слова. Даруйце мне... Дабранач вам, — і хутка выйшла.

Карп цяжка апусціўся на зэдлік каля стала, сціснуў рукамі галаву.

— Да чаго дажылі, дзеці, а-а, — здалося, не сказаў, а прастагнаў ён. — Маці баіцца дзяцей пакінуць у іх роднай хаце... Да чаго дажылі...

Хвіліну ён памаўчаў, а потым падняўся і падышоў да ложка, на якім сядзеў і забаўляўся лялькамі маленькі Віктар, паглядзеў на яго і ўжо другім голасам сказаў:

— Ну, нічога, унучак... Мы перажывем гэта. Перажывем...

...Таццяна і не падумала, каб працягваць заняткі ў школе. Ды ніхто і не пусціў бы свайго дзіцяці цяпер, каб яна і захацела займацца.

Вёска прытаілася, заціхла, як і ў першыя дні акупацыі.

Невядома, хто гэта надумаў, падказаў, але на другую ноч у канцы вуліц, з якіх выходзілі дарогі з вёскі, заселі вартавыя, па два-тры чалавекі. А яшчэ праз дзень па вёсцы папаўзла патаемная чутка: кожную ноч на краі лесу стаяць партызаны і сцерагуць вёску: няхай цяпер толькі пасунуцца фашысты ноччу ў вёску, як адразу тут жа будуць і нашы.

Вядома, не ўсе паверылі гэтым чуткам. Напрыклад, у доме Маеўскіх махнулі рукой.

— Глупства. Многа такіх вёсак.

Але людзі ўздыхнулі лягчэй. І нават Мар'я Зайчук больш не рассылала на ноч сваіх дзяцей у чужыя хаты.

А вартаваць хадзілі ўсе па чарзе. Таццяна з Любай таксама вартавалі ўсю ноч, зусім не ўяўляючы сабе, што б яны рабілі, каб гітлераўцы сапраўды з'явіліся.

## XVI

Падаў густы вільготны снег, які часта падае ў сакавіку — апошні снег зімы. У гэтай снежнай імгле раней звычайнага наступіла ноч і ахутала ўсё навокал густой цемрай. З сярэдзіны вуліцы не было відаць хат, толькі мільгалі цьмяныя агеньчыкі акон, нібы адкульсьці вельмі здалёку.

Чалавек ішоў пасярод вуліцы, ішоў шпарка, палахліва аглядваючыся, схаваўшы твар у каўнер паліто. У канцы вёскі ён павярнуў да хат і спыніўся перад адной з іх, маленькай, пахіленай, вокны якой былі завешаны саламянымі матамі.

Чалавек аглянуўся яшчэ раз і хутка праскочыў у двор праз шчыліну ў варотах. Акно з двара не было завешана, і ён асцярожна падкраўся да яго, зазірнуў у хату.

Палагея сядзела каля стала, на якім стаяла маленькая газоўка, і нешта шыла.

Чалавек ціха пастукаў.

Яна ўздрыгнула, укруціла агонь ў газоўцы і падышла да акна.

— Хто там?

— Я. Адчыні.

— Хто ты?

— Адчыні, кума. Не пазнаеш, ці што?

Яна адчыніла. Мацей Кулеш зайшоў следам за ёй у хату, ля парога абцерушыў з шапкі і з каўняра мокры снег.

— Воўкам ты жывеш, кума. Жывых людзей баяцца стала. Здзіўляешся такому госцю! Эх, кума, кума! — ён падышоў, пахлопаў яе па крутому плячу, як гаспадар добрага каня, падміргнуў, усміхнуўся. — Старую дружбу забываеш.

Яна зразумела яго намёк, пачырванела і ветліва запрасіла распранацца і садзіцца, а сама ўзяла коўдру, завесіла ёй апошняе акно. Падкруціла газоўку.

Кулеш распрануўся, падсеў да стала. Гэта быў высокі чалавек год трыццаці пяці з шырокім тварам і вадзяністымі бескаляровымі вачыма. Ён заўсёды ветліва ўсміхаўся і гаварыў ціхім голасам, які зусім не пасаваў да яго здаровай, моцнай постаці.

Да вайны сям'я яго была ў калгасе, а сам ён большасць раз'язджаў — шукаў лёгкага хлеба. Працаваў швейцарам у рэстаране, насільшчыкам пры вакзале і яшчэ недзе, але жыў увесь час сціпла, непрыкметна і ў вёсцы лічыўся добрым чалавекам. Толькі год пяць назад так вось, цёмнымі вечарамі, ён часам наведваў ласкавую ўдаву.

Вось чаму Палагея спаткала яго, як старога сябра. Ёй было сумна і крыўдна адной у сваёй старой хаце, і яна рада была госцю.

Кулеш заўважыў гэта і, усміхаючыся, сказаў:

— Я таксама, Поля, сумаваў адзін. Сумота страшэнная. З жонкаю, ты ведаеш, як я жыву: як сабака з кошкай, няма тае хвіліны, каб не пасварыліся. На вуліцу вечарам выйсці і то страшна: ідзеш як быццам па вымершай вёсцы.

— Напалохаліся людзі, — сказала Палагея, папраўляючы падушкі і разгладжваючы коўдру.

— Напалохаліся. Ды я думаю — дарэмна астатнія палохаюцца. Не будуць яны чапаць простых людзей. Не пайшлі яны, напрыклад, да мяне, хоць я і на чыгунцы служыў. Але што ім да мяне? Я працаваў для сваёй карысці, для свайго жыцця. Я чалавек просты. Мне ўсё адно, якая ўлада, абы я меў кавалак хлеба. Ды і да іншых такіх не пайшлі. Не бойся, ведалі, каго выбраць. Гэты сапляк Лубян з гранатамі па вёсках гуляе, машыны нямецкія па шашы падрывае. А Кандыба, кажуць, камандзірам у іх, у партызан... А ўлада, яна, брат, ёсць улада. Беспарадкаў не любіць. У кожнай улады ёсць ворагі. Але што гэта мы ўзяліся аб палітыцы разважаць, як на сходзе на якім? Не нашага гэта розуму справа, кума. Мы — людзі цёмныя, нам абы грошы ды гарэлка. Так? — ён лісліва засмяяўся, падняўся і, падышоўшы да свайго паліто, якое вісела на кручку каля дзвярэй, выцягнуў з кішэні бутэльку самагонкі.

— Вось гэта нам.

Палагея падхапілася, замітусілася па хаце.

— А я сяджу, як дурніца. Частаваць жа трэба дарагога госця. Ах, даруйце мне, Мацей Дзянісавіч...

Праз хвіліну на стале з'явілася закусь.

— Садзіся каля мяне, Поля, — папрасіў Кулеш.

Яна села на ўслон поплеч з ім. Ён наліў. Чокнуліся, выпілі. Кулеш панюхаў скарынку хлеба.

— Прыемная самагоначка? Праўда? Сам гнаў. Люблю гэту работу.

Ён закусіў хлебам з салам і абняў правай рукой жанчыну за плечы, прыгарнуў да сябе яе здаровае, разгарачонае цела, пацалаваў у шчаку,

— Эх, Поля! Выгнаў цябе стары Масол (гэта была вулічная мянушка Маеўскага). Але ты не гаруй.

Палагея адхіліла яго руку, адсунулася. Пачырванела.

— Дык хто табе сказаў, што ён выгнаў?

— Людзі.

— Людзі!.. Ты ў мяне запытай, калі прыйшоў да мяне. Сама я кінула. Карп чалавек як чалавек, жыць можна. Ён ужо прыходзіў

прасіць, каб я вярнулася... Ды дачка ў яго вельмі разумная, настаўніца гэтая. Такая заноза. Папала дзесь яўрэйскае дзіця і няньчыцца з ім, за сына выдае.

— Ды што ты кажаш? — здзівіўся Кулеш. — Значыцца, яна замужам не была?

— Ды чорт яе ведае! Можа, яна дзесяць разоў замужам была. Але дзіця гэтае не яе. Хацела мне галаву адурыць, ды не з такіх я. З першага дня разгадала, у чым справа. Яна: «сыночак, сыночак», а малака ў самае няма і не было. У пялёнкі захутаць не ўмее, чым карміць не ведала, і дзіця імя свайго доўга не разумела — не тое імя. Ды і так дурному відаць, што яўрэйскае дзіця. Толькі дурны бацька не здагадваецца і ўсё яшчэ верыць ёй.

Кулеш ціха і задаволена засмяяўся і падсунуўся бліжэй да жанчыны, зноў абняў.

— Разумная ты, Поля. Цябе вакол пальца не абвядзеш.

— А ты хацеў абвесці? Мала кашы з'еў.

— Што ты! Чаго нам абводзіць адно аднаго. Мы з табой па-свойску, як кажуць, па-роднаму. Праўда? — ён наліў яшчэ. — Слухай... К слову прыйшлося... Балбочуць у вёсцы, што партызаны заходзяць да Масола. Праўда гэта?

— Сам кажаш, што балбочуць. Значыць, балбатня і ёсць, — адказала Палагея, насцярожыўшыся. — Ніякіх партызан не бачыла я, ды і не было іх. Думаеш, Карп такі дурань, каб звязвацца з якім-небудзь Лубянам? Ён разумней за цябе. Хто калі абдурыў яго? А ніколі ніхто. Вось толькі пляменніца яго, Хрысціны дачка, дык тая з языка не спускае партызан. У сне іх бачыць. З-за гэтага і я ўцякла ад іх. Сказалі: з пахавання з партызанамі пайшла. Ну, я і злякалася. Думаю: чаго гэта я за якогасьці чорта лысага галаву сваю буду падстаўляць? Нашто мне гэта здалося?

Кулеш слухаў яе вельмі ўважліва, прыхільна ківаў галавой.

— Але нікуды яна не пайшла, толькі балбоча ды людзей з тропу збівае.

— Шкада табе Масола. Сумуеш? — усміхнуўся іранічна Кулеш.

— Было б па чым сумаваць! Толькі і звання, што муж...

— Ах і баба! — у захапленні ўсклікнуў Кулеш і пагасіў газоўку...

Ён выйшаў ад яе апоўначы, калі толькі ў адной школе, у паліцэйскіх, свяціўся аганёк — ён ніколі не пагасаў там. Снег перастаў ісці. З захаду дзьмуў пругкі вільготны вецер і прыносіў той характэрны пах, па якім пазнаецца, што блізка вясна,

Кулеш на гэты раз не туліўся да хат, ішоў смялей і не так хутка. Яму не хацелася вяртацца дамоў, дзе, ведаў ён, жонка спаткае

лаянкай. Ёй вельмі не падабаюцца гэтыя яго начныя адлучкі, знікненні на два-тры дні і асабліва тое, што ён прыносіў дамоў грошы, рэчы і не ўмеў растлумачыць, адкуль усё гэта ён бярэ. Праўда, у апошні час ён «шчыра прызнаўся», што звязаны з партызанамі, і яна крыху супакоілася, але патрабавала, каб ён расказваў, дзе быў, адкуль што ўзяў.

«Дурніца! — злосна падумаў ён, успомніўшы апошнюю размову з жонкай. — Адроддзе Маеўскіх! Пачакай, возьме маё, я з табой расквітаюся! Я табе пакажу партызан!..»

Але праз некалькі крокаў ён з трывогаю падумаў: «А ці возьме? Хто выйграе? Чорт іх ведае! Хваліліся, крычалі, што Маскву возьмуць, а цяпер, кажуць, ім морду пад Масквой набілі, — падумаў так і пацёр рукі, здаволены сабою. — Разумны ты чалавек, Мацей Дзянісавіч! Галоўка! Правільную дарожку выбраў. Хто прайграе, хто выйграе — чорт з імі!.. А ты заўсёды выйграеш. Тонка. Хе-хе, — ён паглядзеў на школу: — Вас, галубчыкі-зайцы, як вернуцца свае, на першую асіну... А Мацей Дзянісавіч можа нават у апошні час туды, у лясочак, выканаць жаданне жонкі, і яго прымуць. А цяпер? Хто вы цяпер? Пешкі, чурбаны, халуі. А я? Я кірую вамі.

Адно маё слова, і вас не будзе тут. Мяне сам пан камендант запрашае садзіцца, шакаладкамі і сігарэткамі частуе, кожнай парады слухаецца. Што вы робіце, зайцы? Самагонку п'еце і дрыжыце за свае скуры. А я партызан выкрыў. Я... Усё я... Вось, напрыклад, сёння... Вядома, пусцяковая справа... Але вы паўгода тырчыце тут і не бачыце, што пад носам у вас яўрэя росцяць. Хе-хе... За тваю ласку, Полечка, я зраблю табе паслугу. Дзянькі праз два-тры настаўніцу гэтую з яе прыёмышам за ножкі павесяць. Вось так... Кхе...»

Страшны чалавек ішоў па вуліцы вёскі, страшней за тых, што там, у школе, хто нават там, у раённым цэнтры. То — адкрытыя ворагі, здраднікі, прыблуды, а гэта свой вясковец, Мацей Кулеш, якога ўсе лічылі добрым чалавекам, ціхім, ветлівым. І ніхто не ведае, што чалавек гэты ўсё жыццё думаў толькі аб сабе, аб сваёй скуры і пра тое, каб набіць сытней свой жывот, гатовы прадаць роднага бацьку. Калі яго аднавяскоўцы, сябры, родны брат паміралі за Радзіму ці з крывавымі нагамі адступалі на ўсход, ён трое сутак праляжаў каля Чарнігава на балоце і дачакаўся немцаў. Ён сам пайшоў да іх, прапанаваў свае паслугі, паставіў умову: працаваць таемна. Немцы з ахвотаю згадзіліся і цэлы месяц вучылі яго ў спецыяльнай школе. І вось ён працуе, служыць...

XVII

У печцы зырка гарэлі дубовыя дровы. Чырвона-сіняе полымя гуло, аблізваючы тоўстыя галавешкі. Святло ад печкі падала конусам на падлогу, асвятляла сцяну. На сценах скакалі, трапяталіся дзіўныя цені.

Перад печкаю, на падлозе, размясцілася трое паліцэйскіх. Два з іх сядзелі адзін супроць аднаго, падцягнуўшы пад сябе ногі. Трэці ляжаў на жываце, раскінуўшы рукі.

Душнае паветра было напоўнена парамі спірту, пахам бруднага чалавечага поту, прэлых ануч і гнілога дрэва.

Міцька Заяц сядзеў у адной споднай кашулі. Яго сабутыльнік, паліцай Храпкевіч, быў апрануты ў кажух і бесперапынна ікаў. Між імі ляжала класная дошка, на ёй стаялі тры бутэлькі самагону і ў беспарадку валяліся хлеб, сала, цыбуля, нямецкія сігары, кавалак паперы.

Ад святла печкі твары паліцаяў былі ненатуральна чырвонымі, а рысы расплываліся, і яны былі дзіўна падобныя адзін на аднаго, як двое блізнятаў.

— Адсунь ты гэтую свінню. Ваніць, — сказаў Міцька Заяц сябру.

Храпкевіч паглядзеў на таго, што ляжаў, паморшчыўся агідліва і сказаў:

— Ну яго к чорту! Набраўся — хай здыхае, — але, падумаўшы, павярнуўся і, уцёршыся нагамі ляжачаму ў бок, адкаціў яго за сябе, а потым узяў кажух і накрыў ім ваніты. Заяц засмяяўся.

— Вытры яго кажухом, хай заўтра чысціць, свінтус такі. Не ўмее піць... Піць трэба ўмець. Няхай у мяне павучыцца, блазнюк. Я вядро выпіваю. Во-о-о! — ён узяў бутэльку і, раскруціўшы яе, накіраваў горлачкам у свой шырокі рот. Забулькала вадкасць. Сударгава задрыжаў вялікі кадык.

— У-у, які бык ты! Налі і мне.

Заяц працягнуў яму бутэльку. Храпкевіч наліў у кансервавую банку, падняў і горка ўсміхнуўся:

— Жры, Сцяпан, усё адно здохнеш. Гэта мой нябожчык бацька заўсёды так гаварыў. І здох на Салаўках.

— Ну, мы на Салаўкі не пападзем!

— Нас тут павесяць, як сабак. Як старасту Ліпскага — на калодзежным жураўлі.

— Пайшоў ты... гад ты такі!.. — закрычаў Заяц. — Пакуль мяне, дык я раней...

— Фіць! — свіснуў Храпкевіч. — Кароткія рукі!

— Не кароткія.

— Кароткія, дружок. Усіх іх не перавешаеш. Чуеш? Зламі іх у лесе! Яны ўсе ў лес пойдуць. Чуеш? Эх ты! Не разумееш ты гэтага і не бачыш за бутэлькамі. А я вось зразумеў пасля здарэння з Бугаём. Калі Бугай быў за іх, то хто ж тады не за іх? Хто? Скажы мне!..

— Пакончыць з тымі — змоўкнуць і гэтыя, душа з іх вон. Змоўкнуць! Немцы навядуць парадак. А пакуль — пі, гуляй, Міцяга! Чуеш ты, ікаўка?

Заяц схапіўся за другую бутэльку, але Храпкевіч працягнуў руку і прытрымаў яе.

— Немцы навядуць парадак. Навя-яду-ць, — працягнуў ён. — Але цаной нашых галоў. Вось затапталі нас у гэтую шчыліну і чакай, як вол абуха. Чакай, калі Лясніцкі перарэжа нам глоткі. Што мы? Жменя. Дзевяць чалавек. А ты — "пера-а-вешаю". Дурань! Перавешай іх! Эх-х!

— Змоўкні ты, баба! — крыкнуў Заяц і ўдарыў кулаком па дошцы.

— Не магу маўчаць! Ты баішся смерці і я таксама. Я жыць хачу, жыць! Чуеш ты? Я адзінаццаць год чакаў гэтага часу. Я гаспадаром хачу быць! А цяпер я хто? Халуй. Немцы мною ад партызан загарадзіліся. А я жыць хачу!

— Дык ідзі ты к чорту на ўсе чатыры бакі. Хто цябе трымае? І не гнаі ты душы нам! Я гуляць хачу! Піць!.. Я хачу так пажыць, каб іскры сыпаліся, каб на тым свеце не гніць. Напляваць мне на ўсё! Дай бутэльку! — Заяц выхапіў бутэльку і, зноў раскруціўшы яе, пачаў піць.

Храпкевіч змоўк і пільна глядзеў на яго. Калі Заяц скончыў піць, ён ужо спакойна сказаў:

— Я, можа, і пайшоў бы, каб не Лясніцкі. Разумееш? Адзінаццаць год я паляваў на яго. Два разы страляў. І вось зноў ён. Зноў не дае мне жыцця. Зноў я баюся яго. А ты кажаш — наша ўзяло. Маё возьме тады, калі я пабачу яго на асіне. Пабачыў бы і пайшоў бы, гаспадаркай завёўся б. Жыў бы, як бацька мой. Але не дачакацца мне гэтага, не дачакацца. Задавяць яны мяне...

— Дачакаешся, — буркнуў Заяц, разрываючы зубамі вялікі кавалак мясістага сала.

— Не-е, — працягнуў Храпкевіч і нахіліўся да Зайца. — Слухай... Трэцюю ноч, калі стаю вартавым, белага коціка бачу. Падбяжыць і мяўкае каля ног. Я яго нагой — не пападу, штыком — не дастаю. Я стрэліў па ім... Помніш, учора трывогу падняў? Не папаў... Што гэта такое?.. А-а? Што? Смерць гэта мая, смерць.

— Змоўкні ты, псіна! Пайшоў прэч, гад! — закрычаў спалоханым голасам Заяц і, схапіўшы кварту з самагонам, кінуў яе ў Храпкевіча.

— З табою не гуляеш, а... паніхіду служыш па самому сабе. Не задушыў ён цябе, кот гэты, труса такога!

Храпкевіч падняў кварту, паставіў яе на дошку, крыху памаўчаў, а потым засмяяўся нейкім непрыемным злосным смехам.

— Хі-хі... Баішся? Баішся... Вось табе і напляваў на жыццё... Эх ты! Заяц! — Ён перагнуўся цераз дошку, нахіліўся да Міцькі і злосна зашаптаў: — Мы ўсе баімся... Мы ўсе — зайцы... І немцы баяцца... І не ведаюць, што рабіць! Дурні! Ці ж гэта работа — дзяцей па начах страляць? Гэта — што бомбай пажар тушыць. Цяпер гладзіць трэба, галубіць... Ведаеш, як каня ловяць? Кось, кось — ды за грыву. А потым ужо можна і па мордзе. Вось так. А мы баімся, а таму і не можам злавіць... А вось ён не баіцца... Ён нас не баіцца.

— Хто ён? — п'яны, хістаючы аняжэлай галавой, спытаў Заяц.

— Парабак мой, Пашка Лясніцкі. Сядзіць ён сабе ў лесе і кожны наш крок ведае.

Заяц схапіў Храпкевіча за каўнер. Храпкевіч убачыў яго п'яныя, налітыя крывёю, як у быка, вочы і спалохаўся, лагодна паклаў руку на яго сціснуты кулак, ціха папрасіў:

— Кінь, Міця! Чаго ты вар'яцееш? Кінь... Давай лепш вып'ем. Я табе цікавую навіну скажу... Ну...

Міцька неахвотна адпусціў яго каўнер.

— Ну?

Храпкевіч выліў у дзве кварты рэшткі самагону, працягнуў адну Зайцу. Але той адхіліў яго руку.

— Ну?

— Што ты занукаў?

— Навіну кажы.

— Навіну? Слухай... Ведаеш ты Карпа Маеўскага? З вашай вёскі.

— Пасечнік?! Хто яго не ведае?

— Вось, — Храпкевіч зрабіў доўгую паўзу, а потым нахіліўся і таямніча прашаптаў: — Яўрэй хаваецца ў яго.

Міцька Заяц ажно падскочыў.

— Брэшаш, гад!

— Сам чуў у камендатуры. Заўтра прыедуць па яго. Праўда, маленькі... Дачка яго, настаўніца, прынесла...

— А-а-а, — мнагазначна працягнуў Заяц і хутка падняўся. — Пайшлі!..

— Куды?

— Туды.

— Слухай, Міця, нельга... Заўтра сам камендант прыедзе, а мы раптам спугнём птушку. Паляцець можа.

— Ад каго? Ад Міцькі паляціць? Эх ты, гад, плюгаўка ты, сухотнік няшчасны!.. Паляціць! Сам ты паляціш да сваёй прабабкі! Дай кажух!

Ён накінуў кажух на плечы і ў адной споднняй кашулі з адарваным рукавом, без зброі, выйшаў са школы, піхнуўшы каля дзвярэй паліцэйскага-вартавога.

Храпкевіч захапіў рэвальвер, падперазаўся шырокім нямецкім рэмнем і дагнаў яго ўжо на вуліцы.

— У рукавы апрані... улада! — іранічна заўважыў ён. Заяц не звярнуў увагі на яго словы і размашыстай п'янай паходкай ішоў далей.

Быў той час вечара, калі ў вёсцы, павячэраўшы, укладаліся спаць — пры немцах не заседжваліся доўга: не было газы.

Фортка ў Маеўскіх была зачынена. Але гэта не збянтэжыла Зайца. Ён адступіў крокі два назад і з размаху ўдарыў у яе сваім цяжкім ботам. Затрашчалі дошкі.

Ад гэтых удараў у хаце ўсе ўздрыгнулі, насцярожыліся.

— Хто там? — спытаў хворы Карп і ў адной бялізне хутка злез з печы.

Люба разгублена зіркала вачыма па хаце, шукаючы зручнае месца, каб схаваць томік Маякоўскага, які яна чытала.

Таццяна мыла посуд. Пачуўшы ўдары, яна выцерла ручніком рукі і накіравалася да дзвярэй.

— Куды ты? — спыніў яе бацька.

Яна вярнулася, пільна паглядзела на яго.

— Я адчыню ім дзверы.

— Я сам, Таня.

— Апраніся. Я ведаю, — сказала яна і выйшла ў сенцы. Там яна нахілілася, падняла масніцу падлогі і дастала з-пад яе нешта, загорнутае ў масляную анучку, разгарнула і схавала пад хустку.

Застукалі ў дзверы.

Па лаянцы Таццяна пазнала голас Зайца. Яна хутка адкінула засаўку і стала за дзвярамі. Паліцэйскія, не заўважаючы яе, хутка пайшлі ў хату. Яна пайшла за імі.

Заяц, не спыняючыся, накіраваўся да ложка, адкінуў коўдру і груба схапіў соннае дзіця за ручку каля пляча, падняў яго. Хлапчук прачнуўся, тварык яго перакрывіўся ад болю; шырока раскрыўшы роцік, ён бездапаможна махнуў ручкай, задрыгаў ножкамі.

Люба першая кінулася да паліцая, схапілася за Віктара.

— Пусці дзіця! Пусці! — закрычала яна. — Што ты робіш?

Карп паклаў сваю жылістую руку на руку паліцэйскага, загадаў спакойна, але сурова:

— Пакладзі дзіця! Ваяка.

Міцька другой рукой моцна піхнуў старога ў грудзі:

— Прэч! Пам за такіх, як ты, шыі мыляць... супакою няма. Я вас усіх! — ён злосна вылаяўся і трасануў дзіця.

У гэты момант Тацяна, абмінуўшы незнаёмага паліцэйскага, які моўчкі стаяў пасярод хаты, падышла да Зайца і, высунуўшы з-пад хусткі руку, паднесла да яго твару рэвальвер.

— Пусці, сволач! — ціха сказала яна.

Міцька ад нечаканасці ікнуў, вылупіў вочы і расчапіў свае жалезныя пальцы. Люба схапіла Віктара, і ён зайшоўся ад вялікага болю. Гэты крык нажом разануў сэрца Тацяны. Яна не памятала, як націснула спускавы кручок. Яна не чула нават стрэлу: у гэты момант пачуўся стук ззаду, і яна хутка павярнулася. На падлозе, счапіўшыся, качаліся бацька і незнаёмы паліцай. У руцэ паліцэйскага быў заціснуты пісталет. Але стары моцна трымаў гэтую руку, не даючы паліцэйскаму падняць яе і стрэліць. Тацяна ўдарыла па ёй ботам. Паліцэйскі застагнаў і выпусціў пісталет. Яна нагой адпіхнула яго да дзвярэй. Бацька ўбачыў гэта і, выпусціўшы паліцэйскага, пачаў падымацца, цяжка дыхаючы, схапіўшыся рукою за сэрца.

Тацяна на хвіліну разгубілася. Магчыма, што яна і не стрэліла б другі раз, каб не ціхі загад бацькі:

— Страляй гада!

Храпкевіч дзіка закрычаў. Яна стрэліла тры разы і бачыла, як падскочыла яго цела, потым сударгава задрыгала і выцягнулася.

Тацяна застыла на месцы, утаропіўшы позірк на забітага. Пальцы яе рук неяк самі расціснуліся, і рэвальвер стукнуўся аб падлогу. Гэты стук схамянуў яе; яна агледзелася і пачула голас бацькі:

— Збірайся хутчэй, Таня... Хутчэй!

Стары, спяшаючыся, апранаўся; Люба захутвала Віктара.

— Двух чалавек... адразу... я...

Карп кінуўся да дачкі, схапіў яе за плечы.

— Нелюдзі... нелюдзі гэта!.. Сабакі... А сабакам сабачая смерць. Збірайся хутчэй! Чуеш ты?

Люба падала ёй кажух, хустку. Тацяна ўраз усё зразумела. Падняла рэвальвер, сунула яго ў кішэню кажуха, апранулася і ўзяла на ложку ўжо захутанага Віктара.

Бацька падняў пісталет паліцэйскага, агледзеў яго і таксама паклаў у кішэню сваёй світкі.

Люба выйшла першай, разведала і праз хвіліну паклікала іх. Але ўжо на гародзе, каля пуні, яна раптам спынілася.

— А карова як?

— Пакінь ты карову! — махнуў рукою Карп. — Не да каровы цяпер.

— Ну не! Карову я ім не пакіну. Скулы ім! Ды і Віцю нельга без малака, — І Люба шпарка пайшла назад.

Яны чакалі яе каля пуні. Яна вярнулася праз некалькі хвілін, ведучы за сабою карову.

Са страхі пуні падалі буйныя кроплі. Заходні вецер біў ім у твары густым вільготным струменем, прыносячы пах блізкай вясны.

Карова глыбока ўгрузла ў рыхлым сакавіцкім снезе і цяжка дыхала. Цяжка дыхаў і хворы Маеўскі. Таццяна падтрымлівала бацьку пад руку. Люба вяла карову.

Толькі дайшоўшы да лесу, яны выйшлі на дарогу, па якой вяскоўцы ўсю зіму ездзілі па дровы.

Карп з палёгкаю ўздыхнуў і ад таго, што ісці стала лягчэй, і ад таго, што небяспека засталася ззаду, там, у вёсцы, у полі, а тут, у лесе, гаспадары — яны; ні немцы, ні паліцаі сюды не адважацца пасунуцца.

Таццяна адчувала нейкую незвычайную лёгкасць у душы — дзесьці ўглыбіні нараджалася і хутка расло вялікае і радаснае пачуццё свабоды. Яна нахілілася да хлапчука, слухала яго роўнае дыханне.

"Вось мы і на волі, сыночак... Як птушкі... Да сваіх прыйдзем. Спі, маё птушанятка...»

Глуха стагналі высокія хвоі.

«Павернем па дарозе на Ягаднае, а там у Рог і па лініі да сваіх», — думаў Карп і час ад часу прасіў:

— Не спяшайся, Люба. А то загубіце мяне, старога.

Ды раптам Люба павярнула зусім у другі бок.

— Ты куды? — спытаў здзіўлены Карп.

— Яны цяпер за Гарэлымі балотамі, на Ласіным востраве. Там у іх — зімні лагер, — адказала дзяўчына.

Ніхто не спытаў, адкуль яна гэта ведае.

Толькі Карп уздыхнуў:

— Далекавата.

Таццяна зноў узяла бацьку пад руку.

## Частка другая

I

Два дні ішоў цёплы красавіцкі дождж. Ён змыў увесь снег, і ўраз разліліся рэкі, азёры і балоты, затапілі вялікія прасторы прыдняпроўскай зямлі.

Ласіны востраў быў адрэзаны разводдзем ад усяго вакольнага свету. Востраў гэты не быў падобны на звычайную балотную выспу, пакрытую нізкарослым, хваравітым ад лішку вільгаці хвойнікам. Гэта быў вузкі і доўгі выступ вялікага лесу. З трох бакоў яго абкружала непраходнае балота, што цягнулася на добрых дзесяць кіламетраў у бок Дняпра. Ад лесу выступ гэты адразаўся невялічкай, але надта забалочанай рэчкай. Па берагах яе рос густы алешнік, абвіты хмелем. Вясной рэчка залівала алешнік, і выступ ператвараўся ў сапраўдны востраў. Рос на ім дзіўна змешаны лес: старыя дубы і маладыя высокія сосны.

На трэці дзень паўднёвы вецер разагнаў хмары, і выглянула вясёлае, ласкавае сонца.

У партызанскім лагеры пачалося звычайнае жыццё. Людзі павыходзілі з зямлянак, рассыпаліся па лесе. Адны пачалі выліваць вёдрамі з зямлянак ваду, другія пайшлі шукаць сухіх дроў і завіхаліся каля кухні. Група маладых партызан на чале з Яўгенам Лубянам выйшла на край балота і навучалася меткай стральбе з вінтовак і аўтаматаў. Гэта была спецыяльная снайперская група, створаная па ініцыятыве Лубяна, выдатнага снайпера, які яшчэ да вайны на рэспубліканскім спаборніцтве стралкоў-асаавіяхімаўцаў атрымаў другі прыз. Гэта яго кулі знімалі вартавых немцаў і паліцаяў з такой адлегласці, што ворагі не заўсёды маглі нават хутка вызначыць, адкуль стралялі. Гэта яго куля на поўным ходу машыны трапіла ў скронь нямецкага афіцэра Рэдара. За восем месяцаў партызанскай дзейнасці на яго асабістым рахунку было каля трыццаці немцаў і паліцаяў. Яму зайздросцілі ўсе маладыя партызаны. Ён вучыў іх снайперскай справе старанна, удумліва, а сам употайкі ўвесь час марыў аб снайперскай вінтоўцы з аптычным прыцэлам. Нідзе яму не даводзілася пабачыць у немцаў такую вінтоўку, а то быць бы ёй у яго руках...

Пасля смерці сям'і ў яго, дваццацігадовага юнака, пасівелі скроні, і ён зрабіўся маўклівым, панурым, схуднеў, выцягнуўся, але не страціў сваёй фізічнай сілы і рухавасці. Цяпер адзінай мэтай яго жыцця было помсціць ворагу, і ён помсціў бязлітасна, жорстка і жыў толькі гэтым, забыўшыся на ўсе іншыя пачуцці і думкі.

У сярэдзіне лагера, вакол двух доўгіх сталоў, размясцілася, значна большая за снайперскую, група партызан. На стале ляжалі міны рознай велічыні, розных марак і гатункаў. Гэта займалася група падрыўнікоў. Тут былі людзі розных узростаў: бязвусыя юнакі і такія, як Карп Маеўскі. Ды і сам камандзір гэтай групы, Свірыд Захаравіч Гнядкоў, быў пажылы чалавек з рудой, доўгай, як у папа, барадою. Гаварыў ён з волжскім вымаўленнем, бо быў патомны горкаўскі рабочы. Вайна застала яго ў службовай камандзіроўцы ў заходніх абласцях Беларусі. Ён не ўправіўся выехаць: фронт перагнаў яго. Прабіраючыся на ўсход, ён, на шчасце, натрапіў на партызанскі атрад Прыборнага і застаўся ў ім. Механік па спецыяльнасці, Гнядкоў хутка пазнаў сакрэт мін і снарадаў і стаў камандзірам групы падрыўнікоў.

Побач з падрыўнікамі, у самай вялікай і чыстай зямлянцы ўрач Алена Рыгораўна Зайчук займалася з санітарамі. Сярод слухачоў была і Таццяна Маеўская. Праўда, вучылася яна санітарнай справе не з вялікім жаданнем і вельмі часта, калі не было заняткаў з санітарамі, ішла да падрыўнікоў і адначасова з зайздрасцю пaглядала ў той бок, дзе займаліся разведчыкі. Яна не супроць была перайсці ў адну з гэтых груп, але загад камандзіра — ёсць загад. Дысцыпліна тут суровая.

Малы Віця, як гаспадар, хадзіў па партызанскаму шпіталю і ўжо некалькі разоў падыходзіў да дашчатай перагародкі, за якой ляжалі раненыя, і стукаў кулачкамі ў дзверы:

— Ту-ту... Дай, дай...

Але туды яго не пускалі, бо там адразу падняўся б шум, смех раненых партызан — усе яны вельмі любілі жартаваць з гэтым забаўным хлапчуком. Нарэшце ўсё ж нехта з раненых адчыніў яму дзверы, і хлапчук непрыкметна нырнуў за перагародку.

Побач з Аленай Рыгораўнай сядзела худзенькая дзяўчынка год дзевяці. Гэта была Ленка Лубян, якая толькі што ачуняла пасля ранення.

Астатнія партызаны займаліся ў глыбіні лесу звычайнай салдацкай справай: вучыліся перабягаць пад агнём, перапаўзаць, акопвацца, пералазіць праз розныя перашкоды, кідаць гранаты. Камандаваў імі малады, высокі камандзір у вайсковай форме з адзнакамі старшага лейтэнанта. Гэта быў абкружэнец Аляксей Іванавіч Паўленка. Ён прымкнуў да атрада з групай байцоў.

Не займалася толькі адна група, якая насіла назву «спецыяльнай», ці «агентурнай», і заняткі з якой заўсёды праводзілі самі камандзір і камісар атрада. Людзі гэтай групы выконвалі баявыя заданні. Большасць з іх пайшла дзён дзесяць назад на чале з камісарам атрада. Куды — аб гэтым у атрадзе не ведалі.

Адзіны прадстаўнік гэтай групы Пятро Майбарада, сумуючы без работы, ляжаў на паляне на кучы свежага хваёвага галля, грэўся на сонцы і па-майстэрску іграў на трафейным губным гармоніку вясёлыя матывы. Час ад часу ён спыняў ігру і, не адрываючы гармоніка ад губ, падоўгу глядзеў у неба, дзе плылі белыя хмаркі, а потым цяжка ўздыхаў, і тады з гармоніка вылятаў працяглы сумны гук. Неяк не пасавалі гэтыя ўздыхі да яго вясёлай, хвацкай ігры. Але ігра — ігрой, а ўздыхі — уздыхамі. Майбарада не мог стрымаць іх, калі глядзеў у неба, бо ўсё жыццё сваё марыў быць лётчыкам. Апрача таго, у яго былі і іншыя прычыны ўздыхаць. Ён быў пакрыўджаны і абражаны тым, што камісар не ўзяў яго з сабой на гэтае, мяркуючы па ўсяму, выключна важнае, небяспечнае і цікавае заданне. Нават гэтую навенькую — Любу — узяў, а ад яго, старога спрактыкаванага разведчыка, адмовіўся. Толькі ўсміхнуўся ў адказ на яго просьбу ды сказаў:

— Фантазія ў цябе, Барада, вельмі ўжо багатая і рызыкі многа.

«Фантазія!.. Пры чым тут фантазія?» — Майбарада ўздыхнуў зноў. З гармоніка вылецеў сумны гук. Хлопец здзіўлена паглядзеў на інструмент і схаваў яго ў кішэню.

«Эх, хутчэй бы Андрэй вяртаўся. Тады мы зноў паказалі б, на што мы здольныя... Фантазія!..»

З зямлянкі выйшаў камандзір атрада Сяргей Фядотавіч Прыборны, агледзеўшы лагер, шумна пазяхнуў, рушыў у лес, да групы Паўленка Убачыўшы Майбараду, ён спыніўся і некалькі хвілін з усмешкай назіраў за хлопцам. «Вось лайдак». Пятро не заўважыў камандзіра, а таму зноў выцягнуў з кішэні гармонік, але не зайграў, а заспяваў:

Калі б я меў апатыя горы
І рэкі поўныя віна...

— Што б ты рабіў з імі?

Майбарада спалохана падхапіўся, выцягнуўся перад камандзірам, апраўляючы пакамечаны бушлат.

— Вінаваты, таварыш камандзір! Віно, канечне, я піў бы і сяброў паіў... А золата? — ён задуменна паскроб патыліцу. — Што мне золата? Не, пачакайце... Ведаеце, за золата я падкупіў бы нямецкіх генералаў, каб Гітлера да яго прабабкі паслалі. А за золата яны роднага бацьку прададуць, не толькі што гэтага свайго ванючага фюрэра.

Майбарада весела выскаліў прыгожыя белыя зубы. Гледзячы на яго, не стрымаўся ад усмешкі і камандзір.

— Займаешся ты глупствам... Рабіць табе няма чаго... Гітлера мы і без немцаў павесім, уласнымі рукамі, ды і генералаў гэтых таксама заадно з ім. Хадзем лепш, ваду вылі з маёй зямлянкі, гультай.

— Заўжды гатоў, таварыш камандзір. Я, як юны піянер... Памятаю...

— Ты менш разважай. А то камісар і ў другі раз на заданне не возьме. Ён не любіць балбатуноў.

Прыборны, ідучы наперадзе, хітра ўсміхнуўся, ведаючы, што пацэліў у самае балючае месца хлопца. Сапраўды, Майбарада змоўк і ўжо да самай зямлянкі не сказаў ні слова.

Камандзірская зямлянка знаходзілася ў цэнтры лагера пад магутным дубам. Сцены, столь і падлога яе былі зроблены з чыста выгаблеваных сасновых дошак. За зіму дошкі закапцелі, пацямнелі. Каля дзвярэй стаяла чыгуначная печка. Такія печкі былі ва ўсім лагеры; партызаны знайшлі іх у эшалоне, які яны спусцілі пад адхон. Відаць, немцы везлі іх на фронт, каб абагрэць сваіх салдат. І не давезлі.

Пасярод зямлянкі стаяў добры дубовы стол — работа Карпа Маеўскага, яго падарунак камандзіру і камісару. Каля сцен — два тапчаны, замяняўшыя ложкі. На сцяне віселі карты Савецкага Саюза і Еўропы. На стале ляжалі кнігі. У кутку, на тумбачцы, стаяў радыёпрыёмнік, адзіны ў лагеры. Ён не працаваў ужо два тыдні — селі акумулятары.

Майбарада спыніўся каля яго, пяшчотна пакратаў бліскучыя ручкі рэгулятараў настройкі, уздыхнуў.

— Нічога, Пятро. Хутка ён загаворыць зноў, — суцешыў хлопца камандзір.

— Камісар прынясе?

Прыборны пагразіў пальцам.

— Не будзь вельмі цікаўным, а то рана пасівееш. Давай брацца за работу.

Вясновая вада прасочвалася праз дошкі, залівала падлогу. У адным куту надакучліва цурчэў танюсенькі ручаёк.

— Лезь пад тапчан і заткні гэтага камара, Пятро, а я тым часам сарву масніцу.

Прыборныналіваў ваду ў вядро, Майбарада выносіў вёдры з зямлянкі. Але характар не дазваляў яму працаваць моўчкі. Разважаць, фантазіраваць было для яго першай жыццёвай неабходнасцю, і, калі не было субяседніка, ён гутарыў і нават спрачаўся з самім сабою. А тут у яго быў вельмі цікавы субяседнік, і, безумоўна, Майбарада не мог упусціць такога зручнага моманту. Пакуль камандзір наліваў

чарговае вядро, ён сеў на дубовую калодку, што стаяла каля печкі, і пачаў:

— Ёсць у мяне, таварыш камандзір, адна геніяльная ідэя...

— Проста-такі геніяльная? — Прыборны зрабіў выгляд, што ён вельмі зацікавіўся.

— Геніяльная, таварыш камандзір. Нарадзілася яна даўно, і вось я выношваю як жанчына дзіцё. Цяпер гэта ўжо не толькі ідэя, а план, у якім ужо дэталёва ўсё распрацавана. Эх, таварыш камандзір! Здзейсніць бы нам яго! Праславіліся б на ўвесь свет, ва ўсіх падручніках гісторыі аб нас бы напісалі, праз тысячу год бы ўспаміналі, як аб якім-небудзь Юлію Цэзару.

— Хм, здорава... Нясі! — загадаў нечакана камандзір, скончыўшы наліваць вёдры.

Майбарада, нездаволены, што яго перабілі на самым цікавым, не з ахвотаю падняўся і панёс цяжкія вёдры з зямлянкі.

Прыборны паглядзеў яму ўслед і весела ўсміхнуўся. "Ну і фантазія! — думаў ён. — Так і пруць з яго гэтыя выдумкі. Пачакай жа, я цябе здзіўлю...»

Хлопец вярнуўся ў зямлянку, паставіў перад камандзірам вёдры і зноў бестурботна, адчуваючы сябе гаспадаром, сеў на ранейшае месца.

— Значыцца, ты прапануеш паслаць Андрэя ў Берлін, калі вернецца з Масквы, з даручэннем знішчыць Гітлера.

Так? — спытаў нечакана Прыборны, як аб самым звычайным і даўно вядомым, не падняўшы нават галавы.

Майбарада вытарашчыў вочы ад здзіўлення.

— Ды вы як даведаліся? Я ж не казаў вам...

— Мне — не, а ўсяму атраду даўно расказаў. Канспіратар!

— Ну і што? — таямніча прашаптаў хлопец і нахіліўся да камандзіра.

Прыборны падняў галаву і засмяяўся, гучна і весела.

— Ну і глупства. Проста не разумею, як гэта такі сур'ёзны чалавек, як партызанскі разведчык Пятро Гаўрылавіч Майбарада, можа займацца такім глупствам.

— А чаму глупства? Чаму? Здолеў жа ён пранікнуць у нямецкі штаб, забраць дакументы і машыну. Паехаў жа ён да фронту пад выглядам нямецкага салдата. Чаму ж ён не можа пераапрануцца афіцэрам і ехаць у Берлін? Чаму?

— Нясі! — перабіў яго камандзір. — І ведай, галава яловая, што аб нас будуць успамінаць даўжэй і ў тысячу разоў больш удзячна, чым аб тваім Цэзару.

Майбарада ўздыхнуў і панёс апошнія вёдры, якія былі значна цяжэйшымі за папярэднія, бо камандзір разам з рэшткамі вады зачэрпаў нямала і пяску.

II

Застаўшыся ў зямлянцы адзін, Прыборны пачаў думаць аб тых, каго ў гэтую хвіліну не было ў лагеры. Многія ў гэты час былі ў дарозе, выконвалі баявыя заданні, і, можа здарыцца, хто-ніхто не вернецца назад. Ён з бацькоўскай трывогаю думаў аб кожным з гэтых людзей.

Але больш за ўсё думаў ён аб адным чалавеку.

«Андрэй! Дзе ты, наш легендарны Андрэй? Чаму так доўга не вяртаешся? Ці дабраўся ты?»

Аб Андрэю Буйскім думаў не толькі адзін камандзір. Аб ім думалі ўсе сто пяцьдзесят чалавек у атрадзе. Думалі ўжо два месяцы... Часта ўвечары ці за абедам можна было пачуць у партызанскіх зямлянках:

— Эх, браткі, дзе гэта Андрэй наш зараз?

— Гуляе па Маскве. Дзе-небудзь у тэатры ці кіно.

— Ну, часу ў яго не будзе бадзяцца па кіно.

— А што ты думаеш, пабыць зараз у Маскве і не пабыць у кіно... Не, браткі, хто як, а што да мяне, то я не стрымаўся б ад такой спакусы.

— А раптам?..

— Што «раптам»? Трываць не магу людзей, якія ўсё жыццё сумняваюцца. Я такіх бы з атрада выгнаў. Не такі ж Андрэй, як ты, разява... Ён праз усе агні і воды пройдзе і сухім выйдзе. Вось што значыць навука! Шкадую, што я, гультай, вучыцца не хацеў. Сем класаў скончыў і рашыў, што я самы адукаваны чалавек у свеце...

— А ты думаеш, што і ты такім быў бы? Не так твая галава зроблена. На гэта, брат, трэба асаблівы талент.

Андрэй Буйскі быў светлай казкай у іх цяжкім лясным жыцці. Атрад жыў надзеяй на яго зварот з Масквы. Ён быў іх пасланец у сталіцу. Праўда, яшчэ ўвосень з атрада пасылалі пяць чалавек, але, відаць, загінулі хлопцы, бо колькі часу прайшло, а аб іх ніякіх чутак. І вось два месяцы назад паслалі Андрэя... аднаго. І ўсе цвёрда ўпэўнены, што ён дойдзе, пабудзе ў Маскве і вернецца назад. Не можа такі чалавек загінуць! Усе памятаюць, як ён і Майбарада з'явіліся ў атрадзе. Позна ўвосень, напярэдадні Кастрычніцкага свята, аднойчы раніцою група партызан натрапіла ў глыбі лесу на бліскучы нямецкі лімузін. Дзівосная машына ў такім глухім месцы вельмі здзівіла іх. Але, падышоўшы да яе, яны здзівіліся яшчэ больш: на пярэднім сядзенні, каля руля, ляжаў чалавек у звычайнай

зашмальцаванай вопратцы, а на заднім — нямецкі афіцэр. Мундзір яго, рамні, пагоны былі, як кажуць, з іголачкі. Хлопцы спачатку падумалі, што гэтыя двое — забітыя, але калі паспрабавалі адчыніць дзверцы, афіцэр падхапіўся і накіраваў на іх парабелум. У адказ партызаны паказалі яму некалькі гранат. І тады ён весела зарагатаў і пачаў трэсці за плечы таго, што спаў на шоферскім месцы.

— Уставай, Барада, прыехалі, — ён сказаў гэта на чыстай рускай мове.

Нечаканых гасцей абяззброілі, машыну ўрачыста прыкацілі ў лагер.

Спачатку, вядома, не верылі таму, што расказвалі аб сабе палонныя. Але таго, што быў у форме афіцэра, нечакана пазнала партызанка Рыта Пясоцкая.

— Ды гэта ж аспірант філалагічнага факультэта нашага універсітэта. Я яго тры гады ведаю, яшчэ калі ён студэнтам быў. Прозвішча яго Буйскі. Вось гад! Значыцца, ён шпіёнам быў.

— Нікім ён не быў, грамадзяначка. Быў ён добрым савецкім чалавекам і да смерці будзе ім, — з крыўдаю за таварыша адказаў другі, як пасля высвятлілася, шофер таксі Пятро Майбарада. Паглядзеўшы дакументы, якія яны прывезлі з сабой, Прыборны і Лясніцкі паверылі хлопцам, іх расказу.

Андрэй Буйскі добра ведаў нямецкую мову, І гэта стала яго зброяй, А фантазёр Майбарада — лепшым памочнікам. Пераапранаючыся ў форму салдата, ці афіцэра, Буйскі прыставаў да нямецкіх часцей, краў зброю, рабіў дыверсіі і бясследна знікаў, У апошні раз ён у форме афіцэра фельдсувязі з'явіўся ў нямецкую станцыйную камендатуру, застаўся там нанач, увечары добра выпіў з камендантам, а ўначы прыдушыў ап'янеўшага фашыста і, забраўшы ўсе дакументы, выехаў на яго машыне. Майбарада чакаў яго ў дамоўленым месцы. У той час яны ўжо ведалі, што ў бліжэйшых лясах дзейнічае вялікі партызанскі атрад, і вырашылі знайсці яго. Яны шукалі партызан два дні, ездзячы па лесе, ажно пакуль не спалілі ўвесь бензін і партызаны самі не знайшлі іх.

У атрадзе сябры зрабіліся разведчыкамі. Праўда, Лясніцкі не даваў Андрэю ходу: не дазваляў хадзіць на разведку, на дыверсіі ў нямецкай форме, хоць Прыборны — прыхільнік усяго незвычайнага, прыгодніцкага — быў за такі метад.

— Не, гэта нам спатрэбіцца для больш важнай справы, — гаварыў камісар.

Такой першай важнай справай з'явілася надзвычайная камандзіроўка Андрэя Буйскага ў Маскву.

І вось цяпер усе з нецярпеннем чакалі яго звароту. Але, мабыць, больш за ўсіх думаў аб ім, турбаваўся Прыборны. Ён хваляваўся не толькі як камандзір, што даваў заданне і для якога вельмі важна было, каб такое заданне паспяхова выканалася, бо сувязь з Масквой патрэбна, як паветра і хлеб, але яшчэ неяк і па-іншаму, мажліва, як хвалюецца бацька за сына. Прыборнаму крыху не шанцавала ў сямейным жыцці: было ў яго шэсць дачок і ніводнага сына. І ён увесь час, і асабліва ў апошнія гады, адносіўся з найбольшай павагай да хлапцоў і зайздросціў бацькам, у якіх былі сыны. А гэты Андрэй дык асабліва неяк запаў яму ў душу.

«Ах, Андрэй! Дзе ты, сыне, зараз? Ці хутка мы ўбачымся?»

Ён падняўся з-за стала, прайшоў па зямлянцы. Зноў пад масніцамі заплюхала вада. «Ліха на яе! Адкуль толькі яна бярэцца? І месца ж, здаецца, высокае. Трэба будзе канаву выкапаць, як Карп вакол сваёй зямлянкі».

У дзверы пастукалі. Зайшоў Майбарада і ўрачыста паведаміў:

— Таварыш камандзір! На гарызонце — камісар і разведчыкі.

Прыборны хутка накінуў на плечы кажух і шпарка выйшаў з зямлянкі. Насустрач яму ішоў Лясніцкі. Яны абняліся і моцна пацалаваліся. Потым камандзір пацiснуў руку кожнаму разведчыку. Усе яны былі такія змораныя, што ледзь трымаліся на нагах. А Люба адразу села на зямлю, прытуліўшыся плячамі да тоўстай сасны, і заплюшчыла вочы.

Лясніцкі пастроіў разведчыкаў і падзякаваў ім за паспяховае выкананне задання.

— Служым Савецкаму Саюзу! — нястройна, але цвёрда, як сапраўдныя салдаты, адказалі змораныя партызаны. Зайшоўшы ў зямлянку, Лясніцкі хутка спытаў:

— Андрэя няма?

Добра ведаў, што няма, бо, каб ён вярнуўся, яшчэ вартавыя паведамілі б аб гэтым, ды, нарэшце, ён сам убачыў бы пасланца, бо Андрэй абавязкова выйшаў бы сустракаць разведчыкаў — ён жа іх камандзір. А таму камісар і не стаў чакаць адказу, а хутка пачаў распранацца. Прыборны толькі ціха ўздыхнуў.

Лясніцкі скінуў усё: вопратку, боты, бялізну. Усё было мокрае.

— Ты перадай Алене — хай хлопцам спірту дасць. Рубца сухога няма. Разводдзе страшнае. Ледзь дабраліся, — ён стаяў голы і старанна націраў цела сухім палатняным ручніком, уздрыгваючы ад холаду. — Палі хутчэй, а то абледзянею.

— А ты глытні разок — адразу кроў нагрэецца, — прапанаваў камандзір і дастаў з тумбачкі пляшку, наліў паўшклянкі мутнаватага спірту.

— Лепшы сродак ад усіх хвароб.

Лясніцкі выпіў, паморшчыўся і пачаў закусваць сухой скарынкай хлеба.

Абуўшы сухія валёнкі і накінуўшы на плечы доўгі кажух, ён прысеў перад печкай і, хвіліну памаўчаўшы, сказаў:

— Ведаеш, там пачынаюць баяцца ўжо за яго. Яны накіравалі некалькі груп, з розных атрадаў. Але, як я заўважыў, Ружак найбольшую надзею ўсё-такі мае на нашага Андрэя. А звязацца з Масквой, ведаеш, як трэба! Вясна — час вялікіх падзей. А радыёсувязі няма ажно са снежня, калі іх запеленгавалі і абкружылі. Расказваюць, тады ў іх горача было. Нізкі быў паранены, два работнікі абкома і некалькі партызан забіты. Яны страцілі рацыю. І ніводная група не вяртаецца. Ружак так і сказаў мне: «Уся надзея на вашага Буйскага. Але чакаем не больш паўмесяца».

— А потым пахаваюць і яго? — Прыборны чамусьці ўзлаваўся. — Рана мы хаваем людзей! Не думаем, што перайсці лінію фронту, дабрацца да Масквы, дамовіцца аб усім і вярнуцца назад — на гэта цяпер не месяц трэба. Не святы дух, а жывы чалавек.

— Прайшло два, Сяргей.

— Пройдзе тры, але я ўсё адно не згублю веры ў яго зварот. Вернецца, кажу табе! — ён узрушана прайшоўся па зямлянцы. — Не паверу, што такі чалавек не вернецца. Андрэй усіх гітлераўскіх фельдмаршалаў вакол пальца абвядзе і ў дурнях пакіне. Кароткія рукі ў іх узяць такога разведчыка!

У дзверы пастукалі. Яны спынілі размову. Зайшла Таццяна Маеўская — прынесла абед. Яна ціха прывіталася, паставіла каструлю на стол, дастала з тумбачкі талеркі.

Зямлянка напоўнілася смачным пахам баршча. Таццяна наліла яго ў талеркі. Нарэзала хлеба. Усё гэта рабіла яна не спяшаючыся, скупымі і прыгожымі рукамі спрытнай гаспадыні. Лясніцкі захутаўся ў кажух, адышоў ад печкі і некаторы час збоку моўчкі назіраў за ёю, а потым сеў за стол, насупраць.

— Ну, як жывецца ў нашай сям'і, Таццяна Карпаўна?

Яна коратка зірнула на яго, прыветліва ўсміхнулася.

— Вельмі добра, Павел Сцяпанавіч.

— А сын?

— І сыну добра.

— Адпачну — зайду паглядзець. Я ж, па сутнасці, і не пабачыў яго. Вы прыйшлі, а я пайшоў.

— Заходзьце, раненыя будуць рады пагаварыць з вамі, — адказала яна.

— Пачынай, Сяргей, пакуль не астыла, — і Лясніцкі прагна пачаў есці. — З учарашняга дня не елі. У Межах павячэралі, а з сабой не ўзялі. Дні праз два мяжане прадуктаў нам на лодках падкінуць. Я дамовіўся са старастам, каб сабраў.

— З Гаруном?

— Але... Хітры мужык. Здорава немцаў за нос водзіць.

Памаўчалі. Потым Лясніцкі зноў звярнуўся да Таццяны:

— Хваліцеся, Таццяна Карпаўна, вашымі поспехамі ў санітарнай справе.

Таццяна ўсміхнулася, палажыла ў талеркі рассыпчатую грачнёвую кашу і толькі пасля гэтага сказала:

— А я ўжо неяк гаварыла Сяргею Фядотавічу, што ўсё жыццё не любіла медыцыны.

— Вось табе і на! — здзівіўся камісар. — А што ж бы вы хацелі рабіць у нас?

Яна на хвіліну сумелася, апусціла вочы, а потым паглядзела на Лясніцкага, перавяла позірк на Прыборнага і смела папрасіла:

— Перавядзіце мяне ў разведчыкі, Павел Сцяпанавіч! Мне сорамна... Люба маладшая, і вы ўзялі яе. Зразумейце, што я хачу змагацца актыўна. Я маю права на гэта...

Камісар і камандзір пераглянуліся.

— Я больш, чым хто другі, бачыла вайну... — голас яе задрыжаў, заружавеліся шчокі. — І нянавісці ў мяне...

Лясніцкі перабіў яе.

— Пачакай, Таццяна, — ён не заўважыў, што першы раз звярнуўся да яе так проста, як да ўсіх у атрадзе. — Стаць разведчыцай ты зможаш у любы момант, калі гэта спатрэбіцца. А вось з санітарамі ў нас цяжка. Алена не можа справіцца адна. Яна сама выбрала вас з Лідай і, канечне, не памылілася. Мы з камандзірам падтрымалі яе выбар. А з Любы санітар быў бы дрэнны. Занадта ў яе запалу многа, — ён ветліва ўсміхнуўся. — Санітары нам трэба выдатныя. Жыццё нашых людзей нам даражэй за ўсё. І добры шпіталь у нашых умовах — вялікая справа.

Таццяна адчула пераканаўчую сілу яго простых, скупых доказаў. Магчыма, што сіла гэтая была не столькі ў словах, колькі ў ясным позірку яго карых вачэй, у цёплай, шчырай усмешцы. "Усё гэта ўраз развеяла яе загадзя падрыхтаваную прамову, якую яна рыхтавала

шмат дзён, каб пры зручным выпадку давесці камісару і камандзіру, што яе месца не ў шпіталі, а ў групе разведчыкаў. І вось ён, гэты выпадак, але ад яе доказаў нічога не засталося. Усе яны раптам зрабіліся наіўнымі і смешнымі перад простымі і лагічнымі словамі камісара.

Яна зразумела гэта, але жаданне стаць разведчыцай не пагасла, а нават чамусьці стала яшчэ мацнейшым, і яна паспрабавала пярэчыць:

— Але ж калі няма схільнасці да чаго...

Прыборны глыбока ўздыхнуў.

— Эх, дачка! У нас не было схільнасці ваяваць. Наліха нам трэба была гэтая вайна! Жылі, працавалі, будаваліся, багацелі з кожным годам... Але калі на нас напалі, калі нам на шыю ярмо ўздумалі надзець, — ён узрушана падняўся з-за стала, — мы ўсе сталі салдатамі. І схільнасць у нас адна цяпер — разбіць ворага. Вось як! А ты — схільнасць. Якая там схільнасць! — яго твар асвяціўся бацькоўскай усмешкай.

Таццяна адчула сябе ніякавата. Урэшце, сапраўды просьба яе наіўная. Не да твару ёй, настаўніцы, сталай дзяўчыне, адмаўляцца ў атрадзе ад даручанай работы. Што было б, каб усе пажадалі рабіць толькі тое, што ім хочацца. Анархія была б.

Лясніцкі правёў яе захопленым позіркам і павярнуўся да Прыборнага:

— Бачыў, як людзі рвуцца ў бой? Якая ў іх нянавісць? А колькі іх на нашай зямліі Колькі такіх сем'яў, як Маеўскія. Наша справа падняць іх, ускалыхнуць, арганізаваць на барацьбу...

Але Прыборны перабіў яго:

— Што ты мяне агітуеш усё, Павел. Пачынай-ка ты лепей расказваць аб галоўным... Што там было?

Лясніцкі змоўк, паглядзеў на сябра, потым хутка скончыў есці кашу, выцер ручніком губы, рукі і адказаў:

— Было там, Сяргей, пасяджэнне падпольнага абкома. І абмеркавалі адно пытанне: аб разгортванні масавага партызанскага руху. Час прыйшоў, Сяргей, — вочы яго загарэліся. — Пара паднімаць увесь народ. Народ гатовы да барацьбы. Не здзіўляйся: нас крытыкавалі. Па-першае, за слабую палітычную работу з насельніцтвам, а па-другое, за дрэннае кіраўніцтва астатнімі атрадамі на тэрыторыі раёна. Добра, канечне, што мы выпеставалі свой атрад, зрабілі яго высокакваліфікаванай баявой адзінкай, што ў нас і разведка цудоўная, і снайперы, і кулямётчыкі. Але ўсё гэта адзінкі, а трэба масавасць, трэба, каб удзельнічаў увесь народ і ўдзельнічаў арганізавана. Каб ніякіх «дзікіх атрадаў». Райком павінен кіраваць

кожнай групай. Узнімалі пытанне аб стварэнні партызанскіх брыгад і злучэнняў. Нам і сапраўды сорамна, што да гэтага часу мы не аднавілі нават выпуск раённай газеты. Шрыфт у нас ёсць, ды і ў атрадзе Кандыбы маюцца шрыфты дзвюх раённых друкарань. Трэба будзе неадкладна пачаць. Абком зацвердзіў новы склад бюро нашага райкома. Сакратаром падпольнага райкома камсамола зацвердзіў Лубяна. Добра будзе?

— Безумоўна. Лепшай кандыдатуры не падабраць!

— Работа з моладдзю, з інтэлігенцыяй, каб прыцягнуць іх у атрады, — адна з галоўных нашых задач. Зараз мы павінны накіраваць дзесяткі агітатараў ва ўсе бакі, ва ўсе вёскі. Трэба дабіцца, каб да мая месяца мы выраслі, арганізавалі новыя атрады. З наступленнем вясны актывізуюцца франты, і мы таксама павінны ак-тывізавацца, каб жыцця не было акупантам на нашай зямлі, каб білі іх на кожнай дарозе, у кожнай вёсцы. Галоўным аб'ектам павінна быць чыгунка. Нямецкі фронт задыхнецца, калі мы не прапусцім туды эшалоны з танкамі, гарматамі, з жывой сілай. Вось так, таварыш камандзір, — Лясніцкі падняўся. — Вось такія навіны, Сяргей. Адным словам, пачынаецца новы этап нашай барацьбы. Пачынаем і мы сапраўдную вайну.

III

Камендант раёна штурмфюрэр Койфер быў спакойны і вясёлы чалавек. На жыццёвым шляху ў яго не было ніякіх перашкод. Сын дырэктара буйнога крупаўскага завода, ён ніколі ні аб чым не турбаваўся: ні аб кавалку хлеба, ні аб асвеце, ні аб кар'еры, ні нават аб сваіх палітычных поглядах. Усё рабілася само сабой, дзякуючы грашам і імю. Ён ніколі не дапускаў думкі, што ў жыцці можа не пашанцаваць, нават слова гэтага не было ў яго лексіконе. Яму заўсёды шанцавала. Тлумачыў ён гэта тым, што ён, Вілі Койфер, заўсёды цудоўна разумеў сэнс жыцця і мэту яго.

"Не трэба ніколі высоўвацца наперад, але не трэба і адставаць. Трэба ісці аглядваючыся», — такой была яго філасофія асабістага жыцця.

І ён ішоў у "адну нагу з Германіяй», як любіў гаварыць яго бацька. Калі захапілі Польшчу, ён у званні штурм-фюрэра прыехаў асвойваць новыя землі. Будучы камендантам аднаго з раёнаў Варшавы, ён атрымаў шэраг падзяк і жалезны крыж.

У дзень нападу на Савецкі Саюз бацька паведаміў яму, што ён назначаны дырэктарам буйнога маскоўскага завода, які павінен

перайсці іх канцэрну. Гэта была яго канчатковая мэта, і ён пачаў з нецярпеннем чакаць захопу Масквы.

Каб «крочыць у нагу з Германіяй», Вілі Койфер папрасіў пераводу на ўсход, у Расію, бліжэй да сваёй мэты. Але зімой мэта гэтая раптам на некалькі сот кіламетраў аддалілася ад яго. Гэта быў ашаламляючы ўдар, але ён суцешыў сябе тым, што атрымалі яго ўсе, у тым ліку і фюрэр.

Камендант прыдняпроўскага раёна пачаў рабіць усё неабходнае, каб дапамагчы арміі вярнуць згубленае і зноў наблізіць сваю мэту. Але хутка на яго пасыпаліся градам другія ўдары. За кароткі тэрмін Вілі Койфер атрымаў некалькі вымоў, папярэджанняў, службовых пагроз. Лёс смяяўся над ім. І ўсё гэта за адно: за слабыя дзеянні супроць партызан, за няўменне спыніць рост партызанскага руху, які ўсё шырыўся і шырыўся, асабліва ў яго раёне. Штурмфюрэр кідаўся ва ўсе бакі, прымаў самыя жорсткія меры. Але тут ужо не дапамаглі ні імя бацькі, ні яго сувязі, ні грошы. Ён пазнаў суровыя законы вайны. Ранейшая жыццёвая мэта згубіла сваю першапачатковую прывабнасць. У яго больш не было ўжо ніякіх высокіх Мэт, акрамя адной: ратаваць сваё жыццё, вырвацца з гэтага пекла жывым. Ён напісаў і больш месяца насіў у кішэні ліст да бацькі, у якім прасіў дапамагчы яму перавесціся назад у тыл, хоць бы на старое месца ў Варшаву. Звычайнай палявой поштай ён баяўся адсылаць такі ліст, бо добра ведаў, як працуе ваенная цэнзура, і чакаў зручнага выпадку.

Але пасля аднаго здарэння ён перамог страх перад цэнзурай і паслаў ліст.

Гэта здарылася першага мая. Напярэдадні ён атрымаў пяшчотны ліст ад жонкі, у красавіку амаль не паступалі звесткі аб дзеянні партызан, і гэта падняло яго настрой. Ён прачнуўся ў той дзень вельмі рана, толькі што ўзыходзіла сонца. Вокны спальні выходзілі на ўсход, і пакой быў заліты яркай чырванню ад першых праменняў сонца. Ён надзеў халат і накіраваўся на двор. Але, адчыніўшы дзверы, камендант у жудасці адхіснуўся. На ўсходцах ганка ляжаў забіты вартавы.

Вілі Койфер доўга глядзеў на васковы твар забітага, а потым кінуўся назад у пакой, па прывычцы схапіўся за тэлефонную трубку. На шчасце, тэлефон працаваў. Ён выклікаў каравул. Праз хвіліну салдаты абкружылі яго дом і ўбачылі над дахам чырвоны сцяг. Вялікае палотнішча, прымацаванае да бліскучай дзюралюмініевай штангі, купалася ў праменнях узыходзячага сонца.

Убачыўшы сваіх салдат, Койфер у адным халаце выскачыў на двор і кінуўся ўцякаць.

— Дом замініраваны! Там міны! — закрычаў ён.

Такое паведамленне, нібы магутная хваля ад выбуху, адкінула ад дома ўсіх салдат.

Толькі Генрых Візэнер, які выпадкова начаваў з невялікім атрадам сваіх салдат у гэтую ноч у раённым цэнтры, застаўся на месцы і спакойным голасам, хаваючы іранічную ўсмешку, загадаў салдатам агледзець дом і зняць сцяг.

Салдаты не знайшлі нічога падазронага ні ў доме, ні каля яго, акрамя слядоў босых ног, пасыпаных ці палітых нечым такім, ад чаго сабакі-ішчэйкі ўраз згубілі здольнасць ісці па гэтых слядах. Але калі салдат па загаду Візэнера падняўся на страху, каб зняць сцяг, у паветры ціўкнула куля, і немец, прастрэлены ў спіну, грымнуўся дадолу. Стрэл ляснуў дзесьці далёка на канцы горада. Ён ледзь дакаціўся да таго месца, дзе куля трапіла ў цэль, і ніхто з салдат і афіцэраў не мог дакладна паказаць яго напрамак.

Паднялі трывогу. Затрашчалі маторы машын і матацыклаў, спалоханыя і азвярэлыя ад жаху салдаты памчаліся па вуліцах соннага гарадка.

Койфер зайшоў у каравульнае памяшканне і не выходзіў адтуль. Усім камандаваў Візэнер. Назіраючы праз акно, з якім спакоем той гэта рабіў, і ўспамінаючы свой спалох, камендант узненавідзеў падначаленага афіцэра.

Нарэшце ён выйшаў з памяшкання, загадаў ардынарцу прынесці мундзір. Але ў гэты момант другі салдат, які падняўся на страху за сцягам, быў паранены ў руку. Здалося, што стрэл прагучаў ужо зусім убаку і таксама далёка.

Сцяг збілі кулямётнай чаргой.

Партызан не знайшлі, хоць і перавярнулі ўвесь гарадок. Па загаду Койфера забралі некалькі мірных жыхароў, мужчын і жанчын, і расстралялі іх, хоць Візэнер быў супроць гэтай меры.

А праз некалькі гадзін у камендатуру пачалі паступаць адно за другім паведамленні аб дзейнасці партызан у розных месцах раёна. У адным — разгромлен паліцэйскі гарнізон, у другім — павешаны стараста, у трэцім — спалена станцыя, узарваны чыгуначны і шасейны масты, забіта варта і многа іншага.

У Койфера кружылася галава ад гэтых звестак, цямнела ў вачах.

Візэнер, забыўшыся на ўсялякую субардынацыю, злосна папракаў яго:

— Я папярэджваў вас, пан штурмфюрэр. Трэба было чакаць, чорт вазьмі, што яны адзначаць сваё свята і з яшчэ большай сілай

нанясуць удары. А мы лавілі варон. Суцешылі сябе тым, што яны перад святам на некалькі дзён прыціхлі. Трэба было разумець!

Раздаўлены Койфер маўчаў.

Але хутка пасля гэтага з'явіліся чатыры салдаты з атрада Візэнера і паведамілі аб разгроме гарнізона ў Прыгарах. Іх чацвёра — гэта было ўсё, што засталося ад сарака чалавек гітлераўцаў і паліцэйскіх, якіх Візэнер пакінуў у вёсцы. Обер-лейтэнант пабялеў. А Койфер зларадна ўсміхнуўся: у душы ён чакаў такога паведамлення, каб у сваю чаргу папракнуць Візэнера. Калі салдаты і дзяжурны афіцэр выйшлі і яны засталіся ўдвух, Койфер з ядавітай іроніяй сказаў:

— О, я цудоўна вас разумею, пан обер-лейтэнант. Вы ведалі ці здагадваліся аб гэтым налёце і, каб ратаваць сваё жыццё, уцяклі з вёскі...

Візэнер падхапіўся, як уколаты; твар яго наліўся чырванню. Яго абурыла, што гэты тупы, як ён заўсёды лічыў, эсэсавец разгадаў такі тонкі і хітры манеўр яго.

— Я не дазволю! — закрычаў ён.

Койфер таксама падхапіўся, ударыў кулаком па стале.

— Вы — баязлівец! Я аддам вас пад суд... Вы не мелі права пакідаць гарнізон!

Візэнер злосна засмяяўся.

— Я пакінуў яго з вашага дазволу. А вось вы... Вас усе бачылі, як вы ў адных споднiках уцякалі з дома.

Камендант абмяк, зморана апусціўся ў крэсла, успомніўшы свой ганебны страх.

З гэтага дня Койфер згубіў усялякую душэўную раўнавагу. Па начах ён не спаў: усю ноч яму трызнілася, што хтосьці паўзе да дома, рэжа вартавых і лезе праз акно да яго. Ён раз-пораз аглядаўся на вартавога, які дзяжурыў у спальні, і, пераканаўшыся, што яго нерухомая постаць на месцы, накрываўся коўдрай з галавой. Але тады пачыналі гучаць стрэлы, крыкі. Калі ж яму на якую гадзіну ўдавалася заснуць, то ў сне ён бачыў яшчэ большыя жахі.

Удзень ён хадзіў як цень, бязвольны, змучаны бяссонніцай. Яго фантазія канчаткова вытхнулася, і ён не мог ужо прыдумаць ніводнай новай меры супроць партызан. Неяк само здарылася так, што ўсе абавязкі каменданта пачаў добраахвотна выконваць Візэнер. І выконваў іх старанна. Койфер зразумеў гэта, прачытаўшы яго загад аб тым, што той, хто зловіць былога сакратара райкома партыі Лясніцкага, атрымае ад нямецкага камандавання 15 тысяч марак, 25 гектараў зямлі, трох коней, пяць кароў і іншую маёмасць. Ён здзівіўся, як гэта да такой простай рэчы не дадумаўся ён сам, і прымірыўся з

дзейнасцю свайго добраахвотнага намесніка, пастараўся забыць нават на тую абразлівую размову, якая адбылася паміж імі першага мая.

Візэнер штовечар акуратна дакладваў яму аб падзеях дня. Але з усяго гэтага камендант разумеў толькі адно. З наступленнем вясны незлічоная колькасць партызанскіх агітатараў навадніла ўсе вёскі, увесь раён і вядзе сваю работу. Партызанскія атрады разрастаюцца ў нябачаную, няўлоўную вялізную армію, якая ўжо з'яўляецца надзвычай сур'ёзнай небяспекай для нямецкай арміі. Партызаны робяцца сапраўднымі гаспадарамі ў раёне глыбокага нямецкага тылу, а ён, камендант, прадстаўнік вялікай Германіі, прысланы сюды, каб устанавіць «новы парадак», вымушаны толькі абараняць самога сябе, дрыжаць за сваё жыццё. Становішча было да неверагоднасці недарэчнае, крыўднае. Койфер адчуваў гэта і пакутаваў яшчэ больш, не ўмеючы вынайсці новых мер для барацьбы з партызанамі. Некалькі разоў ён хацеў было спытаць парады ў Візэнера, але гонар не дазволіў яму знізіцца да гэтага.

Вывеў яго з такога цяжкага становішча сакрэтны загад фельдкаменданта. Загад яму прывёз афіцэр фельдсувязі пад вельмі ўзмоцненым канвоем — легкавую машыну экскартаваў грузавік з салдатамі. Убачыўшы такі канвой праз акно кабінета, Койфер перапоўніўся найвялікшаю павагаю да невядомай яшчэ паперкі і чакаў яе з надзеяй і страхам. З хваляваннем ён разарваў канверт і прачытаў усё ад першага слова да апошняга некалькі разоў. І раптам твар яго асвяціўся ўсмешкай, ён выпрастаўся, велічна прайшоў ад дзвярэй, дзе ён спаткаў афіцэра сувязі, да стала, сеў у крэсла, паклаўшы нагу на нагу.

— Цудоўна!

У адну хвіліну ён раптам зноў зрабіўся суровым штурмфюрэрам, Богам і царом даверанага яму раёна. Уладарным кіўком галавы ён запрасіў афіцэра сесці і спытаў:

— Вы знаёмы са зместам загаду?

— Так. У выпадку... у мяне было ўсё нарыхтавана знішчыць яго і потым аднавіць па памяці.

— Геніяльна прыдумана!— Койфер у захапленні стукнуў далоняй па паперы.

— Але поспех будзе залежаць ад такога ж геніяльнага выканання яго, — заўважыў афіцэр сувязі.

— Я зраблю ўсё, каб выканаць такі загад. Перадайце... — ён падняўся, і афіцэр сувязі падскочыў таксама, — перадайце, што загад будзе выканан дакладна.

Калі афіцэр выехаў, Койфер паклікаў да сябе Візэнера. Обер-лейтэнант толькі глянуў на свайго начальніка і, адразу зразумеўшы перамену, насцярожыўся, паправіў рэмень.

Камендант даў яму прачытаць загад і сказаў:

— Я даручаю арганізацыю ўсяго гэтага вам, пан обер-лейтэнант.

Даручэнне Візэнеру спадабалася. У гэтай новай рабоце было многа цікавага, а самае галоўнае — было шырокае поле для самастойнай дзейнасці, для праяўлення ініцыятывы, што заўсёды любіў ён.

Рэшту дня яны правялі за агульным сталом, распрацоўваючы дэталёва план выканання загаду.

Закончылі работу добрым абедам з выпіўкай. Пілі за поспех.

IV

Месячык залівае матавым святлом бяскрай

нюю прастору поля. Было так светла, што можна было нават лёгка чытаць, але ў гэтым святле гублялася адчуванне адлегласці: асобныя прадметы аддаляліся, а другія, наадварот, набліжаліся, і ўсе расплываліся, як у тумане, і набывалі дзіўныя фантастычныя формы.

Быў канец мая. Зямля дыхала цёплым парам. Травы разлівалі густы водар. А на іх і на рунь пасеваў падала раса, чыстая і бліскучая, як дыямент. Месячык выткаў па расе срэбныя сцежкі. І вось па такой сцежцы ішлі два чалавекі.

Наперадзе — мужчына, апрануты ў звычайную сялянскую вопратку, а ззаду крокі на тры ад яго — жанчына ў цёмным плацці, шчыльна аблягаўшым яе стройную постаць. Ішлі яны хутка, але ногі іх стомлена чапляліся за траву. А на разорах жанчына некалькі разоў спатыкнулася. На шчасце, поле было чыстае і роўнае і нават, нягледзячы на такі позні час, не ўзаранае. Толькі дзе-нідзе траплялася вузкія палоскі пасеянай ярыны. Раннія пасевы былі ўжо ў калена, і раса мачыла ногі. Тады мужчына спыніўся, павярнуўся да сваёй спадарожніцы і прапанаваў:

— Давайце, Тацяна Карпаўна, разуемся. Так будзе лягчэй, а то я ледзь іду.

Яна моўчкі нахілілася і звыклым рухам скінула туфлі, ударыла імі адзін аб адзін, каб адбіць наліпшую зямлю.

— Вось і гатова, Павел Сцяпанавіч.

Лясніцкі сеў на росную траву і, пакрэктваючы ад натугі, сцягнуў намокшыя боты. Пачаў расціраць сухім канцом анучы нацёртыя ногі.

— Ішоў і ўвесь час аб зямлі думаў, палоскі лічыў. А сэрца крывёю аблівалася. Гэта зямля калгаса «Воля». Буйнейшы і багацейшы калгас. Два трактары цэлае лета працавалі на гэтым полі. У мінулым годзе тут

лапінкі незасеянай зямлі нельга было знайсці, а зараз... Палоскі, нібы сто гадоў назад. Колькі трэба будзе працы прыкласці, каб вярнуць зямлі даваенную сілу, ураджайнасць. Палітая крывёю, яна высмакча і поту нямала... Але нічога, мы народ жылісты. Выцягнем.

Ён змоўк і доўга аб нечым думаў. Тацяне здалося, што камісар задрамаў, і яна нахілілася і паціху дакранулася рукою да яго пляча.

— Павел Сцяпанавіч, нам трэба спяшацца.

Ён хутка падхапіўся і шпарка рушыў наперад. Тацяна ледзь паспявала за ім. Яны прайшлі поле, перасеклі дарогу і ўвайшлі ў малады хвойнік. Густое, насычанае водарам расцвіўшай хвоі, паветра ўдарыла ім у твар, на міг захлынула грудзі. А потым яны пачалі дыхаць павольна і глыбока, і адразу прыемная стома разлілася па ўсяму целу, аслаблі мускулы; самі зліпаліся павекі. Тацяна намачыла ў расе руку і працерла вочы. Лясніцкі спыніўся, па маленькаму ручному компасу праверыў напрамак.

— Не заблудзіцца б нам у гэтым гушчары, — ціха сказаў ён.

Хвойнік рабіўся ўсё гусцейшы і гусцейшы. Іголкі балюча калолі рукі, твар, і яны вымушаны былі ісці, нізка схіліўшыся. Нарэшце яны выбіліся на вузкую лясную дарожку і па ёй хутка выйшлі зноў на поле.

— Вось і прыйшлі, — сказаў Лясніцкі, спыніўшыся і пільна ўглядаючыся наперад. Там, праз змрочнае святло месячнай ночы, вырысоўваліся туманныя і, здавалася, надзвычай вялізныя сілуэты будынкаў. Відавочна, там была вёска. Але мёртвая цішыня не выдавала прысутнасці ніводнай жывой істоты.

— Куды ж мы адхіліліся? Дзе ж тут гумно? — раздумліва спытаў Лясніцкі.

— Вось там нейкая будыніна, — паказала Тацяна налева, дзе амаль каля самай цёмнай сцяны хвойніку віднелася вялікае гумно.

Яны адышлі назад, у цень дрэў, і пачалі асцярожна падкрадвацца да гумна. Недалёка ад яго спыніліся. Лясніцкі доўга і напружана ўслухваўся, а потым тройчы ціха свіснуў. У адказ у гумне сіпла закукарэкаў певень.

— Так... свае... Але на ўсякі выпадак дастаньце гранату, — загадаў ён Тацяне, а сам выцягнуў з кішэні пісталет, сціснуў яго ў руцэ і смела пайшоў да гумна. Ад цёмнай сцяны адарвалася постаць чалавека і накіравалася ім насустрач.

— Жэня? — спытаў шэптам малады голас.

Лясніцкі сунуў пісталет у кішэню. Тацяна падумала аб сакратару падпольнага райкома камсамола: «У кожнай вёсцы яго ведаюць. Як толькі ён упраўляецца?»

— Замест яго, таварыш Сумак, — азваўся Лясніцкі.

Малады хлопец (ён ужо быў так блізка, што можна было добра разгледзець яго твар) разгублена спыніўся з працягнутай для прывітання рукой, але не адважваючыся зрабіць яшчэ адзін крок, каб падаць руку.

Камісар зрабіў гэты крок і паціснуў працягнутую руку.

— Вы-ы!.. Таварыш Лясніцкі? — радасна ўсхваляваны, спытаў ён. — Вось гэта цудоўна! А то ведаеце, што сёння было? Староста наш прыехаў з раённага цэнтра і клянецца, што бачыў, як вас арыштаванага вялі пад канвоем цэлай роты салдат.

Лясніцкі засмяяўся.

— Цэлай роты? Здорава ж яны баяцца мяне, калі думаюць канваіраваць цэлай ротай. Але... хлопцы сабраліся?

— Шаснаццаць чалавек.

Каля варот стаяў вартавы.

Яны зайшлі ў гумно, а потым праз вельмі вузкі праход, які нагадваў хутчэй нару, залезлі ў ёўню. Яе чорныя пракураныя сцены і столь асвятляліся тонкім языком полымя невялічкай газоўкі, якая мігцела высока на стаяне. Дол быў у цяні, і Лясніцкі і Таццяна спачатку нікога не ўбачылі. Але іх убачылі адразу, і моладзь узрушана зашаптала:

— Лясніцкі!..

— Сакратар райкома!

— Павел Сцяпанавіч.,. Значыцца, падлюка староста хлусіў.

Лясніцкі ўзяў у руку газоўку, прысеў з ёй і ўбачыў групу юнакоў і дзяўчат, якія сядзелі на глінянай падлозе.

— Пазналі? — усміхнуўся Лясніцкі. — Ну, здарова, сябры! Здзіўляецеся? А вы паменш слухайце нямецкай хлусні, тады і здзіўляцца менш будзеце. І баяцца не будзеце.

— А мы і так не баімся, таварыш сакратар, — адгукнулася высокая дзяўчына, што сядзела наперадзе. Лясніцкі пазнаў яе — даярка гэтага калгаса.

— Правільна, Гаіна! — Некалькі чалавек пераглянуліся, здзіўленыя, што сакратар ведае нават імя іх сяброўкі. — Баяцца нам нельга. Баязлівасць — наш злейшы вораг. Хай немцы баяцца нас. Аднак раскажыце-ка, як вы жывеце. Што робіце, што думаеце рабіць?

Хвіліну цягнулася няёмкае маўчанне. Лясніцкі ўглядаўся ў маладыя твары, вывучаючы і запамінаючы рысы кожнага.

«Якая прыгажуня, — падумаў ён, спыніўшы позірк на дзяўчыне год шаснаццаці з доўгімі залатымі косамі. — І яшчэ зусім дзіця».

Сапраўды, Маша Плотнік выглядала самай маладой з усіх шаснаццаці камсамольцаў.

І раптам, нечакана для яго, першай загаварыла яна:

— Ды што нам расказваць, Павел Сцяпанавіч! Мы ўсё разумеем і гатовы зараз жа ісці за вамі. Вядзіце нас...

Камсамольская арганізацыя аднавіла сваю работу толькі ў красавіку, пасля таго як вёску наведаў Яўген Лубян. Тады ў гэтай жа ёўні ён сабраў першы сход. Было абмеркавана адно пытанне: задачы камсамольцаў у барацьбе супроць фашысцкіх акупантаў.

З той дажджлівай красавіцкай ночы прайшло толькі паўтара месяца, а ў арганізацыі шмат што зроблена. Гэта былі ўжо не тыя юнакі, якія разгубіліся ад нечаканасці навалы ў першыя дні акупацыі, а адважныя, падрыхтаваныя змагары, гатовыя па першаму ж закліку ўзяць зброю і далучыцца да тых, што былі ўжо ў лесе. Яны і зброю падрыхтавалі сабе: знайшлі пяць вінтовак і ўкралі ў немцаў два аўтаматы і скрыню гранат.

Хлопцы ўсё больш смялелі і ўжо проста, як старому сябру, пачалі расказваць Лясніцкаму ўсе вясковыя навіны, зусім не падазраючы, што для камісара гэта былі амаль што самыя каштоўныя звесткі аб ворагах і сябрах.

Але час ішоў. Набліжалася раніца. Лясніцкі дастаў гадзіннік, глянуў на яго. І камсамольцы адразу зразумелі і змоўклі. За іх усіх сказаў сакратар арганізацыі Іван Сумак:

— Адным словам, таварыш Лясніцкі, усе мы гатовы зараз жа ў атрад.

Лясніцкі зірнуў на Тацяну, якая моўчкі сядзела на саломе, усміхнуўся.

— Не, сябры мае, — ціха загаварыў ён. — Сёння мы разам не пойдзем, але не больш як праз тыдзень частка вас павінна стаць байцамі нашых атрадаў. Я гавару «частка», бо ўсім ісці нельга. Трэба, каб арганізацыя існавала, дзейнічала ў вёсцы, папаўняла свае рады. Вось калі вы зноў вырасцеце хоць бы да такой колькасці, тады вы зможаце зноў даць нам папаўненне. Але тыя, што застануцца ў вёсцы, таксама будуць нашымі байцамі. Работы для іх хопіць. І не менш важнай. Партызанскае камандаванне, падпольны райком спадзяюцца на вас, — Лясніцкі на момант змоўк, абвёў усіх пільным позіркам, — і таму дае вам самыя адказныя заданні. Вы ўжо мелі некалькі такіх заданняў. Зараз я стаўлю перад вамі больш складанае. — Ён панізіў голас: — Ваш стараста — здраднік. Суровая рука народа павінна караць такіх мярзотнікаў, каб яны не паганілі нашу зямлю. Усім ім ужо вынесены прысуд народа. Вам трэба выканаць гэты прысуд.

Камсамольцы пераглянуліся паміж сабой.

— Тэрмін — тыдзень. Мы ўпэўнены ў вас. Але, — голас яго стаў спакайнейшым, па-бацькоўску клапатлівым, — будзьце асцярожнымі. Наш вельмі дорага зараз жыццё кожнага нашага байца. Вось і ўсё. Нам пара, — ён падняўся.

Таццяна адвярнулася і выцягнула з-за пазухі пачку паперы, працягнула Сумаку.

— Наша газета. Вазьміце пачытайце, перадайце народу.

— І пішыце нам, — дадаў Лясніцкі. — Ну, бывайце, таварышы. Праз тыдзень чакайце ў госці. Пайшлі, Таццяна Карпаўна, — ён накіраваўся да выхаду, але каля дзвярэй спыніўся, павярнуўся да камсамольцаў І ціха спытаў:

— Хлопцы, у каго-небудзь акрайца хлеба не знойдзецца? А то мы з Таццянай з учарашняй раніцы пастуем.

Хлопцы разгублена зашапталіся. Хлеба ні ў каго не было...

— Што ж гэта вы?.. Сабраліся ў паход і па кавалку хлеба не ўзялі! Ну і салдаты! — пажартаваў

Лясніцкі.

— Мы зараз прынясем, таварыш камандзір. Пачакайце хвіліначку, — азваліся некалькі чалавек і памкнуліся бегчы за харчамі.

Лясніцкі паківаў галавой.

— Дрэнныя з вас яшчэ канспіратары,, — і першы хутка нырнуў у цесны квадрат дзвярэй.

## V

Зноў яны моўчкі ішлі полем. Лясніцкі — на

перадзе, Таццяна — за ім. Але ішлі цяпер значна павальней, зморана схіліўшыся, цягнучы ногі. Іх ужо не цікавіў ні месячык, што спусціўся ніжэй і зрабіўся бялейшым, ні начны водар майскага поля.

Лясніцкі раз-пораз азіраўся назад, на ўсход, дзе неба паступова святлела. Азірнуўшыся, ішоў шпарчэй, але нядоўга — зморанасць перамагала, і ногі зноў чапляліся за траву.

У Таццяны зліпаліся павекі. Былі моманты, калі яна зусім засынала, і кожны раз ёй здавалася, што цела правальваецца ў нейкую бездань. Уздрыгнуўшы, яна расплюшчвала вочы.

Дарогу ім перагарадзіў глыбокі палявы роў. Крутыя абрывы яго густа зараслі кустамі шыпшыны, маліннiку, алешніку і чаромхі.

Яны, не спыняючыся, пачалі спускацца на дно рова, чапляючыся за кусты, абдзіраючы да крыві твар і рукі аб вострыя калючкі шыпшыны. На дне рова пяшчотна булькаў невялічкі ручай.

Лясніцкі ўпаў перад ім на калені, потым лёг ніцма, напіўся і акунуў у халодную заду галаву. Тацяна таксама села на вільготны пясок, напілася, чэрпаючы ваду прыгаршчамі, прамыла вочы. Вада асвяжыла, прагнала сон. Але падымацца не хацелася, цяжка было паварушыцца. Хацелася хоць адну хвіліну пабыць вось так нерухома, нават стаіўшы дыханне, бо ад стомы ўжо пачынала балець і ў грудзях.

Лясніцкі апусціў галаву, прыціснуўся шчакой да калючага пяску.

— Адну хвіліначку, Танюша. Толькі ты не засні, — ледзь чутна прашаптаў ён і заплюшчыў вочы.

Яна падумала аб тым, што вось ужо колькі разоў у апошнюю ноч ён назваў яе так проста, ласкава, звяртаючыся на «ты», чаго ніколі не рабіў раней. І ёй раптам стала шкада гэтага моцнага і шчырага чалавека.

Слёзы замілавання і шчырай дачарынскай любові змачылі яе апушчаныя вейкі.

«Яму так цяжка... Цяжэй, чым любому з нас, яго байцоў. Колькі ён ходзіць, колькі працуе!.. А за ім палююць сотні ворагаў. У-у, гады! Не ўзяць вам такога чалавека! Мы жывой сцяной абкружылі яго».

Перапыніў яе думкі салавей. Ён нечакана зашчоўкаў у кустах.

Яна падняла галаву. Радасная ўсмешка асвятліла яе твар. На нейкі момант яна забыла аб усім і захоплена, прагна слухала гэты спеў. Даўно ўжо яна не слухала салаўя. З мінулага года. Лёгкі смутак на нечым неасэнсаваным, але блізкім, неабходным для жыцця і шчасця, крануў яе сэрца.

Салавей разбудзіў і Лясніцкага. Ён расплюшчыў вочы, паглядзеў у той бок, адкуль ляцелі яго звонкія трэлі. Убачыў маладое дрэўца, што прыгожым купалам выразна вырысоўвалася на фоне пасвятлеўшага неба, пабляклыя зоркі, адна з якіх, здавалася, прычапілася за самую верхавіну і вісела буйной спелай рабінінай. Адчуў пах адцвітаючага бэзу і водар лугавых кветак. Усё гэта чамусьці нагадала яму бязрадасную батрацкую маладосць і адзінае шчасце ў ёй — светлае каханне і жаніцьбу. Але шчасце гэтае было кароткім. Жонка памерла ад першых родаў, У роспачы ён пакінуў вёску і пайшоў у горад.

Прайшлі гады, Былы батрак вывучыўся, стаў сакратарам райкома, але сваё першае каханне не мог забыць і ніяк не мог завесці новую сям'ю.

...Лясніцкі, паглядзеў на Тацяну і адчуў нейкую прыемную цеплыню. Яму здалося, што яна падобна на яго жонку, і, можа, таму захацелася ўзяць яе рукі, прыцягнуць да сябе і расказаць ёй аб сваім жыцці, аб даўнішнім светлым каханні. Часам з'яўляецца ў чалавека такая патрэба. Але ён умеў стрымліваць парыванні душы. Ён быў з

ліку тых людзей, якія старанна абдумваюць кожны свой учынак, кожны крок. Ён рашуча сказаў: "Не!» і зноў прыціснуўся да зямлі. У галаве шумела: «Ісці трэба, ісці...» — але падняцца было цяжка, зморанасць перадужвала, самі зліпаліся цяжкія павекі...

Пасля ён і сам не мог зразумець, ці то ён сніў, ці марыў. Але яму раптам уявіўся яго рабочы кабінет у райкоме. Ён працуе — рыхтуе чарговы даклад. Звоніць тэлефонны званок. Ён бярэ трубку I чуе дакорлівы голас Таццяны:

— Павел, мы пачынаем губляць усялякае цярпенне. Калі ж ты, нарэшце, прыйдзеш абедаць?

— Іду, іду, Танюша, — ласкава адказвае ён, Збіраецца I хутка ідзе на кватэру. Там за сталом сядзяць Таня і хлопчык год трох, вельмі падобны да самога Лясніцкага. Хлопчык дакорліва ківае галавой і смешна так гаворыць:

— Спазняецеся, таварыш сакратар.

— ...Мы спознімся, Павел Сцяпанавіч, — гаворыць другі голас, і чыясьці рука, кранае плячо. Лясніцкі расплюшчыў вочы і некаторы час не мог зразумець, дзе канчаўся сон і пачыналася рэчаіснасць.

— Хадзем, Павел Сцяпанавіч. Ужо развідняе, — нарэшце дайшоў да яго свядомасці голас Таццяны. Ён падхапіўся, пераскочыў цераз ручай і пачаў паднімацца па крутым схіле з рова. А ўжо ў полі, успомніўшы сон, ціха засмяяўся.

— Чаго вы, Павел Сцяпанавіч? — спытала Таццяна,

— Проста так, Танюша, — ухіліўся ён ад адказу, але, падумаўшы, сказаў: — Уявіў сябе ў будучым. Цікава гэта. Вялікая сіла — мара. Чалавек без яе быў бы нішто.

VI

У час, калі неба на ўсходзе стала ярка-ружовым і згаслі апошнія зоркі, яны прыйшлі ў Межы.

Гэтая вялікая вёска, расцягнутая больш чым на два кіламетры, адным сваім канцом упіралася ў пушчу. Крайнія хаты стаялі амаль пад самымі соснамі, шышкі і хвоя заляталі ў двары.

Яны зайшлі ў лес, залеглі ў канаве, якая была мяжой паміж пушчай і полем, прыслухаліся. Было ціха. Толькі дзесьці ў другім канцы вёскі часта і неяк трывожна мычала карова.

Лясніцкі насцярожыўся.

— Не падабаецца мне гэтая цішыня, — задуменна сказаў ён. — Звычайна ў такі час вёска прасыпаецца. Рыпяць жураўлі, брынчаць цыбаркі, пераклікаюцца суседкі. Так?.. А тут нешта... — ён паглядзеў на ўсход, хвіліну памаўчаў. — Я ж сам, па сутнасці, мяжанін. Сем год

батрачыў тут у кулака, у бацькі таго самага Храпкевіча... Пасля іх пачастунку тыдзень есці не хочацца. — Лясніцкі засмяяўся і вылез з канавы. Рушыў праз гароды да хаты Уліты Грэбневай. Але ўжо ў яе гародзе да іх слыху даляцела нейкае перарывістае галашэнне.

Лясніцкі спыніўся, даў знак Тацяне легчы ў мяжу і лёг сам. Яны сталі дыханне і добра пачулі, што галосяць у хаце Уліты.

— Што ж там у іх такое? — разважліва спытаў

Лясніцкі, услухваўдчыея ў галашэнне.

— У хаце — нябожчык, — здагадалася першая Тацяна.

— Нябожчык? — Лясніцкі падняўся і смела рушыў у двор.

Дзверы ў сенцы былі адчынены, і яны без шуму зайшлі туды. У гэты момант жанчына загаласіла зноў. Камісар пазнаў голас Уліты і пабялеў.

Страшная здагадка мільгнула ў яго галаве, і ён не адважваўся зайсці ў хату, баючыся, што здагадка спраўдзіцца. Нарэшце вельмі ціха ён адчыніў дзверы і адчуў, што на нейкі момант сэрца спынілася, а потым дрогнула і закалацілася часта-часта. Так... на дзвюх ссунутых лаўках, там, дзе звычайна стаіць стол, ляжала Таня — ён адразу пазнаў яе, хоць і не ўбачыў твару нябожчыцы. Уліта стаяла на каленях перад дачкою і галасіла. У хаце былі тры старыя жанчыны і дзве маленькія дзяўчынкі.

Хрысціліся. Гарэла свечка. Пахла расплаўленым воскам і... крывёю.

Адна жанчына ўбачыла Лясніцкага і, здзіўленая, прашаптала:

— Павел прыйшоў.

Уліта павярнулася, пазнала яго і кінулася да дачкі, абняла і загаласіла гучней.

— А мая ж ты дочанька, а мая ж ты кветачка! А ці бачыш ты, хто да цябе прыйшоў? А ты ж чакала яго дзень і ноч. А ты ж прагледзела свае ясныя вочанькі. А ты ж успаміна яго раніцою і вечарам. Успомніла ж ты яго і там... А цяпер ты не бачыш і не чуеш... Маё ж ты сонейка, маё дзіцятка адзінае. Падыміся ж ты ды паглядзі на нас апошні разочак, на ясны дзянёчак ды на белы свет.

Нібы ў тумане, Лясніцкі перайшоў хату, нахіліўся і моўчкі пацалаваў нябожчыцу ў белы халодны лоб.

Тады Уліта, галосячы, звярнулася да яго:

— А ці бачыш ты, Паўлік, што зрабілі з тваёй разведчыцай? А зрабілі ж гэта твае хлопцы. А чаму ж ты іх не стрымліваў? Чаму ты не сачыў за імі? А ці ж ведалі яны, на каго падымалі руку?

Не адразу сэнс гэтых слоў-галашэнняў дайшоў да затуманенай нечаканым горам свядомасці камісара брыгады, а калі дайшоў, дык

ён уздрыгнуў усім целам, яму здалося, што нешта цяжкае нечакана ўдарыла па галаве.

«Што яна гаворыць?.. Мае хлопцы... нашы партызаны забілі Таню Грэбневу? Завошта? Што за недарэчнасць!» — ледзь не крыкнуў ён, але своечасова схамянуўся, кіўком галавы паклікаў адну старую жанчыну ісці за ім, выйшаў з хаты і, цяжка дыхаючы, сеў на ўсходцах ганка.

Тацяна, у якой цяжкае рыданне горкім камяком захраснула ў горле, выйшла таксама і механічна, не разумеючы таго, што робіць, села побач. Ён паглядзеў на яе і ціха сказаў:

— Вось якія справы, Танюша.

Жанчына выйшла праз хвіліну.

— Што здарылася, цётка Параска? — амаль шэптам спытаў Лясніцкі.

Старая цяжка ўздыхнула.

— Э-эх, не пытайся, Паўлік. І сама не ведаю. О-хо-хо. Гора наша, гора, — яна пакачала галавой, выцерла рогам хусткі вочы. — Учора пад вечар прыехаў у вёску атрад... Жаўна нейкі...

— Жаўна? — здзівіўся Лясніцкі. — Ну-ну?

— Ну... прыехалі, сабралі ўсю вёску на плошчу, перад сельсаветам... І чытае загад, нібыта табою, Павел, падпісаны. Загадваеш ты мабілізаваць усіх маладых хлопцаў у партызаны, а тых, хто не хоча ісці, схаваецца, запісваць у дэзертыры, здраднікі і расстрэльваць на месцы... Вось так... О-хо-хо... Скончыў гэта ён чытаць, а Таня і крыкнула яму: «Няхай, — кажа, — той, хто падпісаў гэты загад, прыйдзе ды пагутарыць з намі». Тут яе першую і вывелі з натоўпу, каля сцяны паставілі. А потым пытаюць: «Хто жадае ў партызаны? Выходзь...» Маўчаць людзі. Бог ведае, хто яны такія, ці сапраўды партызаны, ці паліцэйскія. Ну, і маўчаць людзі. Тады яны падыходзяць да двух братоў Мартынавых, пытаюць: «Вы жадаеце?» А старэйшы, Васіль, раззлаваўся ды ў адказ: «Можа,— кажа — і пойдзем, але не ў ваш атрад». Узялі іх, разам з Таняй паставілі. А потым так вось спыталі Дубадзеда Ігната хлапца і сына настаўніцы Веры Фёдараўны. Ну, і гэтыя не згадзіліся. Тады гэты... як яго?.. Жаўно гэты з кулямёта... О-хо-хо. Так усе яны, пяць саколікаў, і паваліліся, — старая выцерла слёзы, памаўчала. — Перад усім народам, каля сцяны сельсавета. Чуеш, Павел? Народ кінуўся — хто куды. А яны страляць уздагонку. Яшчэ трох забілі. Старую Шчурыху, дзяўчыну Сямёна Бараздзецкага і Веру Фёдараўну. Яна, бедная, да сына кінулася. О-хо-хо!.. Горушка наша, гора! Што робіцца не белым свеце? А што пасля рабілася? Гвалтавалі, рабавалі, білі і ламалі... Ды

не верыць народ, што гэта ты загадаў, Павел. Госпадзі, як паверыць!.. Ці ж мы не ведаем цябе?

Паліцаі гэта былі. А, Павел? Павел!

Лясніцкі падняў галаву.

— Так, гэта — паліцаі, — цвёрда сказаў ён і, падняўшыся, накіраваўся да паліткі. Старая дагнала яго, учапілася мазолістымі пальцамі ў рукаў кашулі.

— Павел! Пакарай гэтага нягодніка. Знайдзі яго. За слёзы нашы, за кроў, за гора наша, — голас яе дрыжаў.

Лясніцкі хутка павярнуўся, схапіў і сціснуў рукі старой жанчыны, у вачах у яго бліснулі слёзы.

— Я... я клянуся... Хто б гэта ні быў — нашай кары яму не мінаваць, — ён павярнуўся, хутка выйшаў на вуліцу.

Таццяна амаль бегла, каб не адстаць ад яго. Ён дзесьці пакінуў шапку і ішоў з непакрытаю галавою пасярод вуліцы. Лёгкі майскі вятрыска шавяліў яго белыя валасы. Таццяна заўважыла, што з кожнага акна, з кожнага двара праз шчыліны за ім сочаць дзесяткі пар вачэй.

«А раптам у адным з двароў немцы ці паліцаі?» — падумала яна і кінулася да Лясніцкага.

— Павел Сцяпанавіч! Што вы робіце? Глядзіце, за намі сочаць...

— Хто?

— Хто? Людзі. З кожнага двара. Але могуць быць немцы, паліцаі... Павел Сцяпанавіч!

Ён на момант спыніўся, агледзеўся і зноў хутка закрочыў наперад.

— Вунь толькі да тае хаты... Да старасты. Адно пытанне высветлю. А глядзяць гэта свае людзі. Не бойся.

Староста Гарун, убачыўшы іх праз акно, выбег насустрач, спалоханы, разгублены.

— Павел Сцяпанавіч! Добрай раніцы, добрага здароўечка. Бацька ты наш родны! А ў нас тут такое здарылася... І расказаць цяжка.

— Ты Жаўну ведаеш? — адразу спытаў Лясніцкі, не адказаўшы на яго прывітанне.

— Жаўну? Фёдара Жаўну? А як жа! Я ж у яго атрадзе зімою быў. Памятаеце? Вас жа праводзіў туды... Гэта было ў сакавіку, здаецца? Так, так... Фёдара Жаўну? Ведаю, ведаю... Добра ведаю.

— Ён?

Маленькі, шчуплы староста раптам зрабіўся яшчэ меншым, сціснуўся, утуліў галаву ў плечы, нібы на яго замахнуліся кіем.

Лясніцкі скалануўся ад раптоўнага прыліву гневу да гэтага чалавека, якому вельмі, доўгі час верыў. Падумаў: «Няўжо здраднік? Выгнуўся, як вінаваты сабака».

Гарун зашаптаў:

— Не ведаю... Не бачыў... У лесе быў. Пад проса карчаваў... З усёй сям'ёй сваёй...

Лясніцкі не стрымаўся — схапіў яго за каўнер кашулі.

— Лжэш! Лепшых людзей прадаў, сукін сын! А сам у

лес схаваўся, юда!

Гарун упаў на калені.

— Павел Сцяпанавіч... галубчык, родны. Богам клянуся, дзецьмі сваімі. Праўду кажу, — ён ірвануў кашулю, разарваў, агаліўшы валасатыя грудзі і белы жывот. — На-а! Страляй, на месцы забі! Як перад Богам, чысты я...

Лясніцкі расчапіў пальцы, павярнуўся да Тацяны.

— Нічога... Вінаватых знойдзем. Дорага яны заплацяць за кроў нашых людзей. Пайшлі, Таня.

Ён накіраваўся праз двор на гарод, але каля хлява спыніўся і павярнуўся да старасты.

— Немцы ў вёсцы ёсць?

— Няма.

— Што гавораць людзі?

— Рознае, Павел Сцяпанавіч, — Гарун наблізіўся. — Рознае. Ала, вядома, ніхто не верыць, што гэта партызаны. Паліцаі, сукіны сыны!

— Добра. Даведайся аб усім. Распытай. Увечары прышлю сувязнога.

Цяпер ужо яны не адчувалі ні зморанасці, ні голаду. Ішлі вельмі хутка.

Тое, што яны пачулі ад Параскі, надзвычай узрушыла камісара брагады, а ў Тацяны — зблытала ўсе думкі, нагнала страж, якога яна ніколі не адчувала раней. Упершыню яна зразумела,, якім суровым і небяспечным жыццём жывуць яны.

«Смерць можа напаткаць у любы час і ў любым месцы, дзе яе зусім і не чакаеш, — падумала яна і палахліва аглянулася на кусты на ўзлеску. — Няўжо гэты Жаўна сапраўды здраднік? А як жа людзі яго? Няўжо ўсе ў яго атрадзе здраднікі? Не, не можа гэтага быць! Не, не! — супакойвала яна сябе, але праз хвіліну з'явілася новая, яшчэ больш страшная думка: — А раптам ён прывядзе немцаў у лагер? Ён жа ведае ўсе хады, усе сцежкі». Гэта думка так спалохала яе, што яна на момант спынілася, застыла на месцы. Перад вачыма з'явіўся жудасны прывід: гітлеравец трымае высока над галавой яе маленькага Віцю.

Лясніцкі спыніўся таксама і здзіўлена глянуў на яе. Тацяна падбегла да яго, узрушана зашаптала:

— Павел Сцяпанавіч, а раптам ён прывядзе немцаў у лагер? А там жа зараз — нікога. Усе на заданні. Адны раненыя ды дзеці.

Лясніцкі нахмурыўся.

— Глупства! Жаўна — не здраднік. На яго баявым рахунку — сотні фашыстаў. Такі чалавек не можа здрадзіць! Ды як вы не можаце зразумець, што гэта чарговая фашысцкая правакацыя? — сурова спытаў ён. — Нельга быць такім даверлівым! Яны хочуць пахіснуць наш аўтарытэт сярод насельніцтва і робяць бандыцкія налёты пад выглядам партызан.

Яго словы супакоілі дзяўчыну. Значна цяжэй было яму супакоіць самога сябе... Ён быў цвёрда ўпэўнены, што крывавае злачынства ў Межах — справа гітлераўцаў. Але навошта ім імя Жаўны? Гэтага камандзіра сакратар райкома бачыў толькі некалькі разоў і ведаў аб ім вельмі мала (апошнюю акалічнасць ён адкрыў толькі цяпер). Яго невялічкі кавалерыйскі атрад лічыўся ў іх раёне, але дзейнічаў увесь час самастойна, вельмі часта ўходзіў далёка на поўдзень, на Украіну. У такім далёкім рэйдзе, у гэты раз дазволеным ужо самім Лясніцкім, атрад быў і ў апошнія дні. І раптам імем Жаўны падпісваюцца пад такімі страшэннымі правакацыйнымі справамі. Якая тут сувязь? Чаму яны выбралі Жаўну, а не другога партызанскага камандзіра? Усё гэта не давала супакою сакратару райкома. На душы ў яго ляжаў нейкі незразумелы цяжар і нешта падобнае на адчуванне ўласнай віны перад Таняй Грэбневай і іншымі загінуўшымі. Значна прасцей было б, каб гэтыя мярзотнікі ўздумалі прыкрыцца, напрыклад, імем Васіля Кандыбы. Тады не было б нічога незразумелага, ніякіх сумненняў, ніякіх пакутлівых пытанняў. Дык не ж — Жаўна.

Лясніцкі ішоў і лаяў сябе за тое, што не пазнаёміўся блізка, не вывучыў як належыць гэтага камандзіра.

У лесе яны спаткалі партызан з атрада Кандыбы. Змораных, мокрых, але шумных і вясёлых людзей вёў з задання сам камандзір, таксама зморany, панура-маўклівы. Васіль Кандыба і раней быў не вельмі гаваркі чалавек, а пасля смерці сям'і зрабіўся зусім маўклівы. Нават усмешка рэдка з'яўлялася на яго жоўтым хударлявым твары.

Але ўбачыўшы Лясніцкага, ён усміхнуўся, весела і шчыра. Радасна ўсклікнуў:

— Павел Сцяпанавіч! Віншуйце! Які мы сёння эшалончык спусцілі! І ведаеце дзе? На Шротавым мосце. І эшалон і мост адразу. Адных танкаў налічылі трыццаць восем. Шэсць цыстэрнаў з бензінам і два вагоны жывой сілы — чалавек пяцьдзесят фрыцаў. Усё згарэла...

Трое сутак ляжалі ў гэтым чортавым балоце, а свайго дабіліся. Гэта ўжо пяты на нашым рахунку. Хутка дагонім Гнядкова.

— Віншую, сябры, — шчыра ўзрадаваўся Лясніцкі, пацiскаючы рукі.

Тацяна пажартавала:

— Але не зусім ласкавым словам вас успамяне Гнядкоў. Ён жа два месяцы зуб вастрыў на гэты мост. Яны з маім бацькам нейкія новыя міны вынайшлі.

— Аб мінах іх мы ўжо чулі, — сказаў Кандыба і звярнуўся да Лясніцкага:— Я паслаў сваіх людзей, таварыш сакратар, каб павучыліся...

Разам пайшлі далей.

Лясніцкі расказаў аб падзеях у Межах. Партызаны абурыліся. Пачалі лаяцца:

— Сволачы! Куды б'юць.

— Душагубы праклятыя!

Кандыба зноў панурыўся, змоўк. Яны з Лясніцкім адышлі ўбок.

— Што ты думаеш аб Жаўне? — спытаў камісар. — Ты ж сустракаўся з ім.

Кандыба задумаўся.

— Чорт яго ведае. Смелы, вясёлы хлопец. Баявы камандзір. Мы ў сакавіку разам роту гітлераўцаў разграмілі. Цудоўнае ўражанне. Але не так даўно мяне крыху збянтэжыла адна звестка аб ім. Праўда, тады я не надаў ёй асаблівага значэння, але цяпер, можа, варта і падумаць. Вы ж самі, здаецца, казалі, што ён — абкружэнец, камандзір казанага ўзвода. Усе мы так і думалі. А я вось выпадкова даведаўся, што ніякі ён не камандзір, а да самай вайны працаваў у Чарнігаве. І ведаеце кім? Буфетчыкам. Пры вакзале. А?! Такі асілак і буфетчыкам. Нібы і работы больш не знайшлося для такіх рук. Ды і галава не пустая.

— Ты скуль гэта даведаўся? — здзіўлена спытаў Лясніцкі.

— У мяне ў атрадзе — машыніст чарнігаўскага дэпо.

— Дзе ён зараз?

— Павінен быць дома, — Кандыба партызанскі лагер называў «домам». Для яго цяпер гэта быў сапраўды родны дом, бо толькі ў лагеры ён не адчуваў сябе адзінокім.

— Пакажаш мне яго. Чорт! Як мы дрэнна ведаем сваіх людзей!

Падыходзілі да лагера атрада.

— Вось што, Кандыба. Нам затрымлівацца нельга. Падрыхтуй пару добрых коней, пакуль мы перакусім і я пагутару з машыністам. Трэба тэрмінова прыняць меры. Бо чым толькі чорт не жартуе, як

кажуць... Ты тут таксама трымай вуха востра. Узмацні варту. Пашлі ва ўсе бакі разведчыкаў. І ў першую чаргу ў Межы. Адзін няхай асцярожна зойдзе да Гаруна. Наогул старога трэба праверыць. Не спадабаўся ён мне сёння. Разумееш сам, як важна для нас як мага хутчэй ліквідаваць гэты бандыцкі атрад, хто б гэта ні быў — Жаўна, немцы ці хоць сам д'ябал... Ну, сукін сын! Трапіць ён мне ў рукі!

VII

Прыборны быў вясёлы, жыццярадасны чалавек. Рэдка якая няўдача засмучала яго. Але ўбачыўшы Лясніцкага і Тацяну на загнаных, пакрытых бруднай пенай, конях, свіснуў і не крануўся з месца насустрач ім. Першы раз твар яго не асвятліўся радаснай усмешкай. Ён зразумеў, што непрыемныя падзеі прымусілі іх так гнаць коней. А дрэнных навін было дастаткова і ў яго.

Толькі калі насустрач Тацяне з зямлянкі хуценька выпаўз маленькі Віця і з крыкам «мама» кінуўся да яе, спатыкаючыся, падаючы, Прыборны не стрымаў пяшчотнай усмешкі.

Тацяна падхапіла хлапчука на рукі, пацалавала.

— Сыночак мой! Галчонак мой! Як я засумавала па табе, — і павярнулася да камандзіра, прывіталася.

— Дзед... бух-бух... ва-ва, — заклапочаны нечым, лепятаў малы і цягнуў маці ў зямлянку-шпіталь.

Камісар і камандзір дапытліва зірнулі адзін аднаму ў вочы. Прыборны паспрабаваў пажартаваць:

— Бачу, не вельмі многа прыемнага ты прывёз. — Але тут жа шэптам спытаў: — Што здарылася, Павел?

— А ў цябе што?

— У мяне? У мяне, ліха на яго, ажно галава кружыцца. І ад добрага, і ад дрэннага. Але пачнем з прыемнага. Хадзем...

Яны зайшлі ў камандзірскую зямлянку, і Лясніцкі спыніўся, здзіўлены і ўзрадаваны. На стале стаяла новенькая бліскучая радыёстанцыя — іх агульная даўнішняя мара. На ложку камісара спаў чалавек, схаваўшы твар у падушку.

— Андрэй? — у Лясніцкага радасна заіскрыліся вочы.

Прыборны паківаў галавой.

— Не. Самога яшчэ няма. Затрымаўся ў Маскве. Але пасылачка гэта ад яго. Дабраўся. Жывы, здаровы. Некалькі дзён назад абком атрымаў трох радыстаў з радыёстанцыямі. Нам — у першую чаргу. Разумееш, што гэта значыць?

— А гэта значыць, што цяпер мы, Сяргей, зажылі!.. Цяпер мы будзем узброены самай моцнай зброяй, самым неабходным у нашым

суровым змаганні — сувяззю. Сувяззю з Масквой, з партыяй, з усёй радзімай. Памятаеш, я гаварыў табе — прыйдзе такі час, — Лясніцкі абняў сябра за плечы, на момант забыўшы на крывавую падзею ў Межах. Але толькі на момант, бо адразу ж спытаў:

— А дрэннае што?

— Дрэннага, брат, можа, больш, ліха на яго! І трэба ж было яму здарыцца іменна цяпер. Пачалося з таго, што аперацыя Гнядкова праваліліся. Ды не толькі правалілася, а вылезла бокам. Атрымалася асечка з мінай. Хлопцы ад злосці абстралялі вагоны. А эшалон быў з жывой сілай. І, відаць, стрэленыя ваўкі ехалі. Мабыць, эсэсаўцы, зямля ім колам. Спынілі эшалон — і ў бой. Ледзь не абкружылі хлопцаў. Чатыры чалавекі забіты, дзевяць — ранены, і ў тым ліку Гнядкоў і Маеўскі. Што ты скажаш! Проста выць хочацца... У такі час у самым пачатку амаль уся група падрыўнікоў са строю выйшла. А віноўны мы з табой, камісар.

Лясніцкі падняў галаву.

— Разумееш — чаму? Тактыка няправільная... Тактычная памылка. Нельга падрыўнікоў пасылаць адных. Іх трэба прыкрываць, абараняць... А мы ўсё на «ўра» прывыклі. Усё на паніку спадзяваліся. Смаленай савы не бачылі... Дык вось яна! Калі ласка.

Лясніцкі маўчаў. Гэта была самая цяжкая страта за ўвесь час дзейнасці атрада і вельмі балюча ўразіла яго. Кальнула ў сэрца. Перад вачыма ўсплыў вобраз забітай Тані Грэбневай.

«Памылка... Тактычная... А хто даваў нам права рабіць такія памылкі? Тут — памылка. Жаўну дрэнна ведаем — памылка. Памылка за памылкай», — у глыбіні душы расла злосць і на сябе, і на Прыборнага. Каб стрымацца, ён сеў, але пальцы нервова забарабанілі аб скрынку радыёстанцыі.

— Партыя пакінула нас не для таго, каб мы рабілі памылкі.

Прыборны здзіўлена паглядзеў на яго.

— На вайне не бывае без памылак.

Лясніцкі змаўчаў, а потым спытаў:

— Цяжка ранены Гнядкоў і Маеўскі?

— Не цяжка, але са строю выйшлі. Месяц пракачаюцца... Маеўскі — у галаву асколкам міны, Гнядкоў — куляю ў руку. — Прыборны ўсміхнуўся. — Сёння ўжо на іх Алена скардзілася. Супакою не даюць. І ў шпіталі майструюць свае міны. Чаго добрага, узарвуць яшчэ.

Лясніцкі памякчэў, пачуўшы гэта, і ўжо разважліва сказаў:

— Добра, Сяргей. Тактычную, як ты называеш яе, памылку мы выправім. Падрыўнікоў будзем прыкрываць. А вось як нам народ наш прыкрыць? Жанчын, дзяцей? — голас яго задрыжаў. — Вось што...

Прыборны не зразумеў і перабіў яго:

— Пачакай... Я не ўсе яшчэ няшчасці паведаміў табе... Засталося галоўнае і самае агіднае. Проста язык не варочаецца сказаць гэта. На вось, чытай, — ён падаў камісару аркуш паперы. — Данясенне разведчыкаў. — І, стукнуўшы кулакамі па стале, моцна вылаяўся: — Блюдаліз нямецкі!

Радыст прачнуўся, падняў галаву і здзіўлена глядзеў на іх.

Лясніцкі прачытаў данясенне. У ім паведамлялася, што бандыцкі атрад пад камандаю нейкага Жаўны ў вёсцы Любаўцы расстраляў адзінаццаць чалавек, у другой вёсцы скасіў кулямётам статак кароў і спаліў паўвёскі.

Скончыўшы чытаць, камісар падняў галаву і ціха прадоўжыў паведамленне:

— У Межах яны па-бандыцку забілі восем чалавек і ўчынілі гвалты, — ён асабліва націснуў на «яны». — І ў ліку іншых забіта Таня Грэбнева. Але я... — ён хутка падняўся і стаў насупраць Прыборнага, — я не веру, што гэта Жаўна... Жаўна тут ні пры чым. Дарэмна ты абураешся. Гэта работа немцаў. Заўваж, усё робіцца пад маркаю прымусовай мабілізацыі ў партызанскія атрады. Чытаецца загад ад твайго І. майго імя. Яны хочуць зганьбіць нас у вачах народа, падарваць наш аўтарытэт. Тупагаловыя дурні! Яны не могуць зразумець, што партызаны і народ — гэта адно цэлае. А Лясніцкі і Прыборны — гэта прадстаўнікі бальшавіцкай партыі, а ў партыю наш народ ніколі ўжо не згубіць веры. Вось ужо сапраўды, хто топіцца, той хапаецца за саломінку. Мізэрная саломка гэты іх атрад. Дарэмныя патугі...

Прыборны перабіў яго:

— Усё гэта я разумею. Але чаму ты ўпэўнены, што яны не скарысталі Жаўну?

Лясніцкі дакорліва паківаў галавой.

— Дрэнна ты, Сяргей, ведаеш сваіх камандзіраў.

Прыборны пачырванеў.

— Ты мяне не папракай. Ты ведаеш не лепей. Ведаеш ты, што тры дні назад атрад Жаўны быў у раёне Лоева, а мы з табой і дагэтуль нічога не ведаем, што ён вярнуўся. Раз, — ён загнуў адзін палец. — Другое. Усе мы не раз чулі, што Жаўна — абкружэнец, кадравы камандзір, а ў сапраўднасці — буфетчык. А-а? Гэта ты чуў? Два...

— І гэта я чуў. І думаю, што трэба згубіць розум, каб паверыць у здраду камандзіра, які амаль год бязлітасна б'е немцаў. Так, Жаўна быў нядоўгі час буфетчыкам. Але перад гэтым ён быў галоўным кандуктарам, і нават лепшым кандуктарам. А гэта ты ведаеш? Буфетчыкам ён зрабіўся, калі захварэў язвай страўніка і не мог больш

ездзіць. І без працы не мог сядзець. Вось яму і прапанавалі. Ды, нарэшце, пры чым тут прафесія? А імя яго немцам спатрэбілася як імя камандзіра манеўранага атрада. Паглядзі, якая геаграфія іх злачынства. Дзе Любаўка, дзе Касіна, а дзе Межы, — Лясніцкі павярнуўся да карты Прыдняпроўя. — Трохкутнік. Трыццаць—сорак кіламетраў пункт ад пункта... Ясна? А Жаўна хутка з'явіцца — я не сумняваюся. І мы з табой давай не будзем марна траціць час. Давай лепей абмазгуем, як хутчэй ліквідаваць гэты бандыцкі атрад і вынікі яго дзейнасці. А ліквідаваць яго трэба неадкладна і так, каб ніводзін з гэтых нягоднікаў жывым не выйшаў. Пачнём справу з экстраннага выпуску газеты. Дадзім пад рубрыкай: «Не верце фашысцкай правакацыі! Чарговыя злачынствы гітлераўцаў і здраднікаў народа». Мабілізуем усе сілы. Да раніцы дадзім падвойны тыраж. Па меры выхаду газеты будзем рассылаць агітатараў ва ўсе бакі. У вёскі, дзе адбыліся гэтыя крывавыя падзеі, накіруем групы на чале з вопытнымі таварышамі. Ну, напрыклад... У Касіна пойдзе Лубян. Межы даручым Зацеснаму, яму бліжэй і больш знаёма. У Любаўку я пайду сам. Вось так, — Лясніцкі павярнуўся да радыста, які ўжо сядзеў на ложку і з вялікай цікавасцю слухаў гэтую крыху незразумелую яму размову.

Аляксея Ганчарова толькі нядаўна выпусцілі з спецыяльнай школы і ў той жа дзень разам з двума другімі выпускнікамі пасадзілі ў самалёт і скінулі з радыёстанцыямі ў глыбокім нямецкім тыле. Яны хутка знайшлі таго, каго ім трэба было знайсці, і здзівіліся, даведаўшыся, што адразу трапілі да сакратара падпольнага абкома партыі. Два яго сябры засталіся пры абкоме, а яго паслалі ў партызанскі атрад «Днепр».

Цяпер, стаіўшы дыханне, ён слухаў размову, і галава яго напаўнялася рознымі рамантычнымі летуценнямі.

«Вось дзе багатае поле для гераічных учынкаў», — думаў ён.

— Таварыш радыст, ідзіце знайдзіце партызана Яўгена Лубяна, — загадаў камісар.

Ён падхапіўся, спрытна абцягнуў гімнасцёрку, паправіў рэмень.

— Ёсць, таварыш камісар, знайсці партызана Лубяна. Дазвольце ісці? — і, прыгожа казырнуўшы, шчоўкнуў абцасамі і хутка выбег.

Лясніцкі з захапленнем паглядзеў яму ўслед.

— Люблю дысцыпліну. — І зноў павярнуўся да Прыборнага, панізіў голас: — Сядай і слухай... Адначасова нам трэба паспрабаваць закінуць у гэты атрад свайго чалавека, каб лягчэй было накрыць гэтых бандытаў. Разумееш?

— Гэта ідэя! Але каго? — адразу ж спытаўся Прыборны.

— Я думаю — Майбарада.

— Майбараду?

— Чаго ты здзіўляешся? Найлепшая кандыдатура для такой справы. Смеласць, кемлівасць, любоў да прыгодніцтва, уменне іграць любую ролю. І нават гэты губны гармонік, веданне блатнога жаргону і песень. А здольнасць выпіць літр самагонкі і не ап'янець, а? Нарэшце тое, што ён не тутэйшы, выключае магчымасць выпадковых сустрэч. Словам, хлопец, як ён кажа, вакол шаснаццаць...

Прыйшоў Жэнька Лубян. Ён таксама толькі раніцою вярнуўся з задання і прывёў у атрад дваццаць чалавек камсамольцаў. Цяпер ён, відаць, адпачываў, бо твар яго быў заспаны, валасы ўскудлачаны. У апошні час ён стаў вельмі худы. Цяпер твар яго быў хваравіта-жоўты, і Лясніцкі клапатліва спытаў аб здароўі.

— Нічога, таварыш камісар. Гэта ад недасыпання. Я ж тры ночы не спаў.

Камісар уздыхнуў. Шкада хлапца.

«Сволачы! Аднялі такую маладосць! Вучыцца б яму

зараз, кахаць, будаваць шчасце. А тут...» — і цяжка было сказаць, што і гэтую ноч спаць не давядзецца, а заўтра на світанні трэба будзе ісці за трыццаць кіламетраў. Спытаў:

— Ведаеш аб падзеях у Любаўцы і Касіне?

Жэнька кіўнуў галавой і, крыху падумаўшы, сказаў:

— Трэба газету выпускаць, таварыш камісар. Я тут ужо трохі падрыхтаваў, — ён дастаў з кішэні некалькі лісткоў паперы, спісаных дробным почыркам.

Хваля бацькоўскай пяшчоты да гэтага нястомнага юнака захлынула камісара. Ён падняўся, зрабіў крок да Жэнькі, але тут жа стрымаў сваё парыванне і, нават не спытаўшы, калі ж ён справіўся зрабіць усё гэта, проста сказаў:

— Вось і добра. Сядай. Пачытаем, падумаем. Дапішам рэшту.

Праз некалькі мінут з'явіўся Майбарада. Каранасты, шыракаплечы, з поўным тварам, налітым ружовасцю, ён быў рэзкай супрацьлегласцю Жэньку. Здавалася, у яго моцным целе звініць кожны мускул, а ў вачах ніколі не згасаюць іскры вясёлага смеху.

Лясніцкі трохі недалюбліваў гэтага бестурботнага жартаўніка і фантазёра. Майбарада ведаў гэта і стараўся менш трапляць камісару на вочы. Але затое з камандзірам у яго было асаблівае сяброўства. Два весяльчакі добра разумелі адзін аднаго.

Майбарада з вялікім здзіўленнем выслухаў заданне камісара. Да гэтага часу ён цвёрда быў упэўнены, што камісар ніколі не дасць яму сур'ёзнага задання, якое праславіла б яго, вучня Андрэя Буйскага. І раптам... Ён адразу зразумеў надзвычайнасць і важнасць задання —

важней за гэта, магчыма, была толькі камандзіроўка Андрэя ў Маскву — і разгубіўся ад нечаканасці.

Камісар каротка сказаў:

— Выканаеш?

— Я? Таварыш камісар! Ды я іх усіх уласнымі рукамі перадаўлю, як клапоў.

— Ну-ну, пачынаецца, — сурова перабіў яго Прыборны.

Майбарада ўраз зразумеў сваю памылку, выцягнуўся, зрабіўся надзвычайна сур'ёзным.

— Выканаю, таварыш камісар. Усё, як загадаеце.

Лясніцкі ўсміхнуўся.

— Сядай. Абмяркуем дэталёва.

Але іх размову перапыніў тупат конскіх ног. Усе насцярожыліся.

Коннік спыніўся каля зямлянкі. Было чутно, як ён саскочыў на зямлю і як цяжка захроп яго стомлены конь.

Прыборны хацеў было паглядзець, хто прыехаў, але не паспеў. Нізкія і вузкія дзверы зямлянкі засланіла вялікая постаць чалавека.

Усе пазналі Жаўну і чамусьці падхапіліся. Адзін Лясніцкі спакойна сядзеў і, усміхаючыся, разглядаў нечаканага госця.

— Вось ён, лёгкі на ўспамін.

Яны разам доўга ўзгаднялі дэталі плана — як хутчэй знішчыць бандыцкі атрад.

Калі выйшлі з зямлянкі, Жаўна адклікаў Лясніцкага ўбок.

— Ёсць адна дужэ пільная справа, Павел Сцяпаныч, — ціха сказаў ён.

Яны селі на свежы бруствер акопа.

Але Жаўна доўга маўчаў і задуменна стукаў хлыстом па халяве. Потым павярнуўся, дапытліва зірнуў камісару ў вочы.

— Чы не думаеце, вы, Павел Сцяпаныч, што воны ўзялі маё імя таму, што я беспартыйны?

Лясніцкі зразумеў і ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Не думаю.

— А я думаю, Павел Сцяпаныч. Бо воны хоць і дурні дурнямі, але ж добра ведаюць, шчо такому паклёпу на камуніста ніхто не паверыць.

— Ды скуль народу ведаць?..

— Не, не кажыце, Павел Сцяпаныч. Народ, ён добра ведае, хто партызаны, а хто не. Гэтага не схаваеш. — Ён хвіліну памаўчаў, потым дадаў: — Не падумайце, Павел Сцяпаныч, шчо я толькі зараз надумаўся... Не-е... Я шчэ да вайны думаў... Але ўсё пытаў сябе: «А ці

годны ты, Фёдар?» І ўсё здавалася, што не дарос яшчэ... Як вы думаеце, Павел Сцяпаныч?

— Думаю, што цяпер ужо дарос. Выканайце заданне, таварыш Жаўна, і прыязджайце на бюро.

Жаўна з удзячнасцю паціснуў камісару руку.

VIII

Магутны гул двух матораў перашкаджаў думаць. Ён заглушаў думкі,ірваў іх на кавалкі. Дарэмна Мікалай намагаўся думаць аб адным, самым галоўным — аб заданні, аб сваёй новай прафесіі, аб новым жыцці, якое пачалося некалькі хвілін назад, з таго моманту, як самалёт адарваўся ад бетоннай дарожкі падмаскоўнага аэрадрома і ўзяў курс на захад. У яго моцна застукала сэрца, калі ён убачыў, што сігнальныя агні аэрадрома патухлі.

«Калі гэта я ўбачу іх зноў?» — падумаў ён і адчуў хваляванне.

Цяпер ён намагаўся супакоіць сябе.

«Дрэнна пачынаеш, таварыш упаўнаважаны. Яшчэ знаходзішся над Масквой, а ўжо хвалюешся. А як жа ты будзеш адчуваць сябе, калі выкінешся з гэтае кабіны і будзеш спускацца, магчыма, проста на галовы немцам? Ну-ну, перастань, дурное, — гучна загадаў ён сэрцу і раззлаваўся: — Перастань жа, чорт вазьмі! «Уменне трымаць сябе — галоўнае ў нашай рабоце», — успомнілася апошняя парада генерала. — Так, самае галоўнае...»

Але самалёт набіраў вышыню, і сэрца пачынала біцца ўсё часцей і часцей. Кроў стукала ў скроні, шумела ў галаве. Падступала млоснасць.

Мікалаю вельмі хацелася ўбачыць твар свайго спадарожніка, убачыць, як адчувае сябе гэты спрактыкаваны разведчык. Але ў кабіне было вельмі цёмна.

«Столькі трэніраваўся — і нічога. А тут? Што за чорт, няўжо я баязлівец? — ад такой думкі ён усхваляваўся яшчэ больш. — Не магу валодаць сабой... Але гэта не па гарах лазіць... Баязлівец... Баязлівец!..» — гэтае слова, здавалася, стукала ў скронях.

Мікалай заплюшчыў вочы. Першы раз у жыцці ён ненавідзеў сябе.

«Дурань!.. Столькі дамагаўся, і вось на табе!..»

Дотык чужой рукі да пляча адарваў яго ад гэтых пакутлівых думак.

Буйскі горача дыхаў у вуха і крычаў:

— Маеўскі, спіце?.. Глядзіце, фронт!

Мікалай павярнуўся да шыбы і ўбачыў наперадзе, на зямлі, вогненны ручай. На поўдні ён разліваўся ў вогненнае возера — там ішоў начны бой, біла артылерыя, гарэлі вёскі. У другім баку было ціха, фронт губляўся ў чарнаце лясоў, і толькі дзе-нідзе гэтую чарнату пераразалі featherзнакаляровыя струмені трасёраў. Калі самалёт наблізіўся, ніткі трасёраў пацягнуліся да яго, забліскалі букеты разрываў, лізнуў неба доўгі язык пражэктара — шукаў самалёт.

— Па нас б'юць! — крыкнуў Буйскі.

Мікалай адарваўся ад шыбы толькі тады, калі пад самалётам зноў паплыла аднастайная чарната начной зямлі.

«Зямля, захопленая ворагам», — падумаў ён і раптам адчуў, што ні хвалявання, ні галаўнога болю больш няма, а з імі знікла і нездавальненне сабой. Засталося толькі адно моцнае пачуццё: нянавісць да ворага, тая вялікая, святая нянавісць, якую адчуваў у тыя дні кожны савецкі чалавек.

Маеўскі ўявіў родную вёску і немцаў у ёй, бацьку з яго вуллямі, якія, напэўна, больш не належаць яму, сястру Таццяну і здзекі немцаў над ёй і траха не застагнаў ад болю. Гэты боль не даваў яму супакою ўжо амаль год. Цяпер ён прагнуў хутчэй пакінуць цесную кабіну, спусціцца ў родных лясах, знайсці партызан і разам з імі пачаць нішчыць фашыстаў. Ён уяўляў, як уратуе Таццяну, бацьку, прывядзе іх у партызанскі атрад.

Доўга ён марыў аб гэтым, доўга дамагаўся, пакуль урэшце не дабіўся свайго.

...На фронт ён прасіўся на другі дзень вайны, але ў ваенкамаце яму сказалі, што геалагічная разведка не менш важная, чым разведка вайсковая. Ён згадзіўся. Але калі немцы захапілі яго родны край, яго бацькаўшчыну, і на Урал дайшлі першыя весткі аб дзейнасці партызан, ён раптам адчуў, што яго месца там, з імі, у лясах роднай Беларусі. Пачаў пісаць у ЦК, у Генеральны штаб, пазней — у Цэнтральны штаб партызанскага руху.

Адусюль яму ветліва адказвалі прыкладна так, як сказалі ў ваенкамаце. Ён не здаваўся, і ў рэшце рэшт лёд крануўся... У лютым яго выклікалі ў Маскву, у ЦК, пагутарылі і накіравалі ў спецыяльную школу.

Тры месяцы вучыўся ён там, старанна і цярпліва, натхнёны ўпэўненасцю, што з школы толькі адзін шлях — на захад, праз лінію фронту, у тыл ворага. І вось гэты доўгачаканы час прыйшоў.

Пяць дзён назад курсанта Маеўскага выклікалі ў Цэнтральны штаб. Прыняў намеснік начальніка штаба і адразу ж пазнаёміў з

маладым чалавекам у цывільным адзенні, які сядзеў у кабінеце ў мяккім крэсле і чытаў часопіс.

— Знаёмцеся... Андрэй Буйскі... Разведчык партызанскага атрада «Днепр», якім камандуе Прыборны. Ведаеце Сяргея Фядотавіча Прыборнага? — генерал хітра прыжмурыўся.

— Старшыню райвыканкома? — здзівіўся Мікалай, узрадаваны раптоўнай здагадкай. — Як жа не ведаць? Ды ён працаваў старшынёй яшчэ ў той час, калі я вучыўся ў сярэдняй школе.

— Вось і цудоўна... Старыя знаёмыя. Паляціце з таварышам Буйскім у свой раён, у брыгаду Прыборнага. Ім зараз вельмі неабходны падрыхтаваныя людзі. Здзіўляецеся, чаму брыгада? Таму ім і людзі патрэбны, што стваракоцца брыгады. Партызанскія брыгады...

У той жа дзень ён перасяліўся з школы ў гасцініцу, дзе жыў Буйскі. Партызан з першага ж дня падабаўся Маеўскаму сваёй эрудыцыяй вучонага і дапытлівасцю разведчыка. Але сысціся з ім бліжэй, пасябраваць Мікалай не ўправіўся. Буйскі ўхадзіў раніцою і вяртаўся позна ўвечары, часта моцна змораны. Куды ён уходзіць і што робіць — Мікалай не пытаў, бо адчуваў, што гэта з'яўляецца тайнай разведчыка. За пяць дзён ён даведаўся толькі, што Буйскі знаходзіцца ў Маскве прыкладна такі ж час, як і ён, Маеўскі, што ён выдатна валодае нямецкай мовай і што іменна гэтая акалічнасць дапамагла яму прабрацца ў Маскву і наогул робіць з яго разведчыка вышэйшага класа. Але ён не ведаў, што ўсе гэтыя тры месяцы, да апошняга дня, Буйскі таксама, як і ён, а можа, нават і больш напружана, вучыўся і што зараз ён вяртаецца назад, у нямецкі тыл, разведчыкам буйнога маштабу, разведчыкам з надзвычайнымі заданнямі.

...Пілот даў сігнал падрыхтавацца. Мікалай схамянуўся. Так хутка? Ён нахіліўся, засвяціў кішанёвы ліхтарык, паглядзеў на гадзіннік. Ляцелі дзве гадзіны.

Буйскі падняўся, адшукаў яго руку, крыкнуў:

— Да сустрэчы на зямлі!

Але ў гэты момант пілот падаў новы сігнал. Буйскі схапіў навушнікі шлемафона:

— На зямлі два ўмоўныя сігналы. Што будзем рабіць?

Андрэй паведаміў гэта Маеўскаму і, секунду памаўчаўшы, крыкнуў адначасова і яму і пілоту:

— Скакаць паміж двума агнямі! Мясцовасць абодва ведаем, — і скочыў першы.

Мікалай выкінуўся спакойна, выконваючы ўсе правілы, якім вучылі яго ў школе і ў час практычных палётаў.

Самалёт зрабіў над імі круг, развітальна міргнуў сігнальнымі агнямі і, набіраючы вышыню (гэта было чутна па шуму матораў), паляцеў назад.

Зямля была чорная і няўтульная. І на момант зрабілася страшна апускацца ў гэтую чарнату. А тут яшчэ агні. Яны гарэлі з двух бакоў. Безумоўна, каля адных агнёў — вораг. Але каля якіх?

Мікалай адчуў, што хвалюецца.

Прызямліўся ён удала — на невялічкую лясную паляну. Праўда, парашут зачапіўся за голле, і яго разы два стукнула аб сасну, але ў той жа час гэта змякчыла ўдар аб зямлю. Не марудзячы ні хвіліны, ён абрэзаў стропы і адскочыў убок. Прыслухаўся. Навокал было ціха, толькі шумелі дрэвы, нібы шапталіся тысячы людзей, і шэпт гэты зліваўся ў адзін аднастайны магутны шум. Па гэтаму шуму ён зразумеў, што знаходзіцца ў гушчы вялікага хваёвага бору.

Трохі пачакаўшы, ён крыкнуў па-савінаму — даў умоўны сігнал Буйскаму, каб сысціся. Начны лес праглынуў гэты сумны крык. Адказу не было. Ён крыкнуў яшчэ некалькі разоў. Зноў ціха. Дзе ж шукаць Буйскага? Як дабрацца да Ласінага вострава? У дзяцінстве ён чуў аб ім, але дарогі туды не ведаў. Давядзецца, мабыць, ісці на запасную яўку. «Што ж, гэта яшчэ лепш, адразу даведаюся пра сваіх», — узрадавана падумаў ён, успомніўшы словы генерала: «Арэхаўка, Сцепаніда Зайчук. Толькі ўначы». У яго тады ажно закалацілася сэрца. Яму вельмі хацелася, каб гэта была галоўная яўка, каб адразу ж прыйсці ў родную вёску, да цёткі Сцепаніды, і адразу ж даведацца пра блізкіх: пра бацьку, Тацяну, пра Алену. Пасля ён і ганарыўся, што непрыкметная старая калгасніца выконвае такое надзвычай важнае партызанскае заданне, і адначасова хваляваўся, раўніва думаў, чаму яўка ў Сцепаніды, а не ў яго бацькі.

І вось гэтая яўка стала галоўнай і самай надзейнай.

Але каб вызначыць туды дарогу, трэба чакаць раніцы, і Маеўскі, адышоўшы з паўкіламетра ад месца пасадкі, лёг пад густой елкай і хутка бестурботна заснуў.

Прачнуўся ён, калі ўжо ўзышло сонца і лес напоўніўся вясёлым гоманам птушак. І на душы ў яго таксама было светла і радасна. Нарэшце ён у родным лесе, недалёка ад роднай вёскі, ад сям'і, ад партызанскага атрада. Засталося толькі выйсці на край лесу, вызначыць свае каардынаты ці, можа, нават так пазнаць мясцовасць і потым смела ісці ў родную вёску.

Ён пайшоў па компасу на захад, зусім не думаючы аб небяспецы, адчуваючы сябе поўным гаспадаром у гэтым лесе.

Часта спыняўся, з цікавасцю аглядаў магутныя елкі і дубы, слухаў спевы птушак і па-майстэрску перадражніваў іх. З дзяцінства ён меў здольнасць да гукаперайманння. Але ў апошні час не было ні часу, ні настрою, ні ўмоў заняцца гэтай улюбёнай забавай, і цяпер ён слухаў сам сябе з асалодаю. Успомніўшы свой стан і свае думкі ў першыя хвіліны палёту і параўнаўшы іх з цяперашнімі, ён пахваліў сябе: «А ўсё ж ты малайчына, Мікалай Карпавіч! Далібог, малайчына. З цябе будзе добры партызан».

І раптам спалохана скочыў убок, схаваўся за тоўстым дубам, выхапіў з кішэні пісталет.

З-за такога ж дуба, што стаяў на яго шляху, за ім сачыла пара бліскучых пільных вачэй. Ён выпадкова заўважыў іх, не дайшоўшы да дрэва не больш дваццаці крокаў.

Ён доўга стаяў нерухома, слухаючы моцныя і частыя ўдары сэрца і абдумваючы, што рабіць.

«Дасвістаўся, чорт вазьмі...»

Наперадзе крыкнулі:

— Эй, ты, там, за дубам! Выходзь! Нас больш, — і з-за розных дрэў высунулася на момант тры галавы.

Мікалай маўчаў.

— Таварыш, не валяй дурака! Мы свае і шукаем цябе. Я — камандзір аднаго з партызанскіх атрадаў, — і чалавек, сказаўшы гэта, смела выйшаў з-за дуба, сунуў нямецкі парабелум у кабуру.

— Пароль? — сурова спытаў Маеўскі і, выглянуўшы з-за дрэва, накіраваў на яго пісталет.

Чалавек скочыў назад за дуб і злосна вылаяўся.

Мікалай зразумеў, што перад ім ворагі. Ён мог бы згадзіцца, што гэта партызаны якога-небудзь другога атрада. Але ж калі яны заяўляюць, што шукаюць яго, і ў той жа час не ведаюць умоўленага пароля, значыцца, тут нешта не так.

«Будзьце вельмі асцярожнымі, калі разлучыцеся з Буйскім», — успомніў ён папярэджанне генерала і зрабіў свой вывад: «Тут заўсёды трэба быць асцярожным. З Буйскім і без Буйскага. Вось зараз памазгуй, як выкруціцца».

А вораг перад ім сапраўды быў сур'ёзны. Чалавек з выцягнутым тварам, які паспрабаваў выйсці з-за дуба і назваў сябе камандзірам партызанскага атрада, у сапраўднасці быў Ганс Гопкель, камандзір бандыцкага атрада, якому Візэнер даў назву «Кугель» («Куля»). Генрых Візэнер асабіста кіраваў штодзённай дзейнасцю гэтага атрада, планаваў чарговыя правакацыйныя налёты. Кожную раніцу ён выклікаў да сябе камандзіра атрада для інструкцый.

Гопкель быў немец-каланіст з Украіны, даўнішні агент нямецкай разведкі. Але год шэсць назад савецкая контрразведка парвала ўсе ніткі яго сувязей, арыштавала ўсіх, хто ведаў яго і каго ён ведаў. Спалоханы, маральна раздаўлены, ён прытаіўся і з жудасцю чакаў арышту. Яму пашанцавала. Але затое нямецкае камандаванне не магло дараваць яму пяцігадовай бяздзейнасці. Доўга ён выслугоўваўся, стараўся, выконваючы самую чорную работу, самыя брудныя заданні. Нарэшце назначэнне яго камандзірам «Кугеля» дало яму мажлівасці канчаткова апраўдаць сябе, даказаць начальству, што ён варты большага, чым яны думаюць аб ім.

У мінулую ноч Візэнер пазваніў яму па тэлефоне, паведаміў, што ў лугах партызаны кладуць агні — відаць па ўсяму, што чакаюць самалёта, — і загадаў раскласці такія ж агні на прыгарскім полі. Самалёт сапраўды кружыўся над лесам. Трэба думаць, што ён скінуў парашутыстаў.

Раніцою яны пачалі пошукі іх.

І вось зусім выпадкова і зусім нечакана, вяртаючыся са штаба Візэнера ў лагер, ён сустрэў гэтае сваё шчасце, сваю кар'еру — парашутыста.

Гопкель адразу зразумеў, што гэта іменна ён, і пачаў хітрыць, іграць ролю партызанскага камандзіра. Для яго было зусім бяссэнсавым забіць парашутыста. Не хацелася і браць яго гвалтоўна. Ён у сто разоў лепей за любога Візэнера ведаў характар людзей, якім даюць такія адказныя заданні. Недарма ж ён вывучаў іх на працягу чвэрці стагоддзя. Ён добра ведаў, што звычайным гестапаўскім спосабам у такога чалавека нічога не выпытаеш.

Але першая яго хітрасць не ўдалася. Парашутыст аказаўся значна разумнейшым і больш спрактыкаваным, чым думаў Гопкель. Ён схаваўся за дуб і напружана думаў.

За другім дубам стаялі двое, Пятро Майбарада і Мацей Кулеш.

Калі Маеўскі на момант высунуўся, Кулеш нахіліўся і таямніча прашаптаў:

— А я ведаю яго.

Майбарада насцярожыўся.

— Ён з нашае вёскі. Маеўскі яго прозвішча. Яго бацька і сястра двух паліцаяў зімой укакошылі і да партызан уцяклі. Чуў мо? А ён — інжынер. Да вайны, казалі, дзесь на Урале працаваў.

— Ну і што з гэтага? — сурова спытаў Майбарада. За чатыры дні ён страшэнна ўзненавідзеў гэтага чалавека, які заўсёды з'яўляўся перад ім у самыя адказныя і крытычныя хвіліны са сваёю ліслівай і агіднай усмешкай. Нават і тут стаў за адно дрэва, за спіну, і брыдка

дыхае ў патыліцу. Ажно непрыемныя нервовыя дрыжыкі беглі па целу ад гэтага дыхання. Майбарада хацеў было ўжо піхнуць яго ад сябе, пад кулі незнаёмца. Але тое, што Кулеш сказаў, стрымала яго. Ён ураз забыў на яго брыдкае дыханне. Было не да гэтага — у душы ў хлопца паднялася бура.

«Брат Тацяны... Сын Карпа Маеўскага. Тацяна расказвала аб ім. Як жа ён трапіў сюды? Няўжо сапраўды з начнога самалёта? Ну, лжэш Ганс Гопкель! Пакуль я тут жывы, твае хітрыкі будуць дарэмныя».

— Слухайце, таварыш! — крыкнуў у гэты момант Гопкель. — Пароль нам яшчэ не прынеслі. Але перадалі, што вы спусціліся ў нашым раёне. Мой атрад за паўкіламетра адгэтуль. Тут — партызанская зона. І ўзяць вас мы возьмем, жывога ці мёртвага, будзьце ўпэўнены. Нас чацвёра тут. А праз дзве хвіліны пасля нашых першых стрэлаў будзе паўсотня коннікаў. Давайце лепей па-мірнаму.

Маеўскі маўчаў.

— Даю вам мінуту на разважанне. Гляджу на гадзіннік.

Але раптам загаварыў Майбарада:

— Мікалай Карпавіч? Кінь сапраўды ламацца! Сваіх не пазнаеш, ці што? Вось твой аднавясковец Мацей Кулеш, — і ён выштурхнуў Куляша з-за дуба, потым выйшаў сам. — А вось я, твой стары сябра. Пазнаў? Чорт цябе вазьмі. На адной парце сядзелі, а ты ўжо забыў. Заганарыўся, ліха на цябе!

Мікалай не ведаў гэтага ружовашчокага хлопца, які, відавочна, быў маладзейшы за яго, але Куляша ён пазнаў адразу і выйшаў, трымаючы пісталет у руцэ.

Гопкель ажно закрактаў ад задавальнення. Гэты хлопец — проста скарб. Дарэмна ён, Гопкель, крыху яму не давяраў, а ўчора за выпіўкай нават ударыў, калі ён вельмі надакучліва пачаў прапаноўваць, як спаймаць Лясніцкага. Тады ў яго з'явілася падазрэнне. Але цяпер... Цяпер хацелася пацалаваць Майбараду.

«Дапамагай, дапамагай, Барада, твае паслугі я не забуду».

Гопкель першы працягнуў Маеўскаму руку.

— Фёдар Жаўна, камандзір атрада.

— Маеўскі, партызан атрада П.

Гопкель хітра прыжмурыўся, пагразіў пальцам.

— Ведаю. Але пайшлі ў лагер. Там і пагутарым.

Майбарада падхапіў Мікалая пад руку.

— Ды ты як быццам бы ўсё яшчэ не пазнаеш мяне? Міклуха! Прачніся, чорт! Пецьку Майбараду не пазнаеш? Вось табе і на! Ды мы калісь яшчэ сапернікамі былі. Забыў? За Ленкай Зайчук стралялі.

Памятаеш? Але ты перамог мяне. Ты ў баб заўсёды поспех меў, — Майбарада весела зарагатаў.

Мікалай пільна зазірнуў яму ў вочы, даўшы зразумець гэтым позіркам, што ў яго няма ніякіх сумненняў наконт іх знаёмства — бачацца яны ўпершыню.

Майбарада бліснуў вачыма ў бок Гопкеля і непрыкметна прыклаў палец да вуснаў, што значыла «маўчы і згаджайся».

Мікалай насцярожыўся. Нейкім асаблівым чуццём ён адчуў неабходнасць падпарадкавацца гэтаму вясёламу, гаманліваму хлопцу з яснымі вачыма.

— Эй, ты! — гукнуў Гопкель да Куляша, таямніча падміргнуўшы (Мікалай заўважыў гэта). — Бяжы-ка ты хутчэй у лагер. Скажы, каб нам добрае снеданне падрыхтавалі, госця сустрэлі. Хутчэй!

Кулеш знік за дрэвамі.

Майбарада моцна сціснуў локаць Мікалаевай рукі і сцішыў крок, даўшы магчымасць Гопкелю апярэдзіць іх.

— Але... Давай-ка, дружышча, закурым для сустрэчы. Зацягнем, каб дома не журыліся. У цябе, мабыць, махорачка ёсць? Ёсць? Што ж ты маўчыш? Ліха на цябе! У мяне ажно вушы павялі. І не памятаю ўжо, калі курыў. Даставай-ка хутчэй.

Мікалай дастаў махорку. Майбарада выцягнуў з кішэні згорнутую для курэння нямецкую газету. Яны спыніліся, каб скруціць цыгаркі. Далі закурыць маўкліваму чалавеку, які да гэтага ішоў ззаду, непрыкметна прапусцілі яго наперад. Паднёсшы Маеўскаму запалку, Майбарада прашаптаў:

— Немец. Я — яго. Вы — гэтага.

Гопкель спыніўся і пачакаў іх, але, калі яны наблізіліся крокі на тры, павярнуўся і пайшоў далей. Яго паплечнік збочыў са сцежкі і чакаў, пакуль яны пройдуць міма, каб зноў ісці ззаду. Відаць, начальнік знакам загадаў яму гэта.

Дайшоўшы да яго, Майбарада штурхануў локцем Мікалая.

— Ну!

Яны выхапілі пісталеты і стрэлілі адначасова.

Гопкель крута павярнуўся, падняў рукі і рушыў на іх. Майбарада ў другі раз стрэліў яму ў грудзі. Бандыт упаў.

— Мікалай Карпавіч! Бяжыце! І будзьце асцярожнымі. Вы троха не трапілі да немцаў. Хутчэй! Я буду страляць... па вас.

Мікалай, скочыўшы з сцежкі ўбок, умомант схаваўся ў густым зарасніку асінніку.

Майбарада хутка праверыў кішэні забітых, забраў у Гопкеля нейкія паперы, агідліва паморшчыўся.

— Даскакаўся, сукін сын.

Потым стаў за дрэва, кінуў у гушчар гранату і пачаў страляць з аўтамата.

Рабіў гэта ён спакойна, з іранічнай усмешкай.

IX

— Чыста зроблена, таварыш Майбарада. Партызан ажно крыкнуў ад нечаканасці і крута павярнуўся. Перад ім стаяў Мацей Кулеш з пабялелым тварам і нейкай агіднай ухмылкай.

Майбарада рвануў аўтамат.

Кулеш скочыў і схапіў яго за рукі.

— Што ты! Што ты! Я — свой... свой, — твар яго яшчэ больш збялеў, усё цела дрыжала. — Эх ты! Свайго не пазнаеш! Ды каб я цябе прадаць хацеў — даўно прадаў бы. Я прыкмеціў цябе яшчэ тады, калі вы з Лясніцкім на пахаванне прыходзілі ў Арэхаўку. Зімой, калі сем'і расстралялі. Памятаеш? А цяпер? Я за сасной стаяў і ўсё бачыў. Адным стрэлам мог бы зняць...

Аргумент быў пераканаўчы. Сапраўды, мог прадаць, забіць, а не прадаў, не забіў. Значыцца, можна верыць. І Майбарада апусціў аўтамат, а Куляша схапіў за каўнер, прыцягнуў да сябе і горача зашаптаў, аглядаючыся:

— Калі так — дык слухай. Скачы зараз на Кляшчоў хутар. Трэцяя хата ад лесу. Знойдзеш там дзяўчыну. Ды ты ведаеш яе... Люба Кучаравенка. Перадай: праз дзве гадзіны я выведу гэтую банду да Белай затокі. Зразумеў? Глядзі! Калі што — з-пад зямлі дастану. На кавалкі разарву. Ад мяне ты нідзе не схаваешся...

З'явіліся першыя бандыты, адны — на конях, другія — пешшу. Крычалі і стралялі ў белы свет па невядомаму ворагу.

Майбарада спыніў гэтую бяссэнсавую страляніну.

— Спыніць агонь! Куды паліце, сволачы? — злосна крыкнуў ён і, выйшаўшы з-за дрэва, падышоў да трупа Гопкеля, павольна зняў шапку. У вачах яго заблішчалі слёзы.

Бандыты таксама знялі шапкі. Ён падняў галаву, абвёў іх цяжкім позіркам і глуха прашаптаў:

— П'яніцы няшчасныя! Колькі часу вас трэба было чакаць! Паўгадзіны прайшло! Візэнер душы з вас выцягне, — і, вылаяўшыся па-нямецку, павярнуўся і хутка пайшоў у лагер.

Яны правялі яго спалоханымі позіркамі. Паглядзелі адзін на аднаго. Нехта цяжка ўздыхнуў.

— Эх, жыццё наша капеечнае!

Другі прапанаваў:

— Хадзем хоць самагонку дап'ем.

У лагеры яны пачулі, што Майбарада гаворыць па тэлефоне.

Ніхто з іх не ведаў нямецкай мовы, і ніхто не разумеў, што Майбарада крычаў у трубку асобныя, бяссэнсавыя словы, якія вывучыў ад Буйскага, і што тэлефонны провад быў перарэзаны ім. Але тое, што ён размаўляе з Візэнерам па-нямецку, пераканала іх, што ён агент Візэнера і цяпер, безумоўна, іх камандзір. А бандытам было ўсё адно, хто імі будзе камандаваць, і ніхто з іх не сказаў ні слова, калі Майбарада выйшаў і злосна сказаў:

— Візэнер перадаў, што павесіць усіх, калі мы не спаймаем гэтых... парашутыстаў. Далёка яны не ўцяклі. Камандавацьатрадам загадаў мне. — І, хвіліну задуменна памаўчаўшы, ён гучна крыкнуў: — Па конях! — і павёў іх...

* * *

Мацей Кулеш выканаў заданне Майбарады. Быў у гэтым тонкі разлік праныры. Візэнер гвалтоўна накіраваў яго ў асобы атрад, прымусіў штодзённа рызыкаваць жыццём і пераджыць такі жах, які ён яшчэ не перажываў ніколі.

А ці ж для гэтага ён у першыя дні акупацыі з'явіўся да немцаў і прапанаваў ім свае паслугі? Не! Ён зрабіў гэта, каб ратаваць сваё жыццё, каб пражыць ціха. Ён хоча працаваць, служыць толькі так, каб ніхто-ніхто не ведаў аб яго рабоце, каб, у выпадку чаго, ён застаўся Мацеем Куляшом, простым, непрыкметным, маленькім чалавекам, звычайным селянінам. І ці мала ён зрабіў для іх, працуючы так? Дык не ж, мала з яго, з гэтага ненажэрнага немца! Яму захацелася, каб Мацей Кулеш разам з гэтымі «зайцамі» — паліцэйскімі — ездзіў па вёсках, забіваў людзей, каб усе бачылі яго і каб за ім паляваў сам Лясніцкі. А ад такога паляўнічага не схаваешся, не ўцячэш. Кулеш добра гэта ведаў, І жах скоўваў яго сэрца. Але ён баяўся ўцячы з атрада, баяўся, што Візэнер знойдзе яго і павесіць. І ён страшэнна пакутаваў, не ведаючы, што рабіць. Узбадзёрыла яго з'яўленне ў атрадзе Майбарады. Кулеш зразумеў намер партызан і не прадаў партызанскага разведчыка. Хацеў забіць двух зайцоў адначасова: вызваліцца ад атрада і заслужыць давер'е ў партызан. Таму ён ні на крок не адставаў ад Майбарады, сачыў за ім дзень і ноч, упарта дамагаўся яго давер'я, шукаў выпадку пагутарыць з ім...

Яго хітрасць перамагла яшчэ раз.

У той час, калі яго паплечнікаў, як дурных бараноў, павялі пад кулі, ён, Мацей Кулеш, зрабіўся сувязным — сваім чалавекам у партызан. Спрытна!

Мацей Кулеш ад радасці бязлітасна біў каня рукаяткай пісталета і бязгучна спяваў.

Але паведаміўшы здзіўленай Любе ўсё, што загадаў яму Майбарада, і аддаўшы па яе патрабаванню каня, Кулеш з усяе сілы кінуўся бегчы назад. Сем кіламетраў ён прабег за паўгадзіны і, знясілены, упаў на парозе кабінета Віззнера.

— Пан камендант! Ратуйце, ратуйце атрад, — у роспачы прашаптаў ён і расказаў аб забойстве Гопкеля, аб парашутыстах і Майбарадзе, але не зусім так, як было ў сапраўднасці.

— Ну, вось і вёў ён нас, нібыта па вашаму загаду, лавіць іх, парашутыстаў. І завёў у такі гушчар, што ў мяне валасы дыбам сталі. Тут я і адчуў нядобрае... Адстаў, непрыкметна злез з каня і ўцёк... Да вас прыбег... Не, не, пан камендант, клянуся вам... я не хлушу. Можа, я памыліўся, але... Клянуся! — закрычаў ён, убачыўшы, што Візэнер уздрыгнуў, цяжка падняўся і накіраваўся да яго.

Але Візэнер не крануў яго.

Ён падышоў да акна і доўга моўчкі глядзеў на далёкі лес.

Кулеш супакоіўся, пасмялеў і прашаптаў:

— Трэба паслаць салдат, пан камендант.

Візэнер павярнуўся, твар яго быў жудасны: скрыўлены, зубы сціснутыя, у вачах — нейкія шалёныя іскры.

Кулеш спалохана адхіснуўся.

— Шпэт, нар! — крыкнуў ён і, сеўшы на канапу, сціснуў далонямі скроні, зашыпеў: — Шмах, шмах!..

...Сапраўды было позна.

Праз паўтары гадзіны бяссэнсавага блукання па лесе Майбарада вывеў атрад у прыдняпроўскія лугі, прывёў да Белай затокі. Затока гэтая — вузкі рачны рукаў — утварыла з ракою паўвостраў накшталт выцягнутай падковы. На пясчаным паўвостраве гэтым расла густая лаза.

— Напоім коней! — сказаў Майбарада і завёў атрад у падкову.

А як толькі бандыты, узрадаваныя тым, што нарэшце вырваліся з лесу, спешыліся, пачалі размінаць ногі, паіць коней і піць самі, ззаду, з лазы, нечаканым смяротным ураганам наляцелі на іх коннікі Жаўны.

Бліснулі пад чэрвеньскім сонцам вясёлымі зайчыкамі шаблі.

Секлі бязлітасна.

Ніводзін з трыццаці сямі бандытаў не ўправіўся нават кінуць гранату ці стрэліць. Некалькі чалавек скочылі ў Днепр. Іх расстралялі з вінтовак. Праз пяць хвілін усё было скончана. Фёдар Жаўна выцер шаблю аб грыву каня.

— Цэ вам за пакуты люду нашага, за кроў, яку вы пралілы, за слёзы, за зганьбу імя майго. Зямля вам колам і адвечна пракляцце! А Тобі, братку, шчырае дзякуй, — звярнуўся ён да Майбарады і паціснуў яму руку.

X Дачакаўшыся на ўзлессі ночы, Мікалай Маеўскі паўзком прабраўся да хаты цёткі Сцепаніды.

Старая сустрэла яго, як роднага сына, са слязамі радасці, паверыла без усякіх пароляў і адразу ж пачала карміць і расказваць аб яго родных. Ён слухаў радасна і прагна, смачна едучы халодную бульбу з кіслым малаком.

Апоўначы Сцепаніда кудысьці схадзіла і прывяла Насцю Зайчук, якая, убачыўшы Мікалая, спачатку разгубілася, а потым зарадавалася і абняла яго, проста і шчыра.

Сцепаніда глядзела на іх з замілаваннем.

— Ну, цяпер зразумела, для чаго табе загадалі ўвесь час быць пры мне? Вось... весці яго трэба на Ласіны.

— Вы адны, Мікалай Карпавіч? — спытала Насця.

— Не. З адным таварышам. З Буйскім. Ведаеце?

— З Андрэем! — Насця ажно захлынулася. — Дзе ж ён?

Мікалай, ні аб чым не здагадваючыся, коратка расказаў, як ён разлучыўся з Буйскім.

Гадзіны ў дзве яны выйшлі.

Быў канец чэрвеня, і былі самыя кароткія і прыгожыя летнія ночы. Ужо ў дзве гадзіны неба на паўночным усходзе святлела і срэбная паласа паўзла на ўсход і паступова пашыралася, ружавела. Ажываў лес. Першым затрапятала чуткае лісце асіны. Але маўчалі яшчэ паважныя дубы. Змоўкла хвоя. Улетку, у бязветраны час, хвоя гамоніць уначы і стаіць нерухома ў гарачы дзень.

Паветра цякло шырокімі струменямі: то цёплае, напоенае пахам смалы і духмянасцю траў, то вільготнае, якое пахла балотнай гніллю і напаўняла грудзі непрыемным холадам.

Канчалі свае начныя песні салаўі. На сухіх вяршалінах дубоў прасыпаліся і нездаволена каркалі груганы.

Яны ішлі моўчкі па ледзь прыкметнай у гушчары арэшніку сцежцы.

Мікалай з радасцю пазнаваў мясціны, праз якія яны праходзілі. З кожнай з іх былі звязаны цікавыя і шчаслівыя ўспаміны дзяцінства. Асабліва добра ён памятаў гэты стары лес: магутныя хвоі, дубы і бярозы, а пад імі — густы арэшнік. Месца тут няроўнае — то высокая гара, то глыбокая нізіна, і славілася яно арэхамі, грыбамі і ягадамі.

У ранішнім змроку на соснах бялелі раны старой падсочкі. Яму чамусьці Па-дзіцячаму стала шкада гэтых старых, параненых сосен.

Вось знаёмая паляна. За ёй — малады арэшнік. Яны выйшлі на прасеку, якая раздзяляла кварталы. Над галавой, напоўніўшы паветра шумным свістам крылляў, праляцелі качкі. Гучна плюхнуліся на балоце ў алешніку. Закракалі.

Насця спынілася, пачакала Мікалая.

— Што ж гэта мы маўчым? — спытала яна.

— Я сам здзіўляюся, чаму гэта ты маўчыш, такая гаваруння, — адказаў ён.

Насця ціха засмяялася.

— Думаю.

— Цікава, аб чым?

— А ці мала аб чым можа думаць чалавекі І асабліва ў такі час.

Яна пачакала яго і пайшла побач.

Мікалай адчуў сваёй рукой яе гарачую руку, і гэтая гарачыня прыемным хваляваннем разлілася па ўсяму целу. Ён пайшоў павальней. Але гутарка ўсё адно не ладзілася. Ён пажартаваў:

— Што ж, ты будзеш маўчаць, а я буду слухаць? І наадварот... Цікавы занятак — нечага сказаць!..

— А я не люблю гаварыць. Я люблю спяваць. Вось і зараз мне хочацца спяваць. Ведаеце, у мяне зараз на душы так светла і радасна. Проста сама душа спявае.

— Я штось не бачу прычыны для такой радасці, — усміхнуўся Мікалай.

— А я бачу. Ды як не радавацца, скажыце? Каб вы ведалі, як цудоўна жыць, жыць і змагацца... Змагацца і... — яна зрабіла паўзу, а потым шэптам выдыхнула: — Кахаць...

— Зразумела, — з іранічнай сур'ёзнасцю адказаў ён. — Так, прычына сур'ёзная, каб радавацца. Закаханаму заўсёды хочацца абняць увесь свет. Але зараз абдымаць яго не варта. Не раю. У абдымкі могуць трапіць ворагі. Радуйся пра сябе...

— А я хачу, каб радаваліся ўсе.

— А калі ў мяне няма прычын для гэтага?

— Значыцца, вы дрэнны чалавек.

Мікалай не знайшоў, чым запярэчыць на гэты просты адказ, і змаўчаў. Некалькі хвілін маўчала і Насця. Потым загаварыла зноў:

— Я не люблю людзей, якія вешаюць нос. Сумота нараджае няўпэўненасць у свае сілы і нават, калі хочаце ведаць, баязлівасць. Не спрачайцеся са мной, калі ласка. Я вось раскажу вам... З таго дня, як расстралялі сем'і... Вам расказвала Сцепаніда? Дык вось... Мая маці

не дае дзецям заставацца нанач у хаце. Зімой разводзіла па людзях, а цяпер і наогул ніхто не спіць у хаце, а дзе хто — у садзе, у пуні, на вышках... І гэты штодзённы страх, штодзённае чаканне смерці страшней за ўсё... Сам сябе пачынаеш ненавідзець... Ух, як агідна! Я не жадаю так жыць! І не буду! Не буду! — крыкнула яна, і шчокі яе зачырванеліся, пад лёгкай кофтачкай закалыхаліся высокія дзявочыя грудзі. — Ці ж гэта жыццё? Я і маці за гэта не люблю... Як я рада, як рада, што ў такі час пакахала. Ведаеце, у душы такое! Напляваць мне на смерць! — але, зірнуўшы на Мікалая, яна прыкусіла язык. — Чаго вы глядзіце так на мяне? — І, памаўчаўшы, дадала з пагардаю: — Эх вы! — і зноў пайшла ўперад.

Мікалай зразумеў гэтае «эх вы», і яму зрабілася сорамна. Ён дагнаў яе, пажартаваў:

— Цікава, у якога ж шчаслівуца ты закахалася?

Насця бліснула прыгожымі вачыма і хітра змяніла тэму.

Але ён пасля доўга думаў аб ёй.

«Як гэта хораша ў яе: «жыць, змагацца і кахаць»... Але, змагацца і кахаць», — ён некалькі разоў паўтарыў гэтыя словы, і ў яго самога неяк пасвятлела ў душы, нібы ён раптам зразумеў ісціну, на высвятленне якой патраціў шмат сіл і часу.

Гадзіне а дзевятай раніцы яны падышлі да Ласінага.

Дзень пачынаўся без хмурынкі на небе, без дыхання вецярка. Дрэвы прагнулі вільгаці і спускалі, скручвалі лісце. Нават перастала трапятацца чуткае лісце асіны.

Каля рэчкі іх спынілі вартавы, але, пазнаўшы Насцю, адразу ж прапусцілі, толькі нешта прашаптаў ёй на вуха. Яна ў адказ весела засмяялася.

У лагеры было ціха і бязлюдна. Нікім больш не заўважаныя, яны прайшлі ў самы цэнтр і спыніліся каля зямлянкі-шпіталя.

— Ну, кагосьці мы зараз здзівім, — усміхнулася таямніча Насця.

Мікалай з цікавасцю аглядаў лагер.

У гэты момант дзверы зямлянкі адчыніліся, і ён убачыў сястру. Таццяна трымала на руках чарнагаловага кучаравага хлапчука і, схіліўшыся над ім, з пяшчотнай усмешкай нешта гаварыла. Яна не бачыла Насці і брата, ажно пакуль не ўзышла на апошнюю прыступку ўсходцаў і не падняла галавы. І не адразу паверыла сваім вачам: стаяла, смешна маргаючы.

— Ну, вось... Казала я! Цалуйцеся ж хутчэй! — здаволена засмяялася Насця.

Тады Мікалай кінуўся да сястры, схапіў адной рукой хлапчука, другой — абняў яе.

— Коля, родны! Адкуль жа гэта ты? Як ты трапіў да нас? — смяялася і плакала Тацяна.

Пачуўшы шум, з зямлянкі выскачыла Люба і адразу ж кінулася да Мікалая, моцна абняла яго.

— Дык вось гэты прадстаўнік! — крыкнула яна і, узяўшы яго за рукі, закружыла вакол сябе.

— Дык гэта ты? Ты — прадстаўнік? — спытала Тацяна. Яна не ведала гэтага, бо Лясніцкі і Буйскаму, і пасля — Майбарадзе загадаў пакуль што не выяўляць прозвішча прадстаўніка. Не хацелі хваляваць раненага Карпа Маеўскага, ды і наогул лічылі самым разумным маўчаць, пакуль ён дзесьці блукае. — А цябе ўвесь атрад шукае. І камісар пайшоў, і камандзір, і Андрэй. Усе-ўсе...

Вакол сабраліся партызаны.

Мікалай убачыў іх ветлівыя, светлыя ўсмешкі, радасныя твары і адчуў сябе сярод іх найшчаслівейшым чалавекам. А калі з зямлянкі выйшаў бацька з забінтаванай галавой і, моўчкі абняўшы сына, заплакаў, бязгучна, па-мужчынску, Мікалай таксама не стрымаў слёз.

Толькі адзін чалавек не выйшаў насустрач госцю — урач Алена Рыгораўна Зайчук. Убачыўшы праз адчыненыя дзверы яго, пачуўшы знаёмы голас, яна зайшла за перагародку і, збялелая, нерухома стаяла ў куце. І ў адзін міг перад ёй, як на экране, праплыло яе жыццё, яе каханне, маладосць.

...Пачалося яно, іх каханне, яшчэ ў дзевятым класе, калі яны сядзелі на адной парце. З чаго пачалося — цяжка сказаць. Хадзілі яны ў школу за сем кіламетраў. І вось аднойчы, калі астатнія вучні з іх вёскі не былі ў школе і яны ішлі толькі ўдваіх, Мікалай пачаў гаварыць ёй аб сваім каханні. Праўда, гаварыў ён вельмі туманна і ні разу не ўпамянуў слова «каханне», але ўсё адно яна зразумела. Нічога не адказала яму, але з таго дня глядзела на яго зусім другімі вачамі. І пачалося для іх не жыццё, а цудоўная казка, песня. Што ім былі кпіны сяброў і старэйшых! Яны слухалі і толькі радаваліся, што людзі гавораць аб іх каханні, а яны лічылі сваё каханне незвычайным, самым прыгожым, лепшым у свеце.

Так пражылі паўтара года. Потым раз'ехаліся, яна — у Мінск, ён — у Ленінград. Чатыры гады жылі пісьмамі і чаканнем летніх канікул, радасных сустрэч у Арэхаўцы. Апошнія канікулы былі самымі шчаслівымі, светлымі днямі жыцця. Але ёй трэба было яшчэ год вучыцца, а Мікалая накіравалі некуды на Урал. Яна доўга чакала яго першага пісьма з новага месца, а калі атрымала, яно здалося ёй не такім, як усе папярэднія, напісаныя ім за чатыры гады, — не такім цёплым і ласкавым. Яна не зразумела яго захапленне дзівоснай прыродай

Урала, начлегамі ў лясных гушчарах, паляваннем. У другім пісьме ён цёпла напісаў аб дзяўчыне-геолагу з іх партыі і тут жа паскардзіўся, што ледзь-ледзь успамінае яе, Аленін, твар, голас, рухі. Яна паказала гэтае пісьмо сваім лепшым сяброўкам, і яны зрабілі страшны для яе вывад. Яна была гордая і ўсё затаіла ў сабе. Вырашыла прадаўжаць перапіску да сустрэчы. Але не змагла. Спачатку мімаволі, а потым знарок яна пачала пісаць яму суха і каротка — каб ён зразумеў яе роспач, боль сэрца. Але ён не разумеў ці не хацеў зразумець. Пакрыўджаная і абражаная, яна не адказала на адно з яго пісьмаў, якое здалося ёй асабліва абыякавым. Потым — на другое... Перапіска спынілася. Тры гады яны не бачыліся. І вось зараз лёс звёў іх зноў. Яны павінны сустрэцца. Як?

Па зямлянцы праляцела Люба.

— Дзе Алена?.. Што ж гэта ты стаіш тут у кутку? Не чуеш, ці што? Мікалай Маеўскі прыйшоў. Гэта ж ён прыляцеў з Андрэем. Мне яшчэ ўчора Пецька сказаў, але Павел Сцяпанавіч загадаў маўчаць. Хадзем жа хутчэй! А то ў зямлянцы ж тут нічагусенькі не відно, — і з вясёлым смехам яна схапіла разгубленую Алену за руку і амаль сілком выцягнула на двор.

Алена схамянулася, спакойным рухам паправіла скамечаны халат, ціха прывіталася, нібы не бачыліся яны ўсяго некалькі дзён:

— Добрай раніцы, Мікалай Карпавіч. І вы да нас?

Ён не здзівіўся, калі ўбачыў Таню, Любу, бо ведаў,

што яны тут — аб іх расказвалі і Сцепаніда, і Насця. Аб Алене ж ніхто нічога не сказаў, і сустрэча з ёй не менш збянтэжыла і яго.

«Дык вось тут што», — успомніў ён словы Майбарады і працягнуў ёй руку.

— Добрай раніцы, Лена, — і раптам нечакана для самога сябе, а яшчэ больш для яе, абняў і пацалаваў у вусны.

Яна вызвалілася з яго абдымкаў. Пачырванела, хаваючы збянтэжанасць, жартліва сказала:

— Хопіць жа вам частаваць яго аднымі пацалункамі, — і пайшла назад у зямлянку.

Неўзабаве яны ўсе сядзелі за сталом у засені згорбленага дубаволата.

На стале было ўсё лепшае, што знайшлі на харчовым складзе: сала, цыбуля, банка рыбных кансерваў і нават чорная, пузатая, з срэбнай галоўкай бутэлька «Савецкага шампанскага».

Вакол, пад дрэвамі, стаялі партызаны, пераважна моладзь.

Мікалай агляну́ўся і здзівіўся: якой мірнай, прыгожай і раднаснай выглядзіць гэтая сустрэча. Усе навокал смяяліся: і тонкія праменні

сонца, што прабіваліся праз лісце дуба і скакалі вясёлымі зайчыкамі, і дрэвы, і людзі. I зусім не хацелася верыць, што яшчэ ўчора раніцою ён так блізка зірнуў у твар смерці, а ўсе гэтыя дзяўчаты і юнакі штодня сустракаюцца з ёю і штохвіліны гатовы аддаць сваё жыццё за тое, каб другія такія мелі мажлівасць сустракацца так у любы час і ў любым месцы, а не хаваліся ў гушчарах лясоў.

Ён успомніў, што амаль гэтак жа сустракаліся яны ў Арэхаўцы ў іх садзе, калі ён прыязджаў на канікулы. Вось так сядзела Таня, так гучна смяялася, тады яшчэ дзяўчынка, Люба і задумліва ўсміхалася Лена. Над сталом, прывабленыя пахам мёду, звінелі пчолы. I проста на стол падалі з яблыні залатыя даспелыя яблыкі.

Тацяна, відаць, таксама ўспомніла гэта. Яна нахілілася і ціха, але так, каб чула Алена, спытала ў брата:

— Памятаеш, як мы сабіраліся ў нашым садзе? — I ўздыхнула: — Паліцаі са злосці высеклі ўвесь сад.

Люба абурылася.

— Што вы там шэпчаце? Дзе больш двух, там гавораць услух. Вунь ешце хутчэй, ды хай пачынае расказваць. Колькі людзей чакае!..

Мікалай усміхнуўся.

— Аб чым жа мне расказваць? Вам жа, мабыць, Андрэй усё расказаў.

— Але!.. Мы яго і не пабачылі яшчэ як належыць. Адразу пайшоў цябе шукаць. Не! Ты нам аб усім раскажы: аб Вялікай зямлі, аб Маскве, аб справах на фронце. Мы цябе год чакалі.

— Цяжка расказаць аб усім адразу, сябры мае. Многа часу трэба.

— Вы скажыце, вельмі яны Маскву разбурылі? Яны ж крычаць тут, што ўсё зруйнавалі, — спытала незнаёмая дзяўчына і, пачырванеўшы, растлумачыла, нібы апраўдваючыся: — Я ў Маскве вучылася.

Мікалай агледзеў сваіх прыціхшых слухачоў. Дзесятак цікаўных дапытлівых позіркаў ясных юнацкіх вачэй скрыжоўваліся на ім, шчаслівым чалавеку, які два дні назад быў у Маскве.

Ён зразумеў іх пачуцці.

— Я ў Маскве таксама часта быў раней. I цяпер вось амаль усю зіму жыў, але разбурэнняў ніякіх не бачыў. Усё на сваім месцы. Палацы, метро. Крэмль. Сэрца нашай радзімы б'ецца роўна і ўпэўнена.

— А ўрад вярнуўся ў Маскву? — спытала Алена.

— Камітэт абароны ўвесь час быў у Маскве.

— А што ты рабіў у Маскве ўсю зіму? — спытала Люба.

Мікалай усміхнуўся.

— Вучыўся партызаніць.

— Каб прыляцеў да нас — мы цябе хутчэй навучылі б.

— Жарты жартамі, сябры. А скажу вам па сакрэту: вялікая справа там робіцца. Магу вас запэўніць: вельмі хутка той час, калі ў нас будуць садзіцца самалёты, калі мы атрымаем не толькі вінтоўкі, аўтаматы, патроны, але гарматы і, магчыма, нават танкі. Усё будзе, сябры мае.

Бо ўвесь народ падтрымлівае нас. Вялікія людзі шлюць нам шчырыя, гарачыя прывітанні. Дзён пяць назад, перад вылетам да вас, я меў адну надзвычайна цікавую сустрэчу — сустрэчу, якая не забудзецца праз усё жыццё, — Мікалай адсунуў талерку і павярнуўся да большай групы слухачоў. У гэты момант наляцеў вецярок, скалыхнуў сосны. Мікалай паглядзеў уверх, і ўсе следам за ім скіравалі туды позіркі.

— Як я рад, сябры мае, што знаходжуся на роднай зямлі, чую гоман вось гэтых хвой. Вялікі зямляк наш, з якім я спаткаўся, увесь вечар з вялікай шчырасцю і пяшчотай гаварыў аб родным краі і, між іншым, аб шуме родных хвой. Сэрца яго рвецца сюды, пад гэтыя хвоі. Узрост толькі не дазваляе яму быць тут, сярод нас.

— Хто? — шэптам спытала Таццяна.

— Купала. Я спаткаўся з ім у гасцініцы. Пазнаў па партрэтах, прывітаўся, і ён узрадаваўся земляку. У вялікім сакрэце быў наш вылет, але яму я не мог не сказаць, што лячу ў родны край. Як ён узрадаваўся, каб вы бачылі! Увесь той вечар мы былі разам. А на развітанне ён абняў мяне, па-бацькоўску пацалаваў і сказаў: «Ляціце, сыны мае, падымайце народ. Спадзяюся, веру, што ў хуткім часе спаткаемся ў Мінску». І падараваў мне два вершы сваіх. Вось паслухайце…

Ён дастаў з сумкі старанна загорнутыя ў непрамакальную паперу лісткі з тэкстам верша. Усе пасунуліся бліжэй да стала. Ён падняўся і зноў успомніў, што там, у бацькавым садзе, ён таксама заўсёды чытаў вершы. Але то былі вершы аб вясне, аб кветках, аб каханні і блакітных дзявочых вачах, і чытаць іх было лёгка і радасна. А тут голас яго задрыжаў у самым пачатку, наліўся звонам сталі:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых.
Каб не ўскрэслі век яны.

Ён зрабіў паўзу, глыбока ўздыхнуў і паглядзеў на партызан. Усе яны застылі ў напружаным маўчанні, прагна ловячы кожнае слова. Толькі шумелі хвоі пад свежымі подыхамі ветру.

Ён пачаў чытаць далей, не спыняючыся. Але калі дачытаў да слоў «Кроў за кроў, а смерць за смерць», нехта гучна шэптам паўтарыў гэтыя словы. Усе павярнуліся і ўбачылі Яўгена Лубяна і Прыборнага. Яны падышлі непрыкметна.

Мікалай пазнаў старшыню райвыканкома і памкнуўся насустрач — прывітацца, далажыць. Але Прыборны спыніў яго:

— Чытай да канца, Мікалай Карпавіч.

Зноў загучаў яго ўсхваляваны голас:

Так ад нечысцяў ачысцім
Нашы нівы і лясы,
Фашыстоўскіх псоў панішчым,
І схінуцца, як калісьці,
Для нас нашы каласы.

— Зашумяць каласы! — падхапіў Прыборны. — Яшчэ як зашумяць! Паляціш зноў у Маскву — так і перадай дарагому Купале. А цяпер пацалуемся, крылаты веснік радасці. Мы цябе два дні шукалі, — і камандзір брыгады абняў Мікалая.

XI

Дзейнасць санітаркі не здавальняла Тацяну.

Яна адчувала невядомую дагэтуль сілу, душэўны ўздым, і яе нястрымнае сэрца прагнула актыўнай барацьбы, подзвігу. Думка, што яна нічога яшчэ не зрабіла для перамогі, калі не лічыць забойства паліцэйскіх, мучыла яе. Яна зайздросціла і Любе, і Жэньку, якія амаль штодня хадзілі на заданне, і нават бацьку, які і ранены ні хвіліны не сядзеў без работы. Для яго ўсё шчасце было ў працы. Партызанскую дзейнасць ён не ўяўляў без самаадданай працы. Стары калгаснік з аднолькавым натхненнем падрываў нямецкі цягнік і рыў вакол лагера акопы, майстраваў міны і рабіў драўляныя лыжкі, будаваў зямлянкі і ішоў пасыльным у самыя далёкія атрады і вёскі. Ён не шукаў нейкага асаблівага занятку, а рабіў тое, што даручалі, і ўсё лічыў важным і неабходным.

Яму вельмі не падабаліся такія партызаны, як Майбарада, які ператварыўся ў нейкага прафесіянала і, акрамя разведкі і дыверсіі, больш нічога не хацеў ведаць, увільваў ад фізічнай работы і часта, калі людзі працавалі, грэўся на сонцы, як кот, і няспынна іграў на сваім губным гармоніку.

— Гультай! — каротка і знішчальна гаварыў аб ім Карп.

Не пахваліў ён і дачку, калі яна неяк шчыра прызналася, што нездаволена сваімі абавязкамі.

— А гэта таму, што бяздзейнічаеце вы там, у шпіталі сваім, — сурова сказаў ён. — Адна Алена працуе за вас. Яна нябось здаволена. Колькі работы навокал, а ты сама не ведаеш, чаго хочаш.

Тацяне зрабілася сорамна. Яна хацела быць такой, як бацька, працаваць так многа і аддана. Але душа яе патрабавала іншага.

«Тры месяцы называюся партызанкай, а ніводнага стрэлу не зрабіла», — з абурэннем думала яна.

— Усяму свой час, Тацяна Карпаўна, — спакойна і ветліва адказваў на яе просьбы Лясніцкі. — Хопіць подзвігаў і на вашу долю. А зараз пачнем з самага скромнага, — і ён накіраваў яе ў далёкую вёску — распаўсюдзіць партызанскую газету, правесці гутарку з насельніцтвам.

У другі раз ён узяў яе з сабой у падарожжа па раёну. І хоць прайшлі яны ціха і непрыкметна, але ўсё ж гэта была сапраўдная работа. Яна дала Тацяне магчымасць зразумець усю цяжкасць іх суровай барацьбы. А падзеі, якія адбыліся ў канцы іх падарожжа, канчаткова выветрылі з яе галавы рэшткі рамантыкі. Усё гэта велічна, але сурова і небяспечна, — зразумела яна і з таго часу стала больш падобнай да бацькі.

Але ў яе быў яшчэ і другі бок жыцця, глыбока інтымны, — той, што звязаны з Віцем. Пачуцці гэтага жыцця былі яшчэ больш складаныя і незразумелыя.

Яна гаварыла «мой сын». Столькі яна перахварэла з-за яго, столькі перажыла! Ратуючы малога, яна прыйшла ў лес. Тут усе таксама ўпэўнены, што гэта яе дзіця. Ілюзія мацярынства была такой моцнай, што часам і сама яна цвёрда верыла, што Віця — яе сын.

А хлапчук рос як на дражджах, забаўны і цікавы. Тацяна з мацярынскай пяшчотай і замілаваннем сачыла, як ён ужо сам выпаўзаў з зямлянкі, а потым падымаўся і паважна ішоў па лагеры і з кожным сустрэчным размаўляў на сваёй смешнай дзіцячай мове. Яна, як і ўсялякая маці, нават раўнавала, калі ён забываў на яе і доўга не з'яўляўся, а гуляў дзе-небудзь з партызанамі.

І наадварот, Тацяна захлыналася ад прыліву мацярынскіх пачуццяў, калі пасля доўгага вандравання па лагеры ён з радасным крыкам кідаўся да яе і, прытуліўшыся галоўкай да грудзей, шчабятаў:

— Ма-ма... А я ў дзя-дзі быў. Дзядзя Віця пух-пух...

Але хлапчук выклікаў і іншыя пачуцці. Аднойчы ёй сасніласяся, што яна нарадзіла дзіця, таксама сына. У сне яна адчула прыемны цяжар у грудзях, нібы яны наліліся малаком. І — дзіўна! — гэты цяжар застаўся і пасля сну. З таго ж дня яна пачала прыкмячаць, як

на ёй скрыжоўваюцца позіркі маладых партызан. А крыху пазней Люба са смехам назвала ёй чалавек пяць, якія ўздыхаюць па ёй.

— Украдуць яны цябе ад мужа. Далібог жа. Але ж і шанцуе табе, Танька. Няхай бы і ў мяне хто закахаўся. Ды не ж! Усё шчасце адной табе, — смяялася яна.

Тацяна раззлавалася.

Але сон не выходзіў з галавы. І ўсё часцей з'яўлялася думка аб сапраўдным мацярынстве. Яна сарамліва адганяла яе, злавалася на сябе.

«Ух, якая я агідная! Усе дзяўчаты як дзяўчаты, а я... сарамніца».

Урэшце, пасля доўгіх душэўных пакут, яна знайшла апраўданне сваім пачуццям. Усё гэта — прага кахання, яна ж нікога яшчэ па-сапраўднаму не кахала, і ёй проста хочацца пакахаць, шчыра і прыгожа. Тады і думкі будуць іншыя. Неяк і Алена сказала, што ў закаханага думкі чыстыя, як у дзіцяці.

Але каго яна можа пакахаць? Тацяна заплюшчвала вочы, і заўсёды перад ёй з'яўляўся Жэнька Лубян, але такі, якога яна спаткала зімою ў лесе, калі ён засмучана (яна цяпер толькі ўспаміналася ўсе падрабязнасці) спытаў:

— Значыцца, замуж выйшла?

Яна адказала:

— Выйшла, — і ў яе чамусьці радасна забілася сэрца.

Так і цяпер пачынала яно біцца, калі яна думала аб ім. Але цяпер Жэнька быў другім, зусім не падобным да таго вясёлага, смяшлівага хлопца. Цяпер быў мужчына, худы, маўклівы. І сустракаліся яны ўвесь час, як чужыя, гаварылі толькі аб справах, і то рэдка. Ён увесь час быў на заданні: хадзіў па вёсках, ствараў падпольныя камсамольскія арганізацыі, прыводзіў моладзь у атрады ці сваімі звыштрапнымі стрэламі знімаў нямецкіх вартавых, наводзячы жах на акупантаў.

Прыезд брата, яго расказы аб Вялікай зямлі, аб гераічным змаганні людзей фронту і тылу зноў запалілі жаданне біць ворага не ў шпіталі, а на чыгунцы, у гарнізонах.

Але яго прыезд абвастрыў і гэтыя, другія пачуцці. Мікалай прынёс нешта новае ў іх лясное жыццё, зрабіў яго больш жывым і цікавым. Сам таго не заўважыўшы, ён згуртаваў вакол сябе моладзь. Спачатку сабіраліся паслухаць яго расказы. Пасля гэтыя зборы ператварылася ў нешта накшталт літаратурных вечароў: чыталі вершы, урыўкі з кніг, па магчымасці слухалі радыё. І ўрэшце гэта стала прывычкай, жыццёвай неабходнасцю. Сабіраліся ўжо і тады, калі Мікалая не было. Пачалі спяваць песні.

Мікалай Маеўскі быў зацверджаны начальнікам штаба брыгады.

Гэтае яго назначэнне вельмі ўзрадавала бацьку. Стары ганарыўся, што яго сын будзе правай рукой такіх людзей, як Лясніцкі і Прыборны. Тацяна таксама шчыра павіншавала брата. Толькі Люба прабурчала:

— Горш за ўсё мець начальнікам блізкага родзіча. З ім жа ніколі па-чалавечы не дамовішся.

Карп раззлаваўся на пляменніцу.

— Ціпун табе на язык, балбатуха. Не дамо-о-вішся... Аб глупстве, канечне, не дамовішся. Аб справе заўсёды дамовішся. Ды і што табе дамаўляцца. Твая справа салдацкая, рабі, што загадаюць.

Люба не стала з ім спрачацца, бо ў гэты час падышоў Мікалай. Стары Маеўскі хітра ўсміхнуўся, надумаў: «Ась, што? Прыкусіла язык?»

Справа была ў час абеду.

З першых жа дзён жыцця ў лагеры Карп атрымліваў харчы з партызанскага катла, і абедалі яны па-дамашняму — усе разам, не спяшаючыся, без лішніх размоў, як і належыць у добрай сялянскай сям'і. Стары не любіў, калі часам Люба, знаходзячыся ў лагеры, парушала гэтае правіла. А Люба абуралася і гаварыла Тацяне:

— Не разумею гэтага твайго пчаляра. Нібы і чалавек добры, а жыве, як куркуль які. Ажно сорамна. Скажы ты яму гэта, калі ласка. А то калі я пачну казаць — палаемся.

Але Тацяне падабалася, што бацька і тут, у атрадзе, адчувае сябе галавой сям'і. Падабалася гэта і Мікалаю.

У гэты дзень яны абедалі ў хвойніку, каля балота. Калі ўсе расселіся вакол разасланага на зямлі настольніка, а Віця залез амаль на сярэдзіну яго, бацька трохі збянтэжана наскроб патыліцу.

— Яно варта было б і па чарцы ў такі дзень. Як ты, сын?

Мікалай зразумеў і адказаў;

— Што ж, давай, калі ёсць у цябе.

Карп дастаў нямецкую біклажку, адкруціў крышку, наліў у яе і першы выпіў сам, потым паднёс сыну. Дзяўчатам не прапанаваў — не дзявочая справа піць, ды яшчэ трафейны спірт.

Выпілі па другой, і стары загаварыў:

— Эх, дзеці, каб вы ведалі, як я рады, што ўсе мы тут, усе ваюем супраціў ліхадзеяў. Ды яно і не магло быць інакш у нашай сям'і! Заўсёды Маеўскія былі першымі. У працы, у вучобе... Першымі мы будзем і тут! Мікалай, сынок! Ведаеш ты, хто ты з сённяшняга дня?

— Ведаю, бацька.

— То-та... Ведай, што ты народны камандзір. Правая рука Лясніцкага. А Лясніцкага ведае ўвесь народ, усё Прыдняпроўе наша... Значыцца, і табе народ даручыў лёс свой. Ты цяпер і наш камандзір, сям'і нашай. І я, твой бацька, буду падпарадкавацца табе як салдат і ганарыцца табой. Вялікі мой гонар. Не люблю я хваліцца, а вось табой хваліўся ўсе гэтыя дні, як ты прыляцеў да нас. Вялікае шчасце для бацькі мець такіх дзяцей. Цяпер ужо ты камандуй мной. І глядзі, каб ніякай там скідкі, патурання не давай ні мне, ні каму з нас. Але ж глядзі, каб і фанабэрства там рознага не было, каб, не дай божа, не адарваўся ты ад народа...

— Ну што ты, бацька! — ветліва пакрыўдзіўся Мікалай.

— Ведаю, што ведаеш сам... Але ж я, каб напомніць. Ну, добра, — ён дапытлівым позіркам аглядзеў усю сям'ю і зноў павярнуўся да сына: — Ты мне, таварыш начальнік штаба, дазволь яшчэ адну. Але табе не дам. Слабы ты... і так ужо вочы пасалавелі.

Люба зарагатала. Гледзячы на яе, засмяяўся і Віця, смешна зморшчыўшы тварык.

Карп адставіў пляшку, з дакорам паглядзеў на пляменніцу.

— Злы ў цябе язык, Любоў... Злы... Але гэта яшчэ нічога... Я любіў тваю маці за яе душэўную прастату. Але ж маці твая павагу да людзей мела, а ты не маеш яе. Няма для цябе ні старых, ні малых. Над усімі ты смяешся. Аднак бог з табой. — І, наліўшы чарку, сказаў з нечаканай весялосцю: — За тваё здароўе!

Цяпер ужо засмяяліся і Таццяна і Мікалай. Разгаманіліся, пачалі жартаваць. Ніколі яшчэ не было ў Маеўскіх за абедам так весела і шумна, як у гэты раз. Калі ж скончылі абед і супакоіліся, Карп цяжка ўздыхнуў і сказаў:

— А ўсё ж сумую я, дзеці. Цяжка мне без саду, без вулляў маіх. Цягне ў вёску, хоць пабыць на родным вогнішчы, паглядзець хоць на ўсё.

— І на Палагею, — прашаптала Люба Таццяне. Але стары пачуў яе шэпт і спакойна сказаў:

— І да Палагеі хочацца схадзіць... Шчыра прызнаюся, — і ўздыхнуў. — Сурова вы мяне асуджаеце, дзеці. Вельмі сурова. А ці ведаеце вы, як цяжка чалавеку жыць аднаму? Вы разляцеліся з майго гнязда ва ўсе бакі. Застаўся я адзін з такой гаспадаркай. Сам дагледай, сам вары і сам споднікі сцірай. Ды і наогул... Чалавек на чалавека не падобны робіцца, калі сам жыве. Дзікун... Што ж мне было рабіць?

— Ды мы нічога не гаворым, бацька, — азваўся Мікалай, кінуўшы на Любу дакорлівы позірк.

— І цяпер... Скончыцца вайна, і зноў вас не ўтрымаеш. Хто куды... А я куды? Вось і трэба мне схадзіць да Палагеі, памірыцца з ёю. Яна на вашым шляху не стане... Не бойцеся.

— Але яна станавілася, тата, — ціха сказала Тацяна. — Як уздумаю — не прыстае ў мяне душа да яе...

Карп панурыўся і нічога не адказаў. А Тацяне ў галаву запала бацькава пытанне: «А ці ведаеце вы, як цяжка чалавеку жыць аднаму?» — і яна думала пасля:

«Бацька стары і той думае аб будучым, верыць, што яшчэ вернецца да звычайнага жыцця, да свайго шчасця. А я? Чаму я так мала думаю аб ім?.. Цяжка жыць аднаму... Вядома, цяжка. Але ж трэба ісці насустрач яму — другу жыцця, шукаць яго... Хто ты? Хто?» — яна стаяла ўвечары каля зямлянкі, прытуліўшыся спіною да цёплай хвоі, углядалася ў цемру паміж нябачнымі, але чутнымі дрэвамі, і ёй хацелася крыкнуць, паклікаць яго...

XII

— Фу, чорт! Ажно галава кружыцца!

— Усё думаеш?

— Думаю.

— І не верыш?

— Сумняваюся.

— Выкінь з галавы, Павел. Ніякай зачэпкі няма. Ніякіх слядоў якога-небудзь плана. Простая выпадковасць, з якога боку ні паглядзі. Не маглі ж яны ведаць, што мы закінем да іх свайго чалавека. А ахвяраваць такім атрадам, такой знаходкай... Дзеля чаго? Каб закінуць да нас Куляша? Зрабіць гэта можна было б значна прасцей, урэшце. Не такія яны дурні... Адным словам, плюнь. Чалавек ён, безумоўна, наш. А трапіць да тых шакалаў, шукаючы нас, мог любы. Тут я веру яму...

— Але чаму ён не ўстанавіў сувязі з Майбарадой адразу?

— Ну што ты, сапраўды! А раптам Майбарада аказаўся б перабежчыкам, здраднікам? Становішча, брат, у яго складанае было...

— Правільна, чорт вазьмі, — згадзіўся Лясніцкі. Падумаўшы, сказаў: — Аднак у атрад мы яго ўсё-такі не будзем браць. Пачакаем! Базу нашу ён не павінен ведаць. Праверым яго там, у вёсцы. А зробім гэта так: Хадыку забяром у атрад і разнясем чуткі, што старасту забілі партызаны. Куляшу прапануем заняць яго месца.

— Ідэя! — весела выгукнуў Прыборны.

Праз некалькі дзён пасля гэтай размовы Карп Маеўскі атрымаў заданне наведацца ў Арэхаўку.

— Пайду ў Арэхаўку, Таня. Павел Сцяпанавіч заданне даў...

— Адзін? — спытала яна.

— Адзін.

— Тады і я пайду з вамі, тата. Баюся я...

— Ну, яшчэ што выдумаеш! У першы раз, ці што? Мала я на чыгунку хадзіў? Я ж такі партызан, як усе.

— Калі на чыгунку — я нічога не баюся. Але ў вёску... Мне так і здаецца, што нас падсцерагаюць там на кожным кроку... Я папрашу Лясніцкага, тата, — яна памкнулася бегчы да зямлянкі камандзіра, але бацька спыніў яе:

— Ты падвядзеш мяне, дачка. Мне загадалі нікому не казаць пра заданне.

Тацяна ўздыхнула, моўчкі правяла яго за лагер і доўга глядзела ўслед.

У вёску ён прыйшоў апоўначы. На ўзлессі спыніўся, прыслухаўся. Навокал была цішыня.

Карп рушыў на сваю сялібу — невядомая сіла цягнула туды. Яму расказвалі аднавяскоўцы, што пасля іх уходу ў лес паліцаі знішчылі ўвесь сад, разабралі свіран і ўсё спалілі. Ён не пашкадаваў тады нічога, як калісь не пашкадаваў спаленай хаты. Але цяпер хацелася ўбачыць усё ўласнымі вачыма.

Толькі па дзвюх абгарэлых бярозах, што калісьці стаялі перад хатай, стары пазнаў месца, дзе пражыў усё сваё доўгае жыццё.

«Што ж гэта яны бярозы не спілавалі? Добрыя дровы былі б», — падумаў ён, узыходзячы на тое месца, дзе яшчэ год назад квітнеў найлепшы ў вёсцы сад, якому зайздросціў не адзін гаспадар.

З усяго вялікага саду засталіся толькі тры вішні. Нібы для здзеку і насмешкі пакінулі іх паліцаі. Яны стаялі ў самым канцы саду, сіратліва прыціснуўшыся адна да аднае, як дзеці на магіле сваёй маці. Пад імі парасла густая трава, лопух.

Гэтыя вішні балюча ранілі сэрца гаспадара. Карп падышоў да іх, рупліва агледзеў, і яму стала неяк сорамна перад імі, бо раней ён заўсёды абмінаў іх, не даглядаў — яны амаль ніколі не давалі пладоў. Ён пагладзіў рукой шурпатую кару адной вішні і адчуў, што па шчацэ папаўзла гарачая сляза. Сцёр слязу рукавом, махнуў рукой і шпарка закрочыў назад у лес.

«Чаго пашкадаваў!.. Глупства. Не такое гіне».

Паўз лес ён дайшоў да другога канца вёскі і цішком падкраўся да хаты Мацея Куляша. Пастукаў у шыбу. З хаты выйшла жонка Мацея Ганна ў доўгай белай кашулі. Убачыўшы чужога чалавека, яна спалохана ўсклікнула і адхіснулася. Але пазнаўшы Карпа (ён

даводзіўся ёй стрыечным дзядзькам), спынілася, толькі хуценька прыкрыла далонямі грудзі, здзіўлена спытала:

— Вы, дзядзька Карп?

— Я, Ганна. Дома Мацей?

— Няма. З раніцы пайшоў. Сказаў — у лес. Можа, і не вернецца. Ён цяпер часта не начуе дома...

— Шкада, — уздыхнуў Карп. — Ну што ж... нічога не папішаш. Будзь здарова, Ганна.

Але яна зрабіла крок да яго і спытала трывожным шэптам:

— Скажыце, дзядзечка, бывае ён у вас?

Карп на хвіліну разгубіўся, падумаў.

— Бывае.

Яна з палёгкай уздыхнула.

— Дык зайдзіце ж хоць у хату, перакусіце чаго... Мабыць, не соладка вам там жывецца ў лесе.

— Дзякую, Ганна. Нічога... Перакусіць, праўда, я не супроць, але ж спяшаюся... Бач, і світаць скора пачне.

— Дык я ж хоць вынесу вам чаго. У дарозе перакусіце.

— Не, не трэба, — ён развітальна сціснуў яе руку каля локця і пайшоў у сад.

Хвілін праз колькі ён таксама праз гароды падкрадаўся да другой хаты. Хата гэтая стаяла на голым месцы: за ёй не было саду, каля яе не было нават хлява, і суседскія будынкі неяк адсунуліся ў бок ад яе. А таму Карп прыгінаўся ў мяжы, часта спыняўся, прыслухоўваўся. У апошні раз ён спыніўся каля самай сцяны ўжо, каб агледзецца перад тым, як пералезці ў двор, і раптам пачуў за сцяной размову. Гутарылі, відаць, у каморцы, што звычайна агароджваецца ў сенцах і дзе ў летнюю спякоту начуюць. Сцяна тут была не шчыльная, і ён адразу пазнаў па голасе Палагею і Мацея Куляша.

У старога дрогнула сэрца. Ён прыхіліўся, прыслухаўся.

— Ці даўно ты гаварыў другое? — спытала Палагея.

— Ну дык што!.. Не адразу ж чалавек усё разумее. Я толькі цяпер зразумеў... Вялікая гэта сіла, партызаны, — далей Кулеш неразборліва зашаптаў. Але Палагея зноў сказала выразна:

— Шанцуе гаротнай бабе. Муж — у лес, палюбоўнік — у лес. Што хоч, то і рабі адна... Дай хоць намілавацца, — і Карп пачуў гук пацалунка.

Яму стала балюча, сорамна і брыдка. Ён ціха плюнуў і пайшоў па мяжы назад, нячутна ступаючы босымі нагамі па мяккаму мурагу сцежкі. Праз некалькі крокаў пачуццё агідлівасці змянілася злосцю. Стары сціснуў кулакі.

«Будзь ты праклята, старая падла. Цьфу!.. Скаціна ненажэрная... Век ужо свой дажывае, а ўсё яшчэ паскудзіць... Ды і ён, дурань гэткі. Знайшоў каго. Гадоў, мабыць, на дзесятак старэйшая за яго. Жонкі з яго мала. Пайсці вось сказаць Ганне, хай паганяе хоць».

Толькі ўжо за гародамі, каля ручая, ён схамянуўся і спыніўся, успомніўшы, што не выканаў задання камісара. Прасцей было б сказаць, што не застаў Куляша дома. А як сказаць цяпер, калі за два крокі быў ад яго, чуў яго голас? Схлусіць стары не мог, сказаць праўду таксама цяжка. Ды і смешная была б гэтая прычына, каб не выканаць задання. Трэба ісці назад. Але і назад ісці было цяжка.

Карп зморана апусціўся пад вярбой на мокрую ад расы траву, сціснуў далонямі скроні. За некалькі кароткіх хвілін ён успомніў усё сваё жыццё. Успомніў жонку-нябожчыцу, маці, дзяцей. Успомніў і заплакаў першы раз па ёй. На пахаванні не плакаў, а цяпер, праз дванаццаць год, заплакаў, абражаны і зняважаны другой жанчынай.

Потым успомніліся словы дачкі: «Не прыстае ў мяне душа да яе», — і адчуў яшчэ большае замілаванне да дзяцей і пагарду да гэтай чужой жанчыны. Падняўся і зноў рушыў да Палагеінай хаты. «Добрая ў цябе душа, дачушачка, — думаў ён аб Тацяне. — Недарма не прыставала яна ў цябе да гэтай старой паскудзіны. Прэч жа ты з майго сэрца, прэч назаўсёды. Не месца табе больш у ім!»

Ужо не азіраючыся, падышоў ён да хаты і пастукаў у дзверы. Яны доўга не адклікаліся, відаць, напалоханыя нечаканым стукам.

Карп пастукаў яшчэ раз.

— Хто там? — дрыжачым голасам спытала Палагея.

— Адчыні.

Яна адчыніла, усклікнула і памкнулася абняць мужа.

— Карп, даражэнькі!

Ён адвёў яе рукі і спакойна сказаў:

— Пакліч Мацея!

— Якога Мацея? Што ты плявузгаеш? А божачка мой!

— Мацея Куляша з сваёй каморкі. Мне трэба пагаварыць з ім. — І, убачыўшы, што яна канчаткова разгубілася, паклікаў сам: — Мацей Дзянісавіч, выйдзі, калі ласка, на мінутку.

Палагея горка ўсміхнулася.

— Дык заходзь ужо ў хату. Там і пагутарыце.

Карп моўчкі адышоў убок і пачаў чакаць.

Кулеш збіраўся вельмі доўга. Нарэшце выйшаў.

І Карп нават пры святле месячыка ўбачыў, што твар яго надзвычай белы, а ніжняя губа нервова дрыжыць...

— Адыдзем, — сказаў Карп і пайшоў першым.

Кулеш пералез цераз агароджу і спыніўся.

— Я далей не пайду.

Карп зразумеў, што ён баіцца ісці, і раззлаваўся.

— Не бойся. Ідзі сюды, — ён сеў на граду, у высокі кіяшнік. — Што ж, пагутарым і тут. Я каротка. Мяне накіравала да цябе наша камандаванне...

Твар Куляша прыкметна пацямнеў.

— Ты, можа, ведаеш, што старасту вашага, халуя гэтага, нашы хлопцы злавілі і пазаўчора, паводле прыгавору суда, расстралялі як здрадніка радзімы. Немцы будуць прызначаць новага старасту. Было б вельмі добра, каб ты зрабіўся ім, старастам... Вялікая справа мець свайго чалавека на такой пасадзе — ты ж разумееш...

Узрадаваны Кулеш з пачуццём схапіў руку Маеўскага, пацiснуў яе.

— Карп Пракопавіч, ад усяго сэрца дзякую... усім вам... за давер, за тое, што не забылі маю маленькую паслугу. Эх, даўно ўжо я з вамі душой і сэрцам. Тыдзень шукаў вас па лесе, але трапіў да чарцей лысых. Добра, што вашага хлопца пазнаў, а то б і я разам з гэтымі бандзюгамі нізавошта б парыў маці-зямельку. Уздумаю, ажно мароз пад скурай бегае. Але ж затое пераканаўся я яшчэ мацней у вашай сіле. Як вы здорава іх, х-хі... І я... хоць сёння, хоць зараз з табой пайду ў атрад. Я, браце, ого! — першым партызанам буду. Але для гэтага не падыходжу я, Карп Пракопавіч. Не выйдзе ў мяне. Артыст я дрэнны. Баюся, сам правалюся і людзей правалю. Ды і людзі загрызуць мяне, жонка жывым з'есць. Не магу.

— Баішся? — коратка спытаў Карп.

— Баюся... Але не за сябе, Карп Пракопавіч. Не за сябе... За справу.

— Ну што ж, я сваё выканаў. Так і скажу начальству. — Карп хутка падняўся, агледзеўся, сказаў: — Бывай, — і пайшоў насустрач туману, што нечакана выплыў з альховых кустоў каля раўчака і белай коўдрай засцілаў нізіну ў канцы гародаў.

Кулеш дагнаў яго каля гэтай коўдры, папрасіў:

— Правядзі мяне ў атрад.

— Не маю дазволу на гэта. Загадаюць — у любы час правяду. Пачакай.

Кулеш яшчэ хвіліну ішоў поплеч з ім.

Маеўскі спыніўся.

— Ну, куды ты?

— Карп Пракопавіч... таго... Даруй, брат. Я тут ні пры чым. Чортава баба спакусіла, сілком зацягнула. Пачалося з чаркі, а скончылася...

Маеўскі толькі махнуў рукой, павярнуўся і схаваўся ў тумане.

Не бачыў і не здагадваўся партызан, што амаль да самага лагера за ім ішоў здраднік.

XIII

Ніхто з партызан не ведаў, якія заданні выконвае Андрэй Буйскі пасля звароту з Масквы. Ведалі толькі, што ён робіць нешта вельмі важнае, надзвычайна адказнае. Ён нечакана знікаў з лагера і нечакана вяртаўся назад.

Па загаду камандзіра брыгады яму была пабудавана асобная зямлянка. У яго адсутнасць зямлянка была зачынена на вялікі адмысловы замок. Ключы ад гэтага замка знаходзіліся ў Лясніцкага.

Вярнуўшыся з задання, Андрэй дзень-два амаль не выходзіў з свае зямлянкі. Што ён там рабіў — таксама ніхто дакладна не ведаў. Кожны меркаваў па-свойму. Заходзіць да яго ў гэты час, падглядваць было забаронена: аб гэтым папярэдзіў камісар брыгады перад строем.

Але пасля Андрэй выходзіў сам і адразу ж рабіўся блізкім для ўсіх чалавекам. Яго акружалі, з ім раіліся, спрачаліся, прымушалі чытаць паэмы Лермантава, маналогі з «Барыса Гадунова» і здзіўляліся яго памяці. А памяць у яго сапраўды была незвычайная.

Маладыя партызаны жадалі ва ўсім быць падобнымі да яго і пераймалі кожны яго рух, нават гаворку. Пятро Майбарада ўсё больш і больш захапляўся і ганарыўся сваім сябрам.

— Ух! Якая гэта галава! Які розум! — звычайна гаварыў ён, сабраўшы вакол сябе моладзь, і пачынаў расказваць бясконцыя прыгоды, якія быццам бы здарыліся з ім і з Андрэем у першыя месяцы іх вандравання па Беларусі. Большасць слухачоў добра ведала, што Пятро бяссорамна хлусіць, выдумляе, але слухала з цікавасцю, бо тут можна было і парагатаць да колікаў у жываце, і раптам адчуць, як варушацца на галаве валасы і па спіне прабягае халадок жудасці.

Аднойчы ён сказаў:

— Андрэй гляне на чалавека і бачыць яго наскрозь, як на рэнтгене. Усе яго думкі, пачуцці, перажыванні, чым ён дыхае нават...

Гэта пачула Насця Зайчук і са злоснай усмешкай адказала:

— Нічога ён не бачыць, твой Андрэй. Сляпы ён, як кацянё.

Нібы бомба выбухнула сярод слухачоў Майбарады. Усе яны падхапіліся, абурана зашумелі. А сам апавядальнік паважна падышоў да Насці і сказаў, пагардліва працэджваючы словы скрозь зубы:

— Хлопцы, дайце мне мікраскоп, я разгледжу гэтую бактэрыю. — І грозна павысіўшы голас: — Вось што, паважаная! Толькі ваш пол і іншыя там жаночыя якасці не даюць мне права зрабіць з вашага курносага носа свіное адбіўное.

Насця жартліва дзьмухнула на яго і хутка адышла, зашумеўшы шоўкавай сукенкай, якую яна заўсёды апранала, прыходзячы ў лагер.

У яе былі сур'ёзныя падставы сказаць так. Дзяўчына кахала, кахала ўпершыню і абуралася, што той, хто крануў яе сэрца, не здагадваецца аб яе пачуццях.

На другі дзень пасля сутычкі з Майбарадой яна сказала Тацяне:

— Хадзем наведаем Буйскага. Мне трэба пагутарыць з ім.

— Да яго нельга заходзіць, калі ён працуе, — адказала Тацяна.

— Вось яшчэ дзікунства! Да чалавека нельга зайсці. Выдумалі.

— Павел Сцяпанавіч загадаў.

— Я не чула, калі ён загадваў, значыцца, мне можна. Але адна я саромеюся. А мне вельмі трэба. Хадзем... Зрабі гэта для мяне, Таня. Я вельмі прашу цябе, — і яна ласкава абняла сяброўку. Тацяна заглянула ёй у вочы і не змагла адмовіцца: у прыгожых Насціных вачах гарэлі дзіўныя агеньчыкі.

У Тацяны зарадзілася туманная здагадка.

На іх стук Андрэй ветліва адказаў:

— Калі ласка.

Але ўбачыўшы нечаканых гасцей, ён здзіўлена бліснуў акулярамі і спяшліва сабраў са стала нейкія паперы, паклаў іх у скрынку.

Яны першы раз убачылі яго ў акулярах, і Насці стала сорамна за словы, якія яна сказала Майбарадзе. Яна пачырванела, разгубілася, але не зводзіла з Андрэя вачэй. Ён злавіў яе пільны позірк, зняў акуляры і сказаў, нібы апраўдваючыся:

— Не магу ўжо доўга чытаць без іх. Развіваецца блізарукасць... Але... сядайце... Будзьце гасцямі.

— Мы перашкодзілі вам, Андрэй? — спытала Тацяна.

— Калі гаварыць шчыра, так.

— Дык мы пойдзем.

Насця кінула на сяброўку гнеўны позірк.

— О не! Што вы! Пасядзіце. Пагутарым. Мы цяпер вельмі рэдка бачымся. Але... сядайце на ложак альбо на кнігі. Табурэтка ў мяне адна.

Яны селі на ложак і здзіўлена аглянуліся. Іх здзівіла колькасць кніг. Нідзе ва ўсёй брыгадзе не бачылі яны столькі кніг, як у гэтай маленькай зямлянцы. Палова кніг была на нямецкай мове.

Насця з цяжкасцю прачытала некалькі загалоўкаў і зморшчылася.

— І вы чытаеце ўсю гэтую поскудзь?

Андрэй уздыхнуў.

— Часам бывае брыдка, але толькі ад такой вось поскудзі, як вы сказалі, — ён стукнуў рукой па тоўстай кнізе ў чорнай вокладцы. — А наогул я люблю чытаць. Такая ўжо мая прафесія — мець справу з кнігамі ўсіх часоў і народаў. З маленства ў мяне была схільнасць да моў. Мяне цікавіла слова, гук. У малодшых класах я марыў вывучыць мовы ўсіх народаў зямлі. Пазней, канечне, я зразумеў, што гэта немагчыма, але ўсё ж я зрабіў мэтай свайго жыцця вывучэнне мовы. Я рыхтаваўся стаць вучоным-моваведам. — Андрэй на момант задумаўся, твар яго асвяціўся добрай усмешкай, ён задуменна паўтарыў: — Вучоны-мовавед, — і схамянуўся, зноў звярнуўся да дзяўчат: — Гэта вельмі цікава — мова народа. Звычайныя людзі думаюць, што гэта проста, а на самай справе вельмі складана. Мова народа — жыццё ва ўсіх праявах яго. І ведаеце, вельмі горка, што ў наш век жывуць варвары, якія ставяць сваёй мэтай знішчыць народы, знішчыць мовы. Тупагаловыя дзікуны! Яны не разумеюць, што няма той сілы, якая знішчыла б народ. Да гэтага часу яны дамагліся толькі аднаго: спаганілі сваю ўласную мову, цудоўную нямецкую мову, на якой тварылі Гётэ і Гейнэ, Маркс і Тэльман. Ведаеце, я пішу работу «Фашызм і дэградацыя нямецкай мовы». Цікавая работа. Я пачаў яе яшчэ ў Маскве, калі ўпершыню пазнаёміўся з іх літаратурай. Часам працягваю і тут. Але вельмі рэдка. Толькі ў хвіліны творчага натхнення. А колькі такіх хвілін у мяне бывае? Дзве ў месяц, як гаворыць Майбарада. Ды я і не шкадую, што не магу пісаць зараз. Напішу пасля вайны.

Насця з такім замілаваннем і захапленнем глядзела на яго, што Тацяна ўраз усё зразумела і, напоўніўшыся мацярынскай пяшчотай да сяброўкі, сціснула яе руку і прашаптала на вуха:

— Дурніца.

Тая ўраз успыхнула, як кветка маку. У гэты момант Андрэй паглядзеў на іх, спыніў позірк на Насці і здзіўлена ўзмахнуў брывамі.

Насця падхапілася.

— Пайшлі, Таня. А то мы перашкаджаем чалавеку працаваць.

— Пачакайце. Куды ж вы? Цікавыя вы госці! Нечакана прыйшлі, нечакана і ўходзіце. Сумна са мной, так?

— Вельмі сумна. Мовы ды мовы, — засмяялася Насця і шпарка выбегла з зямлянкі.

Тацяна папрасіла выбачэння ў збянтэжанага Андрэя, падзякавала і выйшла ўслед за сяброўкай. Тая стаяла пад хвоямі і глядзела ў блакітную бездань неба, дзе павольна плылі маленькія белыя хмурынкі, нібы кучаравыя ягняткі. Прамені сонца прабіваліся праз галіны хвой, і ўся яна была ў светлых сонечных плямах. Збоку здавалася, што смяецца ўся яе маладая гнуткая постаць, абцягнутая зялёным шоўкам. Але твар яе быў сумна-заклапочаны, а на вейках блішчалі слёзы.

Тацяна ласкава ўпікнула яе:

— Што гэта ты?.. Праўду кажуць: закаханыя, што дзеці. Смяюцца і плачуць адначасова.

І Насця зноў засмяялася.

— Таня, які ён, а? Ведаеш, я марыла аб ім яшчэ тады, калі не знала яго. Яшчэ да вайны.

— Як жа ты магла марыць?

— Не ведаю... Але марыла. Уяўляла яго іменна такім. А як убачыла першы раз, так адразу сэрца і дрогнула: ён.

Тацяна ўзяла яе за рукі.

— Я зайздрошчу табе.

— Сорамна табе, Таня, зайздросціць чужому каханню, ды яшчэ такому... аднабокаму. У самае вунь які сын. Вы ж кахалі адно аднаго. Кахалі?

Тацяна сумна ўсміхнулася.

— Кахалі. А цяпер мне хочацца пакахаць другога.

Насця здзівілася і дакорліва паківала галавой.

— А я б ніколі-ніколі нават не глянула б на каго другога, каб толькі ведала, што ён кахае мяне. Як

жа гэта можна? А раптам ён дзе-небудзь ранены і думае... думае пра цябе? А ты... У-у, якая ты нядобрая! Я і не думала.

— Не злуйся. Хадзем, я раскажу табе аб сваім каханні, — апошняе слова яна вымавіла з іроніяй. Ёй раптам захацелася расказаць Насці пра сябе і Віктара ўсю праўду. Навошта цяпер яе тайна? Яна толькі робіць яе адзінокай і не дае мажлівасці нікому даверыць свае дзявочыя думкі, перажыванні, часта пакутныя, незразумелыя самой, а даверыць іх абавязкова камусьці трэба. Вядома, не бацьку і не брату. Люба таксама наўрад ці зразумее. Можна Алене або Насці. Зараз лепей Насці...

...Як вучоны і разведчык, Андрэй прымушаў сябе разгадваць сэнс кожнай падзеі, нават самай звычайнай на першы погляд, нязначнай.

«З якой мэтай прыходзілі дзяўчаты?» — задумаўся ён і пачаў успамінаць усе дэталі. І раптам успаміны спыніліся на вачах Насці, на яе прамяністым позірку, і як яна сарамліва пачырванела, спаткаўшыся з яго позіркам.

Дык вось яно што! Ёкнула сэрца. Андрэй адчуў цеплыню ў грудзях. Падняўся, абышоў навокал стала, не прыкмячаючы, што ходзіць па кнігах. Пачаў успамінаць усе папярэднія сустрэчы з Насцяй. Іх было не многа, і ён памятаў нават яе позіркі і аб чым яны кожны раз гаварылі. І ўсё пацвярджала яго здагадку. А пачуццё гэтае яму было добра знаёма, бо ён захапляўся ўжо некалькі разоў і аднойчы кахаў сур'ёзна. Гэта было ў час вучобы ва універсітэце. Кахаў ён проста і шчыра, але ўсю справу сапсавала яго празмерная адданасць навуцы. Вывучыць к дваццаці двум гадам чатыры замежныя мовы, а к дваццаці пяці абараніць кандыдацкую дысертацыю — для гэтага трэба было нямала сіл і часу. З-за гэтага ён тыднямі не бачыў дзяўчыну. Яна не раз гаварыла яму аб гэтым, і ласкава і з абурэннем. Ён вінавата згаджаўся, але праз дзень-два ўсё ішло па-ранейшаму. Урэшце скончылася тым, што дзяўчына знайшла больш уважлівага хлопца і выйшла замуж. Андрэй балюча перажываў здраду. Але здарэнне гэтае дапамагло набыць самую дарагую якасць — уважлівасць да людзей.

А пасля смерці маці, у якой ён быў адзіны сын, Андрэй адчуў неабходнасць мець уласную сям'ю і пачаў сур'ёзна думаць пра гэта. Ды і пара было ўжо: яму ішоў дваццаць шосты год. Ужо і сябры пачыналі жартаваць, і сам ён зайздросціў аднагодкам, якія мелі свой кут, дзяцей...

За час вайны ён ні разу не падумаў аб гэтым. Але часам адчуваў, што ў яго жыцці чагосьці не хапае. І вось нечакана зразумеў — чаго... «Так, вельмі добра мець зараз сына або дачку... Магу загінуць... Што застанецца пасля мяне?» — з жыццёвай прастатой і суровасцю падумаў ён і, адкінуўшы нагой кнігі, выскачыў з цёмнай зямлянкі. Захацелася адразу ж убачыць Насцю, пагутарыць з ёю.

...Увечары іх бачылі разам, вясёлых і шчаслівых. І ўвесь лагер загаварыў аб іх каханні як аб нечым незвычайным.

XIV

Гэта была вельмі неспакойная ноч.

Тацяна не знаходзіла сабе месца. Адмова Лясніцкага ўзяць яе на гэтую важную аперацыю, у якой прымала ўдзел уся брыгада, пакрыўдзіла і ўсхвалявала. Яна хадзіла па апусцеўшаму лагеру з канца ў канец, нервова ламаючы пальцы рук.

І ноч была, як яе настрой, — узрушаная, цёмная. На захадзе няспынна ўспыхвала бліскавіца, распісваючы чорныя хмары дзівоснымі ўзорамі. Хвоі на момант застылі ў напружаным чаканні, а потым адразу зашумелі палахліва і трывожна. Шум гэты паступова перайшоў у аднастайны цяжкі гул, які каціўся па пушчы і дзесьці там, далёка на захадзе, зліваўся з глухімі раскатамі грому.

Набліжалася навальніца.

Тацяна стаяла на ўзлеску, каля балота, і, заплюшчыўшы вочы, уяўляла, як разгортваецца зараз бой за Буду. Станцыю гэтую і мясцовасць вакол яе яна добра ведала.

«Добра, што цёмна і навальніца, — думала яна. — Гэта дасць ім магчымасць падысці непрыкметна. Хоць бы нікога не забілі, не паранілі...»

Яна хвалявалася за бацьку, за Жэньку, за Лясніцкага... За ўсіх. Кожны партызан быў дарагі ёй, як родны брат.

«Зноў! Хоць бы нікога не забілі! — раззлавалася яна на сябе. — Кожны раз баюся. Пара ўжо прывыкнуць... Вайна ёсць вайна... Лепш загінуць за ўсіх, чым... Хто гэта сказаў: «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях!» — Яна напружыла памяць. — Далорэс Ібарууры? Так, Ібаруры. Сапраўды, лепш памерці, чым жыць так, як мы жылі ў вёсцы... Але лепей не думаць пра гэта», — і яна пачала думаць аб Насці і Андрэю. Думаць аб іх было прыемна, бо гэта — жыццё і шчасце.

Тацяна ўявіла, як здзівіцца і збянтэжыцца Мар'я Зайчук, калі яны з'явяцца пасярод ночы і Насця скажа (а яна абавязкова так скажа):

— Ну, мама, смаж. яечню — частуй зяця.

Раптоўны вецер ударыў у твар буйнымі кроплямі дажджу. Маланка бліснула над галавой, і вялізная пераламаная вогненная страла ўпала ў балота зусім блізка. Ляснуў пярун. Гучна зашамацела лісце на дубах. Лінуў дождж.

Тацяна хутка пабегла па знаёмай сцежцы да зямлянкі.

У чыгуннай печцы жарка гарэлі дубовыя дровы. Тацяна паставіла стэрылізаваць хірургічны інструмент, выціснула падол плацця і стала ў расчыненых дзвярах, зноў прыслухалася. Шумеў дождж. У канцы лагера ціха перагукаліся вартавыя.

У гэты час Алена Зайчук паўзла па балоце з санітарнай сумкай за плячамі і пры кожнай успышцы бліскавіцы шчыльней прыціскалася да зямлі. Сухая асака, купіны да крыві рэзалі рукі, драпалі твар. Пакутліва ныла спіна, балела шыя. Часам Алена датыкалася рукою да локця чалавека, які поўз уперадзе, і намагалася здагадацца, хто гэта

— Карп Маеўскі, Гнядкоў ці Майбарада. Але дарэмна. Нехта, што поўз за ёй, таксама час ад часу датыкаўся да яе нагі, і яна таксама не ведала, хто ён: за ёй павіненісці амаль увесь атрад Паўленкі.

Вось, нарэшце, і ўмоўны сігнал — на балоце тонка прапішчала начная птушка. Далей паўзці нельга. Далей пойдуць толькі тыя трое, што наперадзе ў яе. Алена, прыціснуўшыся шчакою да калючай купіны, падумала: "Чаму сярод тых траіх стары Маеўскі і Гнядкоў? Няўжо нельга было выбраць маладзейшых?" Але тут жа ўспомніла, як па загаду Лясніцкага быў зроблены ў лагеры высокі насып, на якім амаль паўмесяца штоночы трэніравалі партызан: вучылі бясшумна здымаць вартавых. Часцей за ўсё вартавым станавіўся сам камісар брыгады і праганяў кожнага, хто не здольны быў "зняць" яго непрыкметна. У апошнюю ноч на трэніроўцы заставалася не больш як дзесяць чалавек. З іх ліку і былі выбраны гэтыя трое, якім зараз даручана зняць вартавога.

Такім жа чынам да станцыі, абкружаючы яе, падцягваліся амаль усе атрады. Алена ведала, што гэта — самая буйная і самая складаная з усіх аперацый брыгады. Трэба было разграміць станцыю, якую ахоўваў шматлікі, узброены да зубоў фашысцкі гарнізон. Аперацыю гэтую рыхтавалі доўга і старанна, і таму ўсё, кожная драбніца, было загадзя прадумана, разведана і спланавана.

Чалавек, што поўз за ёй, дакрануўся рукой да яе нагі, потым падпоўз і лёг побач, плячо ў плячо. Яна пазнала хто — насцярожылася.

— Значыцца, начальнік штаба брыгады для цябе не аўтарытэт? — ледзь чутным шэптам спытаў Мікалай, але шэпт гэты быў для яе гучней за злосны крык.

Алена не адказала і, разумеючы, што паводзіць сябе недарэчна, узлавалася і на яго, і на сябе. За якую гадзіну перад гэтым ён загадаў ёй застацца на ўзлессі, каля партызанскай батарэі, якая павінна была ў выпадку неабходнасці падтрымаць атрады сваім агнём. На батарэі знаходзіўся камандны пункт. Алена, якая заўсёды вельмі сур'ёзна ставілася да партызанскай дысцыпліны, у гэты раз не выканала загаду, не выканала таму, што загадаў ён, Мікалай.

Ёй здалося, што яму проста раптам захацелася пакінуць яе далей ад месца бою.

— Добра, пагаворым заўтра ў штабе. Я гэта так не закіну, — зноў пачула яна яго спакойны шэпт.

Алена адчула, як у твар ударыла кроў. Яна ўявіла, як ёй, галоўнаму ўрачу, упершыню давядзецца сядзець перад камандаван-

нем брыгады, як дакорліва паківае галавой Павел Сцяпанавіч. Што яна скажа ў апраўданне?

Асляпляльна бліснула маланка, на міг асвяціла на блізкім ужо насыпе постаць вартавога. Над галавой цяжкімі бярвеннямі пракаціўся гром. Упалі першыя кроплі дажджу. А праз хвіліну магутны лівень заглушыў усе гукі гэтай неспакойнай ночы.

Шэпт Мікалая стаў больш гучны:

— Цудоўна! Прырода працуе на нас. А эсэсаўцы дурні.,,. Самаўпэўненыя ідыёты!.. Я на іх месцы гэтае балота ўсё-такі замініраваў бы.

— Сціхні. Яшчэ накаркаеш, — злосна прашаптала Алена і здзівілася, што адказала яму так дзёрзка і груба.

«Па вайсковай субардынацыі мне належыць звяртацца да яго на вы, а я вось як», — падумала яна.

Мікалая, мабыць, таксама збянтэжыў яе адказ. Ён доўга маўчаў, потым нечакана сказаў:

— Слухай, Алена. Давай, урэшце, паспрабуем разабрацца ў нашых адносінах,, Вось ужо два месяцы, як я прыляцеў, і ўсё не магу нагаварыць з табой адзін на адзін.

— І вырашыў зрабіць гэта тут, зараз?

— Ці не ўсё адно дзе.

— Не, не ўсё адно. Я не магу гаварыць аб гэтым. Праз хвіліну, можа здарыцца, будуць паміраць нашы людзі.

— Магчыма, і мы... Але калі думаць толькі аб смерці — значыцца не верыць у жыццё, у перамогу. А я веру... У шчасце веру, у наша шчасце. Лена... Чаму ты не адказала на сем маіх пісьмаў, Лена?

Яна павярнулася да яго так, што адчула яго дыханне, злосна загадала:

— Сціхні, Мікалай! Я не хачу слухаць!.. Ды як не сорамна табе гаварыць зараз аб гэтым? Там паўзе твой бацька, стары... А ты... Чаму ты не папоўз замест яго?

— Мне не дазволілі. Я — не ты, я не магу парушаць дысцыпліну, — ужо другім голасам адказаў Мікалай і, памаўчаўшы, дадаў: — Добра. Я больш ніколі не буду з табой гаварыць аб гэтым, калі табе непрыемна. Ніколі!

У сэрцы Алены нешта з болем абарвалася. Мабыць, надзея, што два месяцы цяплілася там.

— Але зразумей адно...

Ён не скончыў: жудасны крык разарваў аднастайны шум дажджу.

Мікалай моцна вылаяўся і ціха скамандаваў:

— За мной!

Алена падхапілася і, нізка нахіліўшыся, пабегла за ім. Але праз некалькі крокаў яе перагналі другія партызаны.

Гэта быў напрамак галоўнага ўдару. Ад удачы тут залежаў агульны поспех аперацыі.

З заходняга боку ад станцыі, адразу ж за апошняй стрэлкай, чыгунку перасякала невялічкая рака. Паабапал яе, да самага лесу, і цягнулася гэтае купіністае балота. За лета і балота і рэчка перасохлі.

Гітлераўцы, відаць, разумелі, што гэта самы блізкі і зручны шлях для нападу на станцыю, і таму абаранялі гэтае месца вельмі пільна. Насып каля моста меў пяціметровую вышыню, і ў ім, пад палатном чыгункі, яны збудавалі дот. Ён выступаў з двух бакоў насыпу пачварнымі жалезабетоннымі нарастамі і сляпымі вачамі амбразур глядзеў у лес. Метраў за сто ад моста, у вялікім будынку былой лесаканторы, размяшчалася ахова. Разведчыкі падлічылі, што тут жыве прыкладна палова ўсяго гарнізона станцыі.

Вось чаму камандаванне брыгады і вырашыла нанесці галоўны ўдар з гэтага боку. План быў просты, але ў гэтай прастаце і была яго сіла.

Спрактыкаваныя пластуны павінны падпаўзці і без аднаго гуку зняць вартавых на мосце і каля казармы. Пасля гэтага, па сігналу пластуноў, атрад блакіруе казарму. За некалькі хвілін станцыя застанецца, па сутнасці, без аховы.

Лясніцкі надзвычай старанна падбіраў людзей для выканання галоўнай задачы. На вучэбным насыпе вартавога лепш за ўсіх «здымаў» Майбарада — ён ні разу не «засыпаўся».

— Чорт, а не чалавек! — з захапленнем гаварылі пра яго партызаны.

Другім добрым пластуном аказаўся камандзір падрыўной групы Гнядкоў і трэцім, на здзіўленне і дакуку маладзейшым, — стары Маеўскі. Ён поўз «дублёрам» Гнядкова да казармы. Майбарада ад памочніка адмовіўся.

...Калі лінуў дождж, яны падняліся і пабеглі да чыгункі, упэўненыя, што дождж глушыць гукі іх крокаў.

Маеўскі ледзь упраўляўся за сваім камандзірам.

Карп ніколі не ведаў пачуцця страху, ніколі не думаў аб смерці, але заўсёды ўспамінаў аб сваім узросце і шкадаваў, што яму не дваццаць тры гады, як гэтаму зубаскалу Майбарадзе, і нават не сорак, як Гнядкову.

Пад насыпам яны ляглі. Прыслухаліся і раптам пачулі крокі. Над іх галовамі па лініі да моста прайшлі, ціха размаўляючы, два немцы.

У Карпа трывожна забілася сэрца.

«Усё праваліцца... Калі Майбарада ўжо зняў вартавога, яны выкрыюць яго».

Крыўдна было. Успомніліся словы Паўла Сцяпанавіча: «Аперацыя будзе мець не толькі тактычнае, але і вялізнае палітыка-маральнае значэнне. Яна падыме навакольнае насельніцтва на яшчэ больш актыўную барацьбу. Нам пачнуць дапамагаць яшчэ больш. А фашысты па-сапраўднаму адчуюць партызанскую сілу».

І раптам усё праваліцца. З-за чаго? З-за простай выпадковасці. Не, не павінна гэтага здарыцца!

Ішлі мінуты.

На мосце было ціха, толькі шумеў дождж. Але раптам зноў пачуліся крокі — гітлераўцы вярталіся назад.

У старога нібы цяжкі камень зваліўся з сэрца. Гнядкоў шапнуў яму ў вуха:

— Патрулі, аб якіх мы нічога не ведалі. А вартавога каля казармы, відаць, няма, інакш ён павінен быў гукнуць іх. Нам трэба зняць гэтых. Здолееш?

Яны шэптам абмеркавалі план.

— Да моста іх больш дапускаць нельга: там, напэўна, ужо Пятро стаіць.

Яны ўспаўзлі на насып і, сціснуўшы ў руках нажы, ляглі на краі, каля самых шпал. Мінут праз пяць зноў пачуліся крокі і галасы. Карп зноў захваляваўся: ці зможа ён, ці хопіць сілы? Ад думкі такой зрабілася страшна, першы раз за ўвесь час, як ён у партызанах.

Вось крокі і чужая гамонка ўжо над самай галавой.

Гнядкоў штурхнуў у бок, і Карп, падхапіўшыся, зрабіў усё, што трэба і што рабіў не раз на вучэбным насыпе: схапіў гітлераўца за шыю, заціснуў рот, але той нечакана рвануўся і закрычаў нечалавечым голасам. На дапамогу падскочыў Гнядкоў, і праз момант усё было скончана. Але было ўжо позна. На станцыі загрымеў стрэл, падняў трывогу. Ракета прарэзала заслону дажджу, зашыпела ў вышыні і згасла. Заляскалі стрэлы.

Карп зразумеў, што здарылася непапраўнае, але не разгубіўся.

— Казарму... гранатамі! — крыкнуў ён Гнядкову і што ёсць сілы кінуўся да казармы, да якой было не больш пяцідзесяці крокаў.

Там ужо чуліся крыкі; праз шчыліны дрэнна замаскіраваных акон прабівалася святло. Маеўскі кінуў гранату ў адну з гэтых светлавых шчылін. Выбух. У цемры вырваўся сноп яркага святла, праз расхінутае акно былі відны людзі. Карп кінуў другую гранату. Адчыніліся дзверы — туды трэцюю.

З памяшкання далятаў панічны лямант, лаянка. Звінела шкло, трашчала дрэва: відаць, гітлераўцы выскаквалі цераз акно з другога боку. На станцыі ўзнялася бязладная страляніна. Час ад часу пад хмары ляцелі ракеты.

Гнядкоў схапіў Карпа за руку, пацягнуў назад да насыпу.

— Зараз нашы пойдуць... Каб незнарок не падстрэлілі. Куля — дура, яна не разбіраецца.

Яны ляглі ў канаву, паміж нейкімі бочкамі.

— Эх, колькі я шуму нарабіў! — уздыхнуў цяжка Маеўскі. — Значыцца, аслабла рука. Не тыя гады. Дарэмна ты браў мяне, Свірыд Захаравіч. Відаць, у абоз мне пара.

— Не гаруй. Не заўсёды, братка, у такой справе атрымоўваецца, як думаеш...

На насып узбеглі людзі. Пачулася сакавітая руская лаянка, знаёмая каманда. Карп пазнаў голас сына.

— Нашы!

Але каля казармы застрачылі нямецкія аўтаматы, над галавой заспявалі кулі.

— Лажыся!

Нехта войкнуў, застагнуў.

— Эй, санітары!

— Дзе? — голас Алены.

— Махотка! Казарму прачасаць і спаліць! — голас Мікалая роўны, здаецца, нават крыху абыякавы. — Гнядкоў! Жывыя?

— Жывыя!

— Што ж гэта вы шуму столькі нарабілі? Гора-пластуны сівабародыя.

Словы сына балюча закранулі старога.

«Вось з-за мяне людзі гінуць...»

Яны перапаўзлі цераз насып і сустрэліся з Мікалаем тварам у твар.

— Гкядкоў! Сабірай сваіх падрыўнікоў. Узарві спачатку масты, пасля — вадакачку і стрэлкі. Толькі хутчэй, а то вы маруды!

Ён гаварыў злосна, груба. Лаяўся, хоць раней ніхто не чуў ніколі ад яго такіх слоў. У любым другім месцы Гнядкоў і асабліва Карп абразіліся б, але тут моўчкі выконвалі загады.

На станцыі грымелі выбухі гранат, трашчалі аўтаматы. Партызаны атрада Паўленкі дабівалі рэшткі гарнізона.

Арганізаванае супраціўленне гітлераўцы аказвалі толькі за вёскай, з другога боку станцыі, дзе дзейнічаў атрад Кандыбы. Але

гэтае супраціўленне было далёка за межамі станцыі і не толькі не перашкаджала, а нават дапамагала тым, хто быў ужо каля мэты.

Загарэўся бензасклад — галоўны аб'ект нападу. Прабітыя кулямі цыстэрны распырсквалі бензін, і ён гарэў агромністым вогненным фантанам, асвятляючы ўсё навокал. Праз хвіліну бензасклад узарваўся са страшэннай сілай, раскідаўшы полымя па ўсёй тэрыторыі станцыі — на будынкі, вагоны, склады. Падрыўнікі разбурылі тое, чаго не мог знішчыць агонь. Узляцеў у паветра мост, пахіснулася і пахілілася вадакачка. Лясніцкі, які нечакана з'явіўся сярод падрыўнікоў, загадаў падкласці пад яе яшчэ адзін зарад.

— Паваліць абавязкова! Ад станцыі павінна застацца голае месца!

«Для палітыка-маральнага значэння», — падумаў Карп. Ён дзейнічаў спакойна, разважліва, старанна, рабіў усё па-гаспадарску, назіраючы за маладымі падрыўнікамі. Але думка аб тым, што аперацыя пачалася па яго віне не так, як планавала яе камандаванне, і таму, відаць, патрабавала лішніх ахвяр, не давала яму супакою. Ні адну яшчэ няўдачу ён не перажываў так пакутліва, як гэтую.

Пасля другога выбуху ад вадакачкі засталася груда цэглы ды пакамечаны рэзервуар. Уся станцыя гарэла, і дождж, хоць і быў моцны, не меў сілы заліць гэтае мора агню.

У паветры начарцілі дугі тры ракеты — чырвоная, зялёная, белая. Сігнал адыходу.

Цераз тое ж сухое балота атрад Паўленкі адышоў у лес. У атрадзе было толькі чацвёра раненых. Аперацыя ўдалася. Партызаны вынеслі шмат трафейнай зброі, боепрыпасаў, узялі ў палон дзевяць гітлераўцаў, у тым ліку начальніка станцыі.

Даведаўшыся аб гэтым, Карп крыху супакоіўся і не крыўдзіўся на жарты партызан, нават на Майбараду, які больш за ўсіх даймаў іх.

— Я думаў, вы ў свінарнік залезлі, — такога шуму нарабілі. Вось, думаю, практычныя людзі, у першую чаргу аб кілбасах дбаюць, — рагатаў ён.

«Што ж... узрост... Сапраўды, пара ў абоз», — думаў стары, слухаючы такія жарты.

Але раніцою ў лагеры ён зноў адкінуў прэч такія думкі. Камандзір і камісар брыгады аб'явілі падзяку ўсяму атраду і асобна ім траім — Майбарадзе, Гнядкову і яму, Маеўскаму. І Карп падумаў: «Не, у абоз яшчэ рана. А здымаць вартавых трэба павучыцца. У нашай справе ўсё прыгадзіцца».

XV

Малады высокі дуб з густою шапкай галля і лісця стаяў на беразе Дняпра, на невялікім лугавым узгорку. Пад ім туліліся некалькі паўзасохлых арэхавых кустоў. А навокал рассцілаліся абшары заліўнога лугу, са шматлікімі ручаямі, азёрцамі і зараснікамі густога лазняку. І дуб стаяў, нібы вартавы гэтых абшараў, горда аглядаючыся навокал. Ззаду ў яго, за лугам, чарнела сцяна лесу, наперадзе — пясчаная каса, рака, а за ракою на высокім крутым беразе — будынкі рабочага пасёлка.

Сонца паліла няшчадна, сушыла апошнія жнівеньскія травы. Над лугам плылі хвалі нагрэтага паветра і, здавалася, калыхалі лазнякі.

На дубе, амаль на самай вяршыні, сядзеў Жэнька Лубян. На грудзях у яго вісеў бінокль, а на тоўстай галіне, пад рукой, ляжала новенькая снайперская вінтоўка з аптычным прыцэлам — падарунак Андрэя Буйскага, прывезены з Масквы. Хлопец не зводзіў вачэй з супрацьлеглага берага. Толькі зрэдку ён аглядаўся навокал. Але яго мала цікавілі постаці касцоў, што мільгалі над лесам, паважныя буслы на скошанай пожні і адзінокі човен удалечыні на Дняпры.

Пільней прыглядаўся ён да руху на тым беразе. Часта падносіў да вачэй бінокль. Але ўбачыўшы там нямецкага салдата, які прайшоў па вуліцы, сялянскі воз са збажыной ці дзяўчыну з вядром, расчаравана апускаў бінокль і выціраў рукавом з ілба пот.

Сядзеў ён тут ужо другі дзень. У першы дзень, калі змеркла, спусціўся, пераначаваў у стозе сена, а на світанні зноў быў на дубе.

...За дзень да гэтага Люба, вярнуўшыся з чарговай разведкі, данесла: камендант раёна штурмфюрэр Койфер перанёс свой штаб на лесапілку і сам цяпер часта купаецца ў Дняпры або загарае на крышы склада. Не забыла яна, між іншым, успамянуць і аб гэтым дубку, хітра зірнуўшы на Лубяна. У партызанскага снайпера загарэліся вочы.

— Пайду, — сказаў ён камісару, як толькі Люба скончыла дакладваць.

— Далекавата. Я ведаю гэты дубок. Кіламетр, а то і з гакам, — усумніўся Лясніцкі. Але думка, падказаная Любай, была вельмі прывабная. За камендантам партызаны палявалі з самае вясны, але ахоўваў ён сябе вельмі пільна, асабліва пасля таго, як Першага мая Майбарада і Люба забілі ў яго на ганку вартавога і на даху дома павесілі чырвоны сцяг.

...Лубян цярпліва чакаў. Ён ведаў, што па загаду Койфера былі знішчаны сем'і, і рашыў не вяртацца, не адпомсціўшы.

У двары лесапілкі, над абрывам, хадзіў вартавы і нікога не падпускаў да ракі. На крышы склада ляжала зялёная коўдра і белая падушка. Гэта давала падставы спадзявацца, што рана ці позна, а Койфер з'явіцца або на беразе, або на крышы.

У Лубяна ўсё было падрыхтавана, вымерана. Праўда, восемсот пяцьдзесят метраў зашмат і для такога выдатнага снайпера, але ён, ведаючы гэта, ні на хвіліну не губляў веры ў сваю здольнасць.

Час цягнуўся марудна.

«Хутчэй бы гад гэты вылазіў, а то заўтра ў Рудні сход. Хлопцы будуць чакаць».

Думкі плылі і плылі. Успомніўшы Буйскага, падумаў аб Маскве. Пашкадаваў, што да вайны ні разу не пабыў у сталіцы, а магчымасць была.

«Шмат чаго мы не разумелі ў мірны час. Часам за штодзённымі справамі самага галоўнага не бачылі і не адчувалі. Тады і не падумаў ні разу, каб без патрэбы ехаць у Маскву. А вось цяпер... Цяпер на крыллях паляцеў бы».

Потым неяк непрыкметна пачаў думаць пра сябе. Думкі чапляліся адна за адну, Пачалося з успаміну аб сястры. Ён папракнуў сябе, што вельмі рэдка бачыць Ленку і ніколі не прылашчыў сірацінку. Колькі разоў яна падбягала да яго, радасна тулілася і пяшчотна зазірала ў вочы, часам ціха-ціха пытала:

— Дзе ты быў, Жэнька? Раскажы мне.

Ён ніколі нічога не расказваў ёй. Кожны раз горкі камяк слёз сціскаў яму горла, і ён, паклаўшы ёй на галоўку руку, доўга маўчаў, а потым, праглынуўшы слёзы, ціха гаварыў:

— Ідзі гуляй, Ленка.

Яна апускала галоўку і нехаця адыходзіла ад брата. А апошні час пачала падыходзіць усё радзей і радзей, і ён ужо з тыдзень наогул не бачыў яе. Слёзы затуманілі яму вочы, калі ён успомніў аб гэтым. Ён выцер іх брудным рукавом кашулі.

«Добра, што хоць Алена і Таццяна даглядаюць яе, як родную. Добрыя яны... І ім добра. Жывуць дружнай сям'ёй... Маеўскія нават абедаюць разам, нібы дома. А я?.. Я чамусьці ў баку ад усіх. У баі разам з усімі, можа, нават уперадзе, у вёсках — сябра ўсім камсамольцам, а ў лагеры неяк адзін. Сястру і тую па тыдню не бачу. Нядобра гэта. Сакратар падпольнага райкома камсамола павінен быць душой усяму, а я з моладдзю толькі ў баі... Калектыў мастацкай самадзейнасці арганізавалі без мяне. Майбарада там заварочвае... Гэтага «аматара любоўных спраў», як называе яго Павел Сцяпанавіч, дзяўчаты абмываюць і абшываюць. Штодня падваратнічкі мяняе. А ў

мяне паўгода ўжо насавой хустачкі няма», — ён горка ўсміхнуўся і пачырванеў, успомніўшы, як ён сам мые сабе бялізну, забіраючыся для гэтага ў патаемнае месца, у гушчар, і якія засціраныя, чорныя і парваныя ў яго споднікі. Яму стала горка за сябе. «Трэба будзе ў вёску да цёткі схадзіць — папрасіць пару бялізны». Потым ён успомніў Тацяну і цяжка ўздыхнуў.

Аб Тацяне ён думаў часта, але баяўся свае незразумелыя пачуцці да яе назваць каханнем. Ды і як можна кахаць замужнюю жанчыну?

«Глупства гэта ўсё, — трасянуў ён галавой, нібы хацеў вытрусіць з яе ўсе гэтыя надакучлівыя думкі. — Вось як знішчым фашыстаў, тады кахай, каго хочаш... А зараз не пра гэта трэба думаць».

Жэнька зноў паглядзеў навокал. Касцоў пад лесам не было. «Відаць, селі абедаць», — мільганула думка, і ён таксама адчуў голад.

Сонца было якраз на поўдні — высока стаяла над ракой і пякло так, што нават лісце было гарачае. Далёка, у канцы пасёлка, дзе раней праплыў човен, цяпер купаліся дзеці.

Жэнька пяшчотна ўсміхнуўся. «Як мірна навокал, нібы і няма яе, вайны...»

Дастаў з кішэні скарынку хлеба і павольна, але апетытна пачаў есці, смакуючы кожны адкусаны кавалачак. Вельмі хацелася піць. «Вось дурны, што біклажку не ўзяў. Сядзі цяпер увесь дзень без вады».

І раптам скарынка вывалілася ў яго з рук: на крышы склада паказалася постаць. Жэнька схапіў бінокль, але разгледзеўшы на немцу звычайную салдацкую форму, вылаяўся, пашкадаваўшы хлеба.

Салдат падняў коўдру, вытрусіў яе, зноў старанна разаслаў і накрыў белай прасцінаю, якую прынёс з сабой. Безумоўна, пасцель рыхтавалася для Койфера. У снайпера моцна забілася сэрца.

Хвалюючыся, ён дастаў памятую паперку, яшчэ раз праверыў разлікі розных паправак — у снайперскай справе ён быў надзвычай тонкі матэматык. Чыстай марлечкай старанна выцер шкло прыцэла, мушку. Праверыў прыцэл.

Салдат знік. А хвіліны праз тры на крышы з'явіўся тоўсты чалавек у зялёных трусіках і ў саламяным капелюшы. Ён пацягнуўся, закінуўшы рукі за галаву, агледзеўся на раку і лёг ніцма. Крыша склада мела схіл у бок ракі, і Жэнька добра бачыў шырокую спіну адкормленага фашыста, нібы той знарок падставіў яе пад кулю.

У хлопца задрыжалі рукі. Так яны не дрыжалі яшчэ ні разу, хоць на яго рахунку і было ўжо каля сарака забітых гітлераўцаў і паліцаяў.

«Э-э, ды так не стрэліш... Спакойна, спакойна, дружок, — ён прыціснуў вінтоўку да грудзей, пяшчотна пагладзіў яе. — Ну,

даражэнькая, не падвядзі і на гэты раз. Хай згарыць гэты гад пад нашым сонцам. Спячэцца хай». Паступова рукі перасталі дрыжаць.

Ён прыцэліўся ў капялюш, бо ведаў, што вінтоўка заўсёды цаляе крыху ніжэй. Зрабіў глыбокі ўздых і павольна націснуў спускавы кручок...

Стрэл...

Не ўздрыгануўшы, снайпер працягваў сачыць праз оптыку.

Голае цела каменданта падскочыла, перавярнулася і з метр прасунулася па адхоннаму схілу крышы, а потым нерухома застыла з раскінутымі ў бакі рукамі.

Радасны ўсклік вырваўся з Жэнькіных грудзей. Другога стрэлу рабіць не трэба было. Але ён не стрымаўся і стрэліў у вартавога, які нерухома застыў над абрывам, відаць, прыслухоўваючыся да нечаканага стрэлу. Вартавы ўпаў, але падхапіўся і шпарка пабег у глыбіню двара. Там замітусіліся салдаты. Ляснулі першыя стрэлы. «Шкада, што па гэтым прамахнуўся», — пашкадаваў Жэнька і спрытней вавёркі скочыў уніз, спусціўся ў арэхавы куст і, прыхіліўшыся да зямлі, пабег да бліжэйшага зарасніку. У лазняку ён шчасліва засмяяўся і пацалаваў цёплы затвор вінтоўкі.

XVI

Генрых Візэнер злосна выключыў радыёпрыёмнік. Да д'ябла ўсё гэта! Яго не радавалі крыклівыя паведамленні аб паспяховым наступленні нямецкіх войск на поўдні, аб набліжэнні іх да Волгі. Чаго варта гэтае наступленне, калі тут, у глыбокім тыле, за сотні кіламетраў ад фронту, сапраўднае пекла! Горш за ўсялякі фронт. «Заваяваная зямля!..» Чорта з два! Хай прыйдуць сюды берлінскія крыкуны і паспрабуюць навесці парадак на гэтай «заваяванай зямлі». А ён, Генрых Візэнер, паспрабаваў зрабіць гэта і ўбачыў вынікі. З усяго атрада «Кугель» не выратаваўся ніводзін чалавек. Са ста дваццаці чалавек гарнізона Буды ўцякло толькі сем. А там былі ўмацаванні, доты, кулямёты, мінамёты...

Партызанская брыгада!.. Да гэтага ён сумняваўся, што ў партызан такая арганізацыя і такое вялікае злучэнне — брыгада. Пасля налёту на Буду ён пераканаўся ў гэтым. Што ж зробіць супроць брыгады яго няпоўная рота? Ён падхапіўся, прабег па прасторнаму пакою з кутка ў куток, спыніўся каля акна, паглядзеў на лес. Чортава кубло! Навокал лясы! Гарнізон пастаўлен на з'ядзенне партызанам. Чаго толькі яны марудзяць?

— Ідзіце ж, чорт вас вазьмі! — у роспачы крыкнуў ён і стукнуў кулаком на падаконніку. — Прыходзьце! Я чакаю вас! — І, хвіліну

памаўчаўшы, прашаптаў: — Не хочаце, марудзіце? Дык чакайце мяне! Я ведаю, дзе вы!

Так, Візэнер ведаў галоўную базу партызан — лагер на Ласіным. Ён не паверыў, што Кулеш ратаваўся ад лёсу, які напаткаў увесь атрад «Кугель», іменна так, як ён расказаў аб гэтым сам. Фашыст добра ведаў хітрага пранырy, бо бачыў у ім шмат якія рысы свайго ўласнага характару. Магчыма, гэта толькі і ратавала Мацея Куляша ад смерці. Але Візэнер сказаў яму:

— Цябе трэба расстраляць... Не. Павесіць. (Кулеш кінуўся яму пад ногі.) Але я дарую табе жыццё. Так, дарую... З умовай, што ты выкрыеш лагер гэтага... Лясніцкага, яго галоўную базу. Цяпер ты лёгка можаш выканаць гэта. Не падумай перабегчы да іх. Я зраблю з тваімі дзецьмі тое, што зрабіў з усімі, каго ты выдаў.

І Кулеш выкрыў лагер. Але Візэнер баяўся рабіць напад толькі ўласнымі сіламі, — на д'ябла яму рызыкаваць! Ён прасіў дапамогі, не менш батальёна. Толькі з такою сілай ён мог бы адважыцца ісці ў гэты страшны лес, у гэтыя непраходныя балоты.

Але з дапамогай марудзілі, і ён шалеў ад злосці на начальства, лаяў іх апошнімі словамі і штодня пісаў рапарты і званіў Койферу. Да яго дайшлі чуткі, што партызаны рыхтуюць удар па яго гарнізону, і ён разумеў — ад таго, хто першы зробіць напад, залежыць яго жыццё. Нервы яго былі надзвычай напружаны. Ён не спаў па начах, шмат курыў і піў.

— ...Так, я ведаю, дзе вы! Трымайся, геносе Лясніцкі! — працадзіў ён скрозь зубы і, вярнуўшыся да стала, пачаў пісаць яшчэ адзін — апошні — рапарт. Дапамогі! Дапамогі! — нервова крычаў кожны радок, кожнае слова гэтага рапарта.

Зазваніў тэлефон, Візэнер схапіў трубку.

— Камендант Прыгар обер-лейтэнант Візэнер, — механічна паўтарыў ён і... раптам збялеў, ледзь чутна спытаў: — Ва-ас?

Хвіліну паслухаў, усё больш і больш бляднеючы, потым, нічога не сказаўшы, ціха адняў трубку ад вуха і асцярожна, нібы яна магла ўзарвацца, пачаў класці яе на стол і... паклаў міма. Трубка бразнулася аб падлогу. Візэнер спалохана падскочыў і хвіліну стаяў нерухома, а потым прашаптаў:

— Дзве гадзіны назад снайперскім стрэлам з-за ракі забіты штурмфюрэр Койфер. Фельдкамендант прызначыў камендантам раёна вас... Вас? А-а, мяне... Мяне? Не! — і ён раптам замахаў перад сабой рукамі і пачаў адступаць у куток пакоя, нібы ў яго перад тварам кружыліся пчолы. Упершыню ён, цвярозы, убачыў перад сабой маленькую кулю, якая павольна набліжалася да яго галавы. Ён

махаў рукамі, намагаючыся разагнаць гэты жудасны прывід, але куля няўмольна набліжалася. Адступаючы ад яе, ён спатыкнуўся на канапу і ўпаў, дзіка закрычаўшы.

У пакой ускочылі салдаты, далі яму вады, выклікалі ротнага лекара.

Хвілін праз колькі Візэнер супакоіўся, але, разумеючы недарэчнасць свайго становішча, працягваў сімуляваць хворага.

«К чорту гэтае прызначэнне! Я не хачу быць камендантам у гэтым пекле, — думаў ён, лежачы на канапе. — Тут палююць за мной дзень і ноч. Сёння — Койфер, заўтра — абавязкова я. А я хачу жыць! Жыць! Я не хачу памерці, прымаючы сонечную ванну. Я дастаткова паслужыў Германіі, каб заслужыць жыццё. Хай паслужаць столькі іншыя. А я змарыўся, захварэў. Мне трэба адпачыць, перачакаць і дабіцца пераводу ў іншае месца, дзе мяне не ведаюць. Там я буду разумнейшы. А тут хай другія становяцца на маё месца і даслужваюцца хоць да фельдмаршалаў. Я не буду зайздросціць ім, калі я буду жыць, а яны будуць мёртвыя... Так, самае разумнае — захварэць, перачакаць і дабіцца пераводу...»

Праз гадзіну Генрых Візэнер ехаў у абласны цэнтр. Нягледзячы на ўзмоцненую варту, ён дрыжаў усю дарогу, ажно пакуль не лёг на шпітальны ложак. Толькі на ім адчуў сябе ў небяспецы.

## XVII

У верасні брыгада чакала першага самалёта з Масквы. Пасадачную пляцоўку рыхтавалі ў раёне Межаў, кіламетраў за дваццаць ад Ласінага вострава. Туды былі сцягнуты амаль усе сілы брыгады. У лагерах засталіся толькі вартавыя, параненыя ды жанчыны і дзеці.

Акупанты разведалі падрыхтоўку партызан да нечага вельмі важнага і, сабраўшы сілы, павялі наступ на гэты раён.

Пасадка першага самалёта ў такі час мела для партызан велізарнае значэнне. Яна давала магчымасць сістэматычна атрымліваць з Вялікай зямлі зброю, боепрыпасы, узрыўчатку, медыкаменты. Адначасова яна нанесла б знішчальны ўдар па хлуслівай фашысцкай прапагандзе аб знясіленні Чырвонай Арміі, аб хуткім краху Саветаў, якую яны павялі з новай сілай у сувязі з поспехамі нямецкіх войск на поўдні, баямі за Сталінград,

Гэта добра разумела камандаванне брыгады і, каб не затрымліваць прылёт самалёта падрыхтоўкай новай пляцоўкі, рашыла абараняць падрыхтаваную. Для гэтага трэба было не толькі адбіць нямецкі наступ (ён ужо быў спынены), але і разграміць наступаючыя часці, каб яны больш не адважыліся лезці ў гэты раён.

Штаб брыгады знаходзіўся ў Межах. Немцы былі затрыманы кіламетраў за два ад вёскі на рэчцы Вуцянцы, Партызаны спалілі мост і паспяхова адбівалі ўсе спробы ворага пераправіцца на гэты бераг. Праўда, нельга сказаць, што спробы гэтыя былі вельмі актыўныя. Супроць партызанскай брыгады стаяў нейкі сапёрны батальён і паліцэйскія атрады. У батальёне была рота славакаў. На другую ноч славакі прыслалі свайго парламенцёра, які запэўніў, што большасць славацкіх салдат будзе страляць угору, а па магчымасці і ў спіны немцам, Значна большую небяспеку ўяўляла нямецкая чатырохгарматная батарэя, якая ў першы дзень абстраляла Межы і ўчыніла ў вёсцы пажар. Але яна існавала нядоўга. Уначы Жаўна з групай партызан свайго атрада прабраўся ў тыл ворага, перабіў батарэйцаў і папсаваў гарматы. Пасля гэтага вораг быў, па сутнасці, знясілены, і яго не цяжка было разграміць.

Але раптам партызанскія разведчыкі прынеслі звестку аб з'яўленні ў раёне баёў батальёна эсэсаўцаў з танкамі, артылерыяй і мінамётамі.

Батальён прыбыў раніцой і спыніўся ў вёсцы Лемяхі, кіламетраў за дванаццаць ад Межаў, Эсэсаўцы адразу пачалі рабаваць насельніцтва, напіліся і чынілі гвалты. Па гэтых звестках было відно, што яны не вельмі спяшаюцца ў бой, відаць, упэўненыя, што партызаны нікуды не дзенуцца.

Трэба было папярэдзіць іх. Прыборны, Лясніцкі і Мікалай Маеўскі хутка выпрацавалі план разгрому гэтага батальёна, а заадно з ім — сапёраў і паліцэйскіх,

По гэтаму плану атрад Паўленкі павінен быў зрабіць трыццацікіламетровы абходны марш праз лясы і балоты, перасекшы шашу, падысці да Лемяхоў з боку прыдняпроўскіх лугоў і ўначы нечакана напасці на, эсэсаўцаў. Кавалерыйскі атрад Жаўны таксама павінен зрабіць абходны манеўр і зайсці ў тыл немцам, якія стаялі на Вуцянцы. Атрады Кандыбы і Івана Плюшчая, пераправіўшыся цераз раку, павядуць наступленне ў лоб. Час пачатку баявых дзеянняў быў вызначаны агульны для ўсіх атрадаў — дзве гадзіны ночы, каб навваліцца, нечакана і адначасова з усіх бакоў.

Сабралі камандзіраў і камісараў атрадаў, растлумачылі ім баявую задачу. У той час, калі праходзіла гэтая кароткая нарада, у пакой зайшоў радыст і падаў начальніку штаба радыёграму.

Мікалай Маеўскі хутка расшыфраваў яе і, прыкметна ўсхваляваны, падняўся. Камандзіры глядзелі на яго з нецярпеннем і нават зайздрасцю, што ён першы чытае весткі з Масквы.

— Таварышы! Масква пытае, ці можам мы прыняць самалёт сённяшняй ноччу.

Усе ўзрушана падхапіліся, радасна загаманілі. Нехта нават крыкнуў «ура».

Лясніцкі падняў руку.

— Рана радавацца, таварышы. Трэба падумаць, што адказаць Маскве. Ці гатовы мы сапраўды прыняць самалёт?

— Гатовы, Павел Сцяпанавіч! Шчо цэ вы! Гатовы, трасцу яго матары! — закрычаў Жаўна.

— Самалёт сядзе, а эсэсаўцы ў гэты час танкі пусцяць, артылерыйскі абстрэл пачнуць. Пазіцыі іх недалёка, майце на ўвазе, — ён махнуў рукой у той бок, адкуль даляталі стрэлы.

— То ж мы ад гэтых суччых сыноў мокра місто зробім, Павел Сцяпанавіч. Вы ж самі толькі што казалы, — не сунімаўся Жаўна.

— Самалёт прыляціць, безумоўна, раней, чым мы нанясем удар.

Падняўся спакойны, дысцыплінаваны Паўленка.

— Я прапаную назначыць удар на дваццаць два ноль-ноль.

Лясніцкі паглядзеў на гадзіннік.

— Зараз трынаццаць! Раней, чым праз гадзіну, атрады не выступяць. Ці зможа галоўны атрад зрабіць абходны марш за восем гадзін?

— Зможа! — упэўнена заявіў Паўленка.

— Зможа! — пацвердзіў Прыборны. — Я сам пайду з імі.

Так і парашылі. Маскве адказалі: «Чакаем». А праз гадзіну атрады непрыкметна зняліся з пазіцый на Вуцянцы і выступілі. Перад выступленнем Паўленка падышоў да Лясніцкага, нясмела папрасіў:

— Таварыш камісар, дайце мне майго камандзіра кулямётнага ўзвода.

Камісар брыгады нахмурыўся.

— Слухай, Паўленка, можна сказаць раз, два... Ты ж дарослы чалавек. Дык якога ж ты д'ябла надакучаеш мне? Кулямётчыкі ў цябе ёсць, снайперы табе ноччу не трэба... А пакінуць атрад без камісара я не магу.

Камісар атрада Кандыбы Залескі быў хворы, і Яўген Лубян часова замяшчаў яго. Аб ім і ішла гаворка.

З атрадам Жаўны паехаў начальнік штаба брыгады Мікалай Маеўскі.

Лясніцкі застаўся ў Межах і адразу ж пачаў падрыхтоўку да начнога бою. Абышоў атрады, пагутарыў з партызанамі, праверыў стан зброі і колькасць боепрыпасаў. Пасля доўга радзіўся з камандзірамі, складаў дэталёвы план. Рабіць гэта было лёгка і прыемна, бо ён ведаў

кожны вір у рэчцы, кожны ўзгорак І лагчыну і нават кожнае паасобнае дрэва.

Але яго добры настрой сапсавала Люба. Яе накіроўвалі сачыць за эсэсаўцамі, як толькі даведаліся аб іх з'яўленні. І вось яна нечакана хутка вярнулася назад, змораная, бледная. Лясніцкі з першага погляду здагадаўся, што здарылася нешта надзвычайнае, і коратка спытаў:

— Што?

— Эсэсаўцаў мяжа ў Лемяхах.

— Дзе ж яны?

— Чорт іх ведае. Ніхто дакладна нічога не ведае. Я нават паліцая аднаго злавіла. І той нічога не мог сказаць... Я яго шлёпнула... Цяжка было весці.

— А з лемяхоўцамі ты гутарыла?

— Чалавек дзесяць перапытала. Адны гавораць, паехалі на Рудню, другія — к Дняпру. Вось тут і варажы. Я асабіста веру і тым, і другім. Гэтыя гады задумалі нейкую хітрасць.

Лясніцкі задумаўся. Становішча адразу ўскладнілася. Манеўр атрада Паўленкі згубіў сэнс. І камісар, не марудзячы ні хвіліны, накіраваў чалавека дагнаць атрад, паведаміць абстаноўку. «Рашайце, дзейнічайце самі, — напісаў ён Прыборнаму. — Але галоўная ваша задача зараз — прыкрыць наш тыл. Не выключана мажлівасць, што эсэсаўцы маглі пасунуцца ў лес».

Люба чакала, не зводзячы з яго вачэй.

— А мне куды?

— Не змарылася?

— Змарылася, але ўсё адно сядзець я не магу.

— Добра. Ідзі ў лес. Зойдзеш у Рудню. Любымі сродкамі трэба знайсці гэты пракляты батальён. Куды ён мог знікнуць? Нібы скрозь зямлю праваліўся.

Застаўшыся адзін, камісар доўга хадзіў з кутка ў куток па прасторнаму класнаму пакою школы. Становішча было сур'ёзнае.

Ён паклікаў камандзіраў і камісараў атрадаў, каб паслухаць іх думку, параіцца з імі. У яго была каштоўная прывычка партыйнага кіраўніка: у цяжкі момант раіцца з людзьмі.

Але ў гэты раз ён не дачакаўся камандзіраў. Раней іх у пакой зайшоў радыст.

— Таварыш камісар, радыёграма Цэнтра.

Лясніцкі прагна схапіў аркуш паперы, пачаў расшыфроўваць. І раптам збялеў.

«Прыборнаму, Лясніцкаму.

Вашу галоўную базу ведаюць немцы. Атакуюць сёння батальёнам СС. Звесткі атрыманы ад «Прафесара», — некалькі разоў прачытаў ён радыёграму і дарасшыфраваў яе: «— Звесткі атрыманы ад Буйскага, Эх, Андрэй, Андрэй! Вялікую справу ты зрабіў, дружа, але хтосьці спазніўся, ты ці штаб... Позна... Позна, таварышы, — камісар брыгады сціснуў рукамі галаву. — Трыццаць чалавек раненых... Жанчыны, дзеці. Уся маёмасць, увесь баявы запас... Амаль без усялякай аховы, — шаптаў ён. — Дык вось дзе ён, гэты праклятын батальён! У самае сэрца ўдарыў. Як жа мы праваронілі? Разявы!» — хвіліну ён сядзеў нерухома. Потым падхапіўся, паглядзеў у акно на лес.

— Не, не позна! Дорага вы заплаціце за лагер, сволачы! Лубяна да мяне! -— крыкнуў ён сувязному і хутка пачаў пісаць новае данясенне камандзіру брыгады.

Лубян і Кандыба з'явіліся неўзабаве, бо ішлі па першаму выкліку.

Лясніцкі, нічога не кажучы, падаў ім расшыфраваную радыёграму. Твар Жэнькі адразу стаў бялей сцяны. Ён цяжка задыхаў, нібы яму раптам не стала хапаць паветра, потым для чагосьці зняў шапку, сеў на лаўку, але адразу ж падхапіўся.

— Я... Павел Сцяпанавіч!

— Так, ты! На матацыкл! Ляці куляю. Магчыма... Усё магчыма... Тады няхай адыходзяць праз балота, знішчаючы за сабой кладку. А ты... Ты адзін ведаеш, як гэта зрабіць. Узарві!.. Пры любых абставінах... Зразумеў? Давай!..

Лубян крута павярнуўся.

— Пачакай, — Лясніцкі абняў яго, моцна пацалаваў у вусны і прашаптаў, нібы гэта была тайна: — Я сам прыйду туды з атрадам Паўленкі. Зараз жа даганю іх.

Жэнька адказаў:

— Сустрэнемся, Павел Сцяпанавіч! Сустрэнемся! Не можа быць, — і выскачыў з пакоя.

## XVIII

Па вузкай звілістай лясной дарозе матацыкл ляцеў з такой хуткасцю, з якой, бадай, не ездзіў ніводзін матацыкліст у свеце. Досыць было аднаго памылковага або на адну дзесятую секунды спозненага павароту руля, каб ад матацыкліста і машыны засталося літаральна мокрае месца. Але Жэнька не думаў аб гэтым. Наогул ён не думаў ні аб чым. Адна толькі думка з аднаго кароткага слова гулка стукала ў рытм з маторам:

«Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!»

Выехаўшы з лесу, ён убачыў, што ў вёсцы Хвасцічы, праз якую ляжаў яго шлях, пажар. Тады бліснула другая кароткая думка:

«Фашысты!»

Але ён не спыніўся...

У вёсцы сапраўды былі немцы. Яны правялі прамільгнуўшага перад імі матацыкліста ашалелымі позіркамі і схамянуліся толькі тады, калі ён быў ужо далёка за вёскай.

Над галавой у партызана засвісталі кулі, але родны ўзгорак схаваў яго. Убачыўшы знаёмы лес, ён падумаў: «На ўзлессі абавязкова будуць эсэсаўцы», — і, не даехаўшы за кіламетр, спыніўся і саскочыў з матацыкла. У ім больш не было патрэбы. Далей трэба было ісці праз балота і гушчар.

Заглушаючы матор, Жэнька пачуў страляніну. Памыліцца было нельга — стралялі на Ласіным. Яго спрактыкаванае вуха нават адрозніла віды зброі: станковыя кулямёты, аўтаматы... А вось і мінамёт. «Трымаюцца! Родныя, мілыя!»

— Трымайцеся! Трымайцеся, таварышы! — крыкнуў ён і, зацягнуўшы машыну ў кусты, у балота, каб не знайшлі ворагі, шпарка пабег наўпрасцяк да лесу. На ўзлессі над яго галавой зноў засвісталі кулі, але ён не звяртаў на іх увагі, бо сэрца зноў нястрымна стукала: «Хутчэй! Хутчэй!»

Эсэсаўцам не ўдалося наваліцца на лагер нечакана.

Мацей Кулеш, які прывёў іх, дрэнна ведаў законы партызанскага жыцця. Не ведаў ён, што на ўзлессі, за тры кіламетры ад Ласінага, на сасне сядзеў вартавы. Партызан здалёк заўважыў немцаў і па тэлефоне паведаміў у лагер.

Акрамя гэтага, усе прыкметныя сцежкі, якія вялі на Ласіны, былі замініраваны, і эсэсаўцы наскочылі на першыя ж міны.

Асколкам міны быў лёгка ранены і Кулеш, але, спалоханы да смерці (здраднік і не думаў, што смерць можа напаткаць яго і пад аховай батальёна гітлераўцаў), ён прыкінуўся цяжка кантужаным. Раззлаваныя немцы аднеслі яго на ўзлессе і, нават не перавязаўшы рану, кінулі ў кусты, адкуль ён хутка ўцёк дадому, узрадаваны, што мае справу не з Візэнерам (ён не ведаў яшчэ аб знікненні каменданта).

Эсэсаўцы, перамагаючы страх, які заўсёды апаноўваў іх у лесе, пачалі асцярожна прабірацца праз гушчар самі. Але неўзабаве зноў наскочылі на міны. Потым трапілі пад кулі нябачных стралкоў. Але ўсё ж, хоць і з вялікімі стратамі, яны прарваліся да лагера.

Алена Рыгораўна склікала кароткую нараду. У ёй прынялі ўдзел: яна, Таццяна, камандзір лагернай варты малады партызан Іван Сумак

і Маша Плотнік — тая дзяўчына, прыгажосцю якой калісь захапіўся Лясніцкі.

— Галоўная наша задача, — сказала ўрач, — вынесці раненых. Панясем іх праз Гнілое — у прыдняпроўскія лазнякі. Сумак, дасі шэсць дужэйшых байцоў.

Камандзір варты абурыўся.

— Ніводнага чалавека не дам! Мая справа абараняць лагер, і я абараняю яго, — голас юнака дрыжаў, ды і сам ён быў вельмі ўзрушаны. Гэта было, па сутнасці, яго першае баявое хрышчэнне, а ён павінен не толькі ўдзельнічаць у баі, але і камандаваць другімі. Хлопец і ганарыўся, і баяўся.

— Я табе такога «не дам», што ты ўнукам сваім пасаромеешся расказваць, — раззлавалася Алена. — Шэсць чалавек для пераноскі раненых і двух спрытнейшых і смялейшых — у Межы, у штаб брыгады. Зразумеў? А сам з астатнімі — памры, а затрымай гэтую саранчу. — І раптам зусім іншым ласкавым голасам: — Мы хутка прыйдзем табе на дапамогу. Давай, Ваня.

Сумак змоўк і, хвіліну падумаўшы, шпарка пабег выконваць загад.

Алена вярнулася да дзяўчат:

— Ну, дзяўчаткі, набірайце паветра поўныя грудзі. Работы нам — о-ё-ёй!

— Я застануся тут. Я ж кулямётчыца, — раптам заявіла Маша.

Алена гнеўна бліснула вачыма і стукнула далоняй па кабуры пісталета.

— Расстраляю кожнага, хто не выканае мой загад.

Таццяна ажно ўздрыгнула. Ніколі яшчэ яна не бачыла далікатную, ласкавую Алену такой суровай і рашучай.

Маша скарылася.

Але калі яны зайшлі ў шпіталь і расказалі аб усім раненым, здарылася нечаканае і дзіўнае. Алену перабіў камісар атрада стары настаўнік Рыгор Пятровіч Залескі, які толькі што пачаў ачуньваць ад запалення лёгкіх.

— Пачакайце, Алена Рыгораўна. Я скажу. — І ён звярнуўся да раненых: — Таварышы, усе, хто можа падняцца і ісці ці нават паўзці, за зброю і за мной!

Раненыя падхапіліся. У большасці іх зброя была пры сабе. Яны здабывалі яе ў баях, яны і не выпускалі яе з рук да смерці. З дваццаці васьмі раненых выносіць давялося толькі адзінаццаць.

На непраходную дрыгву Гнілога балота яшчэ вясной былі пакладзены жэрдкі. Гэта быў патаемны і самы кароткі шлях з лагера

ў дняпроўскія лугі. Па гэтай кладцы і вынеслі раненых на пясчаную выспу сярод балот, зарослую густым лазняком. Каля раненых пакінулі Ленку Лубян ды маленькага Віцю.

Першая атака была адбіта лёгка, з вялікімі стратамі для фашыстаў. Убачыўшы лагер, п'яныя эсэсаўцы кінуліся ўсе адразу, стаўпіліся на мастку, не жадаючы мачыць ногі ў рэчцы. Тут і сустрэў іх дружны залп. Партызаны стралялі з раней падрыхтаванага акопа, амаль ва ўпор, а таму, бадай, ніводная куля не праляцела міма. Масток быў завалены забітымі і ранёнымі. Эсэсаўцы адышлі за рэчку і ўдарылі з станковых кулямётаў. З дрэў пасыпаліся зрэзаныя галіны, паляцелі трэскі.

— Спакойна, хлопцы, спакойна! — камандаваў Залескі, перапаўзаючы па акопу. — Хай згоняць гады злосць. А мы дарэмна не будзем траціць набояў. Толькі сачыце пільней!

Моцна апёкшыся на першай атацы, гітлераўцы зразумелі, што прамы ўваход на востраў абараняецца надзейна, і пайшлі ў абход, па балоту. З аднаго боку яны загрузлі і вярнуліся назад, з другога пачалі хоць павольна, але прасоўвацца. Залескі вымушан быў раздваіць сілы. Гэта паслабіла абарону.

У другую атаку эсэсаўцы пайшлі рассыпана, перабягаючы ад дрэва да дрэва, ад купіны да купіны, і адначасова з двух бакоў. Адбіць такую атаку было цяжэй. Некаторыя з іх падкраліся так блізка, што змаглі кінуць ручныя гранаты і параніць некалькі партызан. На шчасце, у гэты момант падаспела са сваім атрадам Алена.

Фашысты зноў адкаціліся.

Таццяна, ускочыўшы ў акоп, пачала перавязваць раненых. Але рукі яе нервова дрыжалі, перад вачыма плылі зялёныя кругі.

«Ад бегу», — падумала яна.

Над ёй нахіліўся Залескі і крыкнуў, сур'ёзна ці жартуючы — яна не зразумела:

— А вы, Карпаўна, сумавалі па сапраўднай вайне. Вось яна, любуйцеся!

Яе адказ заглушыла незнаёмае выццё над галавой. Яна выпрасталася, хацела паглядзець, але Залескі моцна пацягнуў яе за руку на дно акопа.

— Лажыся! Міны! — крычаў ён.

Ззаду грымнуў выбух. Хваля паветра шыбнула ў акоп зямлю, сухое галлё, лісце. Ад сасны адламалася вялікая галіна і павісла над галовамі.

Выбухі грымелі адзін за адным. Няспынна сыпалася лісце і хвоя. Упалі дзве тонкія сасны, накрылі акоп.

Захліпаліся нямецкія кулямёты. Цяпер іх было ўжо не два, а незлічоная колькасць. Білі яны трасёрамі, і каляровыя стужкі ўпіваліся ў пакалечанае цела сосен, у бруствер акопа.

У лагеры загараліся зямлянкі. Едкі дым пачаў рэзаць вочы.

Залескі доўга ўглядаўся туды, крыкнуў Алене:

— Не разумею, чаму загараюцца зямлянкі. Глядзіце, адна за другой! А міны там амаль не падаюць. — І загадаў маладому партызану: — Паўзі-ка, братка, правер, што там такое.

У гэты момант міна ўпала ў акоп, раніла двух чалавек.

Тацяна кінулася да іх, зрабіла перавязку.

«Баюся я ці не баюся?» — думала яна і паднімалася ва ўвесь рост. Ёй даўно хацелася выпрабаваць сябе, даведацца, як будзе паводзіць сябе ў баі. Гэта быў зручны момант. Але бой зусім не быў падобны на тыя баі, якія яна вяла ў сваім уяўленні. І роля яе ў гэтым баі была зусім іншая.

Чаму так часта і балюча стукае сэрца? Усё яшчэ ад нядаўняга цяжкага бегу ці ўжо ад страху? Але ж яна зусім не думае аб смерці. Не, яна не баіцца.

Большасць мін падала на краі балота, дзе быў з невялікай групай маладых партызан Іван Сумак.

Залескі прапанаваў Тацяне сходзіць туды разам з ім.

— Там у іх пекла. Як бы чаго не здарылася!

Яна ахвотна згадзілася і першая шпарка пайшла па звілістаму акопу.

А міны ўсё вылі і вылі, трушчылі дрэвы, ссякалі галлё, запальвалі зямлянкі.

«Як гэта разумна зрабілі, што вырылі гэты акоп вакол усяго лагера», — падумала яна і ўспомніла, як многія партызаны, ды і сама яна, не разумелі, навошта гэта робіцца, і не з ахвотаю пасля цяжкіх начных паходаў ішлі ўдзень капаць яго. Але Лясніцкі няўмольна патрабаваў гэтага.

«Дзе яны — Павел Сцяпанавіч, Жэнька, Мікалай? Ці ведаюць яны аб нашым становішчы?..» Яна не скончыла думкі. Хваля гарачага паветра ўдарыла ў твар, збіла з ног. Але яна ўраз падхапілася, кінулася наперад і раптам адхіснулася назад, убачыўшы жудасны малюнак: разварочаны акоп, скалечаныя целы забітых, ручны кулямёт, чырвоныя карэнні сасны, якія спачатку здаліся ёй кавалкамі цела. Зрабілася млосна. Але яна пачула стогн, пазнала голас Машы і, перамагаючы раптоўную слабасць, кінулася да яе.

Побач з Машай ляжаў забіты Іван Сумак. Трохі далей стагнаў другі паранены.

Тоўстая галіна прыцiснула яму нагу.

Рыгор Пятровіч вызваліў раненага і, знясілены, упаў сам.

Тацяна кінулася да яго. Але ў гэты момант змоўклі кулямёты, радзей пачалі біць мінамёты. Эсэсаўцы пайшлі ў трэцюю атаку.

Залескі падхапіўся, кінуўся да ручнога кулямёта, з якога страляў Сумак.

— Карпаўна, бярыце аўтамат. Падайце мне дыскі, — ён і ў баі быў ветлівым, спакойным настаўнікам.

Тацяна ўзяла аўтамат і стала побач з ім.

Галоўная група ўжо адбівала атаку. Эсэсаўцы ішлі там з галёканнем і крыкам, няспынна страляючы з аўтаматаў. Але на балоце яны доўга не падымаліся, магчыма, чакаючы вынікаў атакі ў лесе.

Тацяна сціскала аўтамат так, што ажно ўся дрыжала. Яна забылася аб усім на свеце і думала толькі аб адным, жадала толькі аднаго: забіць як мага больш фашыстаў. «Што ж вы не лезеце, гады? Падымайцеся!» — крычала яна ў думках ім. І калі яны, нарэшце, падняліся, націснула на спускавы кручок і выпусціла адразу ўвесь дыск. Аўтамат змоўк. Яна разгублена аглянулася. Параненая Маша Плотнік працягнула ёй зараджаны дыск. Тацяна нахілілася, каб узяць яго, але ў гэты момант зверху, з боку лагера, у акоп зваліўся чалавек. Яна мімаволі адхіснулася і ўбачыла Жэньку Лубяна. З радасцю і спалохам кінулася да яго.

— Жэня! Вы прыйшлі?

— Страляй! — крыкнуў ён у адказ і, зняўшы шапку, не спяшаючыся, старанна выцер ёю пясок са сваёй снайперскай вінтоўкі. Потым падняўся, паглядзеў на эсэсаўцаў, якія лезлі праз балота, а стрэліў зусім у другі бок, у вяршыню высокага дуба на краі балота. Адтуль бразнуўся на зямлю карэктыроўшчык мінамётнага агню.

Эсэсаўцы на балоце заляглі.

Адбіта была іх атака і каля рэчкі.

На хвіліну стала ціха.

Рыгор Пятровіч, адарваўшыся ад кулямёта, радасна працягнуў Лубяну рукі.

— Яўген Сяргеевіч! Падмога?

— Слабая. Я адзін. З загадам. Забірайце раненых. Пайшлі.

— Куды?

— Да тае групы.

— А як жа тут?

— Тут яны хутка не пройдуць. Вунь каля таго куста такая жыла, што засмокча іх з галавой.

— Глупства ім твая жыла, калі па іх не будуць страляць, — запярэчыў Залескі.

— Рыгор Пятровіч, выконвайце загад камісара брыгады. Забірайце байцоў і ўхадзіце.

Калі ўсе адышлі, Жэнька ўпаў на калені, пацалаваў Івана Сумака.

— Эх, Ваня, Ваня. Сябра ты мой!

Паклаў забітых пад сцяну акопа, хутка прысыпаў зямлёю.

— Каб не здзекаваліся звяры гэтыя. А пасля мы пахаваем вас, таварышы...

У галаўной групе ён таксама загадаў пахаваць забітых, а пасля паклікаў да сябе Алену, Залескага і сказаў ім:

— Адступайце праз Гнілое. Апошнім разбіраць кладку. Я астануся тут.

— А лагер? — спытала Алена.

— Лагера больш няма, калі яго ведаюць немцы. Лагер я ўжо спаліў. Бачыце? Знішчу і рэшту.

Таццяна нахілілася да яго, спытала з трывогай у голасе:

— А сам потым як?

Жэнька раззлаваўся.

— Што вы разважаеце, чорт вазьмі! Мой загад — загад камісара брыгады, І няхай хто паспрабуе не выканаць яго! Зразумелі? Зараз жа выступайце!

Ніхто больш не сказаў ні слова. Немцы ўзмацнілі абстрэл, і міны пачалі рвацца часцей і бліжэй. Залескі абняў і моўчкі пацалаваў Жэньку.

## XIX

І ён застаўся адзін.

«Ну, Павел Сцяпанавіч, большую частку загаду я выканаў. Выканаю і рэшту. Усё выканаю, Павел Сцяпанавіч. Дорага фашыстам будзе каштаваць наш лагер. А цяпер, пакуль ёсць час, папалюем».

Ён зняў з пляча вінтоўку і, зручна прыладзіўшыся, пачаў выглядаць паміж дрэў постаці ворагаў. Спрактыкаванае вока снайпера хутка заўважыла іх амаль за кожным кустом, за кожнай купінай каля рэчкі.

Ён знімаў іх па чарзе, аднаго за другім.

Раззлаваныя эсэсаўцы адказалі ўраганным кулямётным і аўтаматным агнём. Але білі яны насляпую і яшчэ больш выдавалі сябе. Ніводзін стрэл снайпера не прападаў марна,

«Толькі б затрымаць іх наступленне, даць магчымасць вынесці раненых. Хутчэй, таварышы, хутчэй!»

Але раптам ён убачыў Тацяну. Яна бегла да яго па акопу, нізка схіліўшыся, з ручным кулямётам у руках. У яго дрогнула сэрца ад прадчування нейкага вялікага няшчасця. Бо навошта ж інакш было ёй вяртацца? Але ўбачыўшы яе твар, зразумеў, што памыліўся, і сярдзіта крыкнуў:

— Чаму ты вярнулася?

Яна падбегла, схапіла яго руку і адказала бязгучна, аднымі губамі:

— Я буду з табой, Жэня!

— Я загадаў адыходзіць усім! — твар яго гнеўна пачырванеў.

— Я не магла, Жэня. Я памагла вынесці раненых і вярнулася, каб быць з табой. Хіба я магла пакінуць цябе аднаго? Зразумей жа ты! Там усе зразумелі і згадзіліся...

Так, яна прыйшла, каб у цяжкую хвіліну быць поплеч з ім і, калі трэба будзе, памерці разам. Яна. вырашыла гэта, калі ён загадаў ім адыходзіць, адчуўшы раптам, які ён блізкі і родны. Пачуцці, якія доўга тлелі ў глыбіні душы, успыхнулі ў тую хвіліну полымем і сталі яснымі, зразумелымі. Яна адчула сябе шчаслівай, стаўшы побач з ім перад шматлікім ворагам, перад тварам смерці.

За выбухамі мін Жэнька не ўсё пачуў, што яна гаварыла, але ў вачах яе ўбачыў нешта такое, што калісьці бачыў у вачах маці, калі тая праводзіла яго ў лес, і разгубіўся. Спытаў:

— Дзе астатнія?

— Выйшлі. І кладку разбурылі ўжо.

— Страляй.

Жэнька выпусціў з «Максіма» ўсю ленту, потым выцягнуў замок, павесіў на шыю вінтоўку і, схапіўшы Тацяну за руку, пабег па акопу да балота.

— Хутчэй!

Яна падумала, што ён хоча вывесці, ратаваць яе, і спалохана вырвала руку.

— Дай замок! Я застануся сама.

Жэнька рвануў яе да сябе.

— Не разважай! Бяжым хутчэй

Ззаду дзіка закрычалі — эсэсаўцы пайшлі ў атаку.

Яны прыбеглі на край балота, у другі канец вострава. У гэтым месцы ад цэнтральнага акопа адыходзіў убок, у сасоннік, вузкі акопчык. Канчаўся ён невялікай зямлянкай, дзверы якой раней заўсёды

былі зачынены на замок, і ў лагеры мала хто ведаў, што хавалася ў гэтай зямлянцы. Не ведала і Тацяна.

Жэнька спыніўся перад зямлянкай.

Дзверы яе былі адчынены, і Тацяна ўбачыла там нейкія скрынкі і дынама-машыну, накшталт тых, што свяцілі ў нямецкіх кінаперасоўках.

— Сачы! — загадаў Жэнька, паказаўшы на лагер. — Калі яны падыдуць да агняскляда і майстэрні, крыкнеш мне, — і палез у зямлянку.

Тацяна высунулася з акопчыка, лягла на бруствер. У лагеры гарэлі амаль усе зямлянкі. Ад іх загараліся дрэвы, сухое шыгалле, лісце. Пажар поўз ва ўсе бакі. Толькі агнясклад і майстэрня па вырабу мін І іншай зброі, якія стаялі асобна, далей ад зямлянак, абкружаныя глыбокай канавай, яшчэ не гарэлі.

Хутка ў дыме замільгалі постаці гітлераўцаў. Яны беглі наперад і страчылі з аўтаматаў. Вось яны пераскочылі праз канаву, кінуліся да склада, да майстэрні, пачалі разбіваць прыкладамі зачыненыя дзверы.

У Тацяны моцна білася сэрца. Яна зразумела прызначэнне зямлянкі, намер Жэнькі і чакала, пакуль сабярэцца іх каля склада больш. Але некаторыя абмінулі склад і беглі далей да балота, да іх. Тады яна перахілілася ў акоп і гучна крыкнула:

— Бі, Жэня! Бі хутчэй!

Вялізны слуп агню шугануў у вышыню. Хіснуліся сосны. Цяжка ўздрыгнула зямля. Грымнуў кароткі выбух. Засвісталі асколкі. Потым затрашчала, загуло. З неба пасыпаліся зямля, дошкі, галлё, сажа.

Хваля гарачага паветра скінула Тацяну з бруствера ў акоп. Там яе падхапіў Жэнька, падняў на ногі, крыкнуў:

— Бяжым!

Балота ў гэтым месцы было ад берага сухое, зарослае высокай густой травой і хваравітымі нізкарослымі сасонкамі.

Яны адбеглі метраў трыццаць ад выспы і ляглі ў траву.

— Сюды яны цяпер не палезуць! — упэўнена сказаў Жэнька.

На месцы склада шугала полымя. І ўсё яшчэ ў агні рваліся патроны, бухалі міны. Слуп чорнага дыму падымаўся над лесам і слаўся па балоце густой копаццю.

— Шкада лагера, — уздыхнуў Жэня. — Мы з Паўлам Сцяпанавічам будавалі яго яшчэ да прыходу немцаў. Базу стваралі. Колькі мы навазілі сюды ўсяго! Увесь раён, здаецца, перавезлі, і ўсё па начах. — Ён памаўчаў хвіліну, а потым дадаў ужо больш бадзёра: — Але нічога... Сваё ён адслужыў і памірае са славаю, як герой. З музыкай...

Эх! Усіх бы фашыстаў вось так, у паветра, а потым — у зямлю, каб і дух іх паганы згінуў. Дажыць бы толькі да таго часу. А я дажыву, Таня, дажыву. Я веру ў сваю неўміручасць. Я і сёння верыў, што выйду жывы. І Паўлу Сцяпанавічу на развітанне сказаў: "Сустрэнемся, Павел Сцяпанавіч! Сустрэнемся!" І вось убачыш, сустрэнемся. Як ён узрадуецца!..

Да балота падбегла некалькі эсэсаўцаў. Спыніліся і пачалі страляць з аўтаматаў у чарот, у кусты. Але далей не пайшлі. Пастралялі, пастралялі і павярнулі назад, аб нечым лаючыся паміж сабой.

Таццяна сціснула свой ручны кулямёт, прашаптала:

— Трахнуць бы па іх зараз, Жэня.

Ён штурхануў яе локцем.

— Шш... Навошта рызыкаваць дарма? Ну, заб'ем якіх пяць, а яны потым нас... Тут ужо не схаваешся. А так мы будзем жыць і біць, біць і біць іх, Таня. Мы яшчэ з табой ці ж столькі іх знішчым! Ого-о! Цяпер мы з табой сто год пражывем, калі сённяшняе перажылі. Разумееш? — Ён павярнуў галаву, і яна ўбачыла на яго худым, брудным твары вясёлую гарэзную ўсмешку. Такую ўсмешку яна бачыла ў яго апошні раз зімою, калі яны сустрэліся ў лесе. І ёй таксама зрабілася радасна. Радасна ад таго, што яны перамаглі фашыстаў (яна толькі цяпер зразумела гэта), што выйшлі з бою жывымі — Жэнька і яна — і што ляжаць вось побач. І, магчыма, яшчэ ад таго, што за паўгода яна першы раз убачыла на яго твары знаёмую ўсмешку і зноў пазнала Жэньку Лубяна, свайго вясёлага, жартлівага, нястомнага на выдумкі школьнага сябра. І адразу ж неяк забылася тое вялікае сур'ёзнае пачуццё, якое прымусіла застацца ў небяспечную хвіліну з ім. Зноў захацелася пажартаваць, падражніцца, паспрачацца, як калісьці ў школе. Яна ціха засмяялася.

— Чаго ты? — здзівіўся ён.

— Вельмі ты прыгожы. Размаляваны, як індзеец.

— Сажа, — сур'ёзна растлумачыў ён, і на твары яго зноў лёг цень удумлівай заклапочанасці.

На ўзлесак зноў выйшлі гітлераўцы. Зноў «прачасалі» балота.

Жэнька паказаў ім кукіш.

— Наце, укусіце, гады! Злавіце вецер у полі!

Сонца, якое ўвесь дзень было за хмарамі, перад захадам прабіла іх і пырснула на зямлю чырвонымі праменнямі. Загарэліся золатам вяршыні сосен. Але праз момант усё згасла, пацямнела. Толькі яскравей засвяціліся агні дагараючых зямлянак.

— Ну, зараз яны драпануць з лесу, — сказаў Жэнька. І сапраўды, нібы ў адказ на яго словы, каля рэчкі ўзляцела ўгору зялёная ракета і

пачулася гучная нямецкая каманда. Эсэсаўцы спяшаліся да наступлення ночы пакінуць лес.

На змярканні выйшлі з балота Жэнька і Таццяна, моўчкі нахадзілі па лагеру, паглядзелі на вогнішчы, паўздыхалі, успомніўшы, якія яны былі ўтульныя, іх зямлянкі, нібы родны дом. Паспрабавалі палічыць крывяныя плямы на зямлі, але хутка збіліся з ліку.

— Бач, сволачы, усіх забітых забралі. Ну, усё адно не вынесці ім іх з нашага лесу. Павел Сцяпанавіч блізка ўжо з атрадам. Дорага ім будзе каштаваць наш лагер. А што захапілі? Папялішчы. Праўда,, і нам цяжка будзе. Столькі боепрыпасаў загінула... Але нічога... Сёння самалёт прыляціць з Масквы. Таня! Я і забыў зусім. Пайшлі хутчэй! Трэба абавязкова трапіць на сустрэчу яго. Гэта ж проста свята. Аднак дзянёчак сёння! — ён падняўся (яны сядзелі каля агню), але, аб нечым успомніўшы, сеў назад.

— Таня, перавяжы мне нагу. Разумееш, асколак міны дзюбнуў, калі я да вас поўз. Халяву прабіў. Я яго сам дастаў. Тады не балела, а цяпер чамусьці разбалелася.

Яна пачала рабіць перавязку.

Рана была неглыбокая, але ўжо забруджаная. У бот нацякла кроў, запяклася. Склеіліся штаны і анучы. Таццяна разрэзала бот, старанна прамыла рану спіртам, заліла ёдам. Рабіла ўсё гэта яна не спяшаючыся. Упершыню ёй было прыемна рабіць перавязку.

Новае пачуццё, не такое суровае і глыбокае, як тое, што прымусіла яе застацца з ім, але і не такое гарэзнае, якое яна адчула на балоце, ахапіла яе. Гэта было пачуццё гарачай пяшчоты да Жэнькі, адчуванне яго блізасці і замілаванне ім. Вельмі хацелася прытуліць яго да грудзей, прылашчыць, прыгрэць. А потым сядзець вось так усю ноч, глядзець на гэтыя дзівосныя чырвоныя агні навокал, слухаць трывожны стогн пакалечаных сосен, усхваляваныя ўдары яго і свайго сэрца і маўчаць, забыўшыся на ўсе пакуты і жахі. Але яна стрымала гэтае парыванне, падумаўшы: «Не! Што гэта я!.. Калі побач ляжаць забітыя сябры...»

Магчыма, што і Жэнька думаў пра нешта падобнае, бо доўга маўчаў, прытуліўшыся плячамі да камля сасны. Потым ціха спытаў:

— Таня, чаму ты вярнулася?

Яна не чакала такога пытання і не ведала, як адказаць. Хвіліну памаўчала, паглядзела на яго твар, асветлены чырвоным святлом вугалля. Ён чакаў адказу.

— Не магла я пакінуць цябе... Я ж думала — ты іх атаку будзеш адбіваць. Адзін.

— Каб хутка пайшлі, давялося б.

— Ну, вось бачыш... Якія ж мы сябры, каб пакінулі адно аднаго...

— Але ты павінна была выканаць загад. Так маглі ўсе вярнуцца, і тады... — ён павысіў голас, — тады я не выканаў бы загаду камісара брыгады з-за вашай недысцыплінаванасці. Так ваяваць нельга! Гэта чорт ведае што такое! Анархія. Разумееш ты?

Яна. змаўчала.

Ён таксама памаўчаў, потым сказаў:

— А табе наогул неразумна рызыкаваць. У цябе — муж, сын. Ты павінна берагчы сябе. З кім застанецца Віця?

Тацяна выпрасталася, дакорліва паглядзела на яго і з крыўдаю адказала:

— Я прыйшла сюды не для таго, каб ратавацца ад

смерці. Я прыйшла змагацца, помсціць ворагу, а не берагчы сябе для мужа. Сорамна табе гаварыць так... Ды і наогул ты дурны, — нечакана заключыла яна. — Божа мой, які ты дурны. Увесь лагер даўно ўжо ведае, што ніякага мужа ў мяне няма і не было і што Віця гэта не родны мой сын. Гэта яўрэйскі хлопчык, якога я ўзяла на дарозе, калі з Заходняй ішла. Маці яго забілі немцы на маіх вачах. Я і сказала ўсім, што гэта мой...

Ён не даў ёй скончыць. Хутка нахіліўся, схапіў яе рукі, балюча сціснуў іх.

— Чаму ж ты не сказала гэтага раней?

— А ці ж зараз позна?

Ён сумеўся.

— Ды не ж... Чаму ж позна? Таня!.. Не позна... Толькі, ведаеш, вельмі ўжо нечакана гэта. Разумееш, я проста

разгубіўся...

— Чаго ж табе губляцца? — хітра ўсміхнулася яна.

— Чаго, чаго... А таго. — Ён выпусціў яе рукі і адказаў ужо сур'ёзна, без мітусні: — Таго, што я ўвесь час думаў пра цябе і... шкадаваў, што ты замужам. Разумееш?

У адказ яна абхапіла яго за шыю і моцна пацалавала ў сухія, парэпаныя губы.

— Не шкадуй жа больш, дурненькі ты мой. Не шкадуй. Я таксама думала пра цябе.

...Схамянула іх страляніна, што нечакана ўспыхнула за лесам.

Жэнька падхапіўся.

— Атрад! Наш атрад дабівае фашыстаў! Бяжым хутчэй!

Яны ўзяліся за рукі і шпарка пайшлі праз лес па знаёмых партызанскіх сцежках.

Але ў гушчары: іх спыніў суровы вокліч:

— Стой! Хто ідзе?

Жэнька пазнаў голас Лясніцкага і кінуўся наперад.

— Свае, Павел Сцяпанавіч! Свае!

— Жэня! Яўген Сяргеевіч!

Камісар брыгады горача абняў яго і доўга маўчаў, саромеючыся ўласных слёз, якія, пэўна, выдалі б, каб ён сказаў хоць слова. Нарэшце ён ласкава адхіліў Жэньку і, убачыўшы Таццяну, якая моўчкі стаяла збоку, здзіўлена спытаў:

— Таццяна?..

А каля лесу атрад дабіваў рэшткі эсэсаўскага батальёна.

XX

Людзі былі ў тым стане зморанасці, калі чалавек можа заснуць ідучы ці зусім павaліцца ў гразь і праз хвіліну сніць, што ляжыць у мяккім ложку. Цяжка ў такім стане аднаму. Адзін не перамог бы такой зморанасці. Але тры сотні чалавек перамаглі яе і хутка ішлі праз лес, наўпрасцяк, топчучы зляжалае мокрае лісце, якое ў гэтым гушчары за ўсю восень ні разу не крануў ні вецер, ні жывёла, ні чалавек.

Вопратка на людзях была мокрая, забруджаная, з прыліпшай да яе зямлёй, торфам, рачным глеем. Здавалася, што яны толькі нядаўна перапаўзлі праз грузкае балота ці вылезлі з бруднай рэчкі. Зброя і мокрая вопратка давілі вялікім цяжарам на плечы, прыгіналі людзей.

Лес быў ужо голы, па-восеньску пануры і маўклівы, хоць вецер і гойдаў голыя вяршыні дрэў. Толькі сосны і елкі па-ранейшаму аднастайна шумелі ды на маладых дубах трапяталася засохлае карычневае лісце, якое ўпарта не жадала пакідаць родныя галінкі. Такое лісце часамі і зімуе, а абсыпаецца ўжо вясною, калі пачынаюць набухаць почкі.

Над лесам, ледзь не кранаючыся дрэў, ляцелі цяжкія хмары, пагражаючы абваліцца на зморaных людзей халодным дажджом.

Людзі былі не толькі зморaныя, але і галодныя. Праходзячы пад дубамі, многія нахіляліся, сабіралі жалуды і елі іх. Калона расцягвалася. Уперадзе ішлі Прыборны і Мікалай Маеўскі. Лясніцкі і камандзір атрада Паўленка ішлі ззаду, сочачы, каб хто не адстаў, і бадзёрачы тых, хто зусім выбіваўся з сіл і пачынаў адставаць.

Атрад вяртаўся з кастрычніцкага рэйду. У заключэнне рэйду быў нанесены магутны камбінаваны ўдар на чыгунцы. Гэта была добра падрыхтаваная і ўдалая аперацыя. У ёй прынялі ўдзел не толькі ўсе атрады брыгады, але і каля тысячы калгаснікаў — мужчын і жанчын

— бліжэйшых ад чыгункі вёсак. У вёсках гэтых некалькі дзён працавалі партызанскія агітатары. Увечары перад аперацыяй у вёскі ўскочылі атрады, навялі там свой парадак і склікалі сходы, на якія з'явіліся ўсе, ад малога і да сівога. На сходах аб'явілі аб мабілізацыі ўсіх працаздольных на «рамонт чыгункі». Пагналі нават стараст і захопленых паліцэйскіх, дараваўшы ім на гэты раз жыццё. Усё рабілася быццам бы прымусова, каб вызваліць насельніцтва ад адказнасці за дыверсію. Але сяляне добра разумелі гэтую «прымусовасць» і ішлі з вялікай ахвотаю, нават старыя і падлеткі не жадалі застацца ў апусцеўшых вёсках.

У гэты час другія атрады зрабілі налёт на станцыю, разграмілі нямецкі гарнізон і ачысцілі вялікі ўчастак чыгункі ад варты.

Працавалі ўсю ноч. Партызаны ўзарвалі станцыйныя будынкі, два чыгуначныя масты, стрэлкі. Калгаснікі разбурылі кіламетраў дзесяць пуці. Пры гэтым рэльсы закінулі ў балота і ў рэчку, а шпалы часткова спалілі, а часткова сплавілі па рэчцы.

Гітлераўцы выслалі да месца дыверсіі браняпоезд. Але ён не дайшоў кіламетраў пятнаццаць і таксама скаціўся пад адхон, у балота, узарваны групай Гнядкова.

На світанні ўсё было скончана. Памеру дыверсіі дзівіліся нават самі партызаны.

— Вось гэта «падаруначак» фашыстам, — здаволена смяяўся Прыборны. — Хай аблізваюцца. Будуць памятаць наша свята... Шкада, што нельга падзякаваць калгаснікам. А то, можа, давай, камісар, мітынг закоцім? А?

Лясніцкі не згадзіўся. Нельга. Людзі не стрымаюцца, пачнуць выказваць свае шчырыя пачуцці, і ад «прымусовасці» нічога не застанецца.

Атрады адзін за адным непрыкметна адышлі ад чыгункі, накіраваліся ў свае пастаянныя лагеры — сустрэць свята, адпачыць.

Галоўны атрад зняўся апошнім.

Цяпер яму трэба было зрабіць трыццацікіламетровы марш.

...У дубняку густы пах прэлага лісця і жалудоў ап'яняў змораных, галодных людзей. У самога камісара брыгады кружылася галава, і ўвесь час здавалася, што пахне не прэлым лісцем, а толькі што выцягнутым з печы гарачым хлебам. Ён ішоў і здзіўляўся сіле і трываласці жанчын. За іх ён баяўся з самага пачатку маршу. Але, на здзіўленне, ніводная з іх не адставала.

Першым здаў малады баец — юнак год семнаццаці. Ён сеў пад дубам і адразу ж заплюшчыў вочы. Лясніцкі і Паўленка нахіліліся над ім.

— Эх, Апанас, Апанас! Што ж гэта ты, брат, спасаваў?

— Я трошачкі пасяджу, таварыш камісар. А потым я даганю вас, — не расплюшчваючы вачэй, шаптаў баец.

Паўленка падхапіў яго пад рукі, падняў і моцна трасянуў.

— Трымайся, Апанас, зараз прыйдзем у Выселкі і добра падмацуемся. Людзі там гасцінныя.

Хлопец пакруціў галавой, памаргаў вачыма, адганяючы сон, і, засмяяўшыся, пабег даганяць калону. Але хутка пачалі адставаць другія. Прыборны і Паўленка настойвалі спыніцца ў Выселках — невялічкай вёсцы, што тулілася каля самага лесу, — адпачыць і накарміць людзей. Аб гэтым дамовіліся яшчэ з раніцы, і ў вёску была выслана конная разведка. Разведчыкі павінны былі пагутарыць з сялянамі і падрыхтаваць абед. Людзі ведалі пра гэта і рваліся хутчэй дайсці да вёскі. Але разведка выявіла ў Выселках немцаў.

Партызанскіх камандзіраў здзівіла, што гэта была рэгулярная часць мотапяхоты: па ўсіх разведаных, такіх часцей не павінна было быць у гэтым раёне.

Камандзіры сабраліся, каб параіцца, што рабіць: весці далей змораных і галодных людзей, абышоўшы ворага, ці ўступіць у бой.

— Трэба абысці, — напачатку прапанаваў Лясніцкі. — У нас мала боезапасаў.

— Але што гэта за часці? Адкуль яны ўзяліся тут? Не можам мы абысці не разведаўшы, — запярэчыў Прыборны. — Можа, гэта карнікі — супраць нас? Можа, яны ідуць па нашых слядах? Трэба ўзяць палонных!

— А можа, без бою? Даручыць разведчыкам захапіць «языка»?

— Сярод дня — «языка»? — усумніўся Паўленка, які заўсёды ўсё аналізаваў з ваеннай дакладнасцю. — Усё адно бою не пазбегчы, а мы страцім фактар нечаканасці нападу.

Вырашылі даць бой. Аб'явілі пра гэта партызанам. Лясніцкі баяўся, што галодныя людзі будуць незадаволены. Але партызаны адзінадушна падтрымалі такое рашэнне. Лясніцкаму стала сорамна.

«Дрэнна, таварыш камісар, ведаеш сваіх людзей, дрэнна», — падумаў ён з незадавальненнем самім сабой і з радасцю за партызан.

Пачалі займаць баявыя парадкі: разыходзіцца па ўзводах, па групах. Дагэтуль ішлі хто дзе мог і хто з кім хацеў — згодна асабістых сімпатый. Жэнька Лубян, напрыклад, усю дарогу не разлучаўся з Тацянай. Ішлі яны на чале атрада, бадзёрыя, шчаслівыя, пазіралі адно на аднаго, усміхаліся і, напэўна, як ніхто, забываліся, што дзве ночы не спалі і другія суткі нічога не елі. А як увогуле пераменіўся пасля бою на Ласіным Жэнька, як ажыў, памаладзеў, вярнуў ранейшую

жвавасць, весялосць! Не ўсе нават адразу здагадаліся, што здарылася з ім. Першы, безумоўна, здагадаўся Лясніцкі, яшчэ тады, калі сустрэў іх пасля бою ў лесе і па-бацькоўску шчыра парадаваўся за свайго любімца, хоць у душы яму было крыху балюча. Раніцой, калі пачалі паход, Прыборны, любуючыся на Жэньку і Тацяну, пажартаваў:

— Эх, Павел, якую дзяўчыну ты прамаргаў.

— Перастань, Сяргей, аб гэтым, — вельмі сур'ёзна папрасіў Лясніцкі.

— Баліць?

— Не баліць, а не люблю, калі ты гаворыш глупства. Не салідна гэта для камандзіра брыгады.

— Ну-ну, пачынаецца. Аб тым, што салідна, а што не — разбяруся як-небудзь без тваёй дапамогі, будзь упэўнены.

Яны крыху папікіраваліся, і абаім стала лягчэй ад гэтай сяброўскай сваркі. Яны часта так размаўлялі, што другім здалася б іх размова за сварку. Але самі яны добра разумелі адзін аднаго і ніколі не крыўдзіліся. Сяброўства іх пачалося яшчэ да вайны. Вайна загартавала яго і зрадніла на ўсё жыццё гэтых двух людзей з зусім рознымі характарамі. Праўда, Лясніцкаму не заўсёды падабаліся жарты камандзіра і асабліва празмерная цікавасць да яго інтымных перажыванняў. Часам раздражняла, што гэты чалавек умеў распазнаць яго пачуцці раней, чым ён сам пачынаў разумець іх. Так было з яго адносінамі да Тацяны. Ён яшчэ нічога не думаў, нічога не ведаў і не адчуваў, калі Прыборны пачаў кпіць з яго. Толькі пасля таго, як яны разам хадзілі па раёну і яму сасніўся сон, ён асэнсаваў свае пачуцці. І хоць яны прыемна ўсхвалявалі яго, але ён падумаў, што ў такі час ім няма месца ў сэрцы, і стрымаў першыя парыванні. А даведаўшыся аб каханні Лубяна і ўбачыўшы, які цудоўны ўплыў зрабіла гэтае каханне на суровага ад гора юнака, як асвяціла прыгожую, чыстую, як крышталь душу яго, вярнула шчасце маладосці. Лясніцкі шчыра ўзрадаваўся. Сэрца яго напоўнілася бацькоўскай пяшчотай да іх абаіх, вясёлых, жыццярадасных, трохі наіўных у сваім простым і чыстым каханні. Ён захапляўся імі не менш, чым і Прыборны. Але цяпер жарты Прыборнага пачалі абражаць і злаваць яго. Праўда, абразу сваю ён ніколі не выяўляў і на жарты адказваў жартамі.

...Калі атрады пайшлі ў абход вёскі, да Лясніцкага звярнуўся Пятро Майбарада, які дагэтуль усё жартаваў і смяяўся з дзяўчатамі, а цяпер, атрымаўшы асобае заданне захапіць жывым афіцэра, — адразу зрабіўся стрыманым і сур'ёзным.

— Павел Сцяпанавіч, — магчыма, упершыню звярнуўся ён не афіцыйна, а так проста і сардэчна, — стрымайце вы гэтую жанчыну... Хопіць без яе байцоў...

— Каго?

— Буйскую.

— Буйскую?

— Але, Насцю.

— А дзе яна?

— Пайшла з разведчыкамі.

— Вярніце яе і прышліце да мяне. Усе дзяўчаты разбегліся, нікога пры медпункце не асталося. Вось народ!

Майбарада, гэты зубаскал, насмешнік і часам грубіян, ужо даўно з незвычайнай для баявога жыцця клапатлівасцю асцерагаў Насцю ад усялякай небяспекі. Ён, калі толькі можна было, не адступаў ад яе ні на крок. Яна часам кпіла з яго, але не злавалася за гэтае «ўхажванне». Яны былі цяпер што брат і сястра.

Спачатку маладыя партызаны пачалі было жартаваць: ці не закахаўся часам і ён? Пятро адказаў ім сур'ёзна:

— Дурні! Гэта — жонка Андрэя. Не забывайце пра гэта, пустагаловыя! Ад яе здароўя і жыцця залежыць поспех яго работы. Вы ведаеце, дзе ён зараз? Не-е... То-та...

І ўсе адразу змоўклі, бо ўсіх кранулі гэтыя яго клопаты аб жонцы сябра.

...Выселкі, магчыма, таму і мелі такую назву, што вёска гэтая была, як жартавалі да вайны раённыя кіраўнікі, «забыта людзьмі і Богам». Людзей сапраўды нібы выслалі ў лес, на паляну ў дзве сотні гектараў пясчанай неўрадлівай зямлі за пятнаццаць кіламетраў ад цэнтра сельсавета. Але сяляне жылі тут да вайны не кепска: забяспечвалі ўсе бліжэйшыя рынкі бочкамі, коламі, дугамі і іншымі вырабамі, не кажучы ўжо аб грыбах і ягадах. Адным словам, карміліся з лесу.

Лес акружаў вёску з чатырох бакоў, і атрад без цяжкасці абышоў яе. Але нідзе лес не падступаў да самай вёскі, паміж ім і пабудовамі — гумнамі, хатамі — ляжала паўкіламетровая паласа зусім голага і роўнага поля, без кустоў, без равоў. Партызаны разлічвалі, што, пачаўшы наступленне адначасова з усіх бакоў, ім удасца захапіць фашыстаў знянацку і ўварвацца ў вёску. Яны доўга з лесу назіралі за вёскай, добра бачылі на вуліцы машыны, але не бачылі вартавых, рэдка дзе-нідзе, паміж машынамі, пройдзе салдат, не хаваючыся і не маскіруючыся. Таму ўсе лічылі, што немцы проста адпачываюць

пасля доўгага, пераезду, упэўненыя, што ўдзень ніхто нападаць на іх не будзе.

Лясніцкі стаяў на ўзлессі, у сасняку, адкуль пачынала наступленне група Лубяна — самыя маладыя і спрытныя. Адгэтуль было бліжэй да школы, каля якой стаялі машыны і ў якой — трэба было меркаваць — адпачывалі гітлераўцы. Таму гэта быў напрамак галоўнага ўдару. Лясніцкі ўважліва разглядаў у бінокль вёску, пазіраў на гадзіннік і зрэдку на хлопцаў, якія ляжалі ніц і чакалі каманды. Камісар усё яшчэ хваляваўся і нечага баяўся, хоць Прыборны, Паўленка, Лубян пераканалі яго, што ўсё будзе добра. Нарэшце ён, як на старце, адрывіста махнуў рукой, і хлопцы сарваліся ўсе адразу, разбягаючыся па полі веерам. Лясніцкі шпаркім крокам рушыў за імі, інстынктыўна нахіляючыся, як і ўсе.

Цішыня. Добра. Так, так... Метраў сто прабеглі... Яшчэ метраў дзвесце, а там — гумно, стог сена, плот... І раптам — та-та-та... Што гэта? Кулямёт з гарышча школы... Камісар ірвануўся наперад, гучна закрычаў:

— Лажыся! — і ўпаў сам у разору.

«Ну вось... усё да д'ябла! Ах, якія мы самаўпэўненыя... Які я дурань... Навошта было згаджацца на гэтую авантуру?.. Пасля такой аперацыі, перад такім святам — раненыя, забітыя, гора, слёзы...»

Яму стала балюча. Следам за кулямётам застракаталі аўтаматы, а недзе з другога боку, дзе наступала група Прыборнага, завішчала і гаўкнула міна.

— Ну вось табе... стары авантурыст! — вылаяў Лясніцкі камандзіра.

Хлопцы залеглі і стралялі — гэта Лубян і яго сябры-снайперы намагаліся зняць кулямётчыкаў.

Раптам у страляніне пачуўся роў матора. Цераз хвіліну Лясніцкі ўбачыў, як на поле збоку ад іх выпаўзла самаходка, чорная, тупарылая, спынілася, панюхала хобатам ва ўсе бакі і плюнула агнём у лес. Лезці на такога ворага было б вар'яцтвам, і Лясніцкі пусціў у хмарнае неба дзве чырвоныя ракеты — сігнал адыходу. Добра, што ён на ўсялякі выпадак прадугледзеў такі сігнал. На шчасце, немцы не адважыліся лезці ў лес, і групы атрада хутка сабраліся разам і схаваліся ў гушчары, за балотам. Партызаны сумна жартавалі:

— «Выпілі» і «закусілі»...

Прыборны і Паўленка вінавата маўчалі. Лясніцкі з болем у сэрцы лаяў іх і сябе. Задума гэта каштавала жыцця маладому партызану, шэсць чалавек было паранена. Потым выявілі, што знік Пятро Майбарада. Гэта ўсіх усхвалявала. Разведчык быў з групай Лубяна, і

Лясніцкі сам бачыў, як ён адпаўзаў разам з усімі і дапоўз да лесу. Няўжо паранены і не прызнаўся, а зараз сцякае недзе крывёю? Лясніцкі сам з групай маладых партызан вярнуўся шукаць яго.

Яны сустрэлі Майбараду на балоце, але раней, чым убачылі яго за кустамі, пачулі яго голас:

— Калі ты не перастанеш брыкацца, швайн ты гэтакая Дойч, я цябе ўтаплю ў балоце. Я-я, корф васэр... галавой у ваду... Зразумеў? Глядзі ж, паскуда, ляжы ціха... Я цябе, дрэнь ты гэтакая фашысцкая, нясу на плячах з усім камфортам, а ты брыкаешся, сабака. Ду Іст хунд!.. Ніякай у цябе ўдзячнасці няма, хам ты гэтакі... Я другія суткі не еў, а нясу цябе, а ты яшчэ тузаешся... Выйдзем з балота — я цябе прымушу, каб ты мяне нёс. Я, я...

Хоць становішча ўвогуле было невясёлае, але Лясніцкі не мог не засмяяцца, пачуўшы гэтыя словы і ўбачыўшы, што Майбарада нясе на плячах звязанага немца, з кляпам у роце. А партызаны дык весела зарагаталі. Убачыўшы сваіх, Пятро скінуў немца ў ваду і выцер пот, фашыст спалохана затрапятаўся, як рыбіна.

— Варта ўсыпаць табе, Пятро, што без дазволу знікаеш, — лагодна пагразіў камісар.

— Эх, таварыш камісар! Як без дазволу? Я ж выконваў загад — захапіць «языка».

— Загад быў у другіх умовах...

— Самыя лепшыя ўмовы, таварыш камісар! Я ведаў, што яны абавязкова будуць аглядаць узлессе — ці няма забітых ці яшчэ якіх слядоў. Таму я зайшоў у ельнік, дзе пачынаецца гушчара, і сам — на елачку. А пад елкай раскідаў розныя рэчы — партсігар, гармонік, хусцінку, абойму і, каб здалёк нешта бялела, павесіў на сучок анучы... І гэты, верны сын свайго дурнога фюрэра, клюнуў на мае брудныя анучы. Падышоў і, вядома, адразу нахіліўся за партсігарам... Срэбная рэч! А я яму — на галаву... Вось толькі шчаку здзёр, калі скакаў... Ботам па патыліцы — і ніводнага лішняга гуку... Але, паскуда, калі апрытомнеў, ніяк не хацеў ісці. Упарты, д'ябал... Прыйшлося несці.

Гітлеравец сапраўды аказаўся вельмі хітрым і ўпартым. Праўда, убачыўшы цэлую групу партызан, ён парахманеў, згадзіўся ісці і не спрабаваў крычаць, хоць затычку з рота яму выкялі. Але на ўсе пытанні Жэні адказваў адно:

— Піхт фарштэйн.

Партызаны жартавалі:

— Дрэнна ты, Жэня, ведаеш нямецкую мову.

Алена Рыгораўна ведала мову добра і заўсёды была за перакладчыцу. Аднак і на яе пытанні фашыст упарта не адказваў. А

камандзірам вельмі хацелася даведацца, што гэта за часць, чаму яна тут…

— Нічога, загаворыць пасля…

У атрадзе ўзрадаваліся звароту Майбарады з такой здабычай: недарэмна хоць панеслі страты. А расказ Пятра, як ён злавіў і нёс фашыста, усіх развесяліў. Узбадзёраныя, партызаны рушылі далей да лагера, неўзіраючы на дождж і цемру, якая хутка наступіла.

* * *

У зямлянцы было душна і вільготна. Камандзіры сушылі вопратку і абмяркоўвалі аперацыю на чыгунцы, бой каля Выселак.

Накармілі палоннага. Паспрабавалі дапытаць яго яшчэ раз: карцела даведацца, што за часць. Але гітлеравец не адказваў ні на адно пытанне. Упарты. Глядзіць воўкам, з нянавісцю. Сказалі, што, калі ён сумленна ўсё раскажа, яго адашлюць у савецкі тыл як палоннага, будзе маўчаць — расстраляюць.

— Страляйце! — істэрычна крыкнуў ён у адказ.

— Нічога, загаворыць, — упэўнена заявіў Лясніцкі. — Няхай пасядзіць, падумае. Можа, паразумнее.

У зямлянку зайшоў радыст.

— Радыёграма штаба злучэння.

— Віншуюць са святам, — выказаў здагадку Прыборны.

— Не, здаецца, нешта важнейшае. Шыфр «Б», — адказаў Мікалай, беручыся за расшыфроўку. Расшыфроўваў хвілін пятнаццаць, не менш. Прыборны і Лясніцкі моўчкі стаялі каля печкі, не зводзячы з яго вачэй, і нецярпліва чакалі. Нарэшце ён падняўся:

— Слухайце. «Камандзіру і камісару брыгады «Днепр». Шостага і сёмага ў раёне Лоева цераз Дняпро перапраўляецца партызанская рэйдавая армія генерал-маёра К. Немцы сцягваюць сілы. Загадваю вам сілаю ўсёй брыгады прыкрыць пераправы з поўначы. Паралізуйце чыгунку, асядлайце ўсе дарогі на правабярэжжы, устанавіце сувязь з К. Поспех яго аперацыі залежыць ад нашай дапамогі. Ружак».

Лясніцкі хутка падышоў да Мікалая, узяў радыёграму, прачытаў яе сам, перадаў Прыборнаму. Потым, стаўшы поплеч, яны доўга чыталі разам.

— Партызанская, таварышы! — усхвалявана выгукнуў камісар, абводзячы радасным позіркам сяброў.

— Рэйдавая, Павел Сцяпанавіч, рэйдавая, — далікатна дадаў начальнік штаба.

— Армія! Армія, хлопцы! З гэтага пачынайце! — грымнуў камандзір. — Цяпер зразумела з'яўленне немцаў. Хочуць перашко-

дзіць пераправе арміі. Не выйдзе. Пішы загад, начальнік штаба. Складай дыспазіцыю, — ён адчыніў дзверы і гучна крыкнуў:

— Дзяжурны! Паўленку сюды! Куляю!

Яго радасць перадалася Лясніцкаму і Маеўскаму.

— Вось гэта святочны падарунак!

— Увага, таварышы! Пачынаем думаць аб размяшчэнні атрадаў. Прашу да карты, — весела запрасіў Маеўскі.

Задыхаўшыся, прыбег Паўленка. Прыборны, вясёлы, усхваляваны, падняўся насустрач яму.

— Накарміў сваіх арлоў? Дай ім тры гадзіны адпачыць. Так, так, толькі тры. Не здзіўляйся. Праз тры гадзіны выступаем. На вось чытай.

Паўленка прабег вачыма радыёграму і, здзіўлена глянуўшы на камандзіра брыгады, пачаў чытаць зноў павольна, уважліва.

— Падрабязнасці пакуль што не расказвай. Але растлумач людзям, што заданне вельмі адказнае. Выяві хворых, прыстаўшых. Падрыхтуй тры пары конных пасыльных.

— І прышлі зараз жа сюды ўсіх камуністаў, — дадаў Лясніцкі і зноў нахіліўся над картай Прыдняпроўя, па якой няспынна снаваў чырвоны алоўак начальніка штаба.

XXI

Быў зусім звычайны дзень, але для партызан ён быў незвычайны, бо ў іх суровым цяжкім жыцці дзён такіх было нямнога. У гэты дзень толькі некалькі разведчыкаў былі на заданні. Астатнія ўсе адпачывалі і адпачывалі ўжо трэці дзень. Гэта быў самы доўгі адпачынак. Людзі заслужылі яго. Трохі не месяц брыгада знаходзілася ў бесперапынных баях і паходах, І сілы яе былі напружаны да крайнасці. Асабліва цяжкімі былі апошнія баі, калі брыгада прыкрывала пераправу рэйдавага злучэння ўкраінскіх партызан. Гітлераўцы любымі сіламі намагаліся сарваць пераправу, і дняпроўцы прынялі на сябе галоўны ўдар, уласнымі грудзьмі прыкрылі ўкраінскіх братоў. Шмат мужных байцоў недалічылі ў брыгадзе пасля гэтых баёў. Шмат хто быў ранены, захварэў, а астатнія былі знясілены, змораны. А таму і на трэці дзень у лагеры было звонку пуста і ціха. Людзі спалі. Толькі паважна хадзілі вартавыя ды каля буданоў шпіталя мітусіліся санітары.

Зямля была скавана марозам. У паветры час ад часу пачыналі кружыцца рэдкія сняжынкі — веснікі блізкай зімы, але вецер не даваў ім згусціцца і ўпарта адганяў снегавыя хмары кудысьці ўдалеч, на ўсход,

— А ўсё-такі ўначы снег выпадзе, — сказаў Прыборны, зайшоўшы знадворку ў камандзірскую зямлянку.

Лясніцкі падняў галаву, глянуў у вузкую шчыліну акенца.

— Ідзе?

— Не ідзе, а пойдзе. Ну як табе? Лепш? Дыхаў ты, здаецца, лягчэй, калі спаў.

— Трохі лепей. Але ўсё яшчэ паліць. Першы раз у жыцці так хварэю.

— А табе трэба было плыць. Дадумаўся ў лістападзе Днепр пераплываць. Зусім адубянець мог на сярэдзіне.

— Не было часу разважаць, Сяргей. У такім становішчы праз вар паплывеш, не толькі што, калі ад гэтага залежала жыццё нашых людзей. Ты ж разумееш, каб яны напалі нечакана, то не толькі маглі б знішчыць атрад Плюшчая, але і нашкодзіць на пераправе. А так — трапілі ў пастку, — Лясніцкі задаволена ўсміхнуўся, успомніўшы, як ён з атрадам разграміў эсэсаўцаў, якія нечакана з'явіліся на ўсходнім беразе з намерам — праз лес прабіцца да пераправы. Але для гэтага яму трэба было тэрмінова пераплыць Днепр, каб папярэдзіць Плюшчая, а лодкі пад рукамі не было, і ён паплыў з групай партызан так, хоць па рацэ ішоў ужо дробны калючы лёд.

— Аднак давай яшчэ адхопім хвілін па дзвесце. Да абеду часу многа, — прапанаваў Прыборны, укладваючыся на свой тапчан.

На падлозе, на сене, засланым трафейнымі палаткамі, спалі Мікалай Маеўскі і Паўленка. Спалі яны моцна і салодка.

— З Майбарады смяюцца на кухні. Расказваюць, праспаў дваццаць шэсць гадзін не прасыпаючыся. Уяўляеш? Ажно Алена спалохалася, пайшла пульс слухаць. А ён цяпер паўвядра кашы з'еў. Вось ужо аматар рэкордаў. Здзіўляюся, як ён машыну не разбіў, будучы шафёрам. Хваліцца, што адзін прафесар баяўся з ім ездзіць. Аднак спаць, спаць, спаць... — і праз якія хвіліны тры Прыборны захрапеў на ўсю зямлянку. Лясніцкі паглядзеў на яго, здзіўлена пакачаў галавой — як хутка чалавек умее засынаць!

Самому яму не спалася. У галаву надакучліва лезлі планы будучых аперацый. Ён спрабаваў адганяць іх: што разумнае можна надумаць з хворай галавой? Але, каб адагнаць адны думкі, трэба, каб прыйшлі нейкія другія, а другіх, якія не тычыліся б барацьбы, у яго не было, ды і не магло быць у такі час.

«Цікава, што ў Сталінградзе?» — падумаў ён і, успомніўшы, што не чытаў учарашняй зводкі, асцярожна падняўся, каб не разбудзіць сяброў, ціха адчыніў дзверы і пальцам паклікаў да сябе днявальнага.

— Перадай радыстам, каб прынеслі ўчарашнюю зводку.

І калі зводку прынеслі, ён перачытаў яе некалькі разоў і доўга ўзіраўся ў кожны скупы сказ, нібы хацеў убачыць паміж імі нешта больш значнае. З галавы ў яго не выходзілі словы Галоўнакамандуючага: «Хутка і на нашай вуліцы будзе свята». Вельмі хацелася хутчэй пачуць пра гэтае свята.

«Народ чакае яго з нецярпеннем...»

Доўга ён так думаў, а потым неяк нечакана і раптоўна заснуў глыбокім і моцным сном. І не чуў, як у зямлянку зайшла Алена, памацала яго лоб, паслухала пульс і сказала:

— Здаецца, крызіс.

Разбудзіў яго шэпт некалькіх чалавек. А вядома, што шэпт дзейнічае на спячага горш за самую гучную размову — адразу разбудзіць.

Лясніцкі расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ўсе тры камандзіры некуды збіраюцца і шыкаюць адзін на аднаго, наказваючы на яго. Ён падняў галаву.

— Вы куды?

І тут жа ўбачыў каля дзвярэй чалавека з завязаным тварам і за ім узброенага партызана. У затрыманага з-пад кавалка бруднай палаткі выглядвала доўгая сівая барада.

Прыборны і Мікалай Маеўскі селі за стол, і камандзір брыгады загадаў:

— Развяжыце яму вочы.

Вартавы развязаў палоннаму вочы, і Лясніцкі пазнаў у ім старога дняпроўскага рыбака дзеда Лаўрэна, які і да вайны і цяпер не раз перавозіў сакратара райкома цераз раку. Пазнаў яго і Прыборны і засмяяўся:

— Стары хрэн. Толькі шуму нарабіў.

Стары старанна працёр парэпанымі пальцамі намуленыя павязкаю вочы і, разгледзеўшы Лясніцкага, радасна прывітаўся.

— Ась, хоць і з завязанымі вачыма, а знайшоў, каго шукаў, — і, падышоўшы бліжэй, павярнуўся да Прыборнага. — А ты не лайся, Сяргей Фядотавіч, у мяне, можа, вялікая справа ёсць. — І зноў да Лясніцкага: — Ды ты, саколік мой, хворы, а-а? Ась няшчасце якое.

— Нічога, дзед Лаўрэн, папраўляюся ўжо.

— Дзякуй Богу, дзякуй Богу. Дзе ў вас тут можна прысесці?

Мікалай падаў яму калодку, на якой сядзеў сам.

Ён сеў і адразу ж дастаў сваю вялікую люльку, пачаў набіваць яе самасадам, ды такім, што Паўленка, які не курыў, пачаў чыхаць. Потым дзед доўга высякаў крэсівам агонь.

— Адсырэла, нямецкая культура, маць яе так...

Прыборны, смеючыся, падаў яму бензінавую запальнічку канструкцыі Гнядкова. Дзед закурыў і сказаў да ўсіх:

— За праўдаю прыйшоў да вас. Ась што. Ды ледзь знайшоў. Два дні па лесе блукаў. Слухайце ась. Пазаўчора гэта, значыцца, пачалося. Ад каго выйшла — не скажу, бо і сам не ведаю. Але загаварыла ўся вёска, што немца на Волзе пабілі.

Камандзіры здзіўлена пераглянуліся паміж сабой.

— Ды не проста пабілі, а так, кажуць, далі, што і жывых мала засталося. Ась што. А якія засталіся, дык бягуць адтуль без аглядкі, а іх даганяюць і яшчэ даюць... Кажуць, ужо аднаго ў нашых краях бачылі. Душа ў яго ледзь трымаецца ў целе ад страху. Ась што. Ну, старыкі і пачалі хадзіць да мяне... Ты, кажуць, Лаўрэн, з разумнымі людзьмі ведаешся. Яны гэта, значыцца, упэўнены, што я сувязь з вамі трымаю. А што я мог адказаць ім?.. А тут, як на злосць, і вашы хлопцы колькі дзён носа не паказваюць. Падумаў я і пайшоў шукаць вас, каб праўду ўзнаць. Ась і гаварыце мне яе зараз, а я людзям перадам.

Камандзіры зноў пераглянуліся. Прыборны спытаў:

— Хто чытаў учарашнюю зводку?

— Вось яна, у мяне, — азваўся Лясніцкі, працягваючы лісток жоўтае паперы. Камандзіры ўтрох разам доўга і ўважліва чыталі кароткае паведамленне Саўінфармбюро. Стары паглядзеў на іх і цяжка ўздыхнуў:

— Значыцца, няма нічога такога?

Усе паднялі галовы, утаропілі позіркі на камісара. Лясніцкі на момант задумаўся.

«Што адказаць старому, які прыйшоў з такім надзвычайным пытаннем ад імя народа?»

— Пакуль што няма такога паведамлення. Але яно будзе. БудзеI Народ чакае гэтага свята і ўпэўнены, што яно хутка будзе... Дзень-два... Паверце маёй інтуіцыі.

Невядома, праз каго гэтая размова абляцела лагер і ўскалыхнула людзей. Праз колькі хвілін ужо ніхто не спаў, і ў кожнай зямлянцы, у кожным будане горача абмяркоўвалі надзвычайную навіну, якую прынёс стары рыбак, і словы камісара.

— Яшчэ няма, але будзе, хутка будзе.

Нейкае хваляванне ахапіла ўсіх. Каб утаймаваць яго, людзі пачалі прасіцца ісці на заданне, хоць назначаны адпачынак яшчэ не скончыўся.

Прыборны дазволіў ісці толькі падрыўнікам.

Увечары калектыў самадзейнасці пад кіраўніцтвам Майбарады даваў свой кастрычніцкі канцэрт, які з-за баёў не маглі даць у святочныя дні. Канцэрт зацягнуўся — праграма была вялікая. Недарма Майбарада рыхтаваў яе амаль паўгода. У заключэнне хор выканаў песню «Идет война народная». Велічна і грозна гучалі суровыя словы песні сярод старога бору ў зімовую ноч. Гучалі, як гімн, як вялікі заклік. І партызаны слухалі яе стоячы, у напружаным маўчанні.

Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна.
Идет война народная,
Священная война

У бледным святле двух ліхтароў дзівоснымі матылькамі кружыліся сняжынкі.

І раптам песню перарваў гучны і радасны крык:

— Ёсць, таварышы! Есць!.. Правільна гаварыў дзед!

Хор змоўк.

З цемры ў паласу святла наперадзе хору выскачыў радыст Аляксей Ганчароў.

— Вось яно, таварышы! Пачалося, — голас яго дрыжаў ад вялікай узрушанасці. — Вось... Слухайце. «У апошні час. Паспяховае наступленне нашых войск у раёне горада Сталінграда».

Людзі хіснуліся да яго, замерлі. А калі ён скончыў чытаць, узрушана загаманілі, засмяяліся. Але Майбарада скамандаваў хору, і ўсе іншыя гукі патанулі ў магутнай баявой песні, якая клікала на помсту ворагу, натхняла на подзвігі.

Калі песня скончылася, партызаны закрычалі:

— У паход! У паход, таварышы!

— Таварышы камандзіры! Наперад!

— Сяргей Фядотавіч!

— Вынасі камісара!..

— Смерць фашысцкім гадам!

На руках вынеслі з зямлянкі захутанага ў кажух Лясніцкага, на руках паднялі яго ўгору. І ён сказаў самую кароткую за ўсю сваю дзейнасць, але самую хвалюючую і змястоўную прамову:

— Таварышы, пачалося вялікае наступленне!

## Частка трэцяя

I

Зіма сорак трэцяга года была зімой магутнага росту партызанскіх сіл, іх пераможнага наступу.

Брыгада «Днепр» ачысціла ад немцаў вялікі раён, і атрады на працягу зімы размяшчаліся ў вёсках.

Нядоўгі час штаб брыгады знаходзіўся ў Арэхаўцы, і Маеўскія жылі ў роднай вёсцы, у Любінай хаце. А насупроць у прасторнай хаце Лубяна размяшчаўся шпіталь, і гаспадынямі там былі Алена Рыгораўна і Ленка Лубян. Толькі Жэнька ні разу, мабыць, не паначаваў дома, бо ўвесь час быў на заданні.

У партызанскі раён акуратна прыляталі самалёты з Вялікай зямлі. У атрадах частымі гасцямі сталі прадстаўнікі ЦК партыі і камсамола, журналісты і кінааператары. У студзені ў Маскву вылецеў Андрэй Буйскі і не вярнуўся назад, толькі з чарговым самалётам прыслаў лісты Насці і Лясніцкаму. Жонцы пісаў, каб не хвалявалася і верыла, што ён вернецца, а камісара брыгады прасіў не пакідаць Насці, дапамагчы ёй (у той час ужо ўсе ведалі аб яе цяжарнасці). У лютым выклікалі ў Маскву і Лясніцкага. Але ён неўзабаве вярнуўся назад, і з ім прыляцеў прадстаўнік Цэнтральнага штаба і прывёз партызанам узнагароды — ордэны і медалі. Уручэнне ўзнагарод праходзіла ўрачыста, у прысутнасці насельніцтва.

Арэхаўцам узнагароды ўручалі ў роднай вёсцы. Жэнька Лубян, Алена Рыгораўна і Мікалай Маеўскі атрымалі ордэны Леніна, Люба і Насця — Чырвонага Сцяга, а Таццяна і бацька — Айчыннай вайны.

Пакуль палкоўнік выклікаў іншых узнагароджаных, Таццяна радасна смяялася і апладзіравала разам з усімі. Асабліва ўзрадавалася, калі ордэн атрымаў Жэнька. Вось ён які, яе каханы! Мае аднолькавую ўзнагароду з камісарам і камандзірам брыгады! Таццяна не зводзіла з яго вачэй. Ёй хацелася позіркам павіншаваць яго. Але ён стаяў далёка, другі з правага фланга, і не глядзеў у яе бок. Гэтая яго няўважлівасць крыху закранала яе дзявочы гонар. «Вось утаропіўся, як баран на новыя вароты. Галавы не можа павярнуць. Пачакай вось, я спытаю ў цябе...»

А як прыгожа і ўрачыста было навокал! Яскрава свяціла сакавіцкае сонца. Са стрэх падалі буйныя кроплі і са звонам бітага шкла абсыпаліся намёрзлыя за ноч сасулькі. Гарэлі на сонцы чырвоныя стужкі на шапках у партызан. І ўсе шчасліва смяяліся і апладзіравалі.

Але калі палкоўнік выгукнуў яе, Таццяна разгубілася ад нечаканасці і забыла, што трэба рабіць.

Цётка Сцепаніда лёгка штурхнула яе ў плечы.

— Хутчэй жа ты... Чакаюць цябе.

Яна падышла і моўчкі ўзяла ордэн. «А мне завошта? Што я зрабіла?»

Яе віншавалі. Жанчыны абдымалі і цалавалі. Падбегла ўзрушаная, расчырванелая Люба, абняла і, заглянуўшы ў твар, зарагатала.

— Што гэта ты нос павесіла? А? А я ведаю. Сказаць? — у вачах яе гарэлі гарэзныя агеньчыкі. Тацяна ведала, што Люба можа сказаць такое, ад чаго зробіцца яшчэ бальней, і не стала слухаць яе, адвярнулася і неўзабаве непрыкметна пайшла дахаты.

Супакоіў яе Жэнька. Ён заўважыў, што яна заўчасна пакінула плошчу, дзе пасля ўручэння ордэнаў пачаліся танцы і гульні, і рушыў за ёю. Тацяна прызналася яму, што ёй сорамна перад другімі партызанамі, якія атрымалі меншыя ўзнагароды. Нічога ж яна такога не зрабіла. Ён ласкава абняў яе.

— Дзіўная ты, Танюша. Я проста не разумею цябе. Нейкая неспакойная ты. Як жа дарма? Хто не заслужыў, таго не ўзнагародзяць, будзь упэўнена. А мы з табой заслужылі, Танюша. І яшчэ заслужым. Ваяваць нам яшчэ доўга,

Тацяна прытулілася да яго, прашаптала:

— Толькі ты беражы сябе, Жэнёк.

Ён моцна сціснуў яе плечы. Так калісьці кожны раз гаварыла маці, праводзячы яго ў лес. Ён успомніў маці і доўга маўчаў. Потым праглынуў слёзы і знарок жартліва адказаў:

— Мяне, Таня, ніводная куля не возьме. Я заварожаны.

Яна дакорліва кіўнула галавой.

— Заварожаны! Хто гэта цябе заваражыў?

— Ты.

За акном пачуліся крокі. Прыйшоў бацька. Яны выпусцілі адно аднаго з абдымкаў, і Жэнька падняўся, каб выйсці. Але Карп затрымаў яго.

— Нікуды, Яўген Сяргеевіч!.. Сёння я буду камандаваць табой, — і, узяўшы за рукі, пасадзіў хлопца на ўслон.

Стары быў радасна ўсхваляваны, шчаслівы. Распрануўшыся, пяшчотна пагладзіў ордэн, расправіў вусы. Здавалася, ён памаладзеў на шмат год. Тацяна з усмешкай сказала яму аб гэтым.

— А што ты думаеш, дачка! І памаладзеў. Ды як не маладзець, гледзячы на вас? Эх, дзеці! — у вачах яго бліснулі слёзы шчасця. — Як не маладзець, калі столькі радасці! Учора прынялі ў партыю, сёння ордэн далі. Вось яны, Маеўскія. Усе камуністы, ардэнаносцы. Дажыць бы толькі ўсім да канца,

— Дажывём, дзядзька Карп.

— І я гавару: дажывём, сынок. І жыццё сваё адбудуем нанава. Будуць у нас і сады, і пчолы, і ўсё, што трэба чалавеку для шчасця.

Карп сеў побач з Жэнькам, і яны разгаманіліся. Гутарылі сур'ёзна, паважна, як сталыя гаспадары і блізкія людзі. Абмеркавалі становішча на франтах, потым — свае партызанскія справы, падзеі апошняга дня.

Таццяна слухала з радасным хваляваннем.

Ёй прыемна было, што яны сядзяць побач, бацька і будучы яе муж (яна не саромелася ўжо ў думках называць яго так), і так шчыра размаўляюць.

Але хвілін праз колькі бацька схамянуўся.

— Загаманіліся, а хутка госці прыйдуць. Дзе гэта Люба? Гэтую Любу са свечкай не знойдзеш. Прасіў жа прыйсці, а яна хоць бы табе што... Трэба ж рыхтавацца. Ідзіце вы сталы прынясіце ад суседзяў.

Але калі яны падняліся і рушылі да дзвярэй, Карп спыніў іх, падышоў, узяў за рукі.

— А можа, дзеці, заадно і вяселле ваша, а? Няхай ужо радасць за радасцю.

Таццяна ўспыхнула, апусціла вочы.

— Што вы, тата...

— А ты не саромейся, дачка.

— Не, дзядзька Карп. Мы дамовіліся — пасля перамогі, — проста і сур'ёзна адказаў Жэнька. — Толькі пасля перамогі.

— Што ж... справа ваша, — згадзіўся Карп і адчуў няёмкасць перад імі — адвярнуўся і пайшоў да стала.

— Ну, ідзіце, ідзіце...

Выйшаўшы на двор, яны засмяяліся, ахопленыя пачуццём светлай радасці.

II

Рыхтуючыся да летняга наступлення ў раёнах Арла і Курска, фашысцкае камандаванне вырашыла любымі сродкамі ўмацаваць свой тыл, забяспечыць камунікацыі. Асаблівае значэнне мелі для іх чыгуначныя шляхі Беларусі і паўночнай Украіны — карацейшыя шляхі з Германіі да месца будучага наступлення. Таму вясной гітлераўцы выпрацавалі план вялікіх карных экспедыцый. Ставілася мэта — поўнасцю задушыць партызанскі рух. На дапамогу тылавым ахоўным часцям былі кінуты лепшыя кадравыя дывізіі з танкамі, авіяцыяй, пад камандаю вопытных генералаў.

Карную экспедыцыю ў Прыдняпроўі ўзначальваў генерал-маёр фон Адлер. Ён меў вялікі ваенны вопыт і сярод генералітэта лічыўся лепшым стратэгам і тактыкам па барацьбе з партызанамі. Ён двойчы камандаваў карнымі экспедыцыямі супроць украінскіх партызан у

васемнаццатым годзе, хоць аб гэтых сваіх паходах генерал успамінаў не вельмі ахвотна. Ён ваяваў у Іспаніі, у Більбао, дзе вайна ў гарах таксама нагадвала партызанскую. Яму ўдалося правесці ўдалую аперацыю супроць югаслаўскіх партызан. За гэтую аперацыю ён атрымаў жалезны крыж і падзяку фюрэра.

Яго ўзнагароджвалі, але не павышалі. Сябры тлумачылі, што там, уверсе, не могуць дараваць яму пагардлівых адносін да «святое святых» нямецкай арміі — статута. Сапраўды, на вайне ён заўсёды рабіў па-свойму, рэдка прытрымліваючыся непарушных параграфаў статута. Але сам ён разумеў, што справа не ў гэтым. Проста старых кайзераўскіх афіцэраў паступова засланяюць і выцясняюць маладыя нацысты. І гэта вельмі абурала фон Адлера. Хіба ён горшы патрыёт Германіі і менш адданы свайму фюрэру? Не хто іншы, як такія, як ён, выкармілі фюрэра і далі яму ўладу. Хіба ж не крыўдна? Але генерал трываў, упэўнены, што справядлівасць у рэшце рэшт пераможа.

Ён ганарыўся сваім паходжаннем, сваімі ваеннымі ведамі, прэтэндаваў на сваю ўласную стратэгію. Ганарыўся ён і сваім прозвішчам — Адлер, лічыў яго сімвалічным. Цікава, што знешне ён і сапраўды нагадваў арла: высокі, з гарбатым носам, чорнымі драпежнымі вачыма, дужы і рухавы, нягледзячы на свае шэсцьдзесят год.

У склад экспедыцыі ўваходзіла дывізія СС, і гэта асабліва радавала фон Адлера: упершыню яму далі эсэсаўцаў. Цяпер ён пакажа ім майстэрства старога генерала! Адлер быў цвёрда ўпэўнены, што яго тактыка самая дасканалая. Але ў сапраўднасці яна была вельмі прымітыўная, даўно ўсім знаёмая і грунтавалася на двух прынцыпах: на нечаканасці ўдару і тэорыі «мёртвай пустыні».

«Там, дзе пройдзем мы, павінна застацца пустыня і спыніцца ўсялякае жыццё», — гаварыў фон Адлер сваім афіцэрам і салдатам. Ён намерваўся і тут, у Прыдняпроўі, нанесці ўдар нечакана. Але гэта яму не ўдалося. Аб карнай экспедыцыі стала вядома адразу ж, як толькі першы эшалон дывізіі ўз'ехаў на беларускую зямлю: брэсцкія партызаны злавілі аднаго эсэсаўца і выпыталі ў яго, куды едзе дывізія.

Штаб злучэння падрыхтаваў план разгрому карнікаў. Брыгада «Днепр» павінна была завязаць баі з першымі эшалонамі карнікаў, захапіць ініцыятыву і такім чынам даць магчымасць манеўраваць другім брыгадам злучэння, якія ўрэшце нанясуць канчатковы ўдар.

Дняпроўцы занялі ўсе апорныя пункты, важнейшыя дарогі.

У сярэдзіне мая пачаліся жорсткія баі. З нарастаючым напружаннем яны цягнуліся дзён дзесяць. Брыгада засланяла дарогу немцам у партызанскі раён. Азвярэлыя карнікі палілі навакольныя

вёскі, расстрэльвалі жанчын, дзяцей, знішчалі ўсё жывое на сваім шляху. Дзесяткі тысяч людзей шукалі прытулку ў лясных гушчарах і там чакалі канца навалы, перамогі партызан. Але фон Адлер кідаў у бой усё новыя і новыя сілы. Яму ўдалося завязаць баі з партызанскімі сіламі, якія ішлі на дапамогу дняпроўцам, затрымаць іх.

Знясіленая цяжкімі баямі, брыгада не вытрымала націску і пачала адступаць.

III

Мікалай Маеўскі з пяццю маладымі партызанамі застаўся прыкрыць адыход галоўнага атрада, які непрыкметна зняўся з пазіцыі сярод белага дня.

— Патрымайцеся толькі адну гадзіну. Праз гадзіну мы будзем у Баршчоўскім лесе, — сказаў на развітанне Лясніцкі і моцна пацiснуў начальніку штаба руку. Мікалай прачытаў у вачах камісара трывогу і жаданне абняць яго, можа, у апошні раз. Але Лясніцкі не зрабіў гэтага ў прысутнасці партызан. Ён толькі агледзеўся навокал і ўпэўнена сказаў:

— Хлопцы вы надзейныя, і пазіцыя ў вас надзейная. Да сустрэчы, таварышы!

Пазіцыя, якую яны займалі, сапраўды была ўдалая. Група залягла на грэблі. З двух бакоў было балота, парослае хмызняком і напоўненае вясновымі водамі. На абход балота, калі немцы паспрабуюць гэта зрабіць, ім спатрэбіцца не менш гадзіны — час дастатковы для таго, каб атрад дайшоў да лесу.

Шэсць чалавек былі ўзброены трафейнай гарматай, кулямётам і ручнымі гранатамі.

Эсэсаўцы ўжо зрабілі ў гэты дзень тры атакі. Чакалася чацвёртая, мяркуючы па ўсяму, самая рашучая.

Вечарэла. Майскае сонца было заслонена жоўтым дымам дагараючай удалечыні вёскі. Але на ўсходзе неба было чыстае, цёмна-блакітнае, без адзінай хмурынкі.

Мікалай сеў на мурог на краі дарогі, разуўся і з асалодаю апусціў у цёплую ваду канавы папрэўшыя ногі. Хацелася легчы, не вымаючы ног з вады, пацягнуцца і заснуць. У галаве шумела ад нядаўняй страляніны і бессані. Змора скоўвала цела. Нават цяжка было думаць. І зусім не хацелася весці гэты няроўны бой.

«Добра было б, каб яны больш не атакавалі», — падумаў ён і агледзеўся на партызан, якія сядзелі каля гарматы і па чарзе курылі адну цыгарку. Гэта былі маладыя хлопцы, два — зусім яшчэ падлеткі. Яны добраахвотна засталіся з ім, хоць і ведалі, што могуць загінуць на

гэтай грэблі. Мікалай заўважыў, што хлопцы трохі хвалююцца. Гэта было відно па тым, з якой прагнасцю яны глыталі табачны дым.

Ён падняўся і падышоў да іх.

— А на мяне вы забываеце? Дайце і я пацягну разок.

— Для вас, таварыш начштаба, ёсць асобна на цыгарачку.

— Не. Вы мне давайце з агульнай. І тую круціце, разам раскурым.

Абпальваючы пальцы, ён смактаў недакурак, ажно пакуль не стала горача губам. Новую цыгарку курыў першы.

Хлопцы адразу неяк павесялелі, радасна заўсміхаліся.

— Маўчаць, гады, — сказаў Цімох Бураў, самы маладзейшы з пяці, кіўнуўшы ў бок немцаў. Усе павярнулі галовы туды. Мікалай зразумеў іх жаданне пачуць яго думку на незразумелае маўчанне ворага. Ён падняўся і пачаў праз бінокль разглядаць месца, куды адкаціліся пасля апошняй атакі эсэсаўцы.

Наперадзе, паўз балота, цягнулася палаcа альховых кустоў, праз якія працякаў ручай. Там партызаны шмат дзён трымалі абарону. За ручаём пачыналіся сядзібы вёскі. Доўгія і вузкія, рознакаляровыя ад розных пасеваў палосы падымаліся на круты ўзгорак і канчаліся садамі. На самай вяршыні ўзгорка была вёска. Але цяпер там не было ні садоў, ні хат. На фоне блакітнага неба чарнелі абгарэлыя дрэвы і два рады закураных печаў з няроўнымі комінамі.

За печамі хаваліся нямецкія кулямёты. Асноўныя ж іх сілы былі за вёскай, у нізіне. Адтуль яны пачыналі свае атакі. Гароды былі густа ўсеяны шэра-зялёнымі купінамі — трупамі карнікаў.

— Так, маўчаць. І хай маўчаць даўжэй. Для нас гэта лепей. Мы пачакаем яшчэ з гадзіну і пойдзем даганяць атрад. — Маеўскі адняў ад вачэй бінокль, павярнуўся да хлопцаў.

— А абысці яны нас не могуць, Мікалай Карпавіч?

— Абысці? Не. Цяжка ім абысці. На Рудненскай дарозе таксама засада. Але там, чуеце, таксама ціха. У лес хай паспрабуюць пасунуцца. У балота не палезуць. Баяцца яны нашых лясоў і балот, — ён хвіліну памаўчаў, потым дадаў: — Прасторны наш край, сябры! Добра ў ім біць ворагаў.

— Балюча толькі, таварыш начштаба, бачыць такое, — Цімох Бураў паказаў на спаленую вёску. — Ажно сэрца крывёю захлынаецца. Ніколі гэтага нельга дараваць.

— Мы і не даруем, — сказаў Мікалай.

Партызан Прытыка нясмела спытаў:

— А скажыце, таварыш камандзір, дойдзем мы да Германіі?

— Абавязкова.

— А так не можа быць, што... ну, здадуцца яны, міру папросяць, войскі свае адвядуць, як і ва ўсіх папярэдніх войнах было?

— Ну не! Гэтага не будзе! — горача выгукнуў Цімох.

— Так, гэтага не будзе. Вайна гэтая не падобна на ўсе папярэднія войны. Мы павінны знішчыць гітлераўскую дзяржаву, знішчыць гітлераўскую армію і яе кіраўнікоў. Разумееце? Разбурыць ненавісны «новы парадак» у Еўропе. На нас глядзіць увесь свет. Нас чакаюць прыгнечаныя народы... Мы павінны прынесці ім мір і шчасце.

— А саюзнічкі нашы не могуць перашкодзіць нам? — хітра прыжмурыўшыся, спытаў Вася Плюшчай, брат камандзіра атрада. — Капіталісты з капіталістамі хутка дамаўляюцца, таварыш начштаба. Адна хеўра.

Мікалай усміхнуўся. Размова падабалася яму. Слухачы былі цікаўныя і ўважлівыя.

— Наогул, Вася, ты праў. Капіталісты ў любых абставінах застаюцца капіталістамі. Яшчэ Маркс сказаў, што гэта людзі без чэсці і сумлення. Але народ... Справа ў тым, што народ усюды абуджаны вайной. І ніякім капіталістам не спыніць яго паходу супроць фашызму. Усё будзе вырашаць народ...

Іх размову перарваў далёкі гул матораў. Яны насцярожыліся, услухаліся.

— Зноў ляцяць. Схаваемся ў кусты, каб яны не ўбачылі нас, — загадаў Мікалай.

Самалёты ўжо неаднаразова за апошнія два дні бамбілі партызанскія пазіцыі, і партызаны звыкліся з імі. Але гул мацнеў, а самалёты не паказваліся.

Мікалай, трохі здзіўлены, падняў бінокль. І раптам убачыў: на ўзгорак адзін за другім выпаўзлі чатыры чорныя страшыдлы. Яны на момант нібы спыніліся каля печаў, а потым хутка папаўзлі па схілу гародаў да кустоў, кіруючы на шлях.

— Танкі! — гучна прашаптаў ён. І адразу ж каля яго апынуліся ўсе партызаны. Байцы не зводзілі з камандзіра вачэй, позіркамі пытаючыся, што рабіць. З танкамі яны сустракаліся ўпершыню, а ўсё незнаёмае заўсёды здаецца страшным. Мікалай заўважыў, як пабялелі твары гэтых, ужо не раз глядзеўшых у вочы смерці хлапцоў, а ў Цімоха прыкметна дрыжала ніжняя губа. Ды і ў самога яго непрыемны халадок прабег па спіне, але ён упэўнена сказаў:

— Нічога, хлопцы! Танкі не страшней за самалёты. Дайце мне гранаты. І вунь кавалак тэлефоннага дроту.

Ён хутка звязаў некалькі гранат разам.

— Вось так звяжыце па некалькі букетаў. Хутчэй! Так! Канькоў і ты, Ваня, паўзіце вунь да тых кустоў. Астатнія застануцца са мной. Мы будзем біць з гарматы. Хутчэй, хлопцы!

Танкі падышлі да алешніку і спыніліся, відаць, здзіўленыя маўчаннем партызан. Потым вежы іх брыз Ганулі агнём. Грымнулі гарматныя стрэлы. Снарады выбухнулі ў алешніку.

На ўзгорку з'явіліся карнікі. Затрашчалі аўтаматы. Шэра-зялёная лавіна шпарка каацілася па схілу ўніз.

Танкі зніклі ў кустах. А праз хвіліну першы з іх з'явіўся на грэблі і імчаўся проста на гармату.

Мікалай сам сеў за наводчыка.

Грымнуў стрэл. Другі... Трэці...

Танк не спыняўся.

«Спакойна, спакойна», — супакойваў ён сябе, стараючыся прыцэліцца як мага лепей. Але — няўжо ад страху? — дрыжала ўсё цела, дробна стукалі зубы. Не, гэта не страх! Гэта ярасць. У тую хвіліну не існавала яго ўласнага жыцця з шматлікімі пачуццямі і інстынктам самаахові. Усю яго істоту ахапіла адно пачуццё: спыніць гэтае чорнае страшыдла. І каб для гэтага трэба было зарадзіць у гармату самога сябе, ён, не задумаўшыся, зрабіў бы гэта.

Раптам з-пад гусеніц у танка вылецела полымя і чорны слуп зямлі і дыму. Машына ўздрыганулася, як жывая, крута павярнулася і палезла ў кусты. Там грымнуў яшчэ адзін выбух. Танк спыніўся, нязграбна ўткнуўшыся носам у канаву.

Мікалай зразумеў, што танк падарвалі Канькоў і Ваня Целеш, і, радасна закрычаўшы, стрэліў у вежу нерухомай машыны. Снарад, відаць, прабіў браню, бо танк узарваўся. Ажно да гарматы са свістам даляцелі кавалкі металу. Але ў гэты ж момант на дарозе паказаліся другія танкі. Яны ішлі адзін за адным з меншай хуткасцю, чым імчаўся насустрач сваёй пагібелі нябожчык. Першы страляў з гарматы. Але снарады падалі далёка за спіной у хлопцаў, дзесьці ў балоце.

Мікалай ужо больш спакойна і ўпэўнена зрабіў некалькі стрэлаў. Тройчы разрывы закрывалі цэль — відавочна, што снарады трапялі ў танк, але ён не спыняўся. А яго снарады падалі бліжэй і бліжэй. У твар байцам шугала гарачае паветра, над галавой свісталі асколкі.

— Апошні снарад, таварыш Маеўскі! — крыкнуў Плюшчай.

— Як апошні? — здзівіўся Мікалай, павярнуўшыся.

— Апошні. У нас жа было іх толькі шаснаццаць.

— Ат!.. Усё адно карысці мала з гэтай пукаўкі. Рыхтуйце гранаты!

Ён стрэліў апошні раз і ўпаў ніцма на зямлю, бо ў гэты момант над галавой заспявалі кулі. Пярэдні танк спыніўся каля падбітага і паліваў грэблю кулямётным дажджом. Кулі ціўкалі навокал, траплялі ў гармату і рыкашэцілі з візгам. Нельга было падняць галавы.

— Паўзі ў канаву! І па канаве — наперад! — закрычаў Мікалай ляжаўшаму каля яго Плюшчаю.

Прытыка на момант падняў галаву і адразу ж ураніў яе. З-пад яго чорных Валос, па скроні, пацёк тонкі струменьчык крыві. Цела выцягнулася.

Мікалай падпоўз да кулямёта, адсунуў забітага і, дрыжучы ад злосці, пачаў страляць. Танк зноў рушыў наперад.

Мікалай убачыў Плюшчая. Вася падняўся ва ўвесь рост і, трымаючы ў абедзвюх руках над галавой гранаты, пабег насустрач танку.

Мікалай перастаў страляць і, сціснуўшы кулакі, закрычаў:

— Нахіліся! Нахіліся, Ва-ася!..

Плюшчай упаў, не ўправіўшыся кінуць гранаты, і звязка разарвалася ў яго руках.

Танк набліжаўся. Да яго заставаліся лічаныя метры. Марудзіць нельга было ні хвіліны, і Мікалай таксама падхапіўся ва ўвесь рост, забыўшыся на тое, што трэба нахіліцца, скочыў да танка і кінуў адну, а потым і другую звязку гранат. Перад вачыма бліснула полымя. Нешта гарачае, як струмень вару, пляснула ў твар, балюча ўдарыла па нагах. Ён упаў, адчуваючы, што ляціць у чорную бездань. Але праз момант перад яго вачыма паплыў блакіт і ён, асэнсаваўшы ўсё, што здарылася, ірвануўся ўбок, каб не быць раздаўленым танкам. Але чыесьці рукі стрымалі яго. Ён агледзеўся і ўбачыў Цімоха.

— Жывы?.. Таварыш начштаба! — узрадавана ўсклікнуў хлопец. — А я ўжо думаў...

— Дзе танк?

— Танк вы падбілі... Другія павярнулі назад. Немцы заляглі. Не падымайцеся!

Мікалай толькі зараз пачуў страляніну і свіст куль над галавой. Аслабелай рукой ён дастаў з кішэні гадзіннік. Прайшло трохі больш за гадзіну, як выступіў галаўны атрад.

— Адступаць. Пара адступаць. Хто жывы?

— Усе загінулі, таварыш начштаба.

— Падарві гармату і кулямёт. Вазьмі аўтаматы. Паўзём да павароту, а там пабяжым.

Ён паспрабаваў павярнуцца, каб паўзці, і застагнаў ад болю ў нагах. Абедзве яго нагі ніжэй калень былі ў крыві.

— Пасякло вам ногі. Перавязаць трэба, — сказаў, уздыхнуўшы, Цімох.

— Да д'ябла! Ніякіх перавязак! Хутчэй! — Мікалай перамог боль і папоўз па балоце, па бруднай вадзе, паміж альховых кустоў, пасечаных кулямі і выбухамі снарадаў.

Цімох дагнаў яго ўжо там, дзе дарога рабіла паварот. Яны выпаўзлі з балота на грэблю. Мікалай паспрабаваў падняцца і не ўтрымаўся на нагах. Ад болю зрабілася млосна. Ён адчуваў, што яшчэ адно такое намаганне і ён страціць прытомнасць. Яму стала страшна. Цяпер, калі баявое заданне было выканана, зусім не хацелася кідацца пад танк, а вельмі хацелася ўбачыць сяброў, родных, Алену... Ён сціснуў зубы, каб не закрычаць ад болю і роспачы.

«Хлусіш! Цяпер ты мяне не возьмеш! Цяпер я перамаху цябе!» — пагразіў ён у думках смерці і, аглянуўшыся, загадаў разгубленаму партызану:

— Цягні, Цімох, мяне наўпрасцяк! Вунь туды, у лес.

З нечалавечымі намаганнямі, выбіваючыся з сіл, юнак нёс камандзіра праз балота. На грэблі зноў загучалі маторы танкаў, забухалі гарматныя стрэлы, закрычалі немцы, ірвучыся па дарозе наперад. Іх больш ніхто не спыняў. Жывы абаронца выконваў новую задачу: ратаваў жыццё начальніка штаба брыгады. Аб гэтым сказаў Цімоху сам Мікалай.

— Трымайцеся, таварыш начштаба! — бадзёрыў ён сябе. — Тваё жыццё яшчэ спатрэбіцца. Ого! Мы яшчэ паваюем! Мы яшчэ пакажам ім!.. — але часам стогн вырываўся з грудзей, нягледзячы на яго намаганні стрымацца. — Нічога, Цімох. Не звяртай увагі. Цягні. Як зручней табе... Хоць за ногі! Пачакай. Паслухай, сабакі не бягуць па нашаму следу? Ціха? Кінуліся даганяць партызан? Хай шукаюць ветру ў полі. Нам з табой толькі б дапаўзці да сваіх. І тады мы з табою яшчэ паваявалі б, Ціма. Мы адплацілі б ім за жыццё Васі Плюшчая, Прыткі, усіх...

Спачатку ён гаварыў няспынна, але паступова пачаў змаўкаць, часцей стагнаў, рабіўся цяжэйшым.

Выбраўшыся на сухую выспу, Цімох упаў на траву і доўга ляжаў нерухома. Ранены таксама маўчаў. Павярнуўшыся на спіну, ён глядзеў у неба. Заходзіла сонца. Дым, што плыў з захаду, зрабіўся ружовым. Боль у нагах сціх... І на адзін момант усё цела ахапіла прыемная стома. Але раптам зашумела ў галаве і здалося, што з неба імкліва падае проста на яго вялікае чырвонае палотнішча. Мікалай падняў рукі, каб схапіць яго, і страціў прытомнасць.

IV

Цімох Бураў знайшоў штаб брыгады толькі на світанні. Вартавыя падвялі яго да Лясніцкага, які спаў пад елкай, накрыўшыся старым плашчом. Хлопец спачатку разгубіўся, не ведаючы, як разбудзіць камісара, але ўспомніўшы, з чым прыйшоў, хутка ўпаў на калан! і ўсхвалявана прашаптаў:

Лясніцкі адразу расплюшчыў вочы і, пазнаўшы байца, падхапіўся.

— Бураў? А Маеўскі дзе?

— Р-ранены, таварыш камісар, — ён коратка, заікаючыся ад хвалявання і зморанасці, расказаў пра бой, пра смерць сяброў і пра раненага начштаба. — Я яго нёс да цёмнага, па-акуль на ўзлеску не... не спа-а-ткаў дзеда Лаўрэна... Вунь што прыходзіў увосень. Ён д-дапамог мне перанесці яго ў сялянскі лагер. У лесе там яны, уся вёска з каровамі, з усім дабром. Таварыш начальнік штаба сказаў мне, калі яму стала лепей і ён даведаўся, дзе знаходзіцца... «Ідзі, кажа, Цімох, знайдзі штаб, перадай аб усім...» І я пайшоў, усю ноч блудзіў, пакуль прабіўся да вас.

— А цяпер зможаш прайсці?

— Цяпер прайду. Лугам трэба... лазнякамі.

— Добра, — Лясніцкі хутка падняўся і шпарка закрочыў паміж дрэў, пераступаючы цераз сонных людзей. Спыніўся ён перад зялёнай палаткай, што зручна была прыладжана паміж арэхавымі кустамі і злівалася з імі. Ціха паклікаў:

— Алена Рыгораўна!

З палаткі выглянула заспаная Таццяна.

— Разбудзі Зайчук.

— Я туг, Павел Сцяпанавіч, — пачуўся за спіной голас.

Алена выйшла з-за дрэва, апранутая ў цёмную сялянскую світку.

— Хадзіце і вы сюды, Таццяна, — паклікаў Лясніцкі і, калі яны падышлі, пільна заглянуў ёй у твар. — Не палохайцеся. Ранены Мікалай Карпавіч,

Разгледзеў у паўзмроку, як яна прыкметна пабляднела.

— Нічога страшнага. Не гаварыце толькі пакуль што нічога бацьку, стары і так хвалюецца. Зараз вы пойдзеце да яго. Вы і ўрач Тарасевіч. Вось з Буравым. Алена Рыгораўна, забяспечце іх усім неабходным. — Лясніцкі гаварыў каротка, хутка. Яго ўзрушанасць, імклівасць перадаліся Таццяна, але яшчэ больш усхвалявалі Алену, аб чым ён нават і не падазраваў.

— Павел Сцяпанавіч, пайду я, — нечакана ціхім, але нейкім асаблівым, незнаёмым голасам папрасіла яна.

Ён хутка павярнуўся, здзіўлена паглядзеў на яе.

— Не! Нельга. Без вас мы што бэз рук. А невядома яшчэ, што чакае нас сёння.

— Павел Сцяпанавіч! — голас Алены дрогнуў і абарваўся.

Лясніцкі не ведаў аб іх адносінах: Мікалай, жывучы ўвесь час з ім у адной зямлянцы, ні разу нават не заікнуўся пра гэта. Але па голасу ўрача здагадаўся пра ўсё і папракнуў сябе:

«Як жа гэта я не бачыў раней? Старэю, мабыць, калі такога не заўважаю», — і ён рашуча адрэзаў:

— Нельга! — але, павярнуўшыся, дадаў мякчэй: — Не магу, Алена Рыгораўна. Зразумей.

Таццяна дакранулася да рукава яго ватоўкі:

— Таварыш камісар, дазвольце ёй... Ёй... ёй вельмі-вельмі трэба быць там...

Гэтая просьба сястры раненага кранула яго. Сумненняў наконт іх адносін ужо не магло быць. Ён павярнуўся, пільна паглядзеў спачатку на Алену, потым на Таццяну, дакорліва паківаў галавой і ласкава сказаў:

— Што ж... Ідзіце. Але перадайце яму, — і не скончыў, што перадаць, махнуў рукой, адышоў, а здалёк крыкнуў: — Захапіце ўсё неабходнае!..

V

Мікалай то прытомнеў і тады адразу вельмі ясна пачынаў усё разумець, нават размаўляў з жанчынамі, што ні на хвіліну не адыходзілі ад яго, з дзедам Лаўрэнам, які шэптам, але сурова камандаваў жанчынамі; то раптам зноў губляў прытомнасць, трызніў, кідаўся ў гарачцы, клікаў сяброў.

Трызніў ён і тады, калі да яго падышлі Алена і Таццяна. Але калі Алена ўзяла яго руку і пачала слухаць пульс, ён змоўк, вочы пачалі паступова яснець, над брывамі з'явіліся маршчынкі глыбокай удумлівасці. Нарэшце ён пазнаў яе і здзіўлена, узрадавана, але няўпэўнена прашаптаў:

— Лена?..

— Я, родны, я. І Таня тут.

Таццяна, нахілілася над братам. Слёзы затуманілі ёй вочы, яна не мела сілы вымавіць слова.

Шчаслівая ўсмешка з'явілася на змучаным твары раненага. Ён падняў руку, пяшчотна дакрануўся да шчакі сястры і да шчакі Алены, нібы хацеў упэўніцца, што гэта не прывід, а сапраўды яны.

— Ну вось і цудоўна! Цяпер я ўжо не буду баяцца за сваё жыццё. Цяпер яно ў надзейных руках. Так? — голас яго ужо быў амаль звычайны, толькі хрыпеў, як у прастуджанага.

Алена зразумела яго душэўны ўздым і пажартавала:

— Але цяпер адзіны і бязлітасны начальнік над табою — я. Трымайся. Давай твае ногі, паглядзім раны.

Тацяна развязала ручнікі, якімі яго перавязалі жанчыны і якія ўжо прапіталіся крывёй і прысохлі. Калі яна аддзірала іх, Мікалай не стрымаўся і застагнаў. Алена выцерла марляй яго ўспацелы лоб, ласкава ўсміхнулася:

— Цярпі, цярпі, атаманам будзеш.

Яна нахілілася над ранамі і адразу ж выпрасталася. Твар яе збялеў.

Мікалай пільна сачыў за ёй. Стаіўшы дыханне, глядзелі на яе Тацяна, Цімох, дзед Лаўрэн і жанчыны, што стаялі воддаль.

Яна адчула гэтыя скрыжаваныя на ёй позіркі і зноў нахілілася, дакранулася пальцамі да яго ног. Не, памылкі не магло быць. Гэта вельмі проста і знаёма. Не першы раз ужо бачыць яна гэтую сінюю апухласць з газамі пад скурай і адчувае гэты гнойны пах.

Падняўшы галаву, яна сустрэлася вачыма з дапытлівым позіркам Мікалая.

— Што? — аднымі губамі спытаў ён.

Урач зразумела, што маніць позна ды і непатрэбна, і адказала спакойна і проста, толькі крыху расцягнуўшы словы:

— Газавая гангрэна.

Мікалай шумна ўздыхнуў, паморшчыўся ад прыступу болю і, памаўчаўшы, спытаў:

— Што можа ратаваць мне жыццё?

Яна адказала механічна, не задумаўшыся, як адказваюць на экзамене на вельмі знаёмае пытанне:

— Ампутацыя.

— Рабі.

— Я? — толькі цяпер да яе свядомасці дайшоў сэнс гэтага страшнага слова.

— Ты. Хто ж, акрамя цябе, гэта можа зрабіць? Ты, канешне.

Алена бездапаможна аглянулася вакол і затрымала позірк на Тацяне, нібы просячы ў яе парады. Але Тацяна не зводзіла вачэй з брата. А ён глядзеў на Алену. Яна адчувала на сабе яго дапытлівы і суровы позірк і баялася павярнуць галаву.

«Такую аперацыю яму? Не!.. Не падымуцца рукі. Не змагу! Не зма-гу!» — крычала ўсё ў душы.

Мікалай зразумеў яе разгубленасць і разлаваўся.

— Што?.. Не хапае духу, таварыш галоўны ўрач брыгады? Так? Дык навошта ж вы ішлі сюды? Аддаць мяне ў лапы смерці? Не-е! Я не здаюся без бою! Я хачу жыць. Жыць і змагацца! А жыць нельга без галавы, а без ног жыць можна. І змагацца можна. Чуеце? Рабіце аперацыю! Я загадваю!

І гэтае рашучае «я загадваю!» схамянула яе. Яна паглядзела на яго змучаны твар, вытрымала яго суровы позірк і адразу адчула, што яго душэўная сіла перадалася ёй. У адзін момант яна зноў зрабілася галоўным урачом брыгады, суровым, спрактыкаваным хірургам. Не першы раз ёй рабіць аперацыю ў такіх умовах! За два гады яна навучылася ўсяму, чаму ў звычайных мірных умовах нельга было б навучыцца і за дзесяцігоддзе.

Алена аглянулася навокал, спыніла свой позірк на возе, што стаяў недалёка пад хвояй, і, звярнуўшыся да Тацяны, загадала:

— Рыхтуйцеся да аперацыі. Хворага — на воз! — Потым павярнулася да дзеда Лаўрэна: — Распаліце агонь і дастаньце добрую нажоўку.

— Пілу? — не зразумеў стары.

— Так, пілу.

Дзед падняў руку, каб задуменна паскрэбці патыліцу, але Алена папярэдзіла:

— З-пад зямлі дастаньце, а каб была! — голас яе сурова зазвянеў.

— Слухаюся, — па-вайсковаму адказаў стары і, адышоўшы, сярдзіта зашыпеў на баб, разагнаў усіх у розныя бакі.

...Аперацыя цягнулася паўтары гадзіны.

Жанчыны адступілі далей ад воза і нерухома стаялі суцэльнай сцяной, хаваючы за сябе малых. Толькі адзін раз яны спалохана адхіснуліся, калі Алена пачала пiліць аголеную косць нагі.

— Божухна, што гэта робіцца на белым свеце! — прашаптала адна старая.

— Кажуць, што яна яго жонка, а тая другая сястра.

— Што ты, мілая! Жахніся! Будзе жонка такое рабіць...

— А што вы думаеце, бабуля? Па-вашаму, лепей хай памірае чалавек? Вы чулі, што ён гаварыў? Не бойцеся, такі чалавек і без ног будзе жыць, ды яшчэ з такой жонкай.

— Няхай бы мой Міця без ног з'явіўся, я яго на руках насіла б, — сказала маладая жанчына, што трымала груднoе дзіця.

— Госпадзі, але ж якое сэрца трэба, каб адпілаваць ногі роднаму чалавеку.

Лаўрэн, які стаяў наперадзе, бліжэй да воза, павярнуўся і пагразіў бабам кулаком. Яны паслухмяна змоўклі.

Скончыўшы аперацыю, Алена сарвала з яго твару хлараформавую маску і, хістаючыся, як п'яная, пайшла на людзей. Жанчыны з павагай расступіліся перад ёй, але яна не бачыла іх. Яна не бачыла нічога і ішла да таго часу, пакуль дарогу ёй не перагарадзіла сасна. Тады яка падняла галаву, абхапіла дрэва рукамі і спаўзла па ім на зямлю, падрапаўшы аб шурпатую кару шчаку і рукі.

— Вады! Вады, дуры! — закрычаў на спалоханых баб дзед Лаўрэн.

Яна прагна напілася з гарлача. Потым закрыла твар акрываўленымі рукамі і доўга сядзела нерухома, прытуліўшыся да сасны. Спачатку ў галаве была нейкая гулкая балючая пустэча і не было ніводнай думкі. Потым яна адчула вялікую зморанасць, фізічную і душэўную, абыякавасць да ўсяго навакольнага і падумала:

«Вось яна і скончылася, маладосць».

І адразу ж успаміны, думкі, даўнія мары закружыліся ў галаве завірухай.

Так, была маладосць, вясёлая, шчаслівая, была радасць першага і адзінага кахання, боль разлукі, расчараванне, рэўнасць, пакуты, нечаканае з'яўленне яго, адзіная, бурная размова ў памятную навальнічную ноч, новыя пакуты амаль год. Усё гэта было і ўсё гэта мела права называцца маладосцю. І было ў апошні час яшчэ адно самае дарагое — надзея. Яна адганяла яе, злавалася, але надзея не пакідала яе, ласкава глядзела ў вочы і шаптала: «Чакай, чакай... Ён яшчэ прыйдзе...»

І каб ён прыйшоў, як у тую ноч, магчыма, што яна ўсё даравала б яму. Усё магчыма... Але ён больш не прыходзіў.

А што цяпер? Што засталося цяпер?

«Куды гэты суровы дзед аднёс яго ногі?» — падумала яна і адняла ад твару рукі.

Каля воза, схіліўшыся, стаяла Тацяна. Алена раптам пазайздросціла ёй. Няхай бы і яна была яго сястрой! Тады ўсё было б так проста і зразумела і не было б гэтых пакут. Ну, было б шкада яго, бязногага, але ўсё адно ён застаўся б для яе любімым братам. А так... Што так? А так... раптам ён стане чужым, далёкім, непатрэбным...

Яна сціснула далонямі скроні і застагнала. Але праз хвіліну падняла галаву, і ў вачах у яе засвяціўся дзіўны агонь.

У гэты момант яна зноў адчула сябе маладой.

«Чужы? Чаму чужы? Чаму далёкі? — сурова спытала яна ў самае сябе. — Не! Цяпер ён зноў родны, блізкі... Цяпер ён мой, толькі мой.

Цяпер я сама пайду да яго. Як гэта ён сказаў? Нельга жыць без галавы, а без ног жыць можна. Так, мы будзем жыць, родны мой, любы, будзем...»

VI

Брыгада несла цяжкія страты, адступаючы пад націскам у дзесяць разоў мацнейшага праціўніка. Становішча ўскладнялася з кожным днём. Хто-ніхто пачаў ужо гаварыць аб распыленні на паасобныя атрады, групы, каб схавацца ў лясах. Але гэта значыла адмовіцца ад арганізаванага супраціўлення акупантам. Штаб злучэння не пайшоў на гэта і, змяніўшы першапачатковы план, даў загад пераправіцца цераз Дняпро і ісці ў глыб вялікіх лясоў, заманьваючы туды карнікаў.

Каб палегчыць пераправу, насустрач дняпроўцам быў высланы партызанскі атрад Сівака, які падрыхтаваў усё неабходнае — пабудаваў паром, сцягнуў лодкі. На працягу адной ночы брыгада павінна была знікнуць з-пад носа ў фон Адлера, паказаўшы яму кукіш, як жартаваў Прыборны. Але фон Адлер таксама не спаў у шапку. Ён разведаў і разгадаў гэты манеўр. Даўшы магчымасць падцягнуцца атрадам брыгады да пераправы, карнікі нечакана нанеслі ўдар па Сіваку, разграмілі яго невялікі атрад і занялі супрацьлеглы бераг.

Брыгада была абкружана, прыціснута да ракі.

Завязаліся жорсткія баі.

Партызаны займалі двухкіламетровую паласу ўздоўж Дняпра. На шчасце, участак гэты быў вельмі перасечаны, лясісты, што значна палягчала абарону і ўскладняла задачу карнікаў.

Баі разгараліся з узрастаючым напружаннем. У першыя два дні немцы кідаліся ў шалёныя атакі, па пяць-шэсць разоў у дзень, але кожны раз ганебна каціліся назад, пакідаючы забітых. Зброя і боепрыпасы забітых, як толькі надыходзіла ноч, пераходзілі да партызан — іх сабіралі смельчакі-пластуны.

Трэці дзень фон Адлер абстрэльваў партызан з артылерыі і бамбіў з самалётаў.

А пад вечар гітлераўцы праз радыёрупары прапанавалі партызанам здацца, абяцалі дараваць усім жыццё. Ім адказаў Пятро Майбарада праз свой берасцяны рупар. Ён нагаварыў столькі «гарачых пажаданняў» фон Адлеру і Гітлеру, што фашысты адразу ж спынілі сваю прапаганду і пачалі страляніну, каб заглушыць яго словы.

У наступныя дні фон Адлер зноў атакаваў з упартасцю вар'ята, нягледзячы на велізарныя страты ў часцях. Артылерыя і авіяцыя няспынна бамбілі бераг, скошваючы дрэвы і кусты. Здавалася, што

пасля такога агню на гэтым невялічкім участку берага не павінна застацца жывой душы. Але як толькі эсэсаўцы падымаліся ў атаку і набліжаліся да партызанскіх акопаў, іх сустракаў смяротны лівень куль, мін, гранат і снарадаў. Фон Адлер шалеў ад злосці. Урэшце ён спыніў атакі — надта дорага яны каштавалі. Новы план яго заключаўся ў тым, каб працяглай блакадай і штодзённым сістэматычным артабстрэлам знясіліць партызан. Магчыма, узяць іх голадам. Ён добра ведаў, што, адступаючы, партызаны амаль не мелі ніякіх харчовых запасаў.

Сапраўды, гэта было так. Таго, што выпадкова захавалася на абозных фурманках, ледзь хапіла на два дні. На чацвёрты дзень блакады Лясніцкі і Прыборны далі загад забіваць коней і карміць людзей канінай.

Ад аднаго мяса, часам недаваранага, а часам папсаванага, бо надвор'е было гарачае, і ад нядобраякаснай вады многія захварэлі. І гэта дзейнічала на людзей горш за кулі і снарады. Партызаны пачалі прасіцца ісці на прарыў.

Але камандзір і камісар брыгады разумелі, што ісці на прарыў, не разведаўшы абставін і сіл ворага, без падтрымкі, значыцца весці на верную смерць паўтары тысячы чалавек. Ды і штаб злучэння загадваў па радыё трымацца да падыходу атрадаў, якія ішлі на выручку дняпроўцам з двух бакоў і якія павінны былі адцягнуць галоўныя сілы карнікаў.

Лясніцкі дзень і ноч хадзіў з атрада ў атрад, ад узвода да ўзвода і нястомна гутарыў з людзьмі, бадзёрыў іх.

— Нічога, таварышы! Нашы каля Волгі трымаліся ў горшых умовах. Голая палоска ў якіх-небудзь шэсцьдзесят метраў. А ў нас — лес і такая шырыня. Выстаім! Аб нашым становішчы Масква ведае. Вось, напрыклад, сённяшняя радыёграма: «Трымайцеся, зробім усё неабходнае». І, безумоўна, зробяць. Там словы на вецер не пускаюць.

Хадзіў ён па лагеры не адзін, а разам з Карпам Маеўскім і маленькім Віцем, які без Таццяны ні на крок не адыходзіў ад дзеда, адчуваючы ў ім клапатлівага і надзейнага абаронцу. І сапраўды хлопчыку было нядрэнна з імі. Ён не галадаў, як галадалі ўсе іншыя і ў тым ліку і дзеці (а іх было чалавек дзесяць у брыгадзе). У пярэдніх акопах у каго-небудзь з партызан знаходзілася для яго галета, ці плітка шакаладу, або кавалачак цукру — усё, што здабывалася ўначы з ранцаў забітых эсэсаўцаў.

Карп Маеўскі неяк выпадкова ў першы дзень блакады застаўся пры камісару пасыльным. Але Лясніцкі зразумеў, што лепшага

пасыльнага і памочніка, чым гэты разважлівы і працавіты стары, яму не знайсці, і не адпусціў яго ад сябе.

Асабліва падабалася Лясніцкаму, што і ў цяжкім блакадным жыцці ён на ўсё глядзеў па-гаспадарску, клапаціўся аб кожнай рэчы, якая магла спатрэбіцца. Стары заўважаў усё, чаго ў такім становішчы не заўважалі іншыя. Аднойчы ён сказаў Лясніцкаму:

— Раненых, Павел Сцяпанавіч, трэба перанесці на паляну. Там і снарадаў менш падае і, галоўнае, камароў менш. А то ад іх ратунку няма.

У другі раз ён прапанаваў збудаваць некалькі лодак — «на ўсякі выпадак», і сам узначаліў гэтую работу. За дзень былі пабудаваны дзве лодкі і невялічкі плыт.

Дзень і ноч быў Маеўскі на нагах — працаваў, хадзіў, клапаціўся, каб камісар і ўнук адпачылі, былі накормлены хоць канінай і шчаўем, не лезлі пад кулі. Ён не губляўся і здаваўся жыццярадасным, бадзёрым. Але Лясніцкі ведаў, што стары няспынна думае пра дзяцей. Ці жывыя яны? Пра Мікалая, Тацяну і Алену няспынна думаў і сам камісар.

Але гаворкі аб іх пазбягалі. Нарэшце аднойчы ўначы, лежачы ў гушчары алешніку каля агню, Карп не вытрымаў і, уздыхнуўшы, сказаў:

— Не магу заснуць... Як заплюшчу вочы, так адразу і бачу іх... Што з імі? Павел Сцяпанавіч! Цяжка паранены быў Мікалай?

Лясніцкі падняў галаву.

— Не ведаю. Але, думаю, нічога з імі не здарыцца. Яны сярод сваіх.

— А ў мяне душа гарыць.

З тае начы яны пачалі часта гаварыць пра іх. Стары часцей, чым у іншыя, заглядваў у атрад Жаўны. Сам Фёдар быў цяжка паранены, і атрадам яго камандаваў Жэнька Лубян. Ён кожны раз з маўклівай радасцю сустракаў Карпа. Як роднага сына, браў на рукі Віцю, гушкаў яго. Потым яны садзіліся на дно акопа і моўчкі сядзелі. Гаварылі мала. Толькі аднойчы, спаткаўшы іх, Жэнька ўзрушана спытаў:

— Люба вярнулася, так?

— Не. Скуль ты ўзяў гэта? — здзівіўся Лясніцкі.

— А мне сказалі, што вярнулася, — расчаравана ўздыхнуў ён, і вочы яго зноў напоўніліся глыбокім смуткам.

Люба пайшла ў разведку ў першую блакадную ноч. Правільней, не пайшла, а паплыла. Пасля яе гэтым жа шляхам яшчэ паплылі некалькі чалавек, але ніводзін з іх не вяртаўся назад, і ніхто не ведаў

— удалося ім выбрацца з абкружэння ці, можа, іх праглынулі глыбокія дняпроўскія віры.

VII

На дзевяты дзень з'елі апошніх коней. У гэты ж дзень здарылася яшчэ большае няшчасце: снарадам разбіла радыёстанцыю. Звестка гэтая маланкаю абляцела ўвесь лагер. Лясніцкі і Прыборны з розных бакоў кінуліся да месца здарэння.

Камандзір брыгады ўбачыў папсаваную рацыю, забітага радыста і ў роспачы пачаў злосна лаяцца:

— Сволачы! Адразу аглушылі і асляпілі! Што цяпер рабіць будзем?

Лясніцкі спакойна загадаў усім разысціся і, калі яны засталіся адны, сказаў Прыборнаму:

— Не панікуй, Сяргей.

Камандзір абурыўся:

— Што ты мяне суцяшаеш! Ад такой страты плакаць хочацца, не толькі што...

— Безумоўна, страта цяжкая. Але калі мы з табой сапраўды заплачам, у роспач укінемся... Што з гэтага будзе? А-а? Харч для панікёраў. Вось што!..

Прыборны згадзіўся, супакоіўся. Толькі махнуў рукой.

— Ану цябе! Якія там да д'ябла панікёры! Ніякіх панікёраў у нас не будзе, можаш быць упэўнены.

— Не думай толькі, што ў нас і сапраўды няма баязліўцаў. Сям'я не без уродаў. Я за адным хворым два дні назіраю. Вельмі дзіўна хварэе чалавек.

— Хто?

— Кулеш.

— Зноў ты за Куляша. Па тваёй падазронасці яго даўно ўжо трэба было расстраляць. А ён цэлую зіму з намі быў.

— Я не сцвярджаю, што ён здраднік. Але баязлівец — пэўна. Хварэе ад страху.

— Ну і чорт з імі Сярод нашых людзей адзін заяц панікі не зробіць. Не тыя людзі, Павел.

Лясніцкі згадзіўся.

— Гэта правільна. Людзі ў нас цудоўныя. Аднак нам з табой зараз, як ніколі, трэба быць пільнымі.

— А для гэтага трэба быць разам.

За час блакады яны сустракаліся толькі тады, калі была неабходнасць што-небудзь абмеркаваць. А звычайна знаходзіліся на розных

участках абароны, у розных атрадах. Трэба было натхняць людзей, кіраваць абаронай, тым больш што ў пачатку блакады былі цяжка паранены два старыя камандзіры атрада — Жаўна і Плюшчай. Але ўрэшце Прыборнаму надакучыла гэта. Без Лясніцкага, разважлівага і настойлівага, ён адчуваў сябе неяк ніякавата, не на месцы і не ў поўным сэнсе камандзірам. Камісар быў неабходны яму, як паветра і вада.

Рэшту гэтага дня яны правялі разам. Пабылі ў атрадзе, агледзелі пазіцыі, праверылі раненых і хворых, падлічылі боепрыпасы. Грунтоўна ўзважылі свае сілы. А калі сцямнела, прыйшлі на бераг і селі ў галлё паваленай снарадам сасны. Зверху накінулі трафейную плашч-палатку. Пасля доўгай спякоты ўвечары прашумела навальніца, а потым неба зацягнула хмарамі і дайшоў дробны і цёплы майскі дождж. Ён ласкава барабаніў па парусіне, шамацеў на рацэ.

Паветра было насычана духмяным водарам смалы, пахам сухога лісця паваленых выбухамі дрэў, рачной твані.

— Адзінае месца, дзе, здаецца, не пахне крывёю, — сказаў Прыборны.

Лясніцкі не адказаў.

Было спакойна. Зрэдку ляскалі стрэлы, ды раз-пораз згушчаную дажджом цемру ночы рвалі нямецкія ракеты, Дзесьці забрахаў сабака, заржаў конь. У адказ на гэтыя гукі роўнядзь ракі лізнуў кінжал пражэктара і некалькі хвілін асцярожна мацаў партызанскі бераг. Калі пражэктар патух, з другога берага даляцела п'яная; песня.

— Балююць, сволачы. Здорава яны сціснулі нас, — сказаў Прыборны.

— Та-ак... І, відаць, нам трэба вырывацца ўласнымі сіламі.

Прыборны ўздыхнуў.

— Дзвесце чалавек раненых, столькі ж хворых. Па дваццаць патронаў і па дзве гранаты на здаровага байца. Паўсотня снарадаў на ўсю брыгаду.

— Але і дапамогі чакаць рызыкоўна. Становішча наша не паляпшаецца. Калі яны пачнуць атакаваць нас з такім націскам, як у першыя дні, мы не вытрымаем. Будзем глядзець праўдзе ў вочы. Трэба прарывацца...

— Куды? Дзе ў іх слабае месца? — разважаў Прыборны. — Ніколі яшчэ мы не былі такімі сляпымі. Ніводзін разведчык не вяртаецца. Няўжо ўсе загінулі? А ведаеш, усё можа быць. Гэты хітры д'ябал мог на дзесяць кіламетраў уніз варту паставіць на берагах. Стары шакал! Недаацанілі мы яго.,.

— Але — душа з яго прэч! — нас ён не перахітруе! — Лясніцкі нервова зламаў тоўстую галіну, яна трэснула гучней за пісталетны

стрэл, Прыборны ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці. — Не нарадзіўся яшчэ той немец, якога рускі чалавек не перахітрыў бы.

— У цябе ёсць план?

— Будзе! Павінен быць. Будзем думаць. Паклічам камандзіраў і камісараў атрадаў, параімся з імі. Што-небудзь прыдумаем. Абавязкова прыдумаем, Махорачка яшчэ ёсць у цябе? Дай.

Лясніцкі доўга думаў, глытаючы дым гнілой махоркі. Цяжкім каменем сціскаў сэрца боль за сяброў, якія загінулі, пакутуюць ад ран, за правал аперацыі.

— Даведацца б, дзе затрымаўся Крушына...

Прыборны ў адказ вылаяўся:

— Халера яго ведае! Хоць бы людзей прыслаў для сувязі. Таго і глядзі блакаду прарве, а сувязнога ўсё-такі не прышле. Куркуль чортаў! Усё сам хоча зрабіць...

План з'явіўся адразу, сярод ночы, як толькі вярнуўся першы разведчык. Прыборны ўжо драмаў і бачыў нейкі цяжкі сон, калі перад імі, нібы з-пад зямлі, раптам вырас Пятро Майбарада. Разбуджаны камандзір брыгады не верыў сваім вачам.

— Далібог, гэты хлопец у сарочцы нарадзіўся!

— Сядай, Пятро, сядай ды хутчэй расказвай, — Лясніцкі ажно цёр ад нецярпення рукі. — Што там?

— Сёння гэтыя шыпучыя гады перакінулі з таго берага на гэты батальён галаварэзаў. А з гэтага на той — батарэю. Паставілі на паляне напроціў нас. Заўтра трэба чакаць гасцінцаў... — Майбарада расказваў спакойна і каротка. Здавалася, што нічога каштоўнага ў гэты раз разведаць не ўдалося, і таму, нездаволены, ён быў сур'ёзны і сумны. — Пяхоты ў іх там амаль не засталося. За сінім берагам жывой душы няма. Я ўвесь вечар там хадзіў.

— Высадзіцца там можна? — ледзь не ў адзін голас спыталі Лясніцкі і Прыборны.

— Калі даплыць на чым-небудзь — гэта ж супроць цячэння, — дык хоць зараз. А што?

— Нічога. Пакуль што нічога. Ты ляж і гадзінку паспі, а мы паходзім, падумаем, — ласкава сказаў Лясніцкі.

Яны моўчкі пайшлі да ракі.

— Відаць, мы думаем з табой аб адным, — сказаў Прыборны, калі яны спыніліся каля самай вады. — Паслаць групу пад яго камандай на той бераг. Так? Яна зойдзе ў тыл, нападзе на батарэю...

— Наробіць шуму. Пачне дэманстратыўную атаку.

— Калі?

— Заўтра ўвечары. Адлер, безумоўна, ведае, адкуль ідзе Крушына. І раптам з'яўленне новых партызанскіх сіл там, дзе ён не чакаў іх... Гэта парушыць яго планы. Ён вымушаны будзе здымаць уначы часці з гэтага берага і кідаць на той. І вось у гэты момант мы зробім скачок назад, у Баршчоўскі лес.

— Чаму ў Баршчоўскі? Ісці — дык ісці. А там нас зноў абкружаць.

— Далёка ісці мы не зможам, не хопіць сіл. А ў Баршчоўскім лесе няхай абкружаюць. Там яму прыйдзецца расцягнуць свой фронт на дзесяткі кіламетраў, а мы будзем, як дома. Зможам манеўраваць. Акрамя таго, у лесе хаваюцца баршчоўцы з жывёлай і хлебам, яны падтрымаюць прадуктамі. А там і Крушына падыдзе. Згодзен?

— Згодзен-то згодзен, але раптам Адлер пачне наступленне раніцой. Не падабаецца мне гэтая перагрупіроўка: туды — батарэю, сюды — пяхоту.

У такім выпадку атрад Майбарады зноў-такі будзе дарэчы. Мы дадзім ім сігнал, і яны пачнуць атаку ў час адлераўскага наступлення і сарвуць яго. Так што давай хутчэй падумаем, каго паслаць. Наш "флот" чалавек дваццаць падыме? А ночка сёння цудоўная, другую такую не дачакаешся. Паслухай, як дождж шуміць. І цемра — хоць вока выкалі.

VIII

У гэты час кіламетры за два на поўдзень ад таго месца, дзе сядзелі Лясніцкі і Прыборны, у прыбярэжным зарасніку поўзаў чалавек у форме нямецкага салдата. Ён схаваў каля самага берага камплект афіцэрскай вопраткі і папоўз назад. Праз колькі хвілін ён шпарка ішоў па торнай дарозе на поўнач. Яго спынялі вартавыя. Ён адразу паведамляў ім пароль, а падышоўшы бліжэй, лаяўся і гаварыў чыста па-нямецку:

— Лінія дзесьці парвалася, чорт яе вазьмі! Шукай цяпер у цемры, — І, закурыўшы з вартавым, ішоў далей.

Так ён хутка абмінуў тое месца, дзе былі абкружаны партызаны, І пачаў набліжацца да Дняпра з другога

боку. Але тут ён сышоў з дарогі і зноў вельмі асцярожна папоўз праз кусты. Ён раз-пораз спыняўся і прыслухоўваўся. Часта і гучна стукала сэрца, ажно кроў калюча штурхала ў скроні. Чалавек злаваўся на ўласнае сэрца. Ніколі яшчэ яно не перашкаджала яму так, як у гэты раз. Але ён баяўся не за сябе. Не!.. Страху ў яго не было.

Нарэшце яму ўдалося дабрацца да ракі. Тут ён асцярожна распрануўся, накруціў вопратку на цяжкі тэлефонны апарат і,

зайшоўшы ў ваду па грудзі, апусціў яе на дно ракі, а сам ціха паплыў. І тады сэрца яго перастала біцца так спалохана.

На сярэдзіне шырокай ракі, над шматметровай глыбінёй, над чорнымі вірамі ён адчуваў сябе спакойна і ўпэўнена і, плывучы, адпачываў. Як кожны спрактыкаваны разведчык, ён пачаў успамінаць і дэталёва аналізаваць зробленае — ці няма часам дзе памылкі? Успамінаў усё, кожнага чалавека, кожную размову...

...Генерал сустрэў усмешкай.

— Зноў не ўдалося вам адпачыць. Не шанцуе.

— Правільней кажучы, шанцуе, — паправіў ён.

— Так, шанцуе, — згадзіўся генерал. — Аднак да справы. Ёсць вельмі адказнае і, не хаваю, складанае заданне. Гітлераўцы пачалі вялікую карную экспедыцыю супроць прыдняпроўскіх партызан. Неабходна пранікнуць у штаб камандуючага экспедыцыяй і дапамагчы партызанам разграміць карнікаў. Такая агульная задача.

Генерал змоўк. І ён хутка спытаў:

— Дэталі?

— Спяшаецеся, малады чалавек. У нашай справе гэта дрэнна, памятайце. Не думайце, што мы вас выкінем — і ўсё. Што-ніўто падрыхтавана. Першае. Дзён сем назад мінскія партызаны злавілі ў межах горада п'янага афіцэра. Фашыст аказаўся кінааператарам, агентам Гебельса. Камандзіраваны ў стаўку вярхоўнага камісара. Але пабыць там не ўправіўся, у камендатуры таксама не адмеціўся. Скарыстаем яго.

Генерал пакорпаўся ў шуфлядзе і дастаў дакументы.

— Вось яго дакументы. Ужо з усімі патрэбнымі адзнакамі. А вось папера, у якой значыцца, што аддзел інфармацыі стаўкі камандзіруе кінааператара Адольфа Рэхнера ў штаб камандуючага карнай экспедыцыяй генерал-маёра фон Адлера. Будзеце здымаць. Да ночы пазаймаецеся з вопытным кінааператарам. Ён раскажа вам будову апарата.

— Я ведаю.

— Не пашкодзіць паўтарыць, тым больш што ваш апарат будзе мець трохі іншую будову.

Ён зразумеў... Генерал усміхнуўся.

— Але галоўнае — разведка і толькі разведка. Сувязь з брыгадай Крушыны і з брыгадай Прыборнага, з вашымі старымі знаёмымі. Праз іх — з намі. Другіх явак няма, У гэтым складанасць.

Потым з другімі людзьмі ён высветліў усе падрабязнасці. Размоў з імі ён дакладна не памятаў, бо яны былі доўгімі і па-сяброўску простымі, але сутнасць іх і змест памятаў добра. Спачатку ўсё ішло

так, як было распрацавана ім разам з генералам і яго памочнікамі. Так усё ішло па парадку да таго часу, пакуль ён не выканаў першую частку аперацыі — не пранік у нямецкі штаб. Але тут увесь план быў паламаны. Ён даведаўся, што адна з брыгад, з якой ён павінен быў устанавіць сувязь, а іменна брыгада Прыборнага, абкружана карнікамі. У разведчыка дрогнула сэрца. Брыгада была яго роднай сям'ёй. У адным з атрадаў была яго жонка.

Ратаваць брыгаду — вось што стала галоўнай яго задачай. Але не нарабіць бы памылак, бо занадта ўжо ён завіхаецца. Для разведчыка гэта страшнейшая небяспека.

Андрэй Буйскі павярнуўся на спіну і, павольна падграбаючы пад сябе ваду, пачаў думаць аб дэталях новай сваёй задачы, якая не была прадугледжана раней. Складаная задача.

«Ці жывыя яны там, Насця, Павел Сцяпанавіч, Пецька?.. Толькі б былі жывыя...»

IX

Не скончылі яшчэ Лясніцкі і Прыборны падбіраць людзей у групу Майбарады, як пасыльны з атрада Лубяна папрасіў іх тэрмінова прыйсці на бераг.

— Нехта прыплыў. Пад вывернутай сасной чакае.

Не дайшоўшы да берага, Лясніцкі тварам у твар сустрэўся з чалавекам, захутаным у палатку.

— Павел Сцяпанавіч!

— Андрэй?

Яны моцна абняліся. Мокрае цела Андрэя Буйскага яшчэ пахла ракой.

Падбег Прыборны.

— Пачакай, хто такі? Андрэй, Андруша? Сню я, ці што? Скуль ты зваліўся? Ды дай ты мне, камісар, абняць яго. Ат жа, які прагны чалавек!

— Дайце, таварышы, апрануць што-небудзь. Застываю.

Прыборны скінуў свой шынель І накінуў на Андрэя.

— На, на... І хутчэй расказвай... Скуль? Як? Які бог паслаў цябе да нас?

Андрэй агледзеўся.

— Лішняга нікога няма?

— Няма, няма. Месца надзейнае. Смела гавары, — ажно ўвесь дрыжаў ад напружанага чакання Прыборны.

Яны селі на мокрыя галіны.

— Пачакайце, усё раскажу. Скажыце толькі, — ён зрабіў кароткую паўзу, нібы задыхнуўся, і сціснуў руку камандзіра. — Насця?.. жывая?..

— Жывая, Андруша, жывая. Мы яе берaглі, як вока.

— Можна паклікаць яе сюды?

— Яўген Сяргеевіч, схадзі да раненых. Там яна з дзецьмі дзесь... Прывядзі яе сюды. Скажы, што я клічу, — сказаў Лясніцкі.

Жэнька моўчкі падняўся і нырнуў у цемру; па кроках было чутно, што ён пабег.

За ракой узляцелі ў вышыню ракеты, рассыпаліся, але святло іх не дасягнула гэтага берага. Калі ракеты патухлі, нізка над вадой павіслі каляровыя ніткі трасіруючых куль. Кулі ўпіліся ў абрывісты бераг. Дакаціўся глухіляскат кулямёта.

— Палохаюць, — сказаў Лясніцкі.

— Баяцца, каб вы раптам не зніклі сярод ночы. Фон Адлер трымаецца за вас, як чорт за душу. Разгром вас — яго слава, яго поспех, новы крыж і, магчыма,, урэшце павышэнне ў званні. Ён сам увесь час тут. Камандны пункт яго ў Багунах, у школе. Ён упэўнены, што вас туг не менш пяці тысяч. Першыя дні атак каштавалі яму восемсот чалавек. Аднак па парадку, — і ён шэптам расказаў усё, што яны павінны былі ведаць. — І вось я ўжо тры дні здымаю фон Адлера. Між іншым, генерал вялікі аматар здымак, вельмі жадае трапіць на экран. Гэта палягчае маю задачу. І я рад, што звязаўся з вамі першымі. Давайце мне Маскву...

Прыборны і Лясніцкі ўздыхнулі.

— У нас разбіта рацыя.

— У-у-у чорт! Няўдача за няўдачай! — Андрэй задумаўся і думаў хвіліны тры, потым ціха сказаў: — Што ж... я і гэта меў на ўвазе. Будзем самі рашаць.

— Цяпер мы рашым! — весела адгукнуўся Прыборны,

— Цішэй. Ты гатоў закрычаць, нястрымная душа, — сказаў Лясніцкі.

— Але, трэба быць вельмі асцярожнымі, таварышы. Іх разведка таксама не спіць. Аднак бліжэй да справы. Аб вашым становішчы... Брыгада Крушыны, якая ішла да вас на выручку, затрымана пры пераходзе праз чыгунку і вядзе там цяжкія баі. Узрадаваны поспехам, фон Адлер назначыў на паслязаўтра канчатковае наступленне. Як думаеце, вытрымаеце?

— Калі ён думае наступаць толькі паслязаўтра, нам не давядзецца вытрымліваць. Наступленне пачнём мы, — і Лясніцкі расказаў разведчыку аб плане, які яны толькі што выпрацавалі.

— Што ж, план добры, — ухваліў Буйскі, уважліва выслухаўшы. — Але я плыў да вас, каб прапанаваць другі план, свой, здаецца мне, больш смелы. Я хацеў узгадніць яго з Масквой, спытаць дазвол, але, калі гэта немагчыма, давайце абмяркуем самі... Справа вось у чым... Заўтра ўвечары ці, правільней, сягоння ўжо, у дваццаць два нольноль, фон Адлер склікае нараду старшых афіцэраў. Гавораць, гэта яго непарушнае правіла: перад кожнай сур'ёзнай аперацыяй — нарада і ў канцы яе — «сямейная вячэра». Я, вядома, буду здымаць гэтых шакалаў... І я з дыму іх...

Прыборны часта і гучна дыхаў, нібы толькі што шпарка прыбег. Лясніцкі, наадварот, стаіў дыханне і моўчкі чакаў.

— Мая роля добрая яшчэ і тым, што ў апараце змешчана міна вялікай разбуральнай сілы. Ва ўсякім разе дастаткова для таго, каб падняць іх у паветра.

— Чакай, Андрэй. А сам ты як выберашся? — спытаў Лясніцкі.

— Але, — падтрымаў Прыборны.

— Сябе, канешне, я ўзрываць не думаю, — адказаў Андрэй. — Уцячы будзе няцяжка, шляхі для адступлення я ўжо разведаў. За мяне вы не турбуйцеся. Абмяркуем галоўнае... Калі дыверсія ўдасца, будзем спадзявацца на лепшае, карнікі пазбавяцца галавы. Часці застануцца без старшых афіцэраў... У выніку — паніка, дэмаралізацыя...

— І ў гэты момант павінны ўдарыць мы, — перапыніў Андрэя Лясніцкі. — Ясна! Ясна, Андрэй, як сярод белага дня. Ударым! І так ударым, што іскры з вачэй пасыплюцца ў гадаў...

— Так, і біце проста на Багуны. Пачынайце, як толькі пачуеце выбух. Не, убачыце. Гэта надзейней. Са школы бачны сосны каля ручая.

— Зробім! Усё зробім, Андрэй! Было б толькі ў цябе ўсё добра.

— Я ўпэўнены, але на вайне ўсяляк бывае. Чакайце не пазней як да гадзіны ночы. Будзе ціха — давайце сігнал Пятру, выканайце свой план. Але ўсё адно прарывайцеся на Багуны. Можа, тут і не самае слабейшае месца, але гэты ўчастак я добра разведаў, — ён падрабязна расказаў аб размяшчэнні артылерыі, кулямётаў, пры святле ліхтарыка начарціў схему.

Гэта заняло нямала часу. Андрэй схамянуўся:

— Аднак мне пара... Дзе ж гэта Насця? Так доўга.

Яны прыслухаліся.

Шумеў дождж. Праз гэты шум з глыбі лесу даляталі заглушаныя галасы, стогны раненых, крокі.

Потым злева, над ракою, дзе абарону займалі жаўноўцы, нехта нечакана зацягнуў вясёлую песню. Эсэсаўцы адразу ж адказалі дружнай кулямётнай стралянінай.

Прыборны засмяяўся.

— Вось чэрці, гэтыя жаўноўцы. Хвіліны супакою фрыцам не даюць.

Нарэшце пачуліся крокі і хрыплы голас Насці.

— Усё адно я не паеду, дарэмна ён.

Андрэй падхапіўся. Сэрца моцна закалацілася, перасохла ў роце.

Насця спынілася перад ім, не пазнаючы, і сказала:

— Таварыш камісар, я прыйшла, але я ведаю, навошта вы паклікалі, я гавару адразу...

Андрэй не даў ёй скончыць.

— Насця! — ледзь чутна прашаптаў ён.

Яна рванулася наперад, пазнала мужа і спалохана адхіснулася, не паверыўшы сваім вачам. Толькі калі ён паклікаў у другі раз, яна схапіла рукамі яго галаву і наблізіла яго твар да свайго.

— Андрэйка, любы, ты?

Ён моўчкі абняў яе і прыцягнуў да сябе.

Лясніцкі штурхнуў локцем Прыборнага. Яны падняліся і непрыкметна адышлі ўбок.

— Дай мне паглядзець на цябе, родны мой. Госпадзі, якая цемра. Нічога не бачу... Які ты! І не думала ўжо спаткаць цябе.

— Што ты, Насценька, мілая! Калі гэта ты страціла веру?

— Ой, не магу, Андрэй... не ма-агу, — яна прытуліла твар да яго грудзей і заплакала. — Сэрца згарэла... Колькі людзей навокал памірае!..

Ён не ведаў, якімі словамі суцешыць яе, і моўчкі гладзіў мяккія, мокрыя валасы.

— Але цяпер я не баюся, родны мой, — яна перастала плакаць, падняла галаву і зазірнула яму ў твар. — Божа, як шчасце прыходзіць раптоўна! Цяпер я нічога не баюся, калі ты са мной... Нічога... Цяпер мы ўвесь час будзем разам, мы ні на крок не адыдземся адно ад аднаго. Праўда, Андрэйка? І смерць, калі трэба, стрэнем разам.

Ён уздыхнуў і моцна сціснуў яе плечы.

— Ты ўходзіш? — амаль крыкнула яна ў роспачы.

— Праз хвіліну я пайду... Паплыву. Але... але заўтра ў такі час, а можа, і раней мы зноў сустрэнемся і ўжо не ў гэтым праклятым катле, а там, у родным лесе... І тады я доўга-доўга буду з табой, пакуль не з'явіцца і ён, наш маленькі... А потым... Ну, потым я яшчэ выканаю некалькі заданняў... І будзе канец... Будзе перамога, Насценька!

Чуеш? І як хараша мы будзем жыць з табой! — ён не ведаў, для чаго ўсё гэта гаварыў; проста яму хацелася суцешыць яе, прылашчыць, супакоіць.

— Куды ты ідзеш зараз? — спытала яна.

— Заўтра ты будзеш усё ведаць, мая родная. Заўтра. Але... мне пара. Бывай, любая, — ён падняўся, падняў яе, прытуліў да сябе і, не стрымаўшыся, гучна прашаптаў:

— Іду здымаць фон Адлера.

* * *

У тую ж ноч, пад раніцу, прыплылі на лодцы са старым рыбаком дзедам Лаўрэнам Цімох Бураў і Алена Рыгораўна.

Прыборны ад радасці расцалаваў іх.

— Вось жа праўду кажуць, не бывае гора без радасці. Ай да ночка, ночка цёмная, дажджлівая! Шчырае дзякуй табе, — узрадавана гаварыў ён. — Ну расказвай, расказвай. Што з Мікалаем?

— Жыў, ачуняе, — Алена ўздыхнула, — але без ног. Ампутыравала я ногі яму.

— Абедзве? — недарэчна спытаў Лясніцкі.

Яна не адказала, і хвіліну цягнулася няёмкая цішыня.

— Ну, што вы сціхлі, як пры нябожчыку! Жыць нельга без галавы, а без ног жыць можна. Будзе жыць. І змагацца будзе, — сурова сказала яна. — Таццяна там з ім асталася. Люба нас знайшла і аб усім расказала. Вось мы і паехалі. Ну, а ў вас як тут? Цяжка? Раненых многа?

— Раненых многа. І цяжка было, вельмі цяжка. Але зараз — нічога. Сёння, Аленушка, мы — пераможцы, — таямніча прашаптаў Прыборны.

Дзед Лаўрэн недаверліва і дакорліва паківаў галавой.

X

Мацей Кулеш праклінаў свой лёс. Нідзе яму не ўдавалася схавацца ад смерці. Яна хадзіла за ім па пятах, знаходзіла ўсюды. Пасля смерці Койфера і знікнення Візэнера яму здалося, што, нарэшце, яна адстала, і ён, стаіўшыся, чакаў і надзвычай доўга ачуньваў ад лёгкай раны, якую ён атрымаў, калі вёў немцаў на Ласіны.

А зімой перамаглі партызаны. Яны занялі цэлы раён, у тым ліку і Арэхаўку. Партызанскае камандаванне верыла яму, Мацею Куляшу, — ён жа зрабіў ім паслугу. Кулеш стаў сваім чалавекам у партызан. Праўда, трымаў сябе ён вельмі сціпла, непрыкметна, як звычайны селянін. Свае прыязныя пачуцці да партызан выказваў толькі надзей-

ным людзям. Добра ён жыў гэтыя зімовыя месяцы! Упершыню за вайну ў яго былі дні, калі ён не думаў аб смерці і яна жудасным прывідам не вісела над ім. Цяпер яму хацелася пражыць так і да канца. О, Мацей Кулеш быў не дурань, ён ужо бачыў, якім будзе гэты канец. Сталінград і поспехі партызан адкрылі і яму вочы. І тады яго апанаваў яшчэ большы страх за сваё жыццё.

«Куды схавацца? Дзе перачакаць усё гэта?» — з жудасцю думаў ён.

Калі вясною партызаны адступілі з Арэхаўкі, ён, прыкінуўшыся хворым, застаўся ў вёсцы, стаіўся, адрасціў бараду, ва ўсім дагаджаў жонцы, старанна працаваў у гаспадарцы і дапамагаў салдаткам. Але нечакана аднойчы ўвечары, калі ён вяртаўся з поля, яго спаткаў незнаёмы чалавек з сінім тварам і загадаў з'явіцца ў камендатуру. Валасы сталі тырчка на галаве ў Куляша. Смерць зноў глянула ў вочы. У гэты час ужо дзейнічала карная экспедыцыя. Навокал гарэлі вёскі. Людзі ўцякалі ў лясы. І Кулеш не пайшоў у камендатуру. Некалькі дзён ён адзін, як галодны воўк, блукаў па лесе. Выпадкова яго сустрэлі знаёмыя партызаны, прапанавалі ісці з імі, і ў яго не хапіла мужнасці адмовіцца. Разам з імі ён трапіў у абкружэнне.

Нідзе і ніколі яшчэ Мацей Кулеш не глядзеў так блізка ў твар смерці, як тут. Яна вісела над ім штохвілінна. І ён кідаўся ва ўсе бакі, як пацук у пастцы, ледзь не выў ад жаху і грыз пальцы. О, ён усё зрабіў бы, каб ратаваць сваё жыццё! Але як ратаваць яго тут? Як? Перабегчы да немцаў? Але што сказаць ім, каб апраўдаць сваю сувязь з партызанамі? Трэба прынесці ім карысныя звесткі. Так, трэба адшукаць, падслухаць такія звесткі і прадаць іх за права існаваць на зямлі. Бо ўсё адно тут, у блакадзе, смерць, выйсця з гэтай пасткі няма. А там можна будзе паехаць з немцамі, уцячы, схавацца.

І Кулеш пачаў хітрыць зноў. Калі пачалі захворваць, ён «захварэў» адзін з першых і цяжэй за ўсіх — стагнаў, поўзаў, корчыўся ад болю. Яму верылі і клапатліва лячылі, хавалі ад куль і камароў.

А ён напружана прыслухоўваўся і прыглядаўся да ўсяго, каб не прапусціць зручнага моманту выявіць важныя звесткі.

Пачуўшы, што Жэнька Лубян тэрмінова сярод ночы кліча да камісара брыгады Насцю, ён папоўз следам за імі і падслухаў размову Насці з мужам. У яго ажно закружылася галава, калі ён пачуў шэпт Андрэя: «Іду здымаць фон Адлера».

О-о, Кулеш ведаў, што за птушка гэты муж Насці Зайчук, ён чуў аб ім яшчэ зімой і бачыў, з якой пашанай праводзілі яго ў Маскву. Добра ведаў ён, хто такі і Адлер. Нарэшце! Нарэшце ён зрабіў першы

крок да ратунку: за такія звесткі, безумоўна, яму даруюць усё і нават могуць дапамагчы выехаць куды-небудзь, схавацца.

Толькі як выбрацца адсюль? Як перадаць усё гэта? Ён кінуўся да ракі і доўга глядзеў на цёмную плынь і ўсё адно ўбачыў смерць — чорныя, бяздонныя віры глядзелі на яго, і ён адскочыў ад вады. Не! Не! Які ён плывец! А тут такія віры, такая плынь!

Да світання нябачнай гадзюкай поўзаў ён па лагеры, у розных месцах падпаўзаў да пярэдніх акопаў, але ўсюды яго сустракаў суровы вокліч вартавых:

— Стой! Хто ідзе?

Ён поўз у кусты, каб не ўбачылі, не пазналі.

«Не спяць! Усю ноч не спяць! На кожным кроку вартавыя. Муха не праляціць, мыш не пралезе», — і Мацей Кулеш ледзь не выў ад роспачы і страху. Цяпер, калі была магчымасць ратавацца, думка аб смерці была яшчэ больш жудаснай. За гэтую ноч у яго пасівела ўся галава.

На світанні ён убачыў на беразе невялічкую рыбацкую лодку. Яна не была прыкута, а ляжала ў кустах, перавернутая ўверх дном, і нават вартавога не было блізка каля яе. Яго пачало калаціць. Чаму ён уначы не знайшоў гэтай лодкі? Як яна з'явілася тут?.. Пасля ён даведаўся, што на ёй прыплыла ўрач Алена Рыгораўна.

«Сама прыплыла ў гэтае пекла? — Кулеш нават на момант разгубіўся, не разумеючы, што прымусіла яе з'явіцца туды, дзе ўсіх чакае смерць. — Дурні, вар'яты! Хай лезуць хоць чорту ў зубы, а я хачу жыць. Жыць!.. Мне трэба гэтая лодачка».

Ён залез у галлё паваленых дрэў і ўвесь дзень не зводзіў вачэй з лодкі. Яго калаціла, як у ліхаманцы, і дзень цягнуўся бясконца.

«Толькі ніхто не забраў бы яе, не адцягнуў бы...» — увесь дзень шаптаў ён адны і тыя ж словы. Яго не цікавіла, што рабілася ў лагеры, ён нават на выбухі снарадаў перастаў звяртаць увагу і толькі з задавальненнем адзначыў, што пад вечар усё радзей і радзей з'яўляюцца людзі на беразе.

«Дзякуй Богу, дзякуй Богу. Усе б яны адышлі адсюль».

Нарэшце сцямнела.

Ён выпаўз з свае бярлогі і доўга-доўга поўз да лодкі, спыняючыся праз кожны крок і прыслухоўваючыся.

Ціха...

Вось ён дакрануўся дрыжачымі рукамі да зацвілага, слізкага дна лодкі.

Ціха...

Перавярнуў яе, пасунуў перад сабой да ракі. Дзесьці заляскалі стрэлы. Гэта нічога, нічога... Хай цяпер страляюць больш, гучней...

Вось лодка загойдалася на вадзе. Ён адпіхнуўся, ускочыў у яе. Плынь падхапіла і панесла лодку ад берага.

Ціха...

Мацей Кулеш заціснуў далонямі рот, каб не закрычаць ад жывёльнай радасці, а потым, захлынаючыся, зашаптаў:

— Вось ён, Мацей Кулеш. Свісніце цяпер яму... Згіньце цяпер там усе. А я яшчэ пажыву! Па-а-жы-ву-у!

XI

Колькі разоў прымала Алена роды! І кожнай:

парадзісе, калі той было вельмі цяжка, ласкава гаварыла:

— Крычы, мілая, крычы. Ад гэтага лягчэй будзе, — і кожны раз сэрца яе напаўнялася радасцю за маці і нованароджанага. Яна не шкадавала парадзіх за іх пакуты: гэты былі пакуты для будучага шчасця. Часта яна проста зайздросціла ім.

Але вось першы раз у жыцці яна вымушана гаварыць збялелай ад родавых схватак жанчыне:

— Маўчы, Насценька. Трывай, мілая, трывай.

І, магчыма, ад гэтага ў самае яе балюча сціскалася сэрца, і яна думала:

«Як усё гэта недарэчна. Дзе гэта якой акушэрцы ці ўрачу даводзілася прымаць роды на хаду. А вось, мабыць, давядзецца. Толькі рушым, і можа пачацца».

І Насця, нібы адгадаўшы Аленіны думкі, прашаптала:

— Як гэта не ў час усё.

Яна ляжала на самаробных насілках, і цела яе, пакрытае вільготнай прасцінай, курчылася ад болю. Яна кусала край прасціны, затыкала ёю рот, каб не закрычаць.

Шчыльна абкружыўшы насілкі, стаялі жанчыны. А навокал па ўсяму хвойніку ў ямах ад снарадаў і бомбаў, у галлі паваленых дрэў і так пад соснамі ляжалі, сядзелі і стаялі партызаны. Уся брыгада была сцягнута сюды, у гэтае месца. Хворыя і раненыя, якія не маглі ісці самі, ляжалі на самаробных насілках.

А трохі наперадзе, у акопах на краі хвойніку, размяшчаўся ўдарны атрад, сабраны з найлепшых і дужэйшых байцоў усіх атрадаў, не меўшых, акрамя зброі, больш ніякага грузу. Гэтыя трыста чалавек пад камандаю камандзіра і камісара брыгады павінны былі ажыццявіць прарыў.

Густы вільготны вецер гойдаў верхавіны дрэў, абмытых дажджом. Стагналі пакалечаныя сосны. Над лесам імкліва ляцелі хмары. Вецер сярдзіта гнаў іх на ўсход. Часам, не разлічыўшы свой пругкі ўдар, ён разрываў полаг хмар, і тады праз рухомыя прасветы згасаючымі іскрамі падалі на зямлю зоркі. Цемра ўсё больш і больш згушчалася. Халаднела. Людзі ў мокрай вопратцы дрыжалі ад холаду, ціснуліся адзін да аднаго. Раненыя, стрымліваючы стогны, кусалі рукавы, шапкі і рамяні.

Рэдкая страляніна час ад часу ўспыхвала каля Дняпра. Гэта заслонныя групы трывожылі карнікаў. Але на стрэлы ніхто не звяртаў увагі. Усе моўчкі глядзелі ўверх на вяршыні старых сосен, што ўзвышаліся над усім хвойнікам. Там сядзелі назіральнікі.

І людзі напружана чакалі.

* * *

Вялікі класны пакой быў заліты яркім святлом электралямп. Ток давала дынама-машына, якую генерал заўсёды вазіў за сабой разам з шматлікай кухоннай посуддзю і сталовымі сервізамі. Рухавік дынама-машыны прыглушана пыхцеў пад акном.

Састаўленыя сталы ўтварылі павучы знак — свастыку.

Бакалы, вазы і кілішкі са штучнага хрусталю пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі. Зіхацела віно.

Вакол сталоў, выцягнуўшыся, стаялі афіцэры. У цэнтры, на скрыжаванні лап свастыкі, — генерал-маёр фон Адлер, побач з ім — два палкоўнікі, далей — маёры, штурмфюрэры і іншыя фюрэры — асоб дваццаць. Гэта былі старшыя афіцэры часцей, якія раніцою павінны былі пачаць наступленне на абкружаных партызан і разграміць іх.

Толькі што скончылася нарада, на якой былі абмеркаваны і ўдакладнены ўсе дэталі заўтрашняй аперацыі.

Нарада адбывалася ў кабінеце камандуючага, і кінааператар Адольф Рэхнер не прысутнічаў там. Затое цяпер ён старанна бегаў з кутка ў куток класа і няспынна здымаў гэты ўрачысты ўступ «у сямейную вячэру».

Фон Адлер абвёў пакой, сталы і афіцэраў задаволеным позіркам. У глыбокіх вачах таілася хітрая ўсмешка, але твар быў урачыста-нерухомы. Ён паглядзеў на кінааператара і выкінуў наперад руку для фашысцкага прывітання.

— Хайль Гітлер!

Дваццаць рук, як па камандзе, узляцелі ўгару.

— Хайль!

Гэта было зроблена знарок для кінаапаратара, каб на экране быў паказаны патрыятызм і адданасць фюрэру.

— Паны афіцэры! — фон Адлер зрабіў доўгую паўзу, і ўсе стаілі дыханне. — Агульнымі намаганнямі мы з вамі закончылі вялікую аперацыю. Я гавару «закончылі» з упэўненасцю, якая павінна быць усім вам зразумела. Мы даказалі, што гэтыя лясныя бандыты, нягледзячы на іх фанатызм і дзікія спосабы вядзення вайны, нішто перад мужнымі, адважнымі нямецкімі салдатамі. Дазвольце мне першы тост падняць за нашу перамогу.

Зазвінелі шклянкі. Зашчоўкаў кінаапарат. Пакой напоўніўся стрыманым гоманам. Пілі за фюрэра, за вялікую Германію, за рашаючы год вайны. Аб гэтым рашаючым годзе фон Адлер сказаў таямніча, хітра прыжмурыўшыся, але яго разумелі і выпілі з асаблівым уздымам.

Кожны намагаўся перапіць суседа. Гоман мацнеў. Сярод маладзейшых ужо нехта п'яна смяяўся і хацеў зрабіць нешта такое, ад чаго яго са смехам стрымлівалі.

Фон Адлер павярнуўся да кінаапаратара.

— Пан Рэхнер! Хопіць вам здымаць. Гэта ўжо не ўяўляе цікавасці для гісторыі. Сядайце.

Генералу падабаўся гэты чалавек. Наогул жа ён быў дрэннай думкі пра людзей гэтай катэгорыі: пра апаратараў, артыстаў, журналістаў. Ён лічыў іх людзьмі ніжэйшага гатунку, якія па сваіх інтэлектуальных і ўсіх іншых якасцях стаяць значна ніжэй за іх, вайскоўцаў, кадравых афіцэраў. Але гэты Рэхнер здзівіў яго сваёй усебаковай адукаванасцю, культурнасцю і, што асабліва важна, разумнымі перакананнямі сапраўднага патрыёта вялікай Германіі.

Фон Адлер з прыемнасцю і нават асалодай, якой ён не адчуваў ужо даўно, гутарыў з кінаапаратарам некалькі разоў. Яму падабалася нават тое, што гэты маленькі чалавечак адважваўся (праўда, вельмі ветліва) спрачацца з ім, генерал-маёрам фон Адлерам. А калі яму данеслі ў дадатак да ўсяго аб выключнай смеласці Рэхнера, якую той праявіў, здымаючы бой на чыгунцы, генерал пры наступнай сустрэчы сказаў яму:

— О, о, пан Рэхнер, я жадаў бы, каб Германія мела больш такіх людзей, як вы.

Цяпер за сталом ён па-апякунску кіўнуў яму галавой і ціха сказаў:

— Заўтра ў вас будзе вельмі многа цікавай работы, пан Рэхнер.

Рэхнер ветліва пакланіўся.

— Дазвольце задаць вам адно пытанне, пан генерал. Што вы будзеце рабіць з палоннымі партызанамі?

Маленькі палкоўнік з надзвычайна чырвоным носам, перацiснутым пенснэ, засмяяўся.

— Вы спытайце аб гэтым у обер-штурмфюрэра Ганца. Гэта ўваходзіць, у яго абавязкі, — і ён нечакана паклікаў: — Обер-штурмфюрэр Ганц! Пан кіназдымшчык цікавіцца, што вы будзеце рабіць з палоннымі партызанамі.

Вялікі, рыжы эсэсавец з чырвоным тварам і бычынай шыяй н'яна зарагатаў.

— Заўтра я пакажу вам, што буду я рабіць з імі. Запрашаю вас у маю роту. Вось дзе ў вас будзе сапраўдная работа!

Рэхнер усміхнуўся, але твар яго на няўлоўны міг пацямнеў, а рука спаўзла пад стол, і пальцы моцна сціснуліся ў кулак.

— Мяне асабіста цікавяць толькі двое з іх, — сказаў фон Адлер. — Гэта іх камандойрэ Лясніцкі і Прыборны. Так, здаецца, капітан? Іх я жадаў бы ўбачыць перад сабой жывымі.

Гутарку перарваў рэзкі, трывожны тэлефонны званок, які прымусіў усіх, нават і п'яных, змоўкнуць і насцярожыцца. Ад'ютант генерала, прыгожы малады капітан, падскочыў да апарата, што стаяў на падаконніку, схапіў трубку, але праз хвіліну павярнуўся да фон Адлера.

— Камандзір шостай роты настойліва просіць асабіста вас, пан генерал.

— Што ён там лезе праз галовы, чорт вазьмі! — прабурчаў лысы маёр.

— Кажа, надзвычайна важная справа.

Фон Адлер цяжка падняўся, відаць, нездаволены, што яго турбуюць, і, не спяшаючыся, падышоў да тэлефона.

У Андрэя трывожна стукнула сэрца. Ён зразумеў, што здарылася нешта такое, што раптам можа прымусіць усіх афіцэраў пакінуць гэтую залу, і тады... тады ўсё праваліцца. Трэба не губляць часу. Ён падняўся адначасова з генералам, шпарка падышоў да апарата, нахіліўся, робячы выгляд, што хоча здымаць. Ледзь чутна цікаў гадзіннікавы механізм заведзенай міны.

Андрэй паглядзеў на гадзіннік. Да выбуху заставалася чатырнаццаць хвілін. Занадта многа! За гэты час яны могуць усе выйсці. Што рабіць? Ён падняў галаву і ўбачыў, што фон Адлер раптам крута павярнуўся да яго. Позіркі іх сустрэліся. Твар генерала ўраз зрабіўся шэрым, вочы драпежна загарэліся, задрыжала рука, якой ён моцна прыціскаў да вуха тэлефонную трубку.

Чуццём разведчыка Андрэй адчуў, што фон Адлеру дакладваюць аб ім.

«Прадаў хтось» — маланкаю бліснула думка. — Ухадзіць? Позна... Так, позна. Кінуцца, паваляць апарат, пашкодзяць механізм ці здагадаюцца...»

Не зводзячы вачэй з генерала, вытрымліваючы яго праніклівы драпежны позірк, ён рукою намацаў на корпусе апарата сярод шматлікіх вінцікаў і трубачак знаёмую кнопку, выцягнуў засцерагальнік.

«Даруй, Насценька, што я схлусіў табе, што мы сустрэнемся сёння. Мы не сустрэнемся ніколі. Бывай, родная. Бывайце, таварышы... Павел Сцяпанавіч, Сяргей Фядотавіч. Бывай, мая Радзіма. Успамінай свайго вернага сына. Жадаю табе хуткай перамогі і шчасця», — і ён убачыў яе — Перамогу: залітая сонцам святочная Масква, мільёны людзей і сцягоў, Красная плошча.

— Бывайце... — Андрэй не скончыў думкі.

Фон Адлер адарваў ад вуха тэлефонную трубку, паказаў на яго:

— Узяць яго!

Андрэй усміхнуўся.

— Позна, генерал! Апошні здымак, — і палец націснуў кнопку імгненнага дзеяння.

* * *

— Выбух! — адначасова крыкнулі ўсе назіральнікі.

Людзі ў лесе падхапіліся.

Праз некалькі секунд дакаціўся глухі выбух. І следам за ім ударылі партызанскія гарматы, пасылаючы ў ворага апошнія снарады, застрачылі кулямёты, аўтаматы, вінтоўкі.

Грымнула «ўра».

Ударны атрад пайшоў на прарыў,

Тыя, хто застаўся ў лесе, напружана чакалі. Страляніна і крыкі хутка аддаляліся.

Нарэшце прагучала каманда і для раненых:

— Упе-е-радІ

Жанчыны падхапілі насілкі, на якіх ляжала Насця. Алена нахілілася над ёй, правяла па гарачым твары далоняй і ўзрушана крыкнула:

— Крычы, Насценька, мілая, крычы! Так будзе лягчэй!

## XII

— Хто мог прадаць Андрэя? Хто?

Прыборны ўзрушана хадзіў каля дубовага пачарнеўшага бервяна, на якім моўчкі сядзелі Лясніцкі, Лубян і Паўленка. Камандзір брыгады ў час прарыву быў ранены ў руку і цяпер трымаў яе ў шырокім вышываным ручніку, што вісеў у яго цераз шыю. Твар яго асунуўся, пацямнеў, зарос за час блакады густой барадою, але вочы ліхаманкава ззялі. Высокі, сутулы, ён рабіў крокаў дзесяць у адзін бок, спыняўся, хвіліну задуменна стаяў, потым нечакана, па-вайсковаму спрытна, паварочваўся і ішоў назад, цяжка, з хрыпам дыхаючы. Час ад часу здаровай рукой цёр лоб, кудлачыў валасы.

— Хто мог прадаць Андрэя?

Жэнька ўважліва сачыў за кожным рухам і адценнем твару камандзіра. Яму таксама не сядзелася на месцы.

Толькі што дапыталі палонных немцаў. Некалькі раненых афіцэраў, цудам уцалеўшых, расказалі аб гераічнай смерці Андрэя. Палонны тэлефаніст удакладніў іх расказ, паведаміўшы змест тэлефоннай размовы паміж камандзірам шостай роты і нябожчыкам фон Адлерам. Камандзір роты далажыў генералу, што ад партызан прыплыў перабежчык і сцвярджае, што ў штабе экспедыцыі знаходзіцца вядомы савецкі разведчык. Ноччу ён наведаў лагер, і здраднік сам чуў, як ён на развітанне сказаў жонцы: «Іду здымаць фон Адлера».

Пасля допыту адразу стала зразумела, што Андрэй загінуў у выніку здрады, і гэта страшэнна ўразіла ўсіх.

Паўленка закрыў далонямі твар і сядзеў нерухома, як статуя.

Лясніцкі разглядаў захопленыя дакументы, фотаздымкі, але рукі яго прыкметна дрыжалі, на шырокім чыстым ілбе і на скронях надуліся вены, нібы яму не хапала паветра ў вялізным прасторы лесу, напоўненага гоманам майскай раніцы.

Ён успамінаў усе самыя нязначныя падрабязнасці апошняй сустрэчы з Андрэем, усе падзеі той ночы. Як здраднік мог паведаміць фашыстам, як ён выбраўся? — вось з чаго, здавалася яму, трэба пачынаць, каб разблытаць увесь гэты клубок.

У час прарыву шаснаццаць чалавек загінулі без вестак. Спачатку Лясніцкі меркаваў, што здраднік — адзін з гэтых шаснаццаці. Але пасля высветлілася, што ўсіх гэтых людзей бачылі перад самым выбухам — усе яны былі ва ўдарным атрадзе. Целы забітых адшукалі, раненыя таксама ўсе падабраны. А больш, як паказаў падлік, ніводзін чалавек з атрадаў не знік. Аднак палонны тэлефаніст сказаў: «Прыплыў перабежчык». Іменна перабежчык, а не іх агент, не нейкі там 27 ці 359. Хто ж гэта мог быць? Чаму губляецца ў падліку гэтая агідная адзінка?

І раптам бліснула думка: перабежчык мог у час бою вярнуцца назад. Лясніцкі схапіўся за гэтую думку: «Так... Магчыма. Шостая рота карнікаў стаяла на левым флангу. Удар па ёй нанёс Лубян. Атрад яго знаходзіўся ў ар'ергардзе, павінен быў абараняць раненых і хворых. У бой ён уступіў апошнім, калі мы ўжо прарваліся. У атрад улілося шмат хворых і раненых... І вось сярод іх...»

— Хто з хворых і раненых з'явіўся ў атрадзе ў час бою? — спытаў Лясніцкі ў Лубяна.

Жэнька паціснуў плячамі.

— Усіх не назаву, Павел Сцяпанавіч. Многа з чужых атрадаў. З тых, каго ведаю, — Лямцаў, Рута, Крапівін, Лапаціна Вера з атрада Кандыбы, Кулеш...

— Кулеш?

— Кулеш, — Жэнька паглядзеў на камісара і здагадаўся, аб чым той падумаў. — Не, не можа быць, Павел Сцяпанавіч. Я яго ўбачыў адразу ж, як толькі выйшлі з сасняку, і накіраваў у штаб сувязным разам з Махоткам.

Прыборны, які няспынна нервова хадзіў, не чуў гэтай іх кароткай размовы. Праз хвіліну ён спыніўся перад Лясніцкім.

— Кінь ты гэтую погань. Што ты варожыш над ёй! Ідзем лепей да людзей, запытаем у іх. Народ знойдзе здрадніка.

Паўленка адняў ад твару рукі.

— Так, трэба аб'явіць аб здрадзе ў атрадах.

Лясніцкі кінуў пад ногі, у траву, папкі з дакументамі, выпрастаўся.

— Не! З гэтым трэба пачакаць. Гэта — крайнасць. Сказаць — значыцца даць магчымасць здрадніку ўцячы. У нас хопіць сіл знайсці яго іншым спосабам. Ад нас ён не схаваецца нідзе. А каб ён яшчэ не напаскудзіў, трэба быць больш пільнымі. Даверлівымі мы зрабіліся ў апошні час — вось у чым наша памылка. Ідзі сюды, Сяргей. Што ты хістаешся, як маятнік!

Прыборны паслухмяна падышоў і сеў побач з камісарам.

Лясніцкі паклаў яму на плячо руку, зазірнуў у яго змучаны твар і клапатліва спытаў:

— Баліць рука? Што сказала Алена?

Прыборны паморшчыўся.

— Ат, не да рукі. Душа баліць, Павел. Крывёю абліваецца за Андрэя. Да Насці не магу падысці. Што ёй сказаць?

Хвіліну памаўчалі. Потым Лясніцкі ціха сказаў:

— Але пара, таварышы, падумаць і аб далейшым. Жалоба жалобай, а справы справамі. Жывыя павінны думаць пра жывое. Я

прапаную такі план. Абяскроўлены мы, канешне, здорава. І, галоўнае, звязаны вялікай колькасцю раненых. Ды і без сувязі, без радыёстанцыі дзейнічаць нам зараз цяжка. Гэта не сорак першы год. Пойдзем на злучэнне з брыгадай Крушыны. Дапаможам ім дабіць рэшткі карнікаў. А самае галоўнае: па-першае, звяжамся са штабам злучэння і з Масквой, выклікаем самалёты, каб эвакуіраваць цяжкараненых; па-другое, прыйдзем зноў у свой раён, дзе знаёмы кожны чалавек, куст і сцежка, і гэта дасць нам магчымасць размясціць астатніх раненых у вёсках; па-трэцяе, зноў наблізімся да чыгункі, займем на ёй сваё месца. Практыка ў гэтай галіне ў нас багатая. Вось так... Эскізна, без дэталяў... Давайце вашы меркаванні.

— Мне здаецца, таварыш камісар, пакуль што рызыкоўна ісці ў гэтым напрамку, — азваўся першым Паўленка. — Туды адступілі галоўныя сілы карнікаў. І нельга сказаць, што яны разгромлены канчаткова.

— Яны не разгромлены канчаткова, але становішча ў іх такое, што яны цяпер вымушаны будуць не наступаць, а абараняцца. Цяпер мы будзем наступаць! — голас камісара загучаў цвёрда, рашуча. — І карнікі будуць разгромлены ў бліжэйшыя дні. Але... давайце вашы прапановы. Падумаем, узважым... Як ты, Сяргей?

— Я згодзен з табой. Толькі не спяшайся з выступленнем. Трэба даць людзям адпачыць. Я сам ледзь на нагах трымаюся.

— Выступім увечары. А цяпер трэба будзе паслаць за Маеўскімі, забраць Мікалая. Яго эвакуіруем на першым жа самалёце. — Лясніцкі звярнуўся да Паўленкі: — Аляксей Іванавіч, падбяры дзесятак дужэйшых байцоў і накіруй іх з дзедам Лаўрэнам. Каб не вяртацца ім назад, хай чакаюць нас у Баршчоўскім лесе.

Паўленка падняўся і пайшоў у глыб лесу, дзе чуліся галасы партызан і гарэлі агні.

— Ну, а нам з табой, Яўген Сяргеевіч, таксама трэба папрацаваць. Рэдактар наш ранены, друкарня часткова пагублена, часткова папсавана, а газету ўсё адно мы выпусціць павінны. Абавязкова трэба расказаць народу аб разгроме карнікаў і аб смерці гэтага сукінага сына Адлера. Хай парадуецца народ і яшчэ раз пераканаецца ў нашай сіле, у нашай непераможнасці. На наша шчасце, у адной захопленай машыне кілаграмаў сто паперы ёсць. Так што давай падумаем над матэрыялам. Немцы раззванілі ва ўсе званы аб нашым знішчэнні, а мы вось уваскрэснем.

Яны падсунуліся адзін да аднаго, схіліліся над аркушам паперы, які ляжаў у разгорнутай папцы ў Лясніцкага на каленях.

Падышла Алена. Яна была ў акрываўленым халаце, рукі таксама ў крыві, а твар — бледны, з застылымі рысамі. У кожным яе руху адчувалася вялікая змораннасць.

Яна падышла непрыкметна, як здань, і моўчкі села на калоду. Пацерла далонямі скроні.

— Што мне сказаць ёй? Супакою не дае, пытае, дзе Андрэй. Дзе ён? Ведаеце вы? — голас яе таксама быў абыякавы, змораны, глухі, нібы далятаў з глыбокай ямы. Яна не была ўпэўнена, што атрымае адказ на сваё пытанне, ды і непакою Насці не надавала асаблівага значэння. Ці мала што прыходзіць у галаву парадзіхам, асабліва пасля такіх пакутных родаў! Тым больш што ў час родаў яна ні разу нават не ўспомніла яго, а цяпер раптам: дзе Андрэй ды дзе Андрэй?

— Андрэй загінуў, — ціха сказаў Лясніцкі.

Алена хутка павярнулася да яго. Адразу на яе твары і ў вачах зніклі абыякавасць і зморанасць.

— Загінуў? — ёй захлынула дыханне. — Што ж мне цяпер сказаць ёй?

Лясніцкі падняўся.

— Пайшлі, таварышы, усе да яе. Пайшлі, Сяргей.

Брыгада размяшчалася ў гушчары дубовага лесу. Партызаны спалі хто дзе: на фурманках, на захопленых аўтамашынах і проста на сырой зямлі, пад дубамі. Не спалі толькі тыя раненыя, у якіх балелі раны, ды вартавыя і дзяжурныя на кухні. Яны намагалі кашаварам рыхтаваць снеданне з захопленых у немцаў харчоў. У выкапаных ямах гарэлі агні. Над агнямі віселі катлы.

Каля аднаго агню сядзелі Мацей Кулеш і Пятро Майбарада. Разведчык нядаўна вярнуўся з разведкі і цяпер не мог заснуць: не давала супакою пытанне — хто ўзарваў штаб? Ці жывы той разведчык? Ніхто з радавых партызан нічога дакладнага не ведаў, кожны выказваў свае меркаванні. Убачыўшы камандзіраў, Майбарада непрыкметна дагнаў Жэньку, які ішоў задні.

— Жэня, будзь сябрам, скажы, хто ўзарваў штаб? Люба, так? Толькі ад шчырага сэрца.

Жэнька сумна ўсміхнуўся.

— Пасля, Пеця, пасля, — і шпарка пайшоў даганяць камандзіра і камісара.

Разведчык дакорліва паківаў галавой.

— Эх ты, заганарыўся, д'ябал. У камандзіры вылез.

Здраднік сядзеў моўчкі. Ён быў вельмі ўражаны ўсім тым, што адбылося. Як добра пачалося, так дрэнна скончылася. Не чакаў ён такога канца. Здраднік намагаўся асэнсаваць падзеі ночы і не мог —

усё кружылася з шалёнай хуткасцю... Пасля выбуху ў штабе і атакі партызан сярод немцаў паднялася страшэнная паніка. Кулеш убачыў людзей, падобных да сябе, якія перад тварам смерці забылі на ўсё. Ён зразумеў, што не цяпер, дык пазней эсэсаўцы спагоняць злосць на ім, і, скарыстаўшы паніку, уцёк. У здрадніка ледзь не выскачыла ад страху сэрца. Але хутка ён зразумеў, што ў адным яму пашанцавала: ніхто не заўважыў яго адсутнасці і ўсе лічылі, што ён быў разам з імі з самага пачатку. Жэнька Лубян нават накіраваў яго ў штаб брыгады. Усё камандаванне ўбачыла яго як актыўнага партызана, які ў адказны момант забыў на сваю хваробу і ішоў у бай плячо ў плячо з усімі. Цяпер ён здагадаўся, што Андрэй загінуў, і радаваўся гэтаму, бо трус заўсёды радуецца смерці героя, магчыма, лічыць гэта за перамогу сваёй трусасці над адвагай і мужнасцю.

...Насця ляжала пад разгалістым дубам, клапатліва абгароджаная з усіх бакоў трафейнымі палаткамі. Для яе і народжанага сына партызаны знайшлі ўсё неабходнае: падушкі, коўдру, чыстыя прасціны, тканіну для пялёнак, лепшыя харчы і нават свежае малако. Яна была вельмі знясілена цяжкімі родамі. Абяскроўлены твар яе і рукі былі бялей за прасціну, а вочы сталі яшчэ больш выразнымі і блакітнымі. Яна глядзела на лісце і горача шаптала:

— Дзе ты, родны мой, любы? Дзе ты?

Потым павярнулася да дзіцяці, пяшчотна кранулася губамі яго ружовага лобіка.

— Сыночак мой! Дзе твой тата? Чаму яны ўсе маўчаць? Што яны хаваюць ад нас? Не, не... Не бойся, сынок. Ён жывы, жывы. Ён прыйдзе. Андрэйка, любы, прыйдзі хутчэй... Паглядзі на сына. Бач, які ў цябе сын!

Яна ўстрапянулася, калі пачуліся крокі і хтосьці адкінуў палатку.

«Ён».

Але, павярнуўшыся, Насця ўбачыла Лясніцкага і Прыборнага і хутка села, працягнула да іх рукі.

— Нарэшце вы прыйшлі. Дзе Андрэй? Сяргей Фядотавіч!.. Дзе Андрэй?

Прыборны падышоў і ўзяў яе бледныя рукі, сціснуў іх у жмені.

— Дачка мая!.. Андрэй... — але голас яго задрыжаў і абарваўся, ён закрыў далоняй вочы і прыціснуўся лбом да шурпатай кары дуба.

Насця схапіла абедзвюма рукамі камандзіра за плечы, закрычала:

— Гаварыце! Я не баюся!

— Андрэй загінуў смерцю героя, каб ратаваць брыгаду. Ён узарваў нямецкі штаб і не мог уцячы, — павольна, расцягваючы словы, сказаў Лясніцкі.

Насця расчапіла пальцы, звыклым рухам паправіла валасы і вельмі асцярожна, нібы баючыся зрабіць сабе балюча, легла.

Алена падбегла да яе, але яна ледзь прыкметным кіўком галавы папрасіла яе адысці.

Ляжала яна доўга. Ляжала нерухома, і позірк яе блакітных вачэй быў утароплены ў нейкую адну кропку ўгары, у нейкі адзін ліст на дубе. Але не бачыла яна ў гэты момант ні ліста, ні блакіту неба — нічога. Некалькі хвілін было душэўнае здранцвенне. Потым яна захацела ўявіць твар Андрэя і не магла. Перад вачыма плылі твары маці, братоў, сяброў па атраду, а яго не было.

Колькі месяцаў яна не бачыла яго пры дзённым святле! Якой кароткай была гэтая сустрэча! «Заўтра мы зноў сустрэнемся...»

Што ён гаварыў яшчэ? Больш нічога яна не магла ўспомніць. Вельмі балюча кальнула ў сэрца. Хацелася крычаць ад гэтага болю. Яна сціснула зубы, паглядзела на прысутных і ўбачыла, што камісар нешта сказаў Алене і павярнуўся, каб непрыкметна выйсці. Яна спыніла яго:

— Павел Сцяпанавіч! Куды ж гэта вы? Што ж вы не паглядзелі майго сына, Андрэевага сына?

Яна хутка паднялася, узяла яго на рукі.

— Глядзіце, які ён, мой Андрэй.

Дзіця заплакала.

— Не плач, мой сыночак, не плач. Не будзем плакаць. Не трэба, сыначка. Ён загінуў, каб ратаваць нас, каб мы жылі. Не плач жа, не плач, мой маленькі Андрэйка.

XIII

Ганна Кулеш палола грады і ціха спявала.

Хораша было на душы ў яе — такая вось яснота, цяплынь і зелень, як і навокал. Не да твару сумаваць у такі час. Ды і што ёй сумаваць? Наадварот, радавацца трэба.

Яна падняла галаву, запэцканымі ў зямлю рукамі паправіла пасмы Валос, што выбіваліся з-пад хусткі.

Паліла сонца. Гарачай парай дыхала зямля, нядаўна напоеная шчодрым дажджом. Плыло нагрэтае паветра, пахла старым папялішчам.

Жанчына паглядзела на пачарнелую печ, на абгарэлыя яблыні і вішні і адвярнулася. Чаго гараваць па гэтым? Не ў аднае яе такое

гора. З усяе вёскі нейкім цудам засталася толькі школа, а то ўсё спалілі праклятыя карнікі. Ды нічога, усё адбудуецца, каб толькі ўсе жывыя ды здаровыя былі. А ў яе сям'і, дзякуй Богу, усе здаровыя, ды і ў Арэхаўцы ўся гэтая навала абышлася шчасліва: нікога больш не забілі, не спалілі, як у іншых вёсках. Людзі перачакалі ўсё ў лесе і дачакаліся радасных звестак: пазаўчора з суседняй вёскі ім перадалі зачытаную, памятую партызанскую газету. У ёй пісалася аб разгроме карнікаў і аб забойстве галоўнага іх генерала, душагуба гэтага. Туды яму і дарога. А для людзей гэта быў самы радасны дзень. Усе выйшлі з лесу, вярнуліся на родныя папялішчы, і ніхто не плакаў, гледзячы на адны печы ды на абвугленыя дрэвы.

Але асабіста для Ганны асабліва радасны дзень быў учора. Вёску наведаў з атрадам партызан-коннікаў Жэнька Лубян. Праязджаючы міма і ўбачыўшы яе на гародзе, ён саскочыў на хвілінку і весела сказаў:

— Добры дзень, цётка Ганна! Прывет ад Мацея. Чакай хутка ў госці.

Як радасна ў яе забілася сэрца! Нарэшце-то яе непуцёвы муж разам з усімі людзьмі, разам з Лясніцкім, з Жэнькам, з Маеўскім. Цяпер ужо ў яе не будзе ніякіх сумненняў. А то колькі пакутавала яна з-за яго паводзін! Невядома, чаму вярнуўся з арміі. І дома жыў не як усе: нечакана знікаў, нечакана з'яўляўся, прыносіў грошы, рэчы. А калі яна пачынала распытваць і адмаўлялася ад чужога дабра, злаваўся, лаяўся, нават спрабаваў біць. Страшныя думкі з'яўляліся тады ў яе. Праўда, у апошні час ён быў ціхі, пакорлівы і ласкавы, але ад гэтага не было лягчэй. А вось цяпер адразу стала на душы лёгка і ясна. Цяпер і яна можа ганарыцца сваім мужам і лічыць сябе салдаткай, як усе жанчыны.

— Мамачка, што гэта ты задумалася? Глядзі, я перагнала цябе.

Ганна схамянулася.

Яе дачка Клава глядзела з суседняй градкі на маці і весела жмурылася.

— Глядзела я, глядзела на цябе, мамачка.

Ганна вінавата ўсміхнулася і пачала палоць. Нельга марудзіць. І так, пакуль яны былі ў лесе, пустазелле заглушыла ўвесь гарод. «Трэба хоць тут навесці парадак, бо ў полі мала чаго пасеяна. Давядзецца жыць з гароду. Але і гэта нічога, вернуцца свае — не згінем. А што да зімы яны вернуцца — аб гэтым ужо ўпэўнена гавораць усе. Хутчэй бы надыходзіў канец гэтым пакутам. Досыць ужо нацярпеліся людзі...»

У другі раз яе думкі перабіў пяцігадовы Дзяніска. Ён падбег і пацягнуў маці за спадніцу.

— Ма, глядзі!

Яна павярнулася. Ад рэчкі праз яе гарод ішоў чалавек у доўгім паліто. Ішоў ён не па мяжы, як ходзяць усе добрыя людзі, а наўпрасцяк, па пасевах, і ўжо гэтая акалічнасць спалохала Ганну.

У незнаёмца быў чыста выгалены сіні твар з чырвонымі мяшкамі пад маленькімі прыплюснутымі вочкамі. Ён не прывітаўся, калі падышоў, а моўчкі сеў на граду, на праполатыя гуркі.

Клава балюча зморшчылася і сціснула кулачкі. Чалавек агледзеўся навокал, спыніў цяжкі позірк на дзецях і хрыплым голасам сказаў:

— Дзеці няхай адыдуць.

Але Клава і Дзяніска глядзелі на маці, чакаючы, што скажа яна.

Ганна маўчала, употайкі разглядаючы гэтага страшнага чалавека і азіраючыся, ці далёка суседкі.

— Ну!

Дзяніска шмыгнуў носам — вось-вось заплача.

— Клавуся, ідзіце нарвіце цяляці травы» — нарэшце сказала маці, і яны адразу паслухалі яе.

Сінятвары звярнуўся да Ганны:

— Ты — жонка Мацея Куляша?

Яна кіўнула галавой.

— Дзе твой муж?

— Я не ведаю, дзе мой муж. Ён не кажа мне, куды ўходзіць.

— Брэшаш ты, сцерва.

Абражаная Ганна ўспыхнула і памкнулася падняцца і пайсці да суседак, што працавалі непадалёк і цяпер з цікавасцю паглядалі ў яе бок. Аяе ён прытрымаў яе за руку. Яна з агідаю выхапіла руку.

— Ну, ну... Чакай... Я табе скажу, дзе ён, калі ты не ведаеш. У партызан. Гэта нам дакладна вядома. Захацеў замазаць сляды, праныра чортаў! Ды прамахнуўся. Не выйдзе! У нас хопіць сілы, каб прымусіць яго служыць. Перадай яму, што калі ён на працягу пяці дзён не з'явіцца да нас, у камендатуру, на шосты — яго павесяць партызаны, бо ім стане вядома ўся яго служба ў нас. Усё. І тое, як ён выдаў сем'і партызан, і справа Маеўскіх, і лагер на Ласіным ды і яшчэ тое-сёе... Зразумела?

Ганна не зводзіла вачэй з гэтага страшнага чалавека, які прынёс яшчэ страшнейшую вестку.

Незнаёмы падняўся, пагардліва ўсміхнуўся.

— Само сабой зразумела, калі хочаш, каб жыў твой ненаглядны мужанёк, трымай язык за зубамі, нікому — ні гу-гу. Вось так... Спяшайся знайсці яго, — ён павярнуўся і хутка найшоў назад, паглядаючы ў бакі.

Крык роспачы і раптоўнага гора ледзь не вырваўся з яе грудзей. Яна заціснула рот далонямі і знясілена села ў мяжу.

Падбеглі дзеці. Клава спытала:

— Мамачка, што ён сказаў табе?

— Нічога, нічога, Клавуся, — а сама думала: «Дык вось адкуль грошы і рэчы. Прадаваў людзей, родных, сваіх... Прадаў Маеўскіх, Лубянавых... Дзяцей... А-а! Недарма я баялася, недарма здагадвалася, што нядобрае ён робіць. Будзь жа пракляты ты, юда, уласнымі дзецьмі!» — магчыма, што апошнія словы думкі яна прашаптала ўслых, бо Клава раптам кінулася да яе, абхапіла рукамі за шыю.

— Мамачка, што ён сказаў табе?

— А-а!.. — Ганна заціснула дачцэ рот. — Маўчы, маўчы, дачанька. Пайшлі, дзеці, — яна паднялася і рушыла ў канец гародаў, дзе пачынаўся альховы зараснік. Дзяніска схапіў яе за падол і ішоў побач. Клава — следам.

Суседкі правялі іх здзіўленымі позіркамі і пачалі збягацца адна да аднае, каб абгаварыць гэтае здарэнне.

— Відаць, з Мацвей нешта здарылася, — згадзіліся ўсе на адным меркаванні.

...Ганне здавалася, што дастаткова зайсці ў лес, каб без асаблівай цяжкасці знайсці партызан. Але яны праблукалі некалькі гадзін, зайшлі ў незнаёмыя мясціны, у цёмны гушчар і не напаткалі ніводнай жывой душы. Ужо забалелі яе рукі і плечы ад Дзяніскі, бо дзіця стамілася і яго трэба было несці. Падбілася і прыстала Клава, пакалола босыя ножкі, пачала адставаць. У маці разрывалася сэрца ад жалю і роспачы. Некалькі разоў яна намервалася закрычаць, паклікаць партызан, але не было голасу. З грудзей вырываўся нейкі жудасны хрып, які толькі палохаў дзяцей. Хацелася заплакаць, каб слязьмі выліць гора, але не плакалася. Пякучы боль паліў грудзі.

«А можа, не выдаваць? Можа, маўчаць? Няхай лепей гэта зробяць іншыя. Няхай не я заб'ю бацьку маіх дзяцей... Ой, дзетачкі, дзетачкі! Сірацінкі мае! А калі гэтага ніхто не зробіць? Калі ён яшчэ прадасць нашых людзей і застанецца жывы?.. І прыйдзе жыць са мной?.. Жыць з Ім, ведаючы ўсё? Не, не... Лепей цяпер, чым тады... Лепей адразу, каб не чакаць, не пакутаваць. Дык ён жа можа прадаць усіх партызан. Няхай жа згіне адзін юда, чым сотні сумленных людзей!» — і яе рашучасць знайсці партызан і ўсё расказаць ім расла з кожным крокам.

Вечарэла.

Заплакаў Дзяніска.

— Я хачу есці. Хадзем дамоў.

— Патрывай, Дзяніска, хвіліначку, патрывай, мой маленькі... Скора прыйдзем да партызан і яны ўсяго-ўсяго табе дадуць.

— І татка там у іх? — з цікавасцю спытаў хлопчык.

Ганна застагнала.

— Ножку збіла, мама, так? А ты ціхенечка ідзі, — ад гэтага клопату малога зрабілася яшчэ больш балюча.

Сцямнела.

Яны селі пад густую елку. Хлопчык заплакаў зноў. Ганна раззлавалася:

— О Госпадзі! Дзе я табе вазьму хлеба! Спі ты, неўгамонны!

Дзяніска хвілінку пахліпаў і заснуў.

Клава не магла заснуць вельмі доўга, але ляжала моўчкі, рабіла выгляд, што спіць. У яе дзіцячай душы былі не меншыя пакуты, чым у душы маці. Адзін раз, калі маці цяжка ўздыхнула, яна не вытрымала — падхапілася, абняла яе.

— Мамачка, ну скажы ты... З таткам здарылася што?

— Спі, Клавуся, спі. І маўчы хоць ты.

Дзяўчынка змоўкла, але, заснуўшы, плакала і стагнала ў сне.

Ганна прасядзела над дзецьмі ўсю ноч. Усю ноч яна ўспамінала сваё жыццё. Толькі і было радасці ў ім: дружная, вясёлая праца ў калгасе ды вось яны, дзеці. А ад Мацея не бачыла яна радасці. Усё жыццё бадзяўся, усё шукаў лягчэйшага ды цяплейшага. І вось да чаго дашукаўся — сваіх людзей пачаў прадаваць чужынцам.

«Як знайсці партызан? Дзе яны?» — думала яна і раптам зразумела, што памылілася, што не так трэба шукаць іх. Трэба было расказаць аб усім надзейным людзям, параіцца з імі. Есць жа ў вёсцы людзі, якія ведаюць, дзе яны. Абавязкова ёсць.

На світанні яна разбудзіла дзяцей і пайшла назад. Але раніца была хмурная, і яна закружылася, заблудзіла і зноў доўга блукала па лесе.

Ніколі яна не ўяўляла, што лес такі вялікі, што можна хадзіць дзень і не выйсці на край яго. Яе ахапіў страх — за дзяцей, за тое, што яна можа спазніцца, што гэты страшны незнаёмы можа папярэдзіць яго і ён зробіць яшчэ больш жудаснае злачынства і схаваецца, пазбегне справядлівай кары.

Яна закрычала. Глухое кароткае рэха адгукнулася ёй. Прыслухаўшыся, яна пачула нейкі далёкі шум.

— Ды гэта ж цягнік, мамачка, — здагадалася першая дзяўчынка.

Ганна з палёгкаю ўздыхнула і шпарка рушыла ў бок чыгункі, каб распытаць там дарогу ў Арэхаўку. І адтуль Інакш ужо шукаць партызан.

Але раптам шум цягніка перарваў выбух. Загрымела, заляскала. Успыхнула страляніна.

— Партызаны! Дзетачкі, хутчэй бяжым! Гэта ж яны. Каб толькі не ўйшлі, — Ганна падхапіла Дзяніску і пабегла ў напрамку страляніны. «Патрымаецеся, родныя, патрымайцеся», — шаптала яна, прабіраючыся праз гушчар.

Але чыясьці дужая рука схапіла яе за плячо.

— Куды ты лезеш, чортава баба? Застрэляць там...

Яна павярнулася і ўбачыла барадатага чалавека з аўтаматам на шыі. Ён ласкава ўсміхаўся і дакорліва ківаў галавой.

— Ганна? Ты чаго трапіла сюды? — з-за дрэў выйшаў Карп Маеўскі, здзіўлена аглядаючы яе. — З дзецьмі? Што здарылася?

Яна кінулася да яго.

— Дзядзька Карп!

— Сям'я Мацея Куляша, — растлумачыў Маеўскі барадатаму.

Ганна закрыла далонямі твар і заплакала...

XIV

Увесь лагер абурана шумеў.

Партызаны шчыльна абкружылі вялікі будан, каля якога стаяў вартавы і нікога не падпускаў.

У будане ішоў допыт здрадніка.

Кулеш стаяў, уціснуўшы галаву ў плечы. Яго ўскудлачаныя сівыя валасы варушыліся, як у звера. На шыі і на скронях надуліся вены. Пад вачыма — сінія кровападцёкі. Сарочка была парвана на клоччы, і віднелася сіняе пашкрабанае цела. Перад гэтым ён пабыў у руках Пятра Майбарады. Разведчык ледзь не забіў яго да смерці, даведаўшыся, што ён прадаў Буйскага. Каб Лясніцкі спазніўся на адну хвілінку, усё было б скончана. Суду не было б чаго рабіць. Але камісар сурова спыніў самасуд, а Майбараду пасадзіў пад арышт у пустую зямлянку.

За сталом сядзелі Лясніцкі, Гнядкоў, Паўленка, Карп Маеўскі і Лубян. Прыборны ўсхвалявана хадзіў па будане і сціскаў кулакі. У душы ён падтрымліваў Майбараду і нават паспрачаўся з-за яго арышту з Лясніцкім. Навошта яшчэ траціць час на гэтага нягодніка! Без допыту і суда ўсё зразумела.

Допыт вёў Гнядкоў і рабіў гэта паважна, па ўсіх правілах судавядзення. Кулеш адказаў на некалькі пытанняў і раптам упаў на калені, залямантаваў:

— Даруйце, даруйце... Злітуйцеся... Пашкадуйце дзяцей.

— Няма ў цябе дзяцей, падлюга! — крыкнуў Прыборны. — Жонка, дзеці праклялі цябе.

— Злітуйцеся! Рабіце, што хочаце... У турму, на катаргу, на ланцуг... Куды хочаце... Толькі не забівайце. Не за-а-абівайце-е! У-у-у! — завыў ён.

Жэнька Лубян накіраваў на яго пісталет.

— Падымайся, Інакш застрэлю.

Кулеш глянуў у чорнае вока дула пісталета і спрытна падхапіўся, выпрастаўся, стукаючы каленам аб калена.

Жывая сцяна партызан каля будана калыхнулася, рассунулася і прапусціла Насцю Буйскую з дзіцем на руках. Яна толькі што вярнулася з лесу і даведалася аб здрадніку. Вартавы паспрабаваў не пусціць яе ў будан, але яна спакойна адхіліла яго і зайшла туды.

Гнядкоў змоўк, разгублена глянуўшы на Лясніцкага.

Насця спынілася перад здраднікам, з агідай паглядзела на яго і ціха, але выразна сказала:

— Дык гэта ты прадаў Андрэя? Чарвяк ты няшчасны! Погань ты! Цьфу на цябе, на брыдоту, — і пагардліва плюнула яму ў твар. — Пайшлі, сыночак, далей ад гэтай поскудзі, — яна павярнулася да выхаду, але спынілася, аглянулася на суддзяў і дадала: — Што вы цягнеце з ім? Павесіць яго, сабаку, вунь на зламанай асіне!

Кулеш жудасна завыў, зразумеўшы, што гэта прысуд.

XV

На вялікай паляне калонамі паатрадна выстраілася ўся брыгада.

На ўсходзе і на поўдні грымела артылерыйская
кананада.

Нізкае восеньскае сонца ляцела на захад, насустрач ветру, ныраючы ў кашлатае клочча парваных хмар. Трывожна гудзеў бор. Хісталіся верхавіны дубоў, стукаліся голым галлём. Жалобна скрыпела прыціснутае дрэва. Над палянаю кружыўся залаты рой кляновага лісця. Яно засцілала зямлю, шалясцела над нагамі. Пахла ўсімі пахамі лясной восені: прэлым лісцем, жалудамі, журавінамі, сухімі травамі, дымам і чалавечым жытлом.

Вакол паляны каля зямлянак і буданоў дагаралі агні.

З вялікага будана выйшла група камандзіраў. Першым ішоў шыракаплечы чалавек у новым мундзіры з палявымі пагонамі генерал-

маёра. Гэта быў камандзір партызанскага злучэння Ружак. За ім ішлі яго ад'ютанты, Лясніцкі і Паўленка, які камандаваў цяпер брыгадаю «Днепр» замест раненага ў апошніх баях і адасланага ў савецкі тыл Прыборнага.

Камандзіры прайшлі ўздоўж строю. Атрады сустракалі іх дружным «ура». Вочы партызан урачыста і радасна ззялі.

Генерал па-простаму махаў ім рукою і па-сяброўску шчыра ўсміхаўся.

Вярнуўшыся назад, на сярэдзіну, ён лёгка ўскочыў на высокі пень, падняў рукі. Строй сціх.

— Таварышы партызаны і партызанкі! Героі ўсенароднай барацьбы! Сябры мае! Чуеце гром кананады? Чырвоная Армія прыйшла на нашу родную беларускую зямлю, каб канчаткова ачысціць яе ад фашысцкай нечысці.

Тысячагалосае «ўра» перарвала яго прамову.

— Доўга мы чакалі гэтага часу. Не! Мы не проста чакалі яго, не сядзелі склаўшы рукі. Мы ішлі насустрач нашай арміі, дапамагалі ёй хутчэй разграміць ненавіснага ворага. Цяжкі быў наш шлях, як цяжкі быў і шлях Чырвонай Арміі. Слязьмі і крывёю нашага народа паліты ён. Дзесяткі тысяч герояў аддалі сваё жыццё за шчасце, свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Але ні на хвіліну мы не гублялі веры ў перамогу. І мы перамаглі! Таварышы! Успомніце свой баявы шлях! — Генерал коратка спыніўся на гісторыі зараджэння і развіцця ўсенароднага партызанскага руху, успомніў баявыя справы брыгады, яе лепшых людзей, якія загінулі смерцю герояў, і жывых. — І вось мы са славаю канчаем свой вялікі паход. Пазаўчора і ўчора доблесныя часці Чырвонай Арміі пераправіліся цераз Дняпро і паспяхова ачышчаюць ад ворага правабярэжжа. Вы чуеце, дзе ўжо грыміць бой. Вашай брыгадзе выпала пачэсная задача: дапамагчы Чырвонай Арміі ажыццявіць адну вялікую і важную аперацыю па абкружэнню праціўніка. Сэнс і значэнне яе вы даведаецеся крыху пазней. Заклікаю байцоў і камандзіраў мужна і аддана выканаць апошні партызанскі абавязак. Памножым, таварышы, славу народных мсціўцаў!

...Неўзабаве атрады адзін за адным пачалі выступаць на захад. Лагер хутка пусцеў.

На краі паляны, каля зямлянкі, стаяла невялікая група партызан. Гэтыя людзі заставаліся ў лагеры, каб дачакацца прыходу Чырвонай Арміі. Былі тут жанчыны, раненыя, старыя, дзеці і сярод іх — Карп Маеўскі, Тацяна і Мікалай. Тады, вясной, пасля аперацыі, ён рашуча адмовіўся эвакуіравацца і, адляжаўшы ў вёсцы пад наглядам Тацяны, вярнуўся ў брыгаду І працягваў выконваць абавязкі началь-

ніка штаба. З вялікім сумам праводзіў ён сяброў. Вельмі хацелася яму быць разам з імі ў гэтым апошнім баі. Але нічога не зробіш. Трэба мірыцца з лёсам.

Шпарка падышоў Лясніцкі.

— Ну, сябры, чакайце. Чакаць вам нядоўга засталося. Але будзьце пільнымі. Хоць і надзейнае ў вас месца, ды раптам немцы выпадкова забрыдуць сюды, уцякаючы. Яны разбягаюцца зараз ва ўсе бакі, бо б'юць іх з усіх бакоў. Разведвайце, выстаўляйце вартавых... Цябе, Мікалай, назначаю апошнім камендантам лагера, — камісар брыгады ўзяў начальніка штаба за рукі. — І яшчэ раз прашу... Я магу затрымацца, магу пайсці з арміяй далей... Не ведаю, куды накіруе партыя... Адным словам, ты першы прыедзеш у вызвалены раён. Адразу ж бярыцеся за работу, закасаўшы рукавы. Канешне, прышлюць новага сакратара, старшыню райвыканкома... Але пакуль гэта яны пазнаёмяцца! А табе ўсё знаёма. Ты ведаеш, дзе што закапана, захавана, ведаеш усіх людзей, і людзі таксама ведаюць цябе. З цябе яны ў першую чаргу і патрабуюць дапамагчы ім наладзіць жыццё... Так што, глядзі, не падкачай, друг...

— Будзь упэўнены, Павел.

Лясніцкі павярнуўся да Карпа.

— Ну, старына, павараявалі мы добра. Ідзі, бярыся за свае вуллі, садзі сад. Відаць, засумаваў ты па рабоце.

— Не з вулляў трэба будзе пачынаць, Павел Сцяпанавіч, — уздыхнуў Карп.

— Гэта правільна... Не з пчол. — Задумліва паўтарыў: — Не з пчол. — Але праз момант весела бліснуў вачыма: — Але і пчол не будзем забываць. Хутка і за іх возьмемся.

Падышлі Люба, Жэнька Лубян і Алена Рыгораўна.

— Глядзі, Карп Пракопавіч, як вырасла твая сям'я. Калектыў, і якія героі ўсе! Адзін у адзін. З такімі гару можна зрушыць. Проста зайздрошчу табе, — з усмешкаю сказаў Лясніцкі. — Не чырваней, Яўген Сяргеевіч, усё адно даўно ўжо ўсе ведаюць, што ты член гэтай сям'і. А на вяселле прыйдзем да цябе ўсёй брыгадай. Так і ведай... Ну, бывайце, таварышы. Мне пара, — ён абняў і пацалаваў Мікалая, Карпа, Віцю, Насцю Буйскую і яе маленькага сына, астатнім жа моцна паціснуў рукі і пайшоў на сярэдзіну паляны, дзе чакалі яго камандзіры.

Алена абняла мужа.

— Глядзі, беражы сябе.

— Ты беражы сябе, Лена. Са мною ўжо нічога не здарыцца. А вось за цябе мне яшчэ давядзецца пахваляваццa.

— А ты не хвалюйся. Чакай. Я хутка вярнуся.

— А мяне хутка не чакайце, — звонка і весела сказала Люба, звяртаючыся да ўсіх адразу. — Я без перасадкі да Берліна. Толькі адтуль дам згоду вярнуцца назад.

Таццяна і Жэнька непрыкметна адышлі ў глыб лесу і развіталіся без сведкаў.

XVI

Праз два дні лагер апусцеў.

Маеўскія пакідалі яго апошнімі.

Уначы грымеў бой каля Дняпра, і яны не спалі ўсю ноч, напружана слухалі. Страляніна пастулова аддалялася на поўнач, заціхала. Пачаўся Новы дзень — дзень на вызваленай зямлі. Раніца была ясная і марозная. Іней пасерабрыў паляну, буданы і дрэвы. Пушча сціхла, як сціхае натоўп людзей у першую хвіліну ўрачыстасці. Смела стукаў дзяцел, адчуўшы сябе гаспадаром у гэтай цішы. Жалобна ціўкала нейкая маленькая птушка, мабыць, шукала сваіх сяброўак ці дзяцей.

Маеўскія доўга стаялі на паляне, моўчкі слухалі гэтыя знаёмыя, родныя гукі.

Мікалай зняў шапку.

— Бывай, пушча. Паслужыла ты нам чэсна.

І яны рушылі па вузкай, засыпанай лісцем сцежцы на ўсход.

Мікалая везлі ў спецыяльнай калясцы на трох колах, па-майстэрску зробленай Карпам і Гнядковым з нямецкіх веласіпедаў. Звычайна ў лагеры ён лёгка і спрытна рухаўся на ёй сам з дапамогай ручных педаляў. Але на такую доўгую дарогу ў яго, безумоўна, не хапіла б сілы, і каляску цягнулі Карп і малады партызан з лагернай варты.

Наперадзе ў калясцы сядзеў і Віця, захутаны ў вялікі кажух. Віднелася толькі адна яго галава, абвязаная цёплай хусткай. Яго чорныя жвавыя вочкі з цікавасцю зіркалі ў бакі. Сядзець яму, відаць, было не вельмі ёмка, і ён раз-пораз варочаўся, намагаўся вылезці з кажуха.

Мікалай прытрымліваў яго рукой, ласкава вурчаў:

— Сядзі ціха, скакун, а то выкіну. Будзеш бегчы следам.

Хлопчык круціў галавой.

— Ух ты! Мамка цябе выкіне... Лас-лас... і бух-бух.

— Вельмі я баюся тваё мамкі.

— Баішся... Ага, ага...

Ва ўсіх быў урачыста-святочны настрой. Нікому не хацелася маўчаць. Мікалай нават адчуваў патрэбу заспяваць і быў упэўнены, што такую ж патрэбу адчуваюць і ўсе. Гаварылі аб усім адразу: пра

мінулае і будучае, пра знаёмых людзей і дуб-асілак, што трапіў па дарозе, пра замерзшы грыб-баравік і пра пераспелую брусніцу.

Насця ішла наперадзе і гаварыла са сваім сынам. Цяжка ёй было ў лесе з ім! Але да маці яна не магла пайсці, бо ў вёсцы ўсе добра ведалі, што яна ў партызан. Паспрабавалі было пакінуць яе ў чужой вёсцы ў надзейнага чалавека, але яна вытрымала там толькі тыдзень і вярнулася назад у лес.

— Нарэшце, сынку, ты будзеш, як усе дзеці, а не «маленькім партызанам». Не, не, ты ўсё жыццё будзь партызанам, і ты ганарыся гэтым. Расці такім, як твой татка. Такім разумным, адважным і шчырым. Любі так усё тое, што любіў ён і за што загінуў... Але гэта потым, калі ты вырасцеш, Андрэйка. А зараз прыйдзем да бабулі, яна малачка табе знойдзе, у калыску пакладзе... Лю-лі, лю-лі... Спі, — пяшчотна шаптала яна і правярала, ці не задувае дзе-небудзь пад коўдру вецер, хоць ветру і не было.

Мікалай усю дарогу гаварыў з сястрой, гаварыў з узрушанасцю шчаслівага чалавека.

— Не, ты зразумей, як выкрышталізаваліся людзі ў змаганні. Нібы агнём выпалена ўсё дробязнае, нікчэмнае, непатрэбнае, і засталося ўсё сапраўды чалавечае. Памятаеш, у Горкага? Чалавек — гэта гучыць горда. А наш савецкі чалавек — гэта гучыць не толькі горда, але і велічна. Гэта сапраўды Чалавек з вялікай літары. І калі бачыш такіх людзей, як Лена... Ты не ўсміхайся. Ты зразумей, які гэта чалавек, якая душа!.. Я ўзяў яе ў прыклад таму, што яна паказала мне, якім павінен быць я сам... Я вінаваты перад ёй... Але не падумай, што я па адной ёй раблю такія глыбокія вывады. Не... А Лясніцкі, Андрэй, Жэнька ці вось Насця?.. Колькі іх! Якія залатыя людзі! — ён доўга з захапленнем гаварыў аб людзях, потым выказаў сваю мару, свой жыццёвы план: — Наладжу справу ў раёне, паеду ў Маскву, зраблю пратэзы... І пачну новае жыццё, новую працу... Новае шчасце, Таня...

Пад вечар яны выйшлі з пушчы, надышлі да Дняпра. Пераначавалі. А на світанні наступнага дня знаёмы рыбак з радасцю перавёз іх «на родны бераг», як назваў яго Карп.

На ўсходнім беразе яны неўзабаве падышлі да вялікай прыфрантавой дарогі.

Паабапал дарогі, у канавах, ляжалі спаленыя нямецкія танкі, разбітыя машыны, гарматы, фурманкі, забітыя коні і пасінелыя трупы немцаў. А па расчышчанай дарозе рухалася на захад магутная тэхніка пераможцаў.

З грукатам прайшлі танкі. Запэцканыя танкісты выглядвалі з люкаў і весела махалі рукамі і шлемамі сапёрам, што рамантавалі

дарогу. Фыркаючы і сігналячы, прамчаліся штабныя машыны, і ўсе з павагай далі ім дарогу.

Бесперапынна ішлі грузавікі, прыціскаючы абозныя фурманкі да кюветаў. Абознікі лаяліся і пагражалі шафёрам пугамі.

Смяяліся. Крычалі. Спявалі...

Адным словам, быў самы звычайны малюнак прыфрантавой дарогі. Але як усхваляваў ён партызан! Як заварожаныя, стаялі яны ў лесе, не дайшоўшы крокаў дваццаць да дарогі, і глядзелі на гэты няспынны паток людзей і машын. Вось яно, вызваленне! Вось дзень, аб якім яны марылі два гады, і, магчыма, ніхто з іх не ўяўляў гэты шчаслівы міг такім. Як усё проста, але велічна!

Насця бязгучна плакала, схіліўшыся над сонным дзіцем. Яна ўспомніла Андрэя. Яна чула яго голас. Ён гучаў у песні праехаўшых на грузавіку салдат, у грукаце прайшоўшых самаходак. Вось яно, шчасце! А яго няма... Няма...

— Андрэй!.. Андрэйка!..

Мікалай таксама змахнуў слязу, але, зірнуўшы на Насцю і ўбачыўшы яе мокры ад слёз твар, гучна і весела сказаў:

— Што ж гэта мы сталі? Пайшлі, сябры!

Яны выйшлі на шлях.

І адразу ж каля іх спынілася трохтонка, нагружаная скрынкамі і мяшкамі. З кабіны выглянуў старшына — малады хлопец з прыгожымі чорнымі вусікамі.

— У які бок?

Карп кіўнуў галавой у бок, супрацьлеглы таму, куды ішла машына.

— Шкада, — шчыра сказаў старшына, але кабіны не зачыніў, разглядаў іх. Яго зацікавіла гэтая група людзей. Яны не зусім былі падобныя на ўсіх тых, якіх ён ужо сустракаў на разбітых дарогах вайны. На твары гэтых людзей не было слядоў перажытых жахаў і пакут. Наадварот, ён убачыў на іх тварах знаёмыя рысы пераможцаў: упэўненасць, гордасць. Асабліва ўразіў і зацікавіў старшыну гэты бязногі. У яго худы, але чыста выгалены твар з рысамі рашучага і мужнага чалавека, у разумных вачах — цёплая і радасная ўсмешка. Апрануты ён у добры кажушок, з-пад якога выглядаў каўнер новай афіцэрскай гімнасцёркі.

Старшына выскачыў з кабіны, падышоў бліжэй і ветліва звярнуўся да Мікалая:

— Дазвольце пацікавіцца, хто такія? Куды і адкуль?

— Я? — Мікалай усміхнуўся. — Я асабіста — начальнік штаба партызанскай брыгады. А гэта — партызаны той жа брыгады...

Старшына звыклым рухам паправіў рэмень, падцягнуўся і казырнуў, нібы просячы прабачэння.

— Калі вас цікавяць крэўныя справы, то гэта — мой бацька, а гэта — сястра і яе сын, а гэта — партызанская разведчыца, жонка Героя Савецкага Саюза... З лесу — у вёску, да мірнага жыцця і працы, — ён не мог стрымацца, каб не сказаць першаму байцу, якога яны спаткалі, што і яны не сядзелі тут склаўшы рукі, а актыўна дапамагалі заваяваць перамогу.

— Дазвольце. І далёка вам ісці?

— Кіламетраў дванаццаць яшчэ.

Старшына павярнуўся да машыны і загадаў:

— Яша! Паварочвай машыну!

Пакуль шафёр разварачваўся, старшына пазнаёміўся:

— Гвардыі старшына Сініцын, Анатоль Савелевіч, масквіч, — і моцна пацiснуў усім рукі, у тым ліку і Віцю. — Мой абавязак давезці вас да месца. Не, не, не думайце спрачацца, таварыш начштаба. Выбачайце, машынай камандую я. Вязу я харчы, а не боепрыпасы і, будзьце ўпэўнены, не спазнюся, хоць зраблю яшчэ лішніх кіламетраў. Сядайце.

Мікалая і Насцю з дзіцем ён умясціў у кабіну. Сам з астатнімі залез у кузаў, на скрынкі.

Праз паўгадзіны яны прыехалі ў Арэхаўку ці, правільней, на тое месца, дзе калісьці была вёска. Цяпер тут не было ніводнай будыніны. Пасля веснавога пажару людзі пабудавалі зямлянкі, а хто-ніхто нават управіўся паставіць зрубы. Але немцыператварылі вёску ў моцны вузел абароны, і ўсё было знішчана зноў, у гэты раз агнём савецкай артылерыі і «кацюш». Нават мала дзе ўцалелі абгарэлыя вясною дрэвы садоў. Кожны метр зямлі быў перарыты снарадамі і мінамі. Люстэркамі першага льду ззялі бомбавыя варонкі.

Мікалай не пазнаў роднай вёскі і разгублена спыніў машыну каля лесу.

— Далей, далей, сынок, — сказаў Карп. Ён пазнаў месца сваёй хаты па двух абгарэлых бярозавых пнях ды па трох вішнях, што сіратліва стаялі ў канцы былога саду, сярод узаранай, скалечанай зямлі.

Пяшчотнае і радаснае пачуццё кранула сэрца старога, калі ён убачыў гэтыя вішні. Карп павярнуўся да дачкі, у вачах яго бліснулі слёзы.

— Вішні... Нашы вішні, Танюша. Стаяць... Скажы ты, якія жывучыя!

Таццяна зразумела яго і з замілаваннем ціха адказала:

— Як мы, тата.

Машына спынілася.

Старшына моўчкі аглядаўся навокал. Толькі калі ўжо злезлі ўсе, ён уздыхнуў і таксама саскочыў на зямлю.

— Н-да-а... Як жа вы тут будзеце жыць? Ніводнай хаткі...

— Нічога, сынок, лес у нас пад бокам. Пражывём. Мы людзі навучаныя, не горш за вашага брата, салдата. Бачылі і не такое.

Сініцын палез і скінуў з машыны мяшок і вялізную скрынку, збянтэжана звярнуўся да Мікалая:

— Прыміце, таварыш начштаба... Мяшок сухароў і канцэнтраты...

— Не варта, таварыш старшына.

— Не, не! Не магу я пакінуць вас так. Вы ж з голымі рукамі на голым месцы. Вы ведаеце, ды мне маёр... не ведаю, што зробіць, калі я пакіну вас так. У яго сям'я на Браншчыне загінула.

— Што ж, шчыра дзякуем, — сказаў Карп, прымаючы падарунак. — Але ёсць у мяне да вас, дарагі таварыш, яшчэ адна просьба... Вы ўжо выбачайце. Калі толькі ёсць у вас, дайце рыдлёвачку. Вельмі неабходная рэч.

— Ёсць у нас рыдлёўка? — спытаў старшына ў шафёра.

— Ці ёсць у нас рыдлёўка? Жаночае пытанне, таварыш старшына! У добрага шафёра ўсё ёсць. Сякера, піла і рыдлёўка. Без гэтага далёка не паедзеш. Дзе сядзеш — там і злезеш на такіх дарогах. — Яша пакорпаўся пад сядзеннем, потым у кузаве і ўрачыста перадаў Карпу Маеўскаму пілу і рыдлёўку (сякера ў яго была свая, з ёй ён не разлучаўся ніколі — заўсёды насіў за поясам).

— Вось за гэта не толькі ад сябе, але і ад многіх удоў і сірот вялікае дзякуй... Цяпер я, як кажуць, сват каралю і першы багацей на вёсцы.

Яны развіталіся, як старыя знаёмыя і самыя блізкія людзі.

— Шчаслівай дарогі да Берліна!

Машына адышла.

Маеўскія глядзелі ёй уздагон і развітальны махалі рукамі, ажно пакуль яна не схавалася ў лесе. Потым усе павярнуліся да Карпа.

Ён паплюваў у далоні, глыбока капнуў рыдлёўкай старое вогнішча, адкінуў зямлю ўбок і сказаў:

— Ну, дзеці, будзем будавацца.

1946—1949 гг.

Шамякін І.

Глыбокая плынь: Раман: Для сярэд. і ст. шк. узросту/Прадм. А. Марцiновiча. — Мн.: Маст. літ., 1996. — 286 с.

ISBN 985-02-0330-7.

Галоўная гераіня рамана Тацяна Маеўская ў першыя дні вайны выратоўвае яўрэйскага хлопчыка, Бацьку і мачасе яна гаворыць, што гэта яе сын. Мачаха выдае Тацяну і расказвае аб гэтым нямецкаму агенту Мацею Куляшу. Пасля гэтага да Тацяны завітваюць паліцэйскія, ды Тацяна праяўляе смеласць і рашучасць. Яна забівае фашысцкіх паслугачоў, а сама з дзіцем і бацькам падаецца ў партызаны, каб помсціць ворагам.